А Насця?.. Што-ж ёй рабіць болей?
Усё зрабіла, што магла,
І свайго мілага знашла.
Да ці стрымаеш ветра ў полі?
Да хіба камень ты умоліш,
Хоць-бы і крыжам ты лягла?
Яна-ж так прагла, так жадала
Дайсці, дазнацца, чым ён жыў,
І знішчыць прыкрасці наплыў.
Яна яму так спагадала,
А ён неўважліва нядбала
Адверг той шчырасці парыў!
Дык далей што? Канец і—квіта!
Хоць жаль гучыць на ўсе лады.
Куды-ж ёй кінуцца, куды?
Граніца нейкая закрыта,
І сэрца смуткам апавіта,
Міраж развеян маладды.
Вось так яны, Барыс і Насця,
Прышлі на ростані дарог,
Дзе іх збуцвелы крыж сцярог
І палучыла іх нянасце.
Ці ўзяць не ўмелі яны шчасця?
Ці гэта шчасце—дзікі мох?
Тут разыходзяцца пуціны,
І час прабіў іхняй вясне
І марам тым, што ў яве-сне
Ім ткалі радасці тканіны
Ды срэбрам лёгка павуціны
Іх аздаблялі ў цішыні.

***

Смуткавала краска-сорка
На мяжы зялёнай,
Пахіліўшы над разоркай
Галаву—карону.

„Зблутаў, змяў мае лісточкі
„Віхар—шаляніца,
„Затуманіла мне вочкі
„Бура-навальніца.

„Наляцела завіруха,
„Я-ж адна, нябога!
„А як ціха, а як глуха,
„І нідзе нікога!

„Дзе-ж, мае вы, дні-ясноты,
„Неба, сонца, зоры?
„Дзе вы, шэпат, і залёты,
„Ласка і дакоры?

„Непрывецен дол халодны
„Без канца, без краю!
„Дзе ж ты, ветрык мой лагодны,
„Што мне байкі баяў?“

Краска змоўкла, а ў разоры
Мрок гусцей самкнуўся,
Ветрык збег дзесь у прасторы
І не адгукнуўся.
А на заўтра, як расою,
Сонца дол змывала,
Краска пышнаю красою
Зацвіла, зазьяла.

***

Зацвітае сад вясною,
Цвет бела-ружовы,
А чаму-ж ты не са мною,
Мілы, чорнабровы?
Далінаю зеляненькай
Гоніць рэчка хвалі.
Глянь-жа, любы, залаценькі,
На мае каралі!
Гоніць рэчка па даліне
У свет хвалі тыя.
Зачынілі свет дзяўчыне
Берагі крутыя..
Кіну ў воду кветку-долю,
На ёй пагадаю.
Дзе ты, любы, мой саколю,
У якім ты краю?

***

На другі дзень у двор бальніцы,
Дзе ганак звешвае свой брыль,
Пад'ехаў, стаў аўтамабіль.
Барыс выходзіць з камяніцы,
А там, з-за белай акяніцы,
Варожыць дзеўчына пра быль.
Глядзіць уся ў адным парыве,
І вострa ўрэзваецца час...
Зірні-ж хоць раз, апошні раз!..
Калыша ветрык ліст жартліва,
А неба ў сонечным разліве,
І хмаркі лёгкія, як газ.
Ён азірнуўся мімаволі
На вырыс цмянага акна—
Яна ў вакне, ці не яна?..
Кіўнуў і знікнуў з яе поля.
Ня ўжо не ўгледзяцца ніколі?..
Адна... забытая .. адна!
Пакуль Дзяжа ў аўтамабілі,
Зацяты, сам на сябе злы—
Няхай сабе едзе ў тылы,
Няхай гадае, лічыць мілі,
Дзяўчыне-ж смутак голаў хіліць—
Я адвяду ёй час малы,
Дык так. Настуся адзінока,

А тое, што было раней,
Нібы развеяў сухавей.
На сэрца злегла цяжкім мрокам
Журботы, суму павалока,
І цені збегліся гусцей.
Але назад няма звароту,
Няма к мінуламу пуцін,
І шлях яе цяпер адзін,
Адно збавенне—за работу,
Звязаць з чужой сваю сумоту—
Сабе і людзям на ўспамін.
Яна-ж сама даўно жадала—
Яе мы ведаем настрой—
Стаць міласэрднаю сястрой.
У гэтым вінен быў не мала
І той, з кім пройдзен шлях няўдала—
Яе абраны, наш герой.
І вось развязка негадана,
Як-бы свядома нехта злы
Ў жыцці завязвае вузлы,
Яшчэ адна на сэрцы рана,
І Насця горача, аддана
У сваю роль вайшла сястры.
На шчасце Насціна ў шпіталі
Яна сустрэлася з сястрой,
Дзяўчынай мілай і жывой.
Яны таварышкамі сталі,
І Насця ёй свае ўсе жалі
Раскрыла з шчырай прастатой.
Сястра—яе мы трохі знаем:
Яна дзён некалькі назад
Вяла героя майго ў сад,
Жаночым верная звычаям,—
Цяпер Настусю навучае,
Ёй цэлы пук дае парад,
Ды настаўляе хутаранку—
Яна-ж наіўнае дзіця—
На сцежкі мудрыя жыцця,
І чуць не цэлую вязанку
Падносіць правіл аб каханку
Для кіраўніцтва і знацця.

## Сястра Ната

Не разумею аднаго—
Каб з-за мужчыны
Да мы згрызаліся, жанчыны!
Не варты ён таго,
І плакаць з-за яго,
Ну, сорам для дзяўчыны!
Натура ў іх адна,
І ў кожным з іх відна
Хлуслівая замашка—
Усіх нас чараваць,
Пускаць у вочы пыл,

З апошніх пнуцца сіл.
Каб ролю разыграць
Нявіннага манашка.
Паслухаеш—дык анёлам здаецца.
А ён, пакляўшыся адной,
На заўтра клятву дасць другой,
На трэці-ж дзень і трэцяй паклянецца!

**Насця**

Ну, гэта... як сказаць? перабаршчэнне,
Не ўсе-ж яны фальшывы і нячулы—
Не можна ўсіх судзіць агулам:
Ёсць пэўна-ж... выключэнні.

**Сястра Ната**

Даверлівасць—наіўнейшая рыса,
Адзнака прастаты.
Пад выключэнне ты
Падводзіш чэха і Барыса?
А я кажу, не вер,
Нікому з іх не вер:
Ты іх не ведаеш манер,
А на паверку ўсе яны—
Хітругі і лгуны!
Ды ўзяць хоць бы Барыс,
Што сэрца табе згрыз.
Вяду яго я ў сад
І пробую з ім трошкі жартаваць,
Інтрыгаваць
І бачу-хлопец хват:
Няшчасненькі, а рады фліртаваць.
Ад флірту-ж да „кахання“
Адлегласць не вялікa,
А іхняе адданне
Гучыць фальшыва, дзіка.
Я на сваім стала ўпарта:
Нікому верыць з іх не варта,
І правіла маё такое:
Замест таго,
Каб плакаць з-за **яго**,
Хай лепш **ён** з-за мяне
Не ведае спакою.

**Насця**

Быць можа гэта ўсё і справядліва,
Ды гора ў тым аднак,
Што ліха набяжыць не ўзнак,
Захопіць цябе ўсю імкліва,
А дзе сапраўднае каханне,
Няма там разважання,

## Сястра Ната

А ты будзь начаку:
На крытычны лад
Павінен ставіцца наш брат,
А нюні, Насця, па баку!
Ды ведай ты адно заўсёды,
І гэтага з увагі не спускай—
Ты сэрца ім не раскрывай,
Рабі, як можна больш, ім перашкоды,
Збівай, як можаш, іхні пых
І будзь загадкаю для іх
Ды віду не паказвай нічым,
Што ты цікавішся з іх кім.
Адну захоўвай устаноўку:
Забраць нягодніка ў палон,
Каб форсу збавіў ён,
Ды закруці мацней яму галоўку.

30-XII-1934 г.

С. Вашанцэў

# ПАЛОННЫ

## I

Самотна піскнула ў галлі абуджаная птушка. Невыразны, кароткі піск прагучэў, як скарга. Так сустракаюць туманныя раніцы, калі доўга няма сонца і невядома, ці выбліснe яно. Цяжка грымнула ў далячыні пушка. Шырокі зялёны ліст закружыўся ў паветры і ўпаў пад конскія капыты. Коннік падняў вострыя падбародак, прыслухаўся. Густы пласт пылу пакрываў загарэлы, грубы ад ветру твар, ствараючы ў шчылінах вачэй і вушэй цэлыя гурбы. Востры нос уздымаўся, як курган у пясчанай пустыні. І калі вочы былі вузкімі і не нагадвалі ручаін светлай вады, дык было ў іх нешта лісінае, зброддівае і хітраватае, што асабліва станавілася прыкметным, калі хлапец сачыў неспакойным позіркам за звілінамі дарогі. Конь цягнуўся мордай да залёнага лісця, але як толькі дакранаўся да іх губамі, дык нехаця адварачваўся і нецярпліва махаў галавою. З рысі ён увесь час стараўся перайсці на шаг, карыстаючыся тым, што коннік не вельмі сачыў за яго алюрам, заняты сваімі думкамі, ці больш пэўна барацьбою са сном.

Зноў грымнула пушка, а можа нават і не пушка, а гром. Коннік зноў прыслухаўся, але твар яго не выявіў ніякага хвалявання. І твар і шынель былі аднолькава шэрымі і непранікальнымі.

— Заснуць-бы! Эх...

Адзервянелы хрыпаты выгук, здавалася, вырваўся не ў яго, а ў некага іншага. Ён мімаволі агледзеўся. Навакол нікога не было. Словы належалі яму, але былі чужымі, фантастычнымі, якія нібы дайшлі аднекуль збоку да яго стомленага мазга.

— Шакалюк!—загрымеў ён гучна, з крыўдаю і злосцю ў голасе, і ўдарыў сябе кулаком па ільбу.

Гэтае відовішча чалавека, які размаўляў сам з сабою, магло здацца смешным, таксама як і своеасаблівая барацьба з векавечнай фізічнай патрэбаю, што абрывалася гэтакім жорсткім жэстам.

Але сон наступаў рашуча на шчуплае цела, абцягненае ў шынель і перакрыжаванае рэмнямі ад вінтоўкі, шашкі і сумкі. За апошнія трое сутак ён спаў агулам толькі гадзін з шэсць.

У лесе многа грыбоў. Яны тырчаць ля самай дарогі. „Грузды“ спрабуе ён вызначыць якасць грыбоў,—Не, бадай, не грузды. Тыя не пакажуцца так блізка ля дарогі“.

— Шмат грыбоў!—кажа ён у голас.

Яму здаецца, што гэта зноў сказана не ім. А кім-жа? Кім-жа, ліха на яго?

Ён размаўляе з сабою, угаварвае сябе не спаць, напэўна ўяўляючы, што сон падобен на воблакі, якіх можа разагнаць узняты вецер слоў.

Калі запісваць з большай або меншай дакладнасцю яго мармытанне— атрымаецца, прыкладна, такая стэнаграма:

„Чаму-ж гэта так хочацца спаць? Ліха ведае, здаецца, усё-б аддаў, каб зваліцца на пыльную дарогу і наогул... без прасыпу дваццаць чатыры гадзіны. Дзе гэта? У Індыі, ці што прывучаюць сябе не спаць. Ну, вядома, ідыоты. Гусева дарэмна выклікаў. Не, бо ў загадзе-ж было сказана: „Асобна вылучыць таварыша Шакалюка“. Не ў тым справа, што вылучыць, а ў тым... Гусеву я не веру. Зразумела, яго кранула, чаму іменна мяне асобна“. Дзівак ён, не разумее парадка стрэльбы. Сёння дасць сто процантаў пападання, а заўтра сорак. Чаму—невядома! Узяць Жабрава—другая справа. Той роўна ідзе, спаборнічаць прыемна. Б'ешся за кожны процант. А з Гусевым—адзін дзень ён восемдзесят пяць процантаў, я—восемдзесят пяць. Ну, думаеш, заўтра я цябе пераб'ю і чакаеш заўтрага. А заўтра ён дасць сорак, а то і менш. Смешна. Прападае ўсякая цікавасць. Выклікаеш Остраверхава, але Остраверхаў кажа: „Не хочу“. А на „буксір“ хочаш?“...

Яго гутарка падобна на соннае мармытанне. Бываюць моманты, калі яго вочы самі сабою заплюшчваюцца і ён сядзіць, як аўтамат, пакуль штуршок не вывядзе яго з аняменні. Тады ён зноў б'е сябе па ілбе. Каб адагнаць сон, ён усяк уздзейнічае на самалюбства, малюе чароўныя карціны спраў і ўчынкаў, якія можа быць яшчэ трэба зрабіць і якія ён зробіць. У думках ён выклікае на спаборніцтва Яшку Плаўніца, Спірыдонава, Усачова, Остраверхава, Гусева, сваіх абагнаных у спаборніцтве таварышоў, чым начальствам ён стаў з нядаўняга часу. Але Остраверхава адразу-ж адкідвае. Гэты гультай можа пакінуць вінтоўку не чышчанай, каня непрыбраным. Ён пазбаўлен самалюбства, як пень, і адзінае, што абуджае ў яго цікавасць да жыцця,—гэта ежа. Ён здольны есці без перадышкі цэлымі днямі і ніколі не наесца.

— Гэта саліцёр! Гэта гліст!—абураецца Шакалюк.

Усе людзі і падзеі праносяцца перад ім у нейкім тумане, як фантастычныя малюнкі, якія ён бачыць на экране. Нейкія групы людзей ў шэрых шынелях і, чорт вазьмі, усе твары падобны на яго ўласны, нібы глядзіць ён у множачае люстра. І выклікае ўсіх на спаборніцтва па тактыцы, па стрэльбе, па палітвучобе, па шэфству, па пазыцы, па... Плойма мігаючых плакатаў узлятае і распадаецца на тысячы баявых лозунгаў... А ён усё яшчэ выклікае: па тэхніцы, па ўцягненню ў калгас, па рабоце ў вёсцы, па...

Але вось вырастае перад ім аграмадны грыб, падобны на вежу, накрыты шапкаю незвычайных памераў. Ён скача на сваім Орліку, на казачную пабудову. Сутычка немінуча. Ён шалёна нацягвае повад, але конь не слухаецца, імчыць апошнім галопам, як Расінант Дон-Кіхота, Ламанчскага, убачыўшы вятрак. Немагчыма спыніць яго шалёны бег. Сцены вежы дрыжаць і ўздымаюцца ўгору, твар чырвонаармейца ўрэзваецца ў нешта мяккае, як застудзіны.

— Эх, чорт!

Галлё чуць не збіла яго з сядла. Ён ледзве злавіў збітую шапку і, азірнуўшыся яшчэ раз, вылаяўся.

Ён быў злы на сябе. Спешыўся з каня і, трымаючы яго ў повадзе, важка зашагаў па дарозе.

## II

У яго распараджэнні было, самае меншае, гадзіна. Гэтая гадзіна выгадана ім і (як хацелася думаць) належала яму па праву. Кароценькі момант часу і гэткі нязначны і малазначны ў страі нашых год, у іншым

выпадку мог рассунуцца да межаў непамерна-вялікіх, напаўняючыся падзеямі, раўназначнымі вякам мернага жыцця. Але гэта філасофія. Гадзіна, з'эканомленая Шакалюком, з другога боку магла стаць для яго гадзінаю асалоды. І не дзіўна, што чэсны, стойкі хлапец гатоў быў спрачацца за яе і нават утаіць, як хлопчык утайвае цукерку, украдзеную з шафы ў маткі, цукерку, якая дасталася-б усероўна яму.

Яшчэ свяцілі зоры, дагараючы на ўсходзе, і серп маладзіка здаваўся абломаным клінком, калі Шакалюк стаяў ля ганка хаты ўглядаючыся ў бліскучае вочка электрычнага ліхтара, заціснутага ў руцэ начальніка штаба палка.

— Вы іх, напэўна, знойдзеце ў адным з трох пунктаў,—халодным баском, окаючы, гаварыў камандзір,—альбо ў Чужакове, альбо ў Чарнавіцах, альбо ў Стырне. Зразумела? Вы павінны быць тут не пазней сямі гадзін, зразумела?

— Загадана перадаць...—адрывіста паўтараў, трошкі ўздрыгваючы ад начной зылкасці, Шакалюк. Твару камандзіра ён не бачыў, ён быў захаваны за паласою святла ад электрычнага ліхтарыка. Шыю чырвонаармейца прадзьмухала рэзкае дыханне каня, повад якога ён трымаў у руцэ.

— На выпадак, калі пападзіцеся, пісьмовы дакумант... зразумела?— зноў ускрыкнуў голас.

— Загадана пісьмовы дакумант пры пападанні да праціўніка знішчыць,—спакойна дагаварыў Шакалюк.

— Цяпер адпраўляйцеся...

Чырвонаармеец скокнуў на каня. Камандзір кінуў святло ўперад, як бы паказваючы дарогу, але начныя плямы былі непранікальнымі для слабога ліхтарыка. Бледныя цені некалькі секунд пратрымаліся на страсе суседняй хаты і змерклі. Уперадзе была цемра. Конь бег асцярожнай рысцою.

Збіцца было цяжка. Дарога адна. Шакалюк аддаў повад каню, паклаўшыся на яго чуццё выбіраць правільны шляг. Толькі ў адным месцы трэба не забыць збочыць управа.

Учора позна ўвечары, як толькі полк размясціўся ў вёсцы, Шакалюка выклікалі да адсекра партыйнага бюро.

— Табе нагрузачка,—спаткаў яго, хітравата ўсміхаючыся, Кладаў.— Я вылучыў Панчанка, камандзіра другога эскадрона, потым Шчарбіну і цябе. Тут у вёсцы трудны момант, трэба дапамагчы. Самы, можна сказаць, актыў, кідаю ў справу.

Шакалюк дапытліва глядзеў на яго. Ён не мог зразумець, якая можа быць праведзена работа ў вёсцы, калі зараз вечар, а заўтра з раніцы яны выступаюць.

— У іх у калгасе другі дзень адбываецца сход,—вытлумачыў сакратар, злавіўшы недаўменны позірк таварыша па партыі.—Заблыталіся з разлікам. Як у іх там атрымалася, не ведаю, але факт той—на долю самога, можна сказаць, лежабока прыходзіцца столькі хлеба, што ў свірну не змесціш. Гады на два хопіць. Ужо не кажучы аб прыкладных калгасніках. Яны і вырашылі—ці не пяройдзем для правільнасці на размеркаванне па душах. Трэба дапамагчы ім наладзіць разлік па працаднях. Можа, якая-небудзь яшчэ сука падкулачная зацясалася. Паглядзіце, хто ў іх разлік вядзе.

Шакалюк спадзяваўся праспаць гэтую ноч. Ён ужо нагледзеў сабе начлег у адной хаце. Яго там далікатна прынялі, паслалі для яго пасцель, далі пад галаву велізарную пухавую падушку, адзін выгляд якой выклікаў галавакружэнне. Выклік сакратара бюро заспеў яго ў той час, калі ён знімаў боты.

— Будзе зроблена,—спакойна сказаў Шакалюк і пайшоў да дзвярэй.

— Не забудзь агітнуць наконт пазыкі,—услед крыкнуў Кладаў.

Пра працаднi`яны сялянам досыць растлумачылі, але правалаводзіліся з гэтай справай да позняй ночы. А чуць раніца, да святла, Шакалюк ужо ехаў па даручэнню начальніка штаба шукаць мехатрад.

Ён быў спакойны і не пратэставаў, што праспаў нейкіх дзве гадзіны і не на чароўнай падушцы, а на жорсткай лаўцы ў сельсовеце. Ён толькі думаў, хістаючыся ў сядле, што сон не кепская штука, вельмі добрая штука і што не перашкодзіць усё-такі потым па зверску выспацца.

Уперадзе паказаліся будынкі,—па ўсіх прыкметах Чарнавіцы. Едзе ён гадзіны з паўгары. Па часу павінны быць Чарнавіцы. Не, не яны. Гэта ўсяго на ўсяго закінуты хутар—пустая хата без вакон, адкрытая для ўсіх стэповых вятроў. Чарнавіцы павінны быць трошку далей.

Хутка ён уяжджаў у маўклівае сяло, якое яшчэ не паспела абудзіцца.

Калі ён трусіў па вуліцы, пазіраючы па бакам, ці няма адзнак мехатрада, ужо святлела. Усход прыўзняў скарбніцу святла. Хаты выразна і матэрыяльна вырысоўваліся ў матавым, але досыць празрыстым паветры.

Ён выехаў на паўночную аколіцу вёскі—танкаў нідзе не было відаць. Значыць, яны стаяць дзе-небудзь у іншым месцы. Ён спыніўся ля апошняй хаты. Перад ім былі хлявы, стагі саломы і далей—палі. Мёртвая цішыня. Хацелася пастаяць тут хвілінку і паглядзець на неаглядны стэп, які рассціла́ўся перад ім і быў падобны на разлітае да гарызонта чырвонае мора.

Нечаканае адкрыццё здзівіла яго. Ён глядзеў на стог сена, які ўзвышаўся непадалёк ад яго, як вандроўнік на новую зямлю, уяўленую яго позірку. Перабягаў вачыма ад вяршыні стога да яго нізу і пакачваў галавою.

— А сенца, сенца, жывое...—хітра надумана. Вось братва.

З хвіліну ён прастаяў, разглядаючы нязграбна навалены стог, потым рашуча накіраваў каня ў той бок.

Шчыльна пад‘ехаў і крыкнуў, парушаючы ранішняе маўчанне:

— Гэй, таварышы! Таварышы! Гэй!

Глядзеў упарта на стог, нібы чакаючы, што вось рассунуцца непрыкметныя саламяныя дзверы і адтуль пакажуцца людзі.

Амаль адразу-ж з-за стога вышла фігура ў сіняй блузе, у штанах такога-ж колеру, шырокіх, зборыстых, звужаных унізе.

— Дазвольце? Дзе змяшчаецца начальнік мехатрада?—спытаў Шакалюк.

Шакалюка ашчупалі цёмныя з халадком вочы—яго каня, вінтоўку, шапку, асабліва шапку з чырвонай паласою на аколышку.

— Данясенне? Едзьце вунь у тую крайнюю хату. Ды ў другі раз не крычыце так голасна, а то коняй нашых напалохаеце—усміхаючыся кіўнуў танкіст на стог, скрозь верхні пласт якога прасвечвала сустаўчатая сталь машыны.

— Ну і замаскаваліся вы,—кіўнуў галавою Шакалюк,—ледзь знайшоў.

Ён хацеў аддаць даніну захаплення гэтым людзям жалеза, непаражальныя калясніцы якіх прынеслі столькі ўпэўненасці ў нашай сіле.

Нацягнуў повад і пагнаў каня да крайняй хаты.

Даручэнне было выканана.

Хвілін праз пятнаццаць ён, не спешаючы, ехаў назад. У яго ў запасе было шмат часу. Ён мог шагам праехаць увесь шлях да сваёй часці і ўсё-ж прыехаць прынамсі на гадзіну раней, чым меркаваў начальнік штаба таварыш Багроў.

Шагам ехаць ён не хацеў і паганяў каня, але конь быў стомлены і ледзьве ступаў, а яго самога раптам змарыў сон. Ён біў сябе ў лоб, у бакі, угаварваў, як малое дзіця, выклікаў да самалюбства, злаваўся, прыводзіў у прыклад Плаўніца, Жаброва, цягаў сябе за вушы, шчыпаў шчокі, цешыў хвальбаю і гонарам, падохаў вымоваю ў загадзе. Напамінаў аб геройстве, уяўляў сабе твары таварышоў, якія з дакорам шапталі: „Ну, пакаціўся наш прэміяваны ўдарнік Шакалюк. Знайшлі каго назначыць камандзірам аддзялення!“ Маляваў сабе просты дабрадушны твар камандзіра палка, які раптам нахмурыўся і пацямнеў, як хмара. Твар камандзіра ўзвода коннай выведкі Вішнеўскага, твар сакратара ячэйкі Кладава, гэтага рэзкага, адкрытага і вясёлага хлапца.

Нарэшце, гультайны позірк Астраверхава, які нібы гаварыў: „Мяне на буксір хацеў узяць, а самога сябе не выцягнеш.“ Смяшлівую морду самаздаволенага і тупаватага Усачова. „Нашага палку прыбыло. Камандзір аддзялення далучыўся“. Ліха вазьмі. Вось гэтыя два апошнія самыя страшныя—іх захаваных насмешак ён перанесці не мог-бы. За дзесяць дзён прабывання на пасадзе камандзіра аддзялення ўзвода коннай выведкі ён яшчэ не паспеў як след звыкнуцца з сваім новым становішчам. Яго думкі ўвесь час варочаюцца да дзён гарачых спаборніцтваў, якія далі яму першае і ганаровае месца сярод сваіх таварышоў па аддзяленню. Цяпер, як непасрэдны начальнік, ён павінен імі кіраваць і адказваць за іх работу. Гэта зараз яго асабліва хвалюе. Ён змагаецца са сном усялякімі сродкамі, рознымі спосабамі, стараючыся і хітрасцю, і ўгаворамі, і штуршком перамагчы гэтае страшыдла. Але страшыдла загараджвала свет, сляпіла вочы, зацямняла думкі і душыла да зямлі, душыла да пыльнай, пушыстай лёгкай зямлі.

## III

Пыл. Вось ён кружыцца пад ранішнім небам, уздымаючыся пад кожным шагам і абдаючы душнай хваляй вопратку, траву, дрэвы. Дзве нагі чалавека і чатыры конскіх падымаюць цэлыя воблакі, якія шпарка адносяцца ў даль.

Гадзіне а чацвертай раніцы падзьмуў вецер, і зараз хопіць найлягчэйшага дотыку, каб узварушыць усю дарогу на дзесяткі метраў унерадзе.

Дарога то ішла гаем, прабіваючыся паміж сценамі кустоў, то вырваўшыся ў адкрытае поле, пакацілася клубамі да суседняга ляска, падобнага на аазіс у пустыні.

Шакалюк ужо кілометраў са два ідзе пешшу, вядучы каня за повад, ён ступае рэзка, з нейкай злосцю абтрасае пыл, нібы хочучы правучыць сябе за слабасць і недастатковую барацьбу са сном. Сон усёроўна і зараз брыдзе за ім па слядах, хаця і не зусім блізка.

Але толькі ступіў ён зноў у лес, як непараможна пацягнула яго ў бок ад дарогі, пад сосны, далей ад пылу, які забіваў нос, рот...

— Без дурняў...—кажа ён непрымірыма і перакідвае повад.—За такія справы з партыі трэба выганяць.

Ступае нагою ў стрэмя, хапаецца за холку ў каня, але не паспявае перакінуць другую нагу, як блізкі цокат капытоў напружвае яго ўвагу.

Інстынктам выведніка ён адчувае небяспеку, вырывае нагу са стрэмя і цягне каня ў гушчар.

— Стой! Стой!—чуецца выбух галасоў. Яго абкружаюць некалькі коннікаў на добрых конях.—Куды ты, брат? Вылазь! Вылазь! Ды ну хутчэй! Ба, ды гэты чырвоны. Таварыш камандзір аддзялення, злавілі палоннага!

Падскакаў аграмадны, шырокатвары камандзір.

— Якой часці?—крыкнуў ён Шакалюку.

— Дваццатай,—нехаця прабурчэў чырвонаармеец, адвярнуўшыся ў бок.

— Якой? Кажы дакладна. Дваццатага палка?

— Кажу дваццатай часці. Астатняе—мая справа!—злуючыся і ўздрыгваючы ад незразумелага хвалявання, адказаў Шакалюк.

— Адкуль ехаў?

— Адтуль.

— Адкуль—адтуль?

— З краю света!

— Выведчык?

— Не ведаю.

— Сядай на каня і руш за намі. Мы там табе пакажам, як не ведаць. Вейнер, едзь следам за ім. Глядзі, каб чаго не кінуў,—грубавата загадаў начальнік сініх, у сваю чаргу злуючыся ад недружалюбных адказаў чырвонаармейца.

Гэта быў той самы таварыш Фралоў, недапушчальны праступак якога пасля быў адзначан у загадзе. Ён рабіў выведку ў вёсцы, каня пакінуў за хлявом, а сам пайшоў уздоўж вуліцы, падрыхтаваўшы кумачную павязку для шапкі на выпадак сустрэчы з чырвонымі. Чырвоныя павінны былі знаходзіцца недзе тут. Раптам ён заўважыў танк, што поўз насустрач. Сіні выведчык хапае вядро ў сустрэчнай жанчыны, напаўняе яго калючым стэпавым пяском, кідаецца да танка і засыпае яго вочкі пяском з жэстам, якім у лазні паддаюць пару.

Што ім кіравала? Ці то абстаноўка ў момант баёў занадта захапіла яго, ці то ўстала перад яго ўяўленнем будучая вайна, у якой „усе сродкі добрыя“?

Скончылася гэтая гісторыя для яго дрэнна. Хлапца змясцілі з пасады камандзіра аддзялення.

Здарылася гэта некалькімі днямі пазней.

Шакалюк нешта вельмі доўга не можа ўсадзіць нагу ў стрэмя. Конь круціцца, круціцца, а ён ніяк не сядзе на яго, нібы ўпершыню ў жыцці садзіцца.

— Да пянька падвядзі,—рагаталі з яго неўмельства, з яго цяжкіх рухаў акружаючыя коннікі.—А ён і сапраўды падвёў каня да гарбыля. Рогат павялічыўся.—Бабу злавілі, га?!—хісталіся на сёдлах сінія, узмахваючы рукамі і хлопаючы па каленях ад нясцерпнай асалоды, бачучы такое рэдкае відовішча.

Шакалюк, трошкі адвёўшы каня, рэзкім узмахам, без упора ўскочыў у сядло і, падняўшы каня на галоп, праімчаўся міма збянтэжаных коннікаў, якія на секунду застыглі салянымі слупамі. Заслона з пылу, як дымавая хваля, схавала яго ад іх.

— Трымай!—пачулася ззаду.

Прарываючыся скрозь воблака пылу, услед імчалі некалькі коннікаў. Конь Шакалюка быў малы і змораны за гэтыя дні бязменнай працы. Ён хутка выдахся, і Шакалюк адразу-ж апыніўся у коле з коняй, якія храплі, скалілі зубы і якіх ледзве стрымлівалі седакі.

Рушылі шагам. З Шакалюком падраўняўся камандзір аддзялення.

Ехалі нейкі час моўчкі. Прысутнасць „ворага“ і яго хітраватыя паводзіны як бы звязвалі сініх. Іхныя твары былі насуплены і насцярожаны. Нарэшце камандзір аддзялення працягнуў:

— Ну, добра. Закурвай...

Выняў партсігар і пачаставаў палоннага.

— Пераменнік, ці што?—сказаў ён, хутчэй па дружацку, чым афі-

цыляняна.—Пераменнік напэўна? Ужо занадта чаўпеш свае „не ведаю“. Напэўна стаміўся, адпачнеш у нас. А дзе вашы стаяць? Ды кінь ты сваю гульню,— кісла ўсміхнуўшыся, махнуў рукою сіні.—Кажы проста, гутарку вядзем нейтральна.

Палонны разглядае кусты, неба, грыву свайго каня і адплёўваецца ад пяску, які набіўся ў рот.

Маўчыць.

Камандзір працягвае:

— Дзе вы збіраеце я перапраўляцца? (Ён пазяхнуў). Я чуў—каля Кудашава? Там, здаецца, вашы пантонкі стаяць? Ля Кудашава або пад Сінявой?

Шакалюк, усё яшчэ моўчкі, раўнадушна раскурвае пачастунак-папяросу.

— Але,—не абражаецца ад такой няўвагі камандзір сініх—пагналі мы вас здорава. Цяпер, можна сказаць, задачу можна лічыць вырашанай. Цяпер наогул ты нічога не скажаш новага, усё вядома. Вашых адкінуць за раку—і кропка.

— А калі ведаеш, навошта-ж пытаеш?

— Я гэта для інтарэсу. Проста даведацца тактычна, а па мне, хоць сто гадоў маўчы. Калі сапраўды дваццатага палка, проста цікава, як вы здолееце вылезці з пятлі. Вас-жа абкружае трэцяя дывізія...—ён спахватваецца і папраўляе...—Тут не ў дывізіі, вядома, справа, можа яна і трэцяя, можа і першая, хто ведае. Я гэта да таго, што цяпер вас усёроўна адціснулі. Значыць, дваццатага палка. Мехчасці ў вас паблізу пэўна-ж няма, бо яна даўно-б паказала сябе на справе. Правільна адгадваю? Ну вось і кропка. Ага, вось цяпер гэтая тэхніка пайшла. Узаемадзеянне з ёю трэба наладзіць. У вас як справа?

Ён мякка ўсміхаецца, прыводзячы ў рух увесь свой шырокі дабрадушны твар, па-сяброўску заглядвае ў вочы чырвонаармейцу, нібы шукаючы пацверджання сваіх здагадак.

Яго спадарожнікі сталі дыханне, прыслухоўваючыся да слоў камандзіра.

Шакалюк увесь час маўчыць. Яго хітрыя вочы перабягаюць па баках. Але дарога вузкая, уперадзе конныя, ззаду конныя.

— Давядзем зараз цябе да штаба і спі колькі ўлезе. Сёння мусіць аперацыя скончыцца.

Палонны кінуў акурак і паглядзеў, куды ён папаў.

— Ты што, дубіна, ці што! — нарэшце раззлаваўся камандзір аддзялення, уражаны настойлівасцю палоннага. — Якой часці, пытаю?

Шакалюк перабіраў повад і нават не павярнуў галавы: ён углыбіўся ў зацікавіўшую яго думку. Як пролетарый, ён прывык сур'ёзна адносіцца да ўсякіх жыццёвых акалічнасцяй, старанна і падрабязна разбіраючыся ў кожным асобным выпадку. Ён лічыць, што гэтае пытанне, якое зараз яго займае, таксама павінна быць пастаўлена на ячэйцы. Ён ведаў, якія адносіны ў Чырвонай арміі да лодыраў, да гультаёў, да праступкаў, як нявычышчанай вінтоўкі, недагледжанага каня. А да палону? Да таварыша, які трапляе ў палон? Гэта таксама праступак, або непраступак? Ён адчуваў вялікую долю сваёй віны. Калі-б ён дакладна выканаў загад і без зацяжкі рушыў назад, наўрад ці ўзялі-б яго ў палон. І вось зараз к ліху пойдзе яго ўдарніцтва, яго прыкладнасць, наогул к чорту яго з камандзіраў, як не апраўдаўшага надзей!

Аднойчы вось таксама рабочы Порхаўскіх чыгуначных майстэрняў, інструментальнага цэху токар Шакалюк прышоў да сакратара комсамольскай ячэйкі і сказаў:

— Скажы, Сяргеяў, ці можа быць у комсамоле хлапец, які лічыў, што ўся справа ў яго ўласнай рабоце, і не заўважаў прарыву ў цэху? Гэта адрыў? Не?

— Скажы прозвішча,—буркнуў сакратар.

— Прозвішча, што-ж прозвішча—гэта я, Шакалюк!

Сактатар сказаў:

— Разабраць мы цябе разбярэм па костачках і вымову табе дадзім, а што датычыцца выключэння з комсамола, пачакаем. А ты што, сапраўды празяваў прарыў: не заўважыў? Так?

— Тут, бачыш, я такую формулу пабудаваў,—адказаў у замяшанні токар.—У мяне, як-бы сказаць, завяліся асабістыя справы, ну, там, разумееш... Я думаю—буду першым у рабоце, паложаны час адпрацую на выдатна, а значыць, астатні час мой. Мне, разумееш, час патрэбен быў.

— Баба?

— Баба!

— Формулу сваю лічыш прыемлемай для комсамольца?—весела, з хітрыкамі паглядзеў на яго сакратар.

— Памылка, вядома. Бачыш, я быў неспакойны і зайшоў да цябе.

— Што-ж, добра, паставім на бюро.

— Я сказаў адкрыта. Што-ж, бачыш, такая справа...

— Добра.

— Зараз гэта ўсё ўжо скончылася.

— Добра, добра...

## IV

Палонны маўчаў. Яго маўчанне ўсё больш раздражняла начальніка сініх, красамоўства якога прападала дарэмна.

— Паедзем, паедзем,—не хаваючы дасады, бурчэў ён.—У нас у штабе сядзіць начальнік выведкі, які ўсё разумее. Ён умее размаўляць з вашым братам палонным, па гаечках цябе разбярэ. Не хочаш гаварыць—не гавары. Зусім мне твае звесткі не патрэбны. А чаму? А таму што я іх сам ведаю. Зразумеў? Сам ведаю. Ты дваццатага палка. Гэта ясна. Не станеш адмаўляць? Танкі ад вас адрэзаны. Усё роўна вы ў пятлі, дзівак! Ваш, як яго, гэты артдывізіён стаіць у Гарохаўцы?

— Не ведаю.

— Ага! Вось і папаўся. Значыць, дывізіён знойдзен. Справа цвёрдая.

Палонны ўсміхаецца. Ён усміхаецца вачмі, губамі. Увесь яго вузкі лісіны твар выцягваецца ўперад. Ён усміхаецца крыўдна, хітра, не раскрываючы рота. Камандзір перажывае цяжкія хвіліны сапраўднага гневу.

— Каб гэта па сапраўднаму, я-б з табою па іншаму пагаварыў. Не стаў-бы ты мэкаць, як баран.

Ён выняў партсігар, выхапіў папяроску і нервова пажаваў яе ў роце.

— А пападзіся ты мне,—раптам ажывіўшыся прагаварыў Шакалюк,— я-б табе сказаў:—помні, таварыш, СССР наш—бацькаўшчына працоўных усіх краін, кожны рабочы павінен дапамагаць у яго перамозе. Разумееш?

Гэтыя словы, сказаныя з шчырым пачуццём і нават горача, чаму твар Шакалюка пачырванеў, зрабілі нечаканае дзеянне. Каб на месцы

сініх быў сапраўдны вораг, у якім нацыянальная маска не загарадзіла зусім твар пролетарыя, магчыма, пераконаная прамова чырвонаармейца кінула-б у замяшанне не адно палкае сэрца. Сінія з вялікім інтарэсам выслухалі разумны адказ. Яны з маўклівым адабрэннем кіўнулі палоннаму.

— Значыць, нічога не скажаш,—прабурчэў начальнік сініх.—Ну, і не кажы!

Яны едуць моўчкі. Камандзір паспрабаваў усе сродкі ўздзеяння і зараз не хоча больш нічога ўжываць. Ён забыў адно—не перашкодзіла-б усё такі перш-на-перш, абшукаць гэтага хітраватага хлапца, які так бравіруе сваімі мужнымі паводзінамі. Яшчэ раней, у самы момант затрымкі, калі Шакалюк паімчаўся ў кусты, магло паказацца дзіўным, што ён затрымаўся там. Яго пятліцы пасля таго, як вышаў ён на дарогу, былі чыстымі, сляды двух прарэзаў наўрад ці можна было заўважыць на цёмнасінім полі, акантаваным чорным шнуром.

А яго твар быў непарушным і хітрым, ён мог быць тварам байца і тварам камандзіра, вядома не высокіх рангаў, паколькі адна маладосць не дае яшчэ права на заняцце адказных пасад.

Дарога блытаецца. Густыя зараснікі арэшніка і акацый ссоўваюцца амаль што шчыльна. Павець з зялёных галін адгараджвае коннікаў ад сонца. Час ад часу здалёк даносіцца гул адзіночных стрэлаў. І тады здаецца Шакалюку, які ўсё яшчэ не вызваліўся ад дрымотнага стану, што ён знаходзіцца ў глухім памяшканні, за сцяной якога бушуе навальніца. Падвал вялікага дома першагільдыйнага купца Хрыстафорава ў гарадку Порхаве малюецца ў мутнай дымцы, як глухое газавае схövішча, дзе ён ратаваўся ад маланкі і веснавых лівеняў. Два поўцёмных пакойчыкі належалі лепшаму майстру скураной фабрыкі; іх падараваў яму ў карыстанне Хрыстафораў, які імкнуўся такім чынам прымацаваць да прадпрыемства майстра гарбара. У кампенсацыю за карыстанне пакойчыкамі да абслугоўвання сям'і гаспадара былі прыцягнуты і жонка і сын гарбара. Тады будзе больш зразумелым, чаму ў час ліўняў і навальніцы імкліва ўбягаў у свае „сховішча" шасцігадовы хлапчук, нібы кацянё, якое ратавалася ад небяспекі. Тут гралі ролю не страх перад выбухамі прыроды, а нешта больш соцыяльнае. У гэты момант увесь наяўны састаў дома мабілізоўваўся для спешнай уборкі вялізных раскіданых крэслаў у палісадніку, самавара, пасуды, качалкі і ўсяго таго шматлікага барахла, якое выносілася ў сонечны дзень на двор з багатай гаспадарскай кватэры.

Над хаосам рэчаў вырастала постаць усемагутнай купчыхі Еўлампіі Цімафееўны, якая ўладарыла над дамачадцамі і дабівалася з дапамогаю штуршкоў і шчыпкоў бязумоўнай павагі. Такія ўласцівасці чалавечай памяці: яна чапляецца за якую-небудзь дробязь і выцягвае ўслед з сутарэнняў мінулага груды падзей, як штукар цэлы ярмарак рэчаў з пустой, здавалася-б, скрынкі.

Услед за гэтым дзеянні перарываюцца і свет пачынае святлець. Святло прасачваецца ў шырокія вокны і раскрывае вялікі пакой, заклееены карычневымі глянцаванымі абоямі, падобнымі на скуру. Малююцца стол, тры крэслы. Плямы праменняў рушацца па лінолеуму і нарэшце даходзяць да ложка. Гэта і ёсць славуты, чырвонага дрэва, каўчэг купца Хрыстафорава, з якога спускае босыя ногі (хто-ж?) Антон Еўстраф'евіч Шакалюк, вусаты майстар, найлепшы дубільшчык скур.

Маці не дажыла да першага паверха (панскага). Заставалася ў сутарэнні, адкуль яе вынеслі нагамі ўперад на вуліцу, якая звінела веснавымі ручаямі. Гэта здарылася месяцы за тры да перасялення.

— Сталі мы з табою халастымі!—крыва моршчыўся бацька.

Яны абодвы спалі на купецкім ложку, якога-б хапіла на пецярых.

Купец Хрыстафораў нейкі час хадзіў па вуліцах горада (ён знімаў недзе пакой), а потым знік. Ліха ведае, куды ён падзеўся разам са сваёй таўстой жонкай...

... Васьмі год бацька адвёў яго ў двухпавярховы будынак былой гімназіі, дзе зараз змяшчалася працоўная школа, абышоў з сынам усё памяшканне, зірнуў у класы, высокія, пустыя і гулкія пакоі, спыніўся ў аграмаднай зале з партрэтам Леніна на сцяне і важна сказаў, звяртаючыся да сына:

— Ну, брат, да рэволюцыі цябе-б сюды на парог не пусцілі, зразумеў? Разважай! Кацёл варыць павінен!—выразна пастукаў пальцам па галаве.

У раздзявальні штурхнуў яго ў крыклівы натоўп хлапчукоў і выйшаў...

... У дзевяць год бai пад Перакопам, пра якія чуў у школе, здаваліся казачным аднаборствам аграмаднага гарадавога, які некалі стаяў на рагу, з прыяцелем бацькі Андрэем Лук'янавічам Слесарэнка, які пашоў на вайну іменна для гэтай мэты.

На двары вялікага дома перакопскія бai паўтараліся.

Бацька не хадзіў на грамадзянскую вайну з прычыны слабасці сэрца, хаця вайна і падступала ледзь не да самага Порхава. Ён абуваў Чырвоную армію. Потым абуваў тых, хто вярнуўся ў парваных ботах з поля бойкі. І зараз таксама абувае і зараз не кідае абуваць. Дубільшчык скур. Стары.

Аднаго разу, прышоўшы з работы, пахлопаў па плячы сына.

— Вось, што, Мітрый,—расцягваючы словы, сказаў яму.—Чуеш... дзед твой абуваў народ. Я вось сорак гадоў абуваю, а табе катэгорыю трэба змяніць. Зразумеў?.. Галіну... другую. Я тут з Андрэем Лук'янавічам дамовіўся. Бярэ цябе вучнем у чыгуначныя майстэрні. Маркаю вышэй. Зразумеў?

— Зразумеў...

Дарога ўперадзе раздвоілася, вузкая сцежка намецілася ўлева.

Палонны, які вяла рушыў са сваім экскортам, трошку адстаўшы, раптам ірвануўся па сцежцы, прыгнуўшыся да сядла, падхлёснуты галлём. Ён без жалю прышпорваў каня. Намаганні дарэмны. Яго адразу-ж дагнаў камандзір сініх. Ён імчаў за яго канём і нешта крычаў.

Калі хваляванні ўляглiся і яны ехалі назад, камандзір, крыва ўсміхаючыся, сказаў:

— Я-ж бы цябе дзесяць разоў палажыў, каб гэта па сапраўднаму. Па-дурному, па-дзяцінаму ўцякаць...

## V

У прасторнай хаце стаяць уздоўж сцен два сталы, каля якіх доўгія лаўкі і дзесятак табурэтак. У гэтай хаце звычайна абедаюць калгаснікі, у другой палове змяшчаецца кухня і харчовы склад. Зараз, незвычныя для гэтай глушы, чуюцца настойлівыя тэлефонныя гудкі, сувязіст раз-по-разу хапае трубку і металічна-пранізліва перадае загады начальніка штаба дывізіі. Сталы заняты паперамі, папкамі, картамі. Валяюцца скінутыя з плеч шынелі, скураныя паліто. Імкліва з'яўляецца начальнік штаба, за ім услед ідзе сумятня. Людзі паспешна выслухоўваюць загаданні і выходзяць з хаты.

Сюды прывялі Шакалюка.

Яго пасадзіў насупроць сябе начальнік выведкі, зірнуў яму ў вочы, як бы ацэньваючы, з кім мае справу, і ў імклівым тэмпе павёў допыт.

Ён не спадзяваўся, што чырвонаармеец, які сядзіць перад ім, яму што-небудзь скажа. „На ліха ён будзе адкрытым, калі страху смерці няма,“—думаў Скачкоў.—„Нічым-жа не рызыкуе. Трымайся героем, усёроўна няма небяспекі.“ Таму яго цікавіў выхаваўчы бок і „псіхалагічны“, як гаварыў ён. Ступень знаходлівасці, кемлівасці, дасціпнасці. Ён ужо чацвертага дапытвае сёння. Двое вярзлі такую вострую люхту, што прысутныя пры допыце качаліся са смеху. Трэці выразна бравіраваў, трымаў сябе героем, увесь час красамоўна падкрэсліваючы, што ён „лепш падохне“, чым скажа што-небудзь. Выказаў толькі сваё прозвішча і кропка. Пішыце ў газету! Трубіце на ўсіх дарогах! А потым, калі пакапаліся ў яго кішэні, знайшлі зашмальцаваную палкавую шматтыражку. У адной з заметак якраз і гаварылася пра таварыша Праннікава, як пра нікудышняга стралка, бузацёра і дрэннага грамадчыка.

„Вось дык герой!“—падумаў Скачкоў і адразу-ж адпусціў палоннага на ўсе чатыры староны.

Цяпер перад ім сядзіць чацверты. Шчуплы, сарамяжлівы і вялы хлапчына. Ён нязграбна прыткнуўся на кончыку табурэткі і апусціў позірк уніз. Гэтая абыякавасць уваскрашае надзеі Мікалая Іванавіча: можа быць хоць гэты што-небудзь скажа. Ён вырашае абурыцца на яго лавінай слоў, заблытаць, збіць. Нарэшце, камандзір-жа павінен умець прыстасоўвацца да ўсякага палажэння. Ён мяркуе, што гэтага зморанага паўсоннага хлапца лягчэй за ўсё ўзяць псіхалогіяй.

— Значыць, кажаце, дваццаты полк збіраецца пераправуляцца каля Кудашава, прыступіў да наводкі пантоннага маста,—пачаў ён закідваць словамі, уткнуўшыся барадой у кулакі, як гэта робяць класічныя пракуроры.—Адыход поўны. Зусім правільна. Адыход поўны.

Мікалай Іванавіч рыўком раскрыў карту, сурова зірнуў у яе, нібы чытаючы па ёй, і зноў утупіўся ў палоннага.

— А вы што-ж, дарагі таварыш, папаліся ў выведцы? Зашлёпалі? Ехалі з даручэннем—і кропка. Бывае, бывае! Кажаце, становішча вашага палка безнадзейнае...

— Дык гэта вы кажаце, а не я,—падаў рэпліку Шакалюк.

— А хіба вы не гаварылі? Вы, дарагі, не віляйце. Мехчасць вас не падтрымала. Ці не так? З гэтымі механічнымі часцямі ўсякія здарэнні бываюць: то зламаюцца машыны, то гаручага няма. Бываюць трудненькія палажэнні. Дзе-ж гэта вашыя мехчасці застралі, га? Што-ж гэта яны...

У вачах палоннага прамігнула непрыметная ўсмешка.

— Тэхніка вялікая справа. Падтрымай вас тэхніка, вы-б нам насыпалі. Не здолелі вы выкарыстаць тэхніку. Колькі яе на вашым баку? Мабыць чулі? Гутарка была? Га? Ды вы не саромцеся. Закурвайце, таварыш. Вось дапрашу, абедам накормім. Сёння нешта смачнае ў нас прыгатавалі. Давайце скончым—і за ежу. Курыце і расказвайце.

— Палка... дваццатага,—ён макае ручку ў чарнільніцу.

— Калі хочаце, пішыце...

— Эскадрона?

— Трэцяга.

— Ехалі адкуль?

— З усхода.

— Дакладней?

— З усхода сонца.

— Куды?

— На захад.
— Дакладней?
— У бок захада.
— Так. Соцыяльнае становішча?
— Рабочы.
— У партыі?
— Кандыдат.
— Як прозвішча камандзіра палка?
— Гэта не абавязкова.
— Камандзіра эскадрона?
— Кажу, не абавязкова.
— Завялі „не абавязкова". Кажу абедаць пара. Есці хочаце?
— Хачу.
— Ну дык выкладвайце ўсё. Якое заданне палка, куды пасоўваецеся?
— Не ведаю. Адкуль мне ведаць планы?
— Вось гэта дрэнна. Як-жа гэта вы так? Напэўна, не ўдарнік? Так сказаць не зацікаўлены, абоз! Адсталасць! У нас кожны чырвонаармеец павінен асмысліваць усю аперацыю. Што-ж вы, дарагі, так адсталі? Не чакаў!

Шпаркім шагам у хату увайшоў камандзір дывізіі, які вярнуўся з каманднага пункта, за ім начальнік штаба. Камандзір дывізіі на хаду гаварыў:

— ... кулак падрыхтаваць на правым флангу. Неадкладна загадайце двум эскадронам першага палка і трэцяму палку падцягнуцца да лесу. Там накапліваццa...

— Слухаю. А вышыня 93,4?

— Не думаю. Адтуль нам нічога не пагражае. Самалёты не выявілі мехчасцей. Магчыма, што іх няма ў гэтым раёне, або ёсць разрозненыя машыны. Палонны.

— Так точна, таварыш камандзір дывізіі!—выцягнуўся начальнік выведкі.—Дастаўлен з другога палка. Вестак не дае. Вядома толькі, што чырвонаармеец дваццатага палка. Дваццаты полк ідзе ў авангардзе. Усё што мог даведацца. Дазвольце дапытваць яшчэ?

— Дапытвайце... Андрэй Андрэевіч,—павярнуўся камдыў да начальніка штаба.—Вы даручылі расследваць гэты выпадак з выведкай? Два дні людзі былі невядома дзе. Што гэта за сувязь?

— Так точна. Дзесяць сутак арышта начальніку выведкі.

На Шакалюка напружаная абстаноўка ў штабе падзейнічала мацней, чым усе допыты. Ён адчуў стальны халадок у распараджэннях камдыва. Сувязіст, які прымаў звесткі, працаваў бесперабойна, як машына. Запісваў, крычаў у трубку, дакладваў. На яго твары выступаў пот. А тут яшчэ за сцяной трашчэлі кулямёты і чуўся гарматны гул. Шакалюк уявіў адказнасць, якая ляжыць на камдыве, на начальніку штаба, на сувязісту. Ён амаль не чуў, што кажа начальнік выведкі. Паказаўся смешным увесь гэты допыт, усе спробы так або інакш правесці яго, збіць, выведаць што-небудзь. Галоўнае не ў гэтай ігры, якую вялі яны з начальнікам выведкі. Галоўнае—у той задачы, для якой робіцца баявая вучоба. Няўжо так блізка вайна? Небяспека яму здаецца зараз нагэтулькі выразнай, што ён мімаволі яшчэ раз агледзеў людзей, як бы па іхніх тварах хацеў пераканацца што гэта разгулялася яго ўяўленне. Але твар камандзіра дывізіі быў напружаны. Ён кінуў некалькі слоў і рушыў да дзвярэй. Начальнік штаба паспяваў за ім, ловячы на хаду загаданні. Яго твар быў гэтакім сур'ёзным. Сур'ёзны твар сувязіста. І нават начальнік выведкі, які дапытваў яго, здаваўся чалавекам, занятым адказнай справаю, хаця ён і разыгрываў яе, як у тэатры.

І ён, Шакалюк, іграў. Ён бравіраваў сваёй роляй, карыстаючыся беспакаранасцю. Камдыў бачыў смерць у твар. На грудзях у яго два ордэны. Начальнік штаба глядзеў у вочы смерці. Начальнік выведкі... можа быць, ён таксама. Ён уявіў аблічча знаёмых камандзіраў, ён падумаў пра свайго камандзіра палка. Падумаў пра Варашылава, пра Будзённага, пра Якіра.

Што можа прад'явіць ён, Шакалюк?

Дзесяць дзён таму назад ён назначан камандзірам аддзялення. Ён употай вельмі ганарыўся, лічыў, што зусім правільна вылучылі яго. Два трохкутнікі, удзетыя ў пятліцу, давалі яму задавальненне, як знак новай ролі. Але зараз яму становіцца не па сабе ад сваёй учарашняй гордасці. Паўтарылася тая-ж гісторыя, што была з ім на заводзе. Ён клапаціўся аб сваім пяршынстве і забыў аб сваёй вытворчасці.

Заўтра прашуміць вайна і ўсіх праверыць. Ён прыслухоўваецца да шуму, што ідзе з вуліцы. Чорт вазьмі, пушкі б'юць як у сапраўднай вайне! (А як яны там будуць біць?) Кулямёты назойліва трашчаць, нібы сапраўды б'юць баявымі патронамі па самалёту ворага. (А як яны там будуць біць?) Плешча за вакном конны полк.

Ён яшчэ не гатоў. Ён яшчэ не ўсё зразумеў. Ен павінен аб гэтым пагаварыць з камандзірам, паставіць пытанне на ячэйцы.

— Давайце сумку!—працягвае руку начальнік выведкі.—Усё выкладвайце.

Шакалюк паслухмянна спаражнівае сумку.

— Ага, кніжкі! Чакайце, чакайце. Ды вы, здаецца, адзіннаццатага палка!

Камандзір падскаквае да начальніка штаба, які толькі што зноў з'явіўся ў хаце, і дакладвае:

— Дазвольце, таварыш начальнік штаба. Палонны аказаўся чырвонаармейцам адзінаццатага палка.

— Так, так, вельмі добра. Адзінаццаты,—адзначае на карце начальнік штаба.

Скачкоў разглядае далей змешчанае ў сумцы. Яго твар раптам пацямнеў. Ён разгублена глядзіць на палоннага.

— Ды якога-ж вы, нарэшце, палка? На гэтай кніжцы стаіць дзесяты полк. Нічога не разумею!

Ён зноў падыходзіць да начальніка штаба і ў замяшанні дакладвае, што арыентыроўка можа быць неправільная, полк дакладна не выяснен.

— Зусім заблыталіся!—іранічна заўважае начальнік штаба.

Скачкоў разгублена ківае галавой на палоннага, нібы кажучы: „З яго чорт выцісне".

Шакалюк сціпла сядзіць на кончыку табурэткі. Яму хочацца есці. Папрасіць ён не адважваецца. Калі-б ён быў проста чырвонаармеец другога палка, які выпадкова прыстаў,—другая справа. Але ён палонны. Гэта настрайвае яго на асаблівы лад, нешта робіць чужым, ён нават сам не можа разабрацца, адкуль з'яўляецца гэтая няёмкасць. Яму прыходзіць у галаву выпадак, які адбыўся тры дні таму. Пры адступленні з вёскі Отара чырвонаармейцы збудавалі пры дапамозе сялян упоперак дарогі барыкаду. Навалілі калёс, бярвення, каб перагарадзіць шлях сінім. Пры ад'ездзе адзін з камандзіраў, усміхнуўшыся, крыкнуў сялянам:

— Глядзіце, не дапамагайце сінім разбіраць.

Конны атрад сініх неўзабаве падыйшоў да вёскі. Перад барыкадай спыніліся.

Тут-жа стаяла група сялян.

— Разбярыце, таварышы. Праехаць трэба. Ну-тка!

Сяляне не зрушыліся з месца.

— Ды ну!—спяшаў камандзір.—Хуценька. Раз-два! Дапамажыце, чаго стаіце?

Натоўп раптам падаўся назад і марш-марш за хаты. Разсыпаліся ў адзін момант.

— Куды? Эй, эй, куды? Што-ж гэта яны—за французаў нас прымаюць? Гэй, таварышы!..

Ніхто не вярнуўся.

Ён успамінае другі выпадак. Чырвоныя адступілі да гарадка Браілава. Атрад сініх, які пераправуляўся цераз раку, ля заходняй акраіны, напаткаў адпор з боку насельніцтва, якое арганізавала абарону. Гучнае шпоканне халастых стрэлаў трывожыла паветра. Стралялі асоавіяхімаўцы, рабочыя цукровага завода, з даху, з акон, з усіх шчылін будынка, які ўзвышаўся, нібы цытадэль, на крутым беразе...

Сувязіст, адарваўшыся ад тэлефона, паспешна ўстаў і далажыў начальніку штаба:

— Дазвольце... па данясеннях баявога ахавання трэцяга палка ў кірунку на вышыню 93,4 з захаду пасоўваецца вялікая калонна танкаў.

Начальнік штаба ўставіўся на карту. Яго твар выказваў надзвычайнае недаўменне.

— Гэтага не можа быць!—сказаў ён начальніку аперацыйнага аддзела.—Ніякіх мехчасцей у тым кірунку не можа быць! Блытаніна!

— Сувязіст, праверце яшчэ раз!

Сувязіст прыхіліўся да тэлефоннай трубкі.

— Глупства!—моршчыўся начальнік штаба.—Пяць штабных машын яны прынялі за танкі.

Ён рэзка памахаў складзенай картай перад сабою.

— Глупства!

Сувязіст зноў падняўся і раўнадушна далажыў:

— Дазвольце... Звесткі пацвярджаюцца. Густая калонна танкаў рушыцца ў кірунку да нас.

— Паведаміць неадкладна на каманды пункт!—закрычаў начальнік штаба так гучна і трывожна, што Шакалюк мімаволі падняўся з крэсла і халадок прайшоў па спіне...—Затым двум эскадронам трэцяга палка зараз-жа перакінуцца да вышыні 93,4, акапацца на ўсход ад яе. Кулямётныя тачанкі туды-ж неадкладна. Я еду на каманды пункт. Артылерыі...

Ён ступіў да дзвярэй. На вуліцы чуўся яго зычны голас:

— ... на якое ліха ён там тырчыць? Неадкладна, неадкладна...

Загула галасіста машына, прастагнала і паехала.

Начальнік выведкі таксама раптоўна знік, пакінуўшы Шакалюка пад апекай канвойнага. Яны вышлі з ім са штаба на двор. Шакалюк зірнуў на свайго каня. Той мірна жаваў сена разам са штабнымі коньмі.

— Ці няма ў цябе чаго-небудзь паесці?—спытаў Шакалюк у канвойнага.

— Акурат ёсць. Пачакай, я табе дастану,—ён выняў з кішэні кавалак белай булкі і працягнуў палоннаму.

Шакалюк прысеў ля глінянага плоту і стаў жаваць.

У вёсцы нарастаў рух. За плотам, па вуліцы на рысях праходзіла конніца. Яе не было відаць, і таму здавалася, што гэта хлешча лівень. Потым праімчаліся тачанкі. Прагрукацела артылерыя. Нізка праляцеў над зямлёю цяжкі самалёт.

Усё гэта імкнулася насустрач танкам, якія з'явіліся нямаведама адкуль.

## VI

Аб асабістай мужнасці думаў у апошнія два гады свайго чырвонаармейскага жыцця Шакалюк (а можа быць і ўсё жыццё, і тады, калі гуляў у перакопскія баі з хлапчукамі) і прышоў да вываду, што гэтая велічыня, якую ён не можа праверыць. Ён ведаў прыклады класічнай мужнасці, многа перадумаў над геройствам Чапаева, Фрунзе, Варашылава, Будзённага, Крываручкі і іншых, чые жыццё ведаў па расказах і кніжках, чытаных запоем.

Не мог зразумець аднаго, як падрыхтоўваецца гэтая мужнасць, у якіх школах яе праходзяць і ці можна вывучацца ёй, калі не гудуць знарады над галавою.

Ён раскрывае кніжку і чытае:

„Пад Уфою, калі дрогнуў наш полк, засыпаны знарадамі белых, наперадзе ланцугоў раптам з'яўляецца камандуючы і бяжыць з вінтоўкаю ў руках, вядучы за сабою расстроеныя рады байцоў. Камандуючы быў кантужан у галаву. Уфа ўзята.

Мужнасць!

Шакалюк задумваецца над гэтай сцэнай. Ён яе дапаўняе, адгадвае падрабязнасці, малюе карціну замяшання, панікі. Ён бачыць нават твары—пырскі крыві на штыхах, памутнелыя позіркі, мутныя агенькі трусасці. (Ён прадумваў кожную дэталь). Бачыць ззаду раку, якую толькі што фарсіравалі і дзе вось-вось павінны патануць і мужнасць і трусасць. Адзнакі пакуты на тварах другіх, больш стойкіх, але яшчэ недастаткова мужных. Яны хісталіся паміж страхам і мужнасцю і адступаючы шаг за шагам, можа быць клялі сябе і шкадавалі аб рэспубліцы. Змагаліся з сабою, але не вытрымлівалі шалёнага агня белых. Шакалюк уяўляе сабе дзікі танец знарадаў, кастры агнёў, што ўспыхваюць тут і там, лівень свінца ў твары—бадзёрыя, труслівыя, вялыя, задуменныя, мужныя (ён не пакрыўджан уяўленнем). Ён бачыць як адпаўзаюць у бок раненыя і прытвараюцца мерцвякамі ў надзеі, што іх за такіх прымуць. Як асобныя людзі з задніх радоў бачком-бачком адпаўзаюць на бераг і ляжаць ля вады—на той выпадак, каб кінуцца першымі ўплаў. Як падымаюцца героі і бягуць некалькі шагоў, усяго некалькі шагоў, каб упасці з прабітай галавою, з перабітым плячом або разляцецца па кавалках, змяшаўшыся з зямлёю і асколкамі выбухнуўшага знарада. Усёткі ёсць такія, якія паўзуць уперад, спадзяючыся на перамогу. Вось гэтыя... любяць прасторы будучых палёў, на якіх няма межаў, гарачую працу падземных шахт, якія выкідваюць вугаль, бетонныя будынкі заводаў, якія будуць будавацца, будавацца, будавацца...

Але агонь белых батарэй нясцерпны, ён жорсткі і безсэнсовы, як стыхія.

Нельга супрацівіцца земляўздрыгу, які разбурае дамы. Пачварная сіла змятае, душыць, разносіць у шматкі...

Пярэднія рады ляжаць, не падымаючы галоў, уткнуўшыся ў зямлю, аблізваючы сасмяглымі языкамі мокрую траву.

— Сволачы! Гады!—шэпча нехта ў бяссільнай ярасці.

Тут насцігае пачуццё самотнасці, невер'я ў тое, што навокал ёсць яшчэ жывыя людзі, боязнь, што табе здрадзілі, пакінулі аднаго. Аднаго! Трошкі падымаюць галовы, азіраюцца і шукаюць жывых людзей. Супакойваюцца, угледзеўшы другія фігуры, якія таксама шавеляцца. Гатовы ўстаць і бегчы ўперад, бо ўперадзе перамога, а не там, ля берага, дзе хаваецца дзесятак трусоў.

Чакаюць, хто першы падымецца і пабяжыць насустрач перамозе. Чакаюць і ляжаць, бо ўзняцца, значыць памерці. Паварачваюць назад

галовы і заўважаюць, як пустынна і глуха там. Або ўсё вымерла, або адышлі. Вось бягуць да ракі тры фігуры, падобныя на зайцоў. Адыходзяць? Адыйшлі? Памылка. Поле поўнае жывых людзей—якія хістаюцца, рухаюцца, паўзуць немаведама куды, кідаюцца з боку ў бок.

Тады з'яўляецца сярод іх невысокі, моцны чалавек, з абліччам народнага настаўніка, і нязграбна бяжыць уперад, узмахваючы вінтоўкай і нешта крычыць. У яго просты заклікаючы позірк. У ім непрыметна ні непакою, ні страху.

— Камандуючы! Гэта камандуючы!—крычаць наваколь ускакваюць і бягуць за ім...

Так думаў Шакалюк аб мужнасці, так яна маляваляся яму ў класічных прыкладах мінулага, вычытаных з кніг і дапоўненых уяўленнем. Ён хацеў быць мужным. Усе гэтыя два гады, якія прайшлі ў Чырвонай арміі, ён імкнуўся быць уперадзе іншых па вучобе, па грамадскай рабоце. Вось цяпер яго прызначылі камандзірам аддзялення, як лепшага байца. Але ці мужны ён—гэтага ён не ведаў і не мог праверыць. Яго захапляла мужнасць Фрунзе, адвага Будзённага, гераізм Варашылава. Ён хоча наследваць ім, але дзе і як? Вось ён скончыць тэрмін службы, вернецца на завод. Шэры шынель не апране да вайны, якая, канешне, можа быць вельмі хутка. Але мужнасць, мужнасць! Ён з пакутаю задумваецца, і рашае, што мужнасць, з якою ён знаёміўся па кнігах, ад яго далёка.

Сціплы, сарамяжлівы на выгляд хлапец, з хітраватымі разумнымі вачмі, хацеў быць героем.

## VII

... Спачатку адскочыла конніца, хаваючыся ў крывых завулках сяла. Яе рады былі разрозненымі і рэдкімі. Ад атрада, які праскакаў зусім нядаўна насустрач танкам, заставалася нейкая пятая частка. Асобныя коннікі імчаліся па дарозе, падымаючы шалёны пыл. Іхныя твары былі разгубленымі. Недаўменне, што скоўвала Шакалюка, адлюстроўвалася і ў іхніх вачах. Яны не ведалі, не ведалі нечага. Кроў? На тварах была кроў. Ці гэта сонца фарбавала іх, кідала крывавыя блікі на шчокі, па якіх мутнымі ручайкамі сцякала гразь. Некаторыя нагіналіся да конскіх шыяў, сударгава трымаліся за іх і здаваліся мёртвымі. Адзін зваліўся з каня і, адкаціўшыся на край дарогі, застаўся ляжаць. Конь спыніўся тут-жа і чакаў. Потым ён заіржаў гучна і журботна і пагнаўся за астатнімі. Праімчаліся апошнія коннікі. Дарога раптам апусцела. Чуўся толькі зблізу дзікі трэск кулямётаў і ўздыхі пушак. Нарастаў шум. Бразгала жалеза і скрыгацела недзе ўнізе пад горкаю, на якой раскінулася сяло. З-за паварота выскачыла кулямётная тачанка і праімчала з хуткасцю маланкі, міма чэцвера коней праляцелі спалохана. За першай тачанкай адразу-ж паказалася другая. У гэтай запрэжана было чамусці двое коняй. Уткнуўшыся ў крыло кулямёта, скурчыўся чырвонаармеец. Кулямёт маўчаў.

Зноў інтэрвал—пустая дарога на некалькі секунд. Потым ляснула за паваротам, загрымела жалеза, застагнала, зарыпела і паказаліся танкі. Яны падобны былі на страшыдла, якое выпаўзла на здабычу і прагна абнюхвае дарогу, шырокімі бегамотавымі мордамі.

Шакалюк задрыжэў. Ён ірвануўся ўперад і закрычаў. Танк раздушыў конніка, які толькі што ўпаў з каня. Страшыдла абыякава перапаўзло цераз яго, ззаду засталася вялікая цёмная пляма. Гэта быў недагляд. Памылка, злачынства. Шакалюк разгублена азірнуўся, як-бы шукаючы сведкаў злачынства танкіста, які не заўважыў упаўшага чырвона-

армейца. Навокал нікога не было. Ён стаяў адзін каля глінянага плоту. Перад ім, спускаючыся ўніз, ляжала дарога, па якой паўзлі танкі. Гарызонт загараджвалі дрэвы, суцэльная сцяна густых тапаляў, што спакойна ківалі голлем. Куды-ж так шпарка схаваліся сінія?—думаў Шакалюк.—І штаба няма. Нікога няма. Адзін яго конь панура застыў, паклаўшы морду на перакладзіну. Канвойнага, які пачаставаў яго белым хлебам, таксама няма. Ніводнага селяніна. Куды ўсе падзеліся? Няма хлапчукоў, што круціліся стаяй ля штабных машын. У пыле ля канавы валяецца конь. Ён ляжыць на баку і шоргае нагамі. Яго аскалены рот абернуты ў бок танкаў. Што з ім? Загналі? Запалілі? Шакалюк недружалюбна падумаў пра чырвонаармейца, які дапусціў такія нядбайныя адносіны да каня: „апаіў, скаціна!“ Конь спрабаваў устаць на пярэднія ногі, але адразу-ж цяжка падаў, купаючыся галавою ў пылу. Вось ён зноў падняўся, амаль што ўстаў на ўсе чатыры нагі, пахіснуўся і паваліўся на другі бок. І тут Шакалюк заўважыў, што бок у яго вырван і тырчыць рабро.

Ён выскаквае з-за плоту і бяжыць насустрач танкам, не разумеючы, што здарылася з канём. Ён махае сваёй шапкай з чырвонай істужкай на аколышу, вітаючы мехатрад, напэўна той самы, з якім ён звязаў свой полк. Яму, напэўна, паказалася, што танк раздушыў чырвонаармейца. Лухта!

Пярэдні танк насоўваецца на яго. Ен аграмадны, як скала.

„Што-ж гэта такое?—здзіўляецца Шакалюк. Ён раней не бачыў такіх танкаў.—Няўжо камандванне хацела зрабіць сюрпрыз, без папярэджання паказаўшы гэтыя пачвары ў дзеянні? Ці не ад іх такая паніка? Вось яна тэхніка! Колькі тут магчымасцей,—думаў ён.—Мы, бадай што, здужым адбіць любы ўдар, які рыхтуюць нам капіталісты“.

Але яго здзіўленне бязмежна павялічылася, калі грымнулі дзверцы танка і адтуль выскачылі людзі. Шакалюка абкружылі некалькі чалавек у гарнітурах з мяккай чорнай скуры.

Ён ідзе з імі ў хату, дзе толькі што змяшчаўся штаб сініх, з ім застаецца адзін барадач—шырокая пушыстая лапата, як у таварыша Дубоўскага, ляжыцца на грудзі, але гэта не Дубоўскі. Твар камандзіра насуплены і злосны.

— Чырвоны?—крыкнуў ён Шакалюку, які раўнадушна разглядваў яго бараду, абмяркоўваючы ці не трапіў ён зноў у палон да сініх.— Партыйны?

— Партыйны. Кандыдат.

— Прафесія?

— Рабочы-токар.

— Якой часці?

— Гэта не абавязко...

Барадачоў твар нэрвова скрывіўся. Ен узняўся з лаўкі,ірвануўся ўперад. Шакалюк пахіснуўся і харкнуў крывёю. Выпаў выбіты зуб.

— Тава...

— Якой часці?

— Не абавя...

Шакалюк хапаецца за галаву, з болем працірае вока. Ён успамінае пра вінтоўку. Але дзе-ж яна? Камандзір звар'яцеў. Ён хоча крычаць аб дапамозе. Але стальны халодны позірк прыкоўвае яго, здаецца, коле ў мозг, як шпрыц.

— Што ты ведаеш аб аперацыі чырвоных?

— Ні...чога. Не ведаю.

— План, сабака? Я пытаю, план даведзен да кожнага чырвонага нягодніка?

— Даве...які план? Таварыш, кінь жартаваць!

Барадач падняў нагу і рэзка ўдарыў Шакалюка ў жывот. Скурчыўшыся, чырвонаармеец упаў на падлогу.

— Гэй, ты, вош! Даведзен план да чырвонаармейца?—грымеў над ім, нібы здзекуючыся, рэзкі голас, поўны ненавісці і шаленства.

Барадач пераставіў нагу. Рухлявая нага прыкавала ўвагу Шакалюка. Ён чакаў, вось-вось яна падымецца, і мімаволі адкачваўся назад. Ён яшчэ не мог паверыць, што ўсё гэта разыгрываецца сур'ёзна. Ён чакаў самага незвычайнага. Вось яму скажуць: „Ты хацеў паспрабаваць сваю мужнасць, ты прайшоў іспыт. Устань і запомні, што твае пакуты—тысячная доля таго, што адбываецца на вайне. Паспрабаваў? Вядома, цяпер ты разумееш, што асаблівай школы мужнасці не праходзяць. Дзівак, ты хацеў папярэдзіць падзеі, яны яшчэ падыйдуць і тады паглядзім, які ты ёсць!“.

На гэтыя неймаверныя словы, якія ён чакаў пачуць, у яго быў гатовы адказ. Ён зараз-жа пайшоў бы ў ДПК, дайшоў да ЦК, дайшоў да Варашылава, да Сталіна, каб расказаць аб злачынстве, якое зрабіў невядомы камандзір, каб выпытаць яго мужнасць. Яго ўзрушвала злосць на яго. Уся годнасць яго, як чырвонаармейца, была зганьбавана і знявconstжана да рэшты. „Гэтага не можа быць“,—падумаў ён, гледзячы на шырокі мысок бота барадача, усё яшчэ не ўсведамляючы, што з ім адбываецца.

— Нус, я слухаю,—пачуўся над ім жорсткі голас.—Слухаю!

Шакалюк маўчаў, ён не разумеў таго, што адбывалася.

Тады з хуткасцю маланкі ўзляцеў бот і абрушыўся на яго, як упаўшая бэлька...

Напэўна, ён некаторы час быў непрытомным.

Ачуняўшы, недаўменна абвёў вачмі хату.

З добрай усмешкай глядзеў на яго з-за стала стары, у такім самым скураным гарнітуры, у пенснэ, гладка выгалены, з прыемнымі мяккімі абрысамі твару.

Ён паклікаў пальцам Шакалюка.

— Сядайце, галубок,—ветліва прамовіў ён,—сядайце і пагаворым з вамі па душам. Я вельмі шкадую, што вы трапілі да капітана. Дзіўна, як вы яшчэ жывы. Ён звычайна не адказвае за сябе. Учора ён вырваў аднаму вашаму вока.

Шакалюк задрыжэў.

— Сядзьце і супакойцеся. Ах, як вас пабілі! Дарэмна вы з ім так... (ён падбіраў словы) неразумна трымаліся. Якой вы часці, галубок? Раскажыце мне шчыра. Я вас дапрашу і на гэтым усё кончыцца. Я баюся, што вас зноў пакліча да сябе капітан.

— Што такое робіцца? Хто вы такія?—вырвалася ў Шакалюка.— Хто вы такія?

— Э, вы мяне самі пачынаеце дапрашваць. Аднак у вас надзвычайныя вольнасці ў арміі. Але я вам адкажу, хто мы, (яго голас быў па ранейшаму мяккім і ласкавым, і на твары змяілася ўсмешка). Хто мы? Мы—невядомыя! Мы скажам тады, хто мы, калі прарэжам вашу краіну, як маланка прарэзвае паветра. Мы скажам, хто мы, калі дойдзем да Кіева, да Харкава. У вас разумны твар, дружа, вы можа быць здагадваецеся, хто мы. Я бачу работу думкі ў вашых вачах. Вас вучаць разумець шмат чаго, чаго ведаць вам, бадай што не варта было-б. Я адчуваю, што вы ў думках перабіраеце суседнія з вамі краіны, рашаеце, якой-жа мы нацыі. Ці не так, дружа? Вы, можа быць, памыляецеся, а можа быць і не. Ці не ўсё роўна. Гэта не мяняе справы... для вас

прынамсі. Хто мы? Жалеза, браток, броня, свінец! Вы не палохайцеся. Я асабіста не здольны біцца. Я вас не ўдару. Ніхто не зможа мяне абвінаваціць у тым, што я ўдарыў рабочага чалавека. Хлусяць, калі кажуць аб нас не тое, што варта. Хе! Соцыял-дэмакрат Вронскі ніколі не пакрыўдзіў нават сабакі,—нэрвова выкрыкнуў стары, але зараз-жа супакоіўся і з нязменнай змяінай усмешкай на твары гаварыў далей:— Зразумела вам гэтае? Я вас не ўдару. Гэта супроць маіх поглядаў. Вы мне зараз скажыце, хто вы, якой часці, скажыце, як бы сказалі свайму бацьку.

— Кавалерыя!—вымавіў Шакалюк, паддаючыся ласкаваму голасу і адчуваючы поўны сумбур у галаве.

— Якога іменна палка? Дывізіі? Усё дакладна кажыце.

— Не ведаю.

— Не ведаеце? Хе, галубок. Ну, чаму-ж вы не шчыры, у вас кожны чырвонаармеец усё ведае. Кожны чырвонаармеец павінен ведаць усю аперацыю, ці не так? Ці не будзеце вы адмаўляць, што ўсе планы вашых камандзіраў даводзяцца да вашага ведама. Будзьце са мною шчырымі, я вам хачу толькі дабра. Я разумею зацікаўленасць вашых камандзіраў, яны атрымліваюць пенсію. Але чым жа вы зацікаўлены? Га? Будзьце ласкавы мне адказваць, галубок, я хачу вас выратаваць. Бясспрэчна вас зноў запатрабуе да сябе капітан. Калі я не змагу яму нічога сказаць у ваша апраўданне, баюся, што вы не застанецеся тады жывымі... Ну, дружа, якой дывізіі?

Стары раптам спыніў позірк на пятліцах шынеля Шакалюка. Ён выцягнуў галаву, уважліва разглядваючы іх. Потым падняўся з табурэткі, абыйшоў стол і, наблізіўшыся да палоннага, пальцам памацаў пятліцы. Паківаў галавою, зноў абышоў стол і сеў на сваё месца.

— Вось бачыце, браток,—паморшчыўся стары.—Самі вы на ражон лезеце. Не сказалі, што вы камандзір. Хе! Давайце пераменім у такім выпадку тэму. Калі не хочаце гаварыць пра сваю часць, я вас разумею: таварышы, сябры, справа гонару. Скажыце, колькі часцей і якія часці ў гэтым раёне? Колькі учора бачылі самалётаў? Бо лічылі-ж напэўна?.. Бачу, што лічылі. Так? Колькі-ж?

— Некалі было лічыць.

— Ну, а танкі, многа іх у вас, ёсць яны?

— Ёсць.

— Колькі бачылі ўчора?

— Многа. Сотні паўтары.

— А кавалерыі, колькі на ваш погляд згрупавана ў гэтым раёне?

— Пяцьдзесят палкоў.

— Хто ёю кіруе?

— Будзённы.

— Колькі, на ваш погляд, пяхоты?

— Пяцьдзесят палкоў.

— Хто яе вядзе?

— Блюхер.

— Хто кіруе аперацыямі?

— Варашылаў.

— Хе! Вы фантазіруеце, мой дружа! Мне не трэба ілжывых звестак. Вы мне скажыце, колькі ў сапраўднасці вы ведаеце часцей у гэтым раёне?

— Я ўжо сказаў.

— Умываю ў такім выпадку рукі, умываю рукі,—падаўся на лаве стары.—З табою не згаворышся, я цябе хацеў выратаваць, такі малады! Ай-ай, ай!.. Вазьміце яго, адвядзіце яго, хутчэй, хутчэй адвядзіце яго,— верашчэў ён, махаючы рукамі.

Дзверы адчыняюцца. Уваходзіць барадач. Ён набліжаецца да стала, ля якога сядзіць Шакалюк, насоўваецца на яго, люта мігаючы шэрымі вачмі, хапае чырвонаармейца за горла, душыць і адкідвае з табурэткі.

— Ратуй, ратуй божа!—кранаецца яго рукі ў сполаху стары. Ён скажа... Кажы, галубок!

Барадач вымае з кішэні кольт і кладзе на стол.

— Адказвай, колькі кулямётаў?

— Не веда...

Рука хапае кольт са стала і падносіць да твару палоннага.

— Даю слова,—кажа барадач,—калі ты будзеш адказваць, я цябе адпушчу. Зразумеў? На ўсе чатыры стораны. Але сцеражыся, я заўважу, калі ты хлусіш. У нас ёсць такія-сякія паказанні. (Ён люта падміргнуў). Хлусіць ты не зможаш. Устаць і гаварыць!

Шакалюк змораны. Ён не мог больш зносіць гэтых пабояў і кпінаў. Ён азіраецца, шукаючы зброі. Вока заплыло, увесь твар ныў і гарэў, нібы тысячы іголак упіліся ў яго. Гудзела галава, ламала цела.

— Будзеш адказваць?

Шакалюк маўчыць. Зноў з хуткасцю маланкі зрываецца са стала кольт. Шчымлівы боль у роце. Кроў цячэ па барадзе. Ён са стогнам выплёўвае два зубы. (Дураслівая думка мільгае ў галаве—яму шкада выбітых зубоў, і ён заспакоена думае, што ў сябе ў палку іх яму ўставяць. Новыя зубы ўставяць на месца гэтых).

— Скажу!—крычыць ён.—Скажу! Дзевятага палка! Камандзір аддзялення. Учора бачыў дваццаць восем самалётаў. Ёсць танкі, але я не ведаю аперацыю,—паспешна з перапынкамі кажа ён.—Я не ведаю аперацыі. Ніхто не ведаю аперацыі, бо ваш напад нечаканы. Я не ведаю, што здарылася. Я не ведаю аперацыі, ніякай аперацыі. У нас былі тактычныя вучэнні,—мармытаў ён.

— Далей адказвайце, хто камандуе?

— Якір.

— Што ты ведаеш пра яго?

— Ведаю? Што я ведаю? Слаўны, выдатны камандуючы. Разумны... вельмі разумны. Бачыў... ён хадзіў з палком на вучэнні, цікавіўся ўсім. Заўсёды цікавіўся. Дробязь і тую заўважыць. Адважны чалавек.

— Ты яго бачыў? Ведаеш у твар?

— Ведаю.

— А ну-тка!

Барадач падышоў да дзвярэй хаты і крыкнуў на двор:

— Гэй, вядзіце гэтага сюды!

Адразу-ж у дзвярах з'яўляецца высокая постаць у шэрым кароткім шынелі. Чырвонаармейскія пятліцы. Увайшоў не спяшаючыся і спыніўся, абапёршыся рукою аб стол. Чорныя вочы абвялі з непарушным спакоем, з халоднай ненавісцю твары абодвух ворагаў, спыніліся на секунду на Шакалюку. Ледзьве прыкметная горкая ўсмешка прайшла па губах. Так здалося Шакалюку.

— Хто гэта?—крыкнуў барадач.

— Не ведаю.

— Хто гэта?—наступаў барадач на Шакалюка, падымаючы кольт.— Адказвай, сабака!

— Таварыш Якір!—кінуўся да камандуючага Шакалюк, які прагнуў падтрымання і дапамогі.

— Адвесці!

Камандуючы павольна ідзе да дзвярэй.

— Гэтага таксама!—крычыць услед барадач, паказваючы на Шакалюка.—Расстраляць абодвых!..

## VIII

Шакалюк расплюшчвае вочы, безсэнсоўна глядзіць на чарапічны дах калгаснай хаты, мацае галаву і нічога не можа ўцяміць. Пацірае вочы, дакранаецца носа, губ.

— Чартаўшчына! цяжка вымаўляе ён, усё яшчэ ў непаразуменні.

— Расстраляць!—звонка чуецца над яго вухам. Ён з хуткасцю маланкі ўскаквае і хапаецца за вінтоўку.

— Расстраляць!—поўторвае той самы голас.

Пяць палак падымаюцца да плячэй, накіраваныя на хлапчука, які стаіць ля хлева.

— Што вы робіце?—строга, амаль сурова пытае Шакалюк.

— Шпіка злавілі!—адказвае вясёлы хор галасоў.

Шакалюк падумаў, што забава недарэчы.

Сонца зайшло за таполямі. Неба пахмурнела. Калгаснікі варочаюцца з палёў. Вечарэе. Па пустыннай дарозе едзе арба; два валы, нахіліўшы шыі, цягнуць яе. Арба завалена буракамі. Дзяўчына ідзе побач і напявае песню. Шакалюк сочыць за дарогай і за арбой. Ён мімаволі адшуквае вачмі месца, дзе бачыў раненага каня, раздушанага чырвонаармейца.

— Спаў!—качае ён галавой і з жалем цмокае.

Ні канвойнага, ні сініх няма ў вёсцы. Яго пакінулі. У гэтым была нейкая крыўда, нейкая пагарда да яго. Адпусцілі на ўсе чатыры стораны. А яшчэ раніцай ён стараўся ўцячы, наважыў быць героем. Глупства! І мусіць нават пасмяяліся з яго: „Вось, моў, спіць герой наш!“

Ён самотны, злосны, змагаўся са сном, выклікаў на спаборніцтва ледзь не ўвесь полк і вось заснуў.

— Глупства!—поўторвае ён слова, якое папалася на язык і ідзе да каня. Падцягвае падпругу, перакідвае праз галаву каня повад і ўскаквае ў сядло.

Выехаўшы на вуліцу, ён не ведае, куды павярнуць,—направа або налева. Дзе цяпер знаходзіцца полк, дзе яго шукаць? Пытае ў селяніна, куды пайшло войска. Той махае рукою на ўсход. Зараз яму трэба выявіць усю ініцыятыву, напружыць усе сілы, каб дагнаць сваіх. Ён гатоў не спаць ноч, ехаць без канца, пакуль не знойдзе полк.

Зноў прыходзіць на памяць дзіўны недарэчны сон.

— Глупства!—паўторвае ён, ужо ў каторы раз, але не супакойваецца.

— К чорту!—шэпча ён, наддаючы рысі каню. Мужнасць не правяраецца сном. Але дзе-ж яна, гэтая мужнасць? Дзе знайсці яму праверку? Гэтыя пытанні, якія ён задае самому сабе, гучаць вяла, безнадзейна. Яму здаецца, што мужнасць знаходзіцца ад яго на самай далёкай адлегласці.

Рысь дае раздум'е, галоп патрабуе ўвагі конніка. Шакалюк пушчае каня наўздагон услед двум кавалерыстам, якія трусяць здалёк. „Адбой напэўна быў,“—мяркуе ён,—зараз можна пад'ехаць нават да сініх“. Адпачыўшы конь імкліва набірае хуткасць. Ён шпарка наганяе кавалерыстаў, якія едуць на кароткай рысі.

Шакалюк падскаквае да іх і заўважае, што гэта сапраўды сінія. Не клапоцячыся аб сваёй бяспечнасці, прыкладае руку да казырка і пытае, ці быў адбой? Яму адказваюць, што адбой быў і тады ён задае другое пытанне—у якім баку, на іхнюю думку, знаходзяцца чырвоныя? Ён, бачыце, адстаў, блытае цэлы дзень і г. д. На яго глядзяць з усмешкай, як-ніяк—„вораг“. Аднак-жа прыблізны кірунак паказваюць. —Ва ўсякім выпадку,—кажуць,—там вы знойдзеце каго-небудзь з пасрэднікаў і ў іх даведаецеся падрабязна.—Ён дзякуе ворагаў і скача ў паказаным кірунку.

Цямнее. Гарызонт здаецца змрочным скалістым берагам, за якім плешча залатое мора.

Дарога яшчэ відаць, але хутка яе цяжка будзе адрозніць: ні канаў, ні тычак—нічога няма. Стужка, якая завіваецца па стэпу.

У вёску ён уяжджае прыцемкам. Каля хат відаць чырвонаармейцы. Каля іх сяляне вядуць доўгія гутаркі. Аднекуль чуецца пранізлівая песня. Шакалюк з жалем думае, што ён мог адпачыць і пагуляць, а зараз прыходзіцца падарожнічаць па ўсёй акрузе. Каля адной хаты ён пытае, дзе спыніліся пасрэднікі? Ніхто не ведае. Едзе далей. Пытае. Таксама неведаюць. Спыняецца ля кожнай хаты, пакуль не сустракае штаб дывізіі. Сінія! Зноў сінія! Значыць, уперадзе яшчэ невядомая і цяжкая дарога.

У штабе знаходзіць пасрэдніка і дазнаецца, што яго полк арыентыровачна павінен начаваць у сяле Гуравей, што стаіць за пятнаццаць кілометраў.

Ён казырае, садзіцца на каня, і спакойна рушыць у дарогу.

За сялом аддае повад каню і едзе наўздагад. Уперадзе цёмная сцяна змроку... Ён глядзіць угору—і там такая-ж цемра. Зямля падобна на пограб Конь бяжыць лёгкім трушком, мабыць усё-ж-такі інстынктыўна знаходзіць дарогу. Калі не саб'ецца, ёсць надзея, што полк будзе сёння адшуканы. Ціха. Сельскія агні зніклі за ўзгоркам, як карабель, які знікае за гарызонтам.

Чалавек, які едзе ў такі цёмны вечар, натуральна марыць аб ліхтарах, якія, вядома будуць расстаноўлены пры соцыялізме на ўсіх дарогах, каб зямля была светлай і выгоднай для праезду круглыя суткі.

Зараз зямля яшчэ мала праяжджаема. Конь сумуе аб святле, а коннік напружвае ўсю ўвагу, каб зразумець, што ён трымае правільны кірунак. Стэп роўны. Можна ехаць без канца, кружыць і блытацца, як у гульні ў жмуркі. У чалавека нібы завязаны вочы, конь сам выбірае дарогу, а ў стэпу многа крыжавых сцежак, вытаптаных сцежак. Конь не ведае, што чырвонаармейцу патрэбна вёска Гуравей.

Шакалюку здаецца, што ён едзе прыблізна правільна. Упэўненасць у тым, што ён адшукае сёння полк, не пакідае яго. Гэта зменшыць віну. Ен мог, вядома, заначаваць у першай вёсцы,—хіба можна ехаць у такую цемень, не ведаючы дарогі? Але ён не хоча спыняцца. Ехаць! Ехаць!

Сустрэча, якая чакае ў палку, малюецца яму ў такім выглядзе:

Ён з'яўляецца да камандзіра ўзвода, той пытае, чаму ён спазніўся.

— Пры звароце, пасля выканання ўскладзенага на мяне таварышам начальнікам штаба палка даручэння, быў захоплен у палон раз'ездам сініх.

Адказ прадуманы і падрыхтаваны.

— Так!—скажа камандзір узвода.—Уцякалі з палону?

— Ніяк не. Пакінут сінімі пасля іхняга адступлення.

— Добра. Можаце ісці.

Але ён не пойдзе.

— Дазвольце, таварыш камандзір узвода... Мною дапушчана паслабленне самога сябе. Не ўмеў змагацца са слабасцю, са сном, у залежнасці ад чаго затрымаўся. З гэтай прычыны папаў у палон.

— Далажу начальніку штаба,—суха скажа камандзір.

Сцэна прадумана Шакалюком і павінна быць іменна такой. Свае завучаныя адказы ён паўторвае слова ў слова, як прысягу і паколькі стэп шырокі, дык ён рэпетыруе сваю прамову ў поўны голас, упэўнены, што яго ніхто не пачуе.

Шакалюк дапускае адзін варыянт. Камандзір узвода можа паківаць галавой (ён пры гэтым сціскае губы і злёгку моршчыць бровы) і сказаць:

— Таварыш камандзір аддзялення. Мужнасць у тым, каб не думаць аб сне, калі не скончана работа. Памятаеце нашы гутаркі з вамі аб мужным байцы?..

Шакалюк чакае такога адказу і паганяе каня. Ен б'е яго абцасамі ў бокі. Конь, нібы абуджаны ад свайго манатоннага бегу, уздрыгвае і наддае рысі. Ён урываецца ў змрок. Свежы вецер дзьме у твар чырвонаармейца, дрыжыкі праходзяць па целе. Ён адчувае холад, але язда разагравае, разагравае. Паганяе каня. Хутчэй, чорт вазьмі, хутчэй! Засталося не шмат. Конь, адчуўшы ўпэўненую руку седака, імкнецца ўперад. Шакалюку здалося, што ўперадзе аганёк. Сапраўды, вось ён успыхнуў і знік. Вёска! Агні ў стэпу падобны на поціск рук друга, яны выклікаюць наплывы ўзвышаных пачуццяў. Зноў бліснула здалёк змрочнае святло, як быццам у аграмаднае памяшканне ўнеслі каганец. Бясспрэчна вёска. Як яе, Гуравей, Гуравей... Дзіўная назва.

Але аганёк патух і больш не паказваўся. Чырвонаармеец заключае, што вёска знікла за гарою. Конь таксама заўважыў мігценне, запомніў яго і рвецца туды, дзе толькі што ўспыхвала святло.

Раптам Шакалюк чуе чалавечую гутарку. Хрыпаваты, ракатлівы густы голас, ці то выкрыквае нешта, ці то лаецца. І зараз-жа ён наскаквае на цёмную вялікую фігуру, якая грамаздзіцца на каня і падобна на мігатлівы цень.

Гучнае чартыханне і бурчанне ідзе ад гэтай цені. Шакалюк падраўнівае каня, стараючыся разглядзець дзіўнага падарожніка.

— Здаецца, мільгалі агні вёскі?—пытае ён.

— Чорта з два, агні вёскі! Ліхтар мой гарэў, калі вы бачылі агні. Гарэў ды патух акаянны. Дзе тут разглядзець дарогу! Пякельная цемень. І запалак няма. Не куру. Вёска Гуравей. Еду туды. Вы таксама блытаецеся, як бачу па стэпу. Чырвонаармеец?

Шакалюк адказаў, што яму патрэбна тая-ж самая вёска Гуравей, але для якой мэты—змоўчаў. Па зразумелых меркаваннях ён лічыў лішнім быць шчырым з выпадковым спадарожнікам, якога спаткаў у стэпу, хаця і заўважыў, што шэры шынель таксама абцягвае яго.

— Ну што-ж! Едзем разам, хаця можа здарыцца, што мы гэтай вёскі зусім не знойдзем. Чорт бы пабраў гэтыя ідыотскія батарэйкі. Адсырэлі, мабыць. Штук пяць выкінуў. І думаю, што мы збіліся, дарагі таварыш. Тут па карце павінен стаяць крыж на левым баку і некалькі тапаляў—былы хутар. Вы не заўважылі?

— Не.

— Ну вось, я, кажу, збіліся. Цяпер будзем блытаць, брат. Што мы едзем па дарозе,—гэта факт. А куды едзем,—гэта загадка. На крайні выпадак можам заначаваць на траўцы, конскае бруха пад галаву і храпі.

— Не, я павінен ехаць, уласна кажучы мне абавязкова трэба,—цвёрда прамовіў Шакалюк.

— Што-ж, выкананне доўга абавязкова для Чырвонай арміі. Калі ў вас ёсць даручэнне, вядома, вы павінны яго выканаць,—важка пракатаў голас.

— Уласна кажучы, даручэнне я выканаў,—захацелася пагаварыць Шакалюку.—Зараз ужо справа ідзе, як бы сказаць, аб самалюбстве.

— Як?—перапытаў спадарожнік.

— Іначай сказаць,—працягваў Шакалюк,—бывае такое становішча, што знадворна чалавек як быццам выканаў, а знутры вінават.

— Не разумею. Вось гэтага не можа быць,—рэзка прагучэў голас.—Знадворнага і ўнутранога падзела не можа быць для большэвіка. Гэта як бы суцэльнае, у адно злітае. Выкананне любога даручэння абавязвае напружыць усе сродкі і сілы. Так!

Упэўненасць і сіла, з якой былі вымаўлены гэтыя словы, выклікалі мімавольную сімпатыю Шакалюка да чалавека, для якога здавалася ўсё зразумелым.

— Пытанне аб тым, як павернецца па сапраўднаму, у сапраўднай вайне... Адвага, напрыклад?—працягваў Шакалюк, які прагнуў парады і ўдзелу.

— Не разумею вас,—сур'ёзна прамовіў начны спадарожнік,—не разумею, пра што вы хочаце сказаць?

— Адвага—паўторвае Шакалюк.—Скажам, чалавек выканаў даручэнне, паказаў адвагу на манеўрах. Кропка, а знарады халастыя. Які-ж ён адважны?

— Ага!—задумаўся на момант спадарожнік.—Хочаце вайны? Хочаце выпрабаваць сябе. Пастаноўка пытання зразумелая, яна паказвае, што вы хочаце ва ўсім мець яснасць, але зусім неправільная. Адвага, дарагі мой таварыш,—з нейкім цеплым пачуццём прамовіў коннік,—упіраецца ў паняцце выпаўненага даўга, выкананай задачы, пастаўленай нашым класам. Толькі так. Прафесіянальная адвага нам не патрэбна. Я раскажу вам адзін выпадак з грамадзянскай вайны, які тое-сёе вам вытлумачыць. Было гэта пад станіцай Сабачынскай. Як цяпер памятаю, станіца размясцілася на ўзгорку, нібы ўляглося там стада белых птушак. Яе моцна занімалі дзянікінцы. Мы аблажылі яе з трох бакоў. Чакалі. Ведалі, што ўсёроўна возьмем. Так. Атакі і з таго і з нашага боку. З таго боку зручней, з прыгорка відаць увесь плацдарм, усе нашы пазіцыі як на далоні. Мы—як краты ў зямлі. Шаг за шагам пасоўваемся, акапваемся. Кожны шаг крыві каштаваў. Паспрабавалі ўзяць станіцу на ўра. Чорта з два! Пачаставалі нас картэчай і кулямётамі, страцілі многа братвы. Даціснем, думаем і так. І вось аднае раніцы, глядзім, вылятае з вёскі каняга і імчыць у наш бок. Сядзіць на ім нейкі адчаянны прайдзісвет з афіцэрскімі пагонамі. З вёскі яго захлестваюць кулямі, нашы таксама спачатку паддалі жару. А ён, свалата, імчыць проста сюды. Мы перасталі страляць. Невядома, у чым тут справа. Узлятае ён на ўзмыленным кані, шчака ў крыві, хустачкай кроў выцер, патрабаваў якога-небудзь начальніка. Прывядзі да мяне.

— У чым справа?

— Ці не патрэбна вам,—пытае ён, усміхаючыся,—адпетая галава? Магу прадаставіць сябе ў ваша распараджэнне.

— Чым абавязаны?

— Здарова ваюеце. З вамі не засумуеш, паваюем. Рукі свярбяць,—з нейкай адкрытай нахабнасцю гаварыў ён.

— Спачуваеце советам?

— Ніскольکі. Не ў гэтым справа. Гэта потым установім пункт погляду. Я прапаную сваю зброю і больш нічога. У советах вашых я мала разумею. Ды і не хочу разумець.

Глухі гул прайшоў па радах прысутных пры гэтым байцоў.

— Чакайце, таварыш,—сказаў я ім.—Даслухаем, а потым пагаворым.

— Вас штурханула да нас небяспека, што не сёння, заўтра станіца здасца?

— Зусім не! Яна яшчэ пратрымаецца. Я не разумею, аб чым так доўга гаварыць?—пакрыўдзіўся афіцэр.— Я аддаю сябе на службу. Адвагу маю вы мелі магчымасць бачыць хоць бы зараз.—Ён зноў выцер хусткаю кроў са шчакі.—Укусіла, сабака!..

Спадарожнік змоўк.

— Ну?—запытаў Шакалюк, зацікаўлены гэтай гісторыяй:

— Я загадаў яго расстраляць!—прагучэў з цемені халодны голас.—Разумееш, расстраляў. Наёмнікі, якія прапануюць адвагу і зброю, па-

добны на лісіц, якія хочуць даглядаць за куратнікам. Ты зразумеў, што я хацеў сказаць. Няма прафесіянальнай адвагі. Ёсць доўг, які выконваецца ў інтарэсах свайго класа. Ці то на палёх бойкі, ці то на пабудове якога-небудзь металургічнага гіганта. Вось так трэба разглядаць героя. Калі ты душой і целам належыш свайму класу, табе і сапраўдная куля не страшна.

Голас змоўк. Яны ехалі, зліваючыся са змрокам. Толькі цокат капытоў парушаў начную цішыню.

— Вось і вёска,—выгукнуў спадарожнік,—не заўважылі як даехалі!

Сапраўды—непадалёк бліснуў агонь. Яны прыпусцілі коняй і хутка ўехалі ў вёску. Вёска спала. Хаты здаваліся пустымі і нежывымі. Сталі шукаць, дзе гарэў агонь і натрапілі на хату, у якой сапраўды было святло. Пад'ехаўшы да вокан, яны зазірнулі ў хату. Тры камандзіры сядзелі за сталом над картай. Стук у вакно прымусіў іх усіх павярнуць галовы.

Вакно адчынілася.

— Што такое?

— Скажыце, якая гэта вёска?

— Слабажанка!—быў адказ.

— Дарэчы, гэтая вёска мне таксама патрэбна,—грамовіў Шакалюкоў спадарожнік.—Выйдзеце сюды, таварыш камандзір.

Сноп святла ўдарыў у твар абодвух коннікаў. Ліхтар адразу-ж патух. Паспешна надзяваючы шапку, камандзір палка бег да дзвярэй. Усё гэта было відаць у акно Шакалюку. У той момант, пакуль гарэў ліхтар, заўважыў Шакалюк спадарожнікаў твар. У адзін міг узнік перад ім партрэт, бачаны не адзін раз. Легендарнае імя гатова было сарвацца з вуснаў узрушанага чырвонаармейца. Ён толькі што па сяброўску вёў гутарку з чалавекам, аб подвігах якога ў грамадзянскай вайне перадавалі легенды. Гэта быў адзін з тых герояў, які вёў Шакалюка па дарогах перамог. Ён разгублена прыслухоўваўся да яго размовы з камандзірам палка, не ведаючы, ці кінуцца яму ўздоўж вуліцы і схавацца ў змроку начы, ці цярпліва чакаць. Камандзір палка адказаў, што да вёскі Гуравей шаснаццаць кілометраў.

— Добра. Пакажыце, як праехаць таварышу чырвонаармейцу. Я азнаёмлюся са становішчам у вас, затым перакінеце мяне на машыне у тую-ж вёску. Мая сапсавалася. Прыедзе туды заўтра раніцай. Хацеў паразмяць старыя косці верхам,— усміхнуўся ён. І тады да Шакалюка данесліся словы, якія адносіліся непасрэдна да яго:

— Вы маглі-б заначаваць тут. Я з ахвотаю перадам вашаму камандаванню, што я вам дазволіў. Але пасля нашай гутаркі бачу, што гэты дазвол вас не задаволіць. Выконвайце свой доўг. Бывайце, таварыш чырвонаармеец!

Ён крануў каня. Моцна паціснуў руку Шакалюку.

Каб было святлей, нядаўны спадарожнік Шакалюка мог бы палюбавацца, як спрытна павярнуў каня чырвонаармеец і рынуўся па вуліцы.

Змрок яшчэ ахутваў зямлю; упэўненасці ў тым, што на гэты раз ён трапіць у вёску, не было. Але-ж ці не згодзен ён скакаць усю ноч? Як гэта было сказана: „Адвага ёсць выкананы да канца класавы доўг“. Згушчайся, змрок, яшчэ мацней, закрый вочы каню, няхай падымецца бура, гураган—усёроўна ён будзе скакаць. Надзвычайная ноч, яна напоўнена рухам... Яна не пустая... Не!.. Зусім не пустая!..

Чуюцца нейкія шолахі. Шэлест травы прагучэў, як уздых, збоку. Глухі цокат капытоў абуджае поле. Яно пачынае ажываць. Ён будзе ехаць усю ноч. Дарогі не відаць,—здаецца, ён едзе па цаліне. Ці не

усё роўна, раз ясна, што ён павінен даехаць. Ён будзе стукаць у вокны сустрэчных хат і дапытвацца: „ці далёка да вёскі Гуравей?“

Дзіўны шум падымаецца з усіх бакоў. Ён даходзіць да вушэй, уваходзіць у вочы, у рукі, у грудзі. Прачытаныя кніжкі раптам прашалясцелі ўсімі старонкамі, нібы дрэвы, якія скаланулі паветра. Не, ноч не пустая. Яна поўна людзей, здарэнняў, стрэлаў, гарачых боек, паражэнняў і перамог. Бо гэта тое самае поле... Героі глядзяць з-за ўзгоркаў, падымаюць галовы, выцягваюць рулі вінтовак. Іхныя твары худыя, змардаваныя, зараслі жорсткім воласам. Вочы аграмадныя, як зоры, колюць ненавісцю ворагаў. Пастухі. Слесары. Інструментальшчыкі. Вось яны бягуць, нясхладныя, цяжкія—яшчэ не прывыклі да шэрых шынеляў, вінтоўкі трымаюць, як палкі. Перад імі дрот. У твары пырскае свінец. Падаюць. Зноў падымаюцца. Поўзаюць на жываце па зямлі. Лезуць цераз калючы дрот, як цераз плот. Мёртва павісаюць, як бялізна на вяроўцы. Пастух першы адужвае перашкоду, падскаквае да белага кулямётчыка і з размаху б'е яго прыкладам...

Чаму няма паселішча? Ці правільна ён едзе? Ці не хаваецца вёска Гуравей ад палаючага позірка чырвонаармейца. Ці не ўцякае прэч з усімі сваімі хатамі, як наседка з вывадкам белых куранят? Нешта доўга яе няма!

А шум нарастае. Гэта падае з грэблі вада. Не, гэта не вада, гэта коні. Плеск капытоў, якія ўздыблена імчацца па траве. Ад-жа гэта тое самае поле, пра якое сказана ў кнігах, што на ім сышліся ў жорсткай бойцы шахцёры і былыя батракі з памешчыкамі і ўладарамі заводаў. І поле ўпяршыню ў гісторыі засталося за батракамі і шахцёрамі. Іх вёў... Рука Шакалюка, паціснутая славутым шахцёрам, гарэла, як у агні.

Што-ж, ён гатоў выканаць свой доўг. Няхай іраўцца знарады, ператрасаюць зямлю, ён выканае доўг. Клянецца на гэтым полі, травы якога, устрывожаныя набягаючым ветрам, шалясцяць, як сцягі.

„— Гэй, малайчына Шакалюк! Глядзі, мы сочым за табой, сынам старога гарбара, які прачытаў многа кніг. Не падкачай у рабоце, малайчына Шакалюк. Не забудзь, што мы думалі і пра цябе, калі сыходзіліся грудзі з грудзьмі з белай svалатою...“

У шуме ветра яму чуюцца настойлівыя галасы. Яны ласкава-строгія, як навучанні бацькі і яго знаёмых, якія сабраліся на нараду, каб вырашыць, па якой галіне пусціць хлапца.

Гутарка нядаўнага спадарожніка чуваць з усіх канцоў поля.

„Гэй, гэй, малайчына Шакалюк, паслухай нас. Не забудзь выканаць доўг—не значыць выканаць яго для сябе. Думай пра ўсіх, думай пра кожнага пралетарыя ў любым кутку света. Як мы думалі пра цябе і пра ўсіх такіх, як ты, малайчына Шакалюк.“

Ён імчыць па полю, сціскаючы конскія бакі. Выканае!

Дае слова, усё выканае. Не забудзе нічога з таго, што сказаў яму спадарожнік.

У шэрым мараве раніцы скача Шакалюк. Ноч праходзіць. Краі зямлі пасвятлелі. І знікае змрок, як заслона, якая адчыняе новы дзень.

Ён уязджае ў нейкую вёску. Пытаецца ў жанчыны, якая стаіць у адной кашулі на ганку.

— Торпава!—крычыць у адказ жанчына.

— Колькі да Гуравей?

— Блізка!

Вёска застаецца ззаду. Непадалёк ён бачыць будынкі. Гэта і ёсць Гуравей. Ён папраўляе шапку, якая з'ехала на патыліцу. Папраўляе шынель Потым аглядвае конскі круп. Праводзіць далоняй па шэрсці. Конь сухі. Вопытны коннік задаволен. Ён не змарыў каня.

Вёска ўсё бліжэй і бліжэй. Што яму зараз рабіць? Легчы спаць і потым з'явіцца да камандзіра ўзвода, калі праграміць гарніст. Вядома, не будзіць-жа камандзіра. Сам ён таксама адпачне.

Ён улятае ў вёску і ў той-жа час прызыўны трывожны сігнал прарэзае паветра. Ён бачыць, як з хат выскакваюць чырвонаармейцы...

Шакалюк адшуквае свой узвод і з'яўляецца перад камандзірам. Той ужо ў поўнай баявой форме.

— Дазвольце...

Шакалюк далажыў, што ён выканаў даручэнне, але па дарозе назад быў узят у палон. Ён хоча дадаць, што вінават тут, галоўным чынам, ён сам, паколькі замарудзіў і...

— Добра, што вам так хутка ўдалося выбрацца,—перабіў яго Вішнеўскі, не заўважаючы хвалявання, якое адлюстроўвалася на твары камандзіра аддзялення.—Зараз вам давядзецца са сваім аддзяленнем рушыць у выведку. Трэба абследваць гай, што за тры кілометры адсюль, на захад.

Шакалюк цвёрда падняў руку да казырка:

— Загадана абследваць гай, што знаходзіцца за тры кілометры, на захад...

*З рускае мовы пераклаў*
***В. КАВАЛЬ.***

Алесь Звонак

# З ЦЫКЛУ „ПЕСНІ БАЛТЫКІ“

## РАЗВІТАННЕ

Вясна падымалася з сонцам і ветрам,
З халоднае Ладагі льды праплылі...
Мы дзень спатыкалі прыгожы і ветлы,
Да мора на ўзмор‘е мы з песнямі йшлі.

Да мора, на ўзмор‘е мы з песнямі йшлі...
Блакітнасцю з небам спрачаліся майкі...
Над намі ў срабрыстых аблоках плылі
У прапелерным гудзе сталёвыя чайкі...

* * *

З Пуцілаўца, з Выбаржца, з Охты, з Святланы
Вясёлыя хлопцы адзін пад адзін
Мы йшлі... І над намі блакітнае ранне
Апошнім туманам растала, як дым...

Апошнім туманам растала, як дым,
З ім песня апошняя наша растала,
І мы прыпыніліся... Нам, маладым
Вялікая з‘ява у душы запала...

* * *

Мы сталі на памяным беразе, хлопцы,
Нязначныя сведкі значнейшых падзей.
Стаялі шпалерамі чырвонафлотцы.
І двойчы асіплы гудок прагудзеў.

Так. Двойчы асіплы гудок прагудзеў,
Ланцуг загрымеў падымаючы якар...
Суровая мужнасць спакойных людзей
Была іх упартае волі адзнакай...

* * *

Стаялі на палубе моўчкі матросы...
Вы помніце, хлопцы, напружны той міг?—
Якой дарагою была гэта ростань
Як стаў на масток Отто Юльевіч Шмідт!..

Ён стаў на масток, Отто Юльевіч Шмідт,
Ён словы гарачыя кінуў на бераг...
Вы помніце, хлопцы, адчулі ўсе мы
У словах ягоных гарачую веру...

* * *

У дальняе плаванне з роднае гавані
Таварышаў нашых праводзілі мы:
„Хай сцелецца шлях ваш вялікаю славаю
Скрозь сівер і сцюжу палярнай зімы...

Скрозь сівер і сцюжу палярнай зімы,
Ламаючы крыгі, змагаючы ветры,
Хай вас правядзе Отто Юльевіч Шмідт
Да вашае дзёрзкае слаўнае мэты“...

* * *

... І доўга шумела натоўпамі ўзмор'е
І песні звінелі яшчэ гарачэй...
„Чэлюскін“ адплыў, набіраючы скорасць,
Пакуль не схаваўся назаўжды з вачэй.

Ленінград 1934 г.

## ІДУЦЬ ВЯСЁЛЫЯ БАЛТЫЙЦЫ...

Яшчэ ў праменнях залацістых
Адміралцейства шпіль гарыць,
А на Няве ужо іскрыцца
Прамень закатнае зары...

Прыходзіць вечар ясна-зыркі,
Прахладай вее ад ракі...
Ідуць ў белых бесказырках
Па набярэжнай маракі...

Ідуць вясёлыя балтыйцы
Совецкіх вод вартаўнікі.
У вочах сінь марэй свіціцца
І дужасць—кожны ўзмах рукі.

Ідуць... Паказваюцца плечы
І ногі чотка строчаць крок...
І над Нявою сіні вечар
Задумна тоне ў шэры змрок...

І ў веянні вясновай гліцы
Без слоў сцвярджаюць маракі:
Спакойны нашыя граніцы,
Надзейны іх вартаўнікі...

Таму ў яркім сонца спектры
Здалёк зазвычай пазнаю
Па торцу Неўскага праспекта,
Чырвоны флот, хаду тваю.

Ленінград 1934 г.

Васіль Каваль

# КЛЯТВА ПРАВАДЫРУ

## (Легенда)

### I

Шырокі, неабдымны прасторы краіны. На Поўначы—вечны снег і шум тайгі. На Ўсходзе—стэп, кавыль і горы. На Поўдні вечнае лета, кіпарысы і мора. На Захадзе лясы, балоты, азёры...

Багаты, шырокі прасторы краіны!

Па яе лясах і стэпах шугалі ветры, плавалі сінія густыя туманы... Мільёны людзей жылі ў краіне. Але не было ніводнага кутка ў ёй, дзе-б ад катаржнай працы не стагнаў, не плакаў, не спяваў сумных песень паднявольны чалавек.

Маці, схіліўшыся над калыскай, спявала сыну аб цяжкай долі. Земляробы, каменшчыкі, рыбаловы, шахцёры, салдаты спявалі аб паднявольнай працы. Па шырокіх дарогах, закутыя ў ланцугі, ішлі на катаргу людзі і спявалі заўныўныя, да болю сумныя песні пра Свабоду.

Па усёй краіне чуўся звон кайданаў і свіст бізуна.

А Свабоду, пра якую людзі спявалі ў сваіх песнях, цар, паны, магнаты закавалі ў кайданы і схавалі глыбока ў падзямелле. Клікаў яе працоўны чалавек і Свабода чула голас яго, і грозна браскала кайданамі, але моцная варта была навокал—цемра, войска і гарматы.

Тых, хто спрабаваў вызваліць Свабоду, цар заганяў на край свету, вадзіў на шыбеніцы і ў турмы і многа смелых адважных людзей загінула ў тых турмах, на тых шыбеніцах. А іхняй гарачай крывёю людзі афарбоўвалі сцягі і неслі высока над галовамі і спявалі песні грозныя, як марскі шквал.

— Свабода! Свабода!—чуліся крыкі, а водгулле іх замірала ў турмах.

У гэты смутны час у краіне нарадзіўся чалавек, які стаў правадыром. Тады ярка свяціла сонца і ўся зямля спраўляла ўрачыстасць. Было ў чалавека імя звонкае і мужнае, усмешка яркая, як сонца. Меў ён розум такі, што ахопліваў светазарную далячынь. Як і ўсе, вырас чалавек у няволі. А таму, што сэрца ў яго было любові і ненавісці поўнае і бачыў на свеце ён многа крыўды і слёз, запаліў пяцікутную чырвоную зорку, і пайшоў хадзіць па зямлі заклікаючы людзей да свабоды.

Следам за ім, неадступна, хадзілі цёмныя сілы, што хацелі закаваць у кайданы, але ад незвычайнай сілы яго разрываліся кайданы і расступаліся сцены турмаў.

Вось ідзе па зямлі ён і—бачыць: капаюць людзі каменныя горы, здабываюць золата для царскай і панскай уцехі.

— Цяжка вам?—спытаў ён у людзей.

— Цяжка!—глуха адказалі спрацаваныя людзі.—Увесь век пакутуем. Рукі ў нас у мазалях. Хоць-бы раз лёгка ўздыхнуць нам. Волі нам хочацца!

— Дык ідзіце за мною вы, каторыя горы раскапалі. Няхай свеціць вам пяцікутная зорка. Бярыце з сабой лапаты, кіркі, сякеры...

— А куды ты нас павядзеш?

— Я павяду вас на барацьбу за Свабоду, за Сонца, за Комуну.

— А-а-а...—уздыхнулі нявольнікі і закрычалі.

— Вядзі нас! Мы пойдзем за табою, Правадыр! Асвятляй нам шлях сваёй пяцікутнай зоркаю.

І яны пайшлі з песняй ненавісці праз горы і долы, а пяцікутная зорка ясна асвятляла ім шлях.

І яны ішлі па дарозе і—бачылі: дзяруць людзі зямлю палкамі, сохамі, баронамі. Над ім кружыцца варанне і стаіць прыганяты.

Тады спытаў у іх правадыр:

— Хіба вы на сябе працуеце?

Людзі выцерлі з твараў крывавымі мазалямі пот і, уздыхнуўшы, адказалі:

— Не, мы працуем не на сябе і сваіх дзяцей, мы працуем на пана... Цяжка нам! Волі нам хочацца!

Сказаў ім правадыр так, як і першым, і паклікаў на барацьбу.

— Мы пойдзем за табою... Вядзі нас, Правадыр!

І ішлі яны камяністым полем, балотамі, лесам. І ўсё больш сустракалі на дарозе людзей, падобных сабе, і ўсіх клікаў за сабою Правадыр.

Людзі ішлі ад мора, ад стэпаў, ад курных хат і падвалаў. Ішлі шахцёры, каменшчыкі, рыбаловы, кавалі, плотнікі. Іх станавілася ўжо мільёны. Ад тупату іхніх ног ужо дрыжэла зямля. І з усіх канцоў прасторнай радзімы чуўся кліч:

— Гэй, рабочы народ, выходзь з шахтаў, з катаргі, з турмаў! Ідзі на апошні рашучы бой!

— Ці дойдзем, ці здужым? Такая цемень! Такая ноч!—чуліся слабыя, стомленыя галасы.

— Дойдзем, таварыш! Здужым!—сказаў Правадыр і светлае, цёплае слова „таварыш!“ нібы агнём апаліла і знітавала адзінай воляй.

І людзі ішлі, як марскі прыбой, з грознай песняй і ненавісцю ў серцы. Чырвоныя сцягі, змочаныя ў крыві лепшых сыноў, уздымаліся ў цвёрдых руках аж да зорнага неба. І песні іх рабіліся многагалосымі і ненавісць іх была многарукай і страшнай.

Цемра ночы радзела. Ужо на Усходзе сінеў дзень. Людзі ўздыхнулі лягчэй. Пяцікутная зорка ўсё больш разгаралася, і высока над галовамі мільёнаў нёс яе Правадыр.

Уперадзе ўсіх ішоў Правадыр. а побач з ім яго лепшыя вучні, байцы і паплечнікі ў баях, людзі з жалезнай сілай, людзі, якія, перанеслі за свабоду мільёнаў мукі катаргі і перамагалі смерць.

— Таварышы, на апошні рашучы бой!—грымела па ўсёй зямлі.

— Смерць прыгнятальнікам!

— Мы—вольныя людзі!

— Мы—не рабы!

Ад тупату ног мацней грымела зямля. Ужо ўбіраўся ў сілу дзень і ўзыходзіла сонца ў вогненна-крывавым бляску. Пяцікутная зорка гарэла пажарам. Ужо трашчэлі дварцы і палацы. З падзямелля пачуўся страшэнны гул, нібы страсянулася зямля, і са звонам зваліліся з рук у Свабоды разбітыя кайданы.

Наступаў самы страшны апошні бой...

## II

Многа ў баях з ворагамі за Свабоду загінула шахцёраў, каменшчыкаў, рыбаловаў, плотнікаў. Дзень і ноч працаваў няўтомны Правадыр з сваімі вучнямі і саратнікамі. Крывёю і смерцю працоўныя адваявалі свабоду.

— Цяпер усё наша,—сказаў Правадыр.—Мы перабудуем усё па новаму...

Тады ўся prасторная краіна лёгка ўздыхнула, і маткі перасталі спяваць над калыскамі сумныя песні, і араты ў полі весела пайшоў за плугам, і шахцёр з кайлам у руках палез у шахту, і рыбалоў паплыў у мора, і плотнікі пачалі будаваць новы дом, і садаводы сталі садзіць прыгожыя сады.

Загарэлася навокал вольная праца, паляцелі іскры з горнаў і зазвінелі песні, як ручаі вясною.

І што-б не рабіў вольны чалавек, заўсёды на вуснах у яго было імя вялікага Правадыра. І гэтае імя натхняла ў працы і ў барацьбе, дзе-б не быў чалавек. Малым дзецям расказвалі пра яго казкі і казкі ператварыліся ў сапраўднасць.

Па ўсім свеце грымела імя Правадыра. Яно, як сонца, асвятляла шлях. Яго паўтаралі рабы ўсіх нацый—і негр, і кітаец, і зулус, і малаец. І на ўсіх мовах яно гучэла, як заклік да барацьбы і свабоды.

## III

Ішлі гады...

Аднаго разу да Правадыра падкралася цёмная сіла—смерць. Яго няўтомныя рукі апусціліся. Яго вочы, што бачылі светазарную далячынь, навекі закрыліся. Яго сэрца, поўнае гарачай любові да свайго народа, перастала біцца.

Усю сваю незвычайную сілу, увесь свой магутны розум у час апошняга ўздыха аддаў Правадыр свайму народу.

У тую ноч балюча стагнала зямля, гудзеў вецер, выла мяцеліца. У тую ноч уся краіна агарнулася жалобай і вестка, шпарчэй маланкі, аблытала свет.

— Схіліце галовы—памёр Правадыр!

Нібы спынілася на момант усё жыццё і ўсё жывое замоўкла і не магло выказаць сваей тугі.

Рыдала ўся краіна аб сваім правадыры, які прывёў людзей да Свабоды і шчасця. Вялікім было гора людзей, што не маглі стрымаць слёз і вялікай была мужнасць у людзей, якія давалі клятву над прахам Правадыра.

У чырвонай сталіцы труну правадыра, схіліўшы галовы, неслі яго лепшыя вучні і байцы. І разам з труною няслі вянкі і баявыя сцягі. І іхнія крокі былі мужнымі і чоткімі. А за труною ішлі шахцёры, батракі, каменшчыкі, рыбаловы, чырвонаармейцы. Незлічоныя масы ішлі аддаць апошні доўг правадыру. Ішла ўся краіна, увесь свет, усе вызваленыя і прыгнечаныя народы.

І калі апускалі труну, лепшы вучань Правадыра, яго друг і паплечнік у барацьбе сказаў вогненную клятву:

— Клянемся табе, наш Правадыр, што мы аддадзім усе сілы за тваю справу... Мы выканаем твае запаветы...

І мільёны людзей горача пакляліся аддаць усе сілы. І ўся краіна схіліла галаву над прахам Правадыра і паўтарала словы клятвы.

— Ты памёр, наш Правадыр, але твая справа будзе жыць вечна да тых пор, пакуль будзе свяціць сонца!

## IV

У чырвонай сталіцы, у маўзалеі, дзе ляжыць цела вялікага Правадыра, ярка гараць агні. У гэтых агнях іскры дум самога Правадыра. Ён ляжыць спакойны, магутны, бяссмертны. На яго грудзяхззяе Чырвоны ордэн. На яго твары застыгла навекі ласкавая ўсмешка. І, здаецца, вось ён зараз глыбока ўздыхне, падымецца і голас яго загрыміць на ўсю яго краіну. Але вочы, іскрыстыя, якія некалі нібы бачылі зямлю наскрозь, цяпер закрыты, а вусны шчыльна замкнуты. Навакол яго труны вянкі і баявыя непераможныя сцягі. З гэтымі яркачырвонымі сцягамі ішоў правадыр у вялікіх паходах за Комуну.

Кожны дзень у маўзалей бясконца прыходзяць шахцёры, каменшчыкі, калгаснікі, рыбаловы, чырвонаармейцы, піонеры паглядзець на свайго Правадыра. Яны праходзяць павіажна, моўчкі без шапак, ціха, ціха абходзяць навокал яго труны, углядаюцца ў кожную рысу яго дарагога твару.

— Мы прышлі,—гавораць яны, як урачыстую клятву,—каб расказаць табе, наш Правадыр, што мы з гонарам выконваем твае запаветы. Мы жывем так, як ты вучыў нас і як завяшчаў нам жыць. У нас ёсць моцная твая партыя і яе вялікі стальны правадыр—твой вучань. Нашы заводы клічам гудкоў па ўсім свеце разносяць славу нашай радзімы. На нашых палях багатыя ўраджаі. Твае ўнукі—окцябрата, піонеры спяваюць вясёлыя песні...

— Устань і падзівіся на ўсё сонечным зрокам! Мы зрабілі, мы ўсё зрабілі так, як гаварыў ты, наш Правадыр і настаўнік!

Шахцёры, каменшчыкі, слесары, калгаснікі, комсамольцы выходзяць з маўзалея і слухаюць, як бушуе жывы пульс усёй краіны імем вялікага Правадыра:

— Ленін! Ленін! Ленін!

Гіганты-заводы, рэкі, лясы гучаць сімфоніяй працы—і ўсюды чуецца слова—

— Ленін!

Трактары і камбайны на калгасных палях, пад шум пшаніцы, гучаць музыкай слова—

— Ленін!

У кожнай школе, у кожным цэху, у кожнай хаце пазірае са сцяны вялікі настаўнік—

— Ленін.

Ва ўсіх народаў, на ўсіх мовах аднолькава гучыць і заклікае на барацьбу імя—

— Ленін.

Самым страшным, як выбух, як прысуд да смерці, гучыць для ворагаў нашай радзімы бяссмертнае імя—

— Ленін!

Снежань 1934 г.

Я. Скрыган

# СЛАВА

## З кнігі „Смага“

### I

Я часта думаю пра патомства. Доўгімі гадзінамі я праседжваю ў скверы каля агароджанае пляцоўкі, дзе ў пяску забаўляюцца дзеці. Подаўгу я гляджу ўслед піонерскай калонне, калі дружна, весела, бесклапотна—песенным морам—яны адпраўляюцца ў лагеры. Колькі звонкасці і галасоў! Які прыгожы час чалавека! У празрыстай перспектыве гадоў я бачу іх дарослымі. Я сілюся разгадаць іх духоўны свет. Якія будуць у іх адчуванні? Якія дачыненні адзін да аднаго? Мабыць, зусім непадобныя на нашы. Якія ў іх будуць паняцці дружбы, любові, нянавісці, рэўнасці, страху, адвагі? Мне цяжка разгадаць гэта. Гэта не ўкладаецца ў рамкі майго ўяўлення. Але цвёрда я ведаю і адчуваю адно— у іх будзе г о р д а с ц ь. Гордасць за свае жыццё і за бацькоў, якія яго тварылі.

Я зайздрошчу ім, гэтай новай фармацыі чалавечае годнасці. Іншы раз я ўяўляю, што ў мяне ёсць сын. Трывожна і радасна я бачу яго непадобнасць да мяне. Ён увахodзіць у жыццё новымі шляхамі, каторых не ведалі да яго людзі. Вось ён стаіць перада мною—русавалосы, з жывымі, чыстымі вачыма, у якіх свеціцца свой свет невядомага мне дзяцінства. Ён толькі што прыйшоў з піонератрада. Ён пытаецца ў мяне:

— Тата, раскажы мне што-небудзь пра рэволюцыю. Ты-ж яе памятаеш.

Гэтае запытанне напаўняе мяне гордасцю перад сынам—я, яго бацька, памятаю рэволюцыю. Я магу расказаць яму пра яе. Як добра быць такім бацькам!

Я расказваю. Сын з захапленнем слухае. Яго чыстыя вочы загараюцца пра авітасцю. Ён зноў пытаецца:

— Тата! А якія ты маеш заслугі перад рэволюцыяй?

Ён нецярпліва глядзіць у вочы. Я бачу, што яму гэта вельмі важна, вельмі патрэбна. Ён пытаецца гэта, каб ведаць, ці мае ён права гардзіцца. Гардзіцца мінулым сваіх бацькоў.

Так, гэта будзе іхная радасць. Яны будуць пытацца пра нас. Яны будуць берагчы памяць пра нашы дні, як сваю славу.

### II

Мы таксама гардзімся і нават самі гэтага не заўважаем. Мы гардзімся блізкімі, таварышамі, знаёмымі і нават тымі, каторых не ведаем.

У мяне быў прыяцель. Ён цяпер у Маскве, у інстытуце горных багаццяў. Ён аднойчы зайшоў да мяне і назваўся земляком. З гэтага пачалося наша знаёмства. Ён займаўся на рабфаку. Ён часта заходзіў да

мяне, каб падзяліцца сваімі вынашанымі і нікому яшчэ не расказанымі думамі. Ён палучаў лісты з калгаса і ўсякую навіну прыносіў да мяне, каб разам яе перажываць.

Ён быў інвалід. У яго была пакалечана правая рука. Яна вісела цяжкая, непатрэбная, іншы раз бездапаможна шавелячыся ў рукаве. Я прывык да яе так, што нават не заўважаў яе і ніколі не запытаўся пра прычыну калецтва. Мы праседжвалі цэлыя вечары ў гаворках. Я круціў яму папіросы, даваў прыкурваць; на хвіліну перарываўся яго спакойны, павольны голас, каб пасля зноў загаварыць з першай выпушчанай зацяжкай дыму. Нашы гаворкі былі наглядным падарожжам па нашай краіне. Пачынаючы ад калгаса, яны забіраліся ў Кіраўск, падымаліся над Кубанню, купаліся ў гарачых пясках Кара-кумаў, плылі палявымі дарогамі, абвейваючыся ласкавым шэптам спеючых ніў чорназем'я.

Аднойчы мы ўзгаварыліся пра грамадзянскую вайну. Гэта быў вечар успамінаў і стоеных у памяці хваляванняў. І толькі тут выявілася, што ён—чапаевец. Следам гэтых далёкіх паходаў асталася ў яго пакалечаная рука і яшчэ чатыры раны, параскіданыя па целе. Прабіта плячо, прастрэлены грудзі, недзе ў галёнцы яшчэ і дасюль астаўся сядзець чарапок, даючы сябе знаць у дрэнную пагоду. Ён хваляваўся. Ён расказваў і нанава ўсё гэта бачыў. Ён уваскрашаў далёкія дні і ажыўляў іх гарачаю крывёю сваіх ран. Я бачыў, як мылася ў крыві зямля. Я бачыў стэпы, лясы, пераправы, атакі—неймаверную смагу людзей і іх волю. Я бачыў гады геройства і мужнасці. Яны грымяць у памяці стрэламі і палыхаюць агнямі надзей і смерцей, гэтыя гады. Яны неўміручыя і будуць звінець у вечнасці, як песня, гэтыя гады. Прыяцель хваляваўся. Я глядзеў на яго і ён мне здаваўся незнаёмым. Я толькі цяпер як след яго ўбачыў. Я яго пачаў адчуваць, як чалавека, каторы даўно ўжо ўсяліўся ў цябе. Як дзіўна пазнаюцца людзі! Я чуў, як падымаецца ва мне гордасць. Мне здавалася, што толькі цяпер я заўважыў і руку. Я любіў гэтую руку; мне хацелася пацiснуць яе ў падзяку, і ў яе пакалечанасці я бачыў цяпер вялікі сэнс—цану чалавечае мужнасці.

Гэты вечар быў вечарам дружбы і вялікага чалавечага хвалявання.

## III

Яшчэ ніколі ніхто не забываў свайго дзяцінства. І якое-б не было яно—добрае ці благое—яно заўсёды астанецца ў памяці, як радасць чалавечага нараджэння. У ім астаюцца дні непаўторнае прыгожасці. У ім многа сонца, бесклапотнасці, першых непатухаючых уражанняў. Слаўная пара чалавечага фармавання—дзяцінства.

Яно прайшло ў мяне крыкамі імперыялістычнае мабілізацыі. Недзе ў сутонні свае памяці я бачу, як плачуць маціркі, развітваючыся са сваімі сынамі. І нейкія недарэчныя, як вар'яцтва, песні. Пасля—далёкія, ледзь улоўныя стрэлы гармат на фронце. Адступленне рускай, падточанай ужо рэволюцыйнай падпольнай работай, арміі. Людзі прыслухоўваюцца трывожна да выбухаў. Вечарамі яны прыпадаюць да зямлі, каб прыложаным вухам пазнаць—набліжаюцца ці аддаляюцца гэтыя выбухі ў параўнанні з учарашнім вечарам. Пасля бесперапынны лёскат калёс па шашы—несканчоныя бежанскія хурманкі. Колькі гора, няшчасця, плачу! Па дарозе, паабапал шашы павыросталі ад гэтых уцёкаў адзінокія курганкі, паўстаўляныя бярозавымі з карою крыжамі і абгароджаныя калючым дротам. І толькі пасля гэтага пачалося галоўнае, што няўхільна падрыхтоўвалася ўсімі няшчасцямі разам. Я памятаю мітынгі,

нумар дзевяты спіскаў, немцаў, пялякаў, балахоўскія банды, партызаншчыну і дэзертырства—усё гэта параскіданымі эпізодамі пааставалася ў памяці. Але я ведаў, што любяць большэвікоў і ненавідзяць буржуяў. І толькі пасля ўжо, калі сам я ўсіх пабачыў—я меў і свае сімпатыі. Я насіў у лес пастухам ежу і па дарозе заносіў хлеб чырвонаармейцам часавым. Яны мне давалі патроны. Яны мне давалі вінтоўку, каб я застрэліў на вяршаліне бярозы сіваваронку. Мне стукнула прыкладам у плячо; я рагатаў, рагаталі чырвонаармейцы. Калі зноў прыйшлі франтаватыя і фарсістыя патрыёты Паспалітай жэчы—я ўпершыню пачуў прыклад не ў плячо, а ў самыя грудзі. Я не любіў іх. Я ненавідзеў іх нахабную самаўпэўненасць нагайкі і крыкі. Ноччу я скраў у капрала цясак і закапаў у агародзе, пад прызбаю. Я краў патроны, хаваў іх пад стрэхамі і насіў у лес, у дупло абгарэлага дуба.

І от—загрукацелі дарогі налоўленымі хурманкамі. Патрыёты ўцякалі за Нёман. Вечарамі наўкруга зіхацелі заравы пажараў. Я ўцякаў з хаты, подаўгу хадзіў і глядзеў на гэтыя страшэнныя ўспышкі неба Як жудасна, калі здаецца, што гэта падпалена сама ноч і яна зіхаціць і палыхае ў цемры. Я чуў далёкія стрэлы з лясоў і ўзрывы на шошавых мастах. Сёлы пусцелі. Ноч вар'яцела агнямі і трывожнымі шорахамі. Раніца нарадзілася ў цішыні. Здавалася, яна хацела адпачыць ад стомы і жахаў.

Я выходзіў з лесу на палянку, каб дабрацца да абгарэлага дуба. Я ўглядаўся ў узлесак і нікога не бачыў. Мой шаг смялеў Раптам яго абарваў проста перад вачыма бырзнуўшы стрэл. Я кінуўся назад і стрэлы нарадзіліся з усіх бакоў. Насустрач мне нёсся лес, б'ючы мяне па твары, па пальцах, раздзіраючы рубашку, колючы ў пяты сукамі сухога галля. У выжарай імшарыне я кінуўся між куп'я. Я ляжаў там, чуючы, як бзыкаюць у круглай высокай траве кулі. Я ляжаў там, пакуль не сціхлі стрэлы і тады зноў кінуўся бегчы, не чуючы сваіх пакалечаных ног. Я знайшоў пастухоў а паўдні. Я прынёс ім прастрэленую шапку, і толькі цяпер пачуў боль на спіне. Яшчэ і цяпер я абмацваю пальцамі гэты маленькі шрам на паясніцы і ўспамінаю той дзень. Гэты раз я не прынёс ім патронаў. Але, дзяцінства, як люблю я цябе за тое, што ўсё гэта ты пакінула ў памяці, як дату майго нараджэння.

Мой сын! Ты бачыш, якія малыя мае заслугі і як упарта трэба іх дасягаць. Я таксама быў тады дзіцянём, і зайздрошчу геройствам другіх. Але я іх бачыў і адчуваў. Я нашу іх у сабе, як ганаровы падарунак майго дзяцінства, каб некалі пра іх расказаць і табе.

## IV

Аднойчы прыяцель зайшоў да мяне, як заўсёды спакойны і спачатку маўклівы. Ён паздароваўся леваю рукою. Правая непатрэбна вісела, прыціснуўшыся сухою косткаю к боку. Я памог распрануцца. На ім была новая, ваеннага колеру, рубашка, туга перахопленая шырокаю папругаю. Павесіўшы паліто, я зірнуў на прыяцеля і ад здзіўлення застыў. На левай грудзіне ў яго я бачыў ордэн Чырвонага сцягу. Я чуў, як ён расказваў мне пра франты, пра паходы, пра чэхаў, пра смагу, але ён ніколі не ўпамінаў пра ордэн. Я нават не ведаў, што ён мае такую высокую ўзнагароду.

— Чаму-ж ты дасюль не гаварыў мне пра гэта?—запытаўся я, глелзячы на ягоныя грудзі.

Ён паспрабаваў усміхнуцца, але замест усмешкі на твары сабралася безліч маршчын. Тарганулася і бездапаможна заварушылася падкурчаная рука.

— А ты не ведаў?—яшчэ ўсё сіліўся ён жартаваць.

— Чаму-ж ты яго не носіш?

Раптам маршчыны з усмешкі сабраліся ў суровасць. Ён уздыхнуў:

— Правільна.—Ён пачаў даставаць тытун. Я ўзяўся круціць папіросу.—Правільна—не нашу. Тут нават цяжка і расказаць табе—чаму. А от чаму—сорамна мне. Ордэн Чырвонага сцягу, а—невук. Ты-ж ведаеш, я—парабак. У грамаце ледзь разбіраў літары. Цяпер от вучуся. Старават ужо, але гэта нічога не значыць. Папробую выцягнуць. Думаю дабрацца да інжынера па якой небудзь горнай справе. Прырода, зямля, горы, вецер. Люблю я гэта. Прывык да вятроў. Калі ўспамінаю—у мяне тады варушацца раны. Тады мне страшэнна хочацца, каб быць разам з усімі. А глянеш—адстаў. Гэта-ж уся маладзёж, за якую мы некалі біліся, абагнала нас чорт ведае як. Цяпер трэба, выходзіць, даганяць ужо іх. І от, як дайду да гэтага—не брыдка будзе і насіць ордэн. От бачыш. Таму і не нашу. Можа гэта і не добра, але мне здаецца, што так, калі ты астаўся—у хвасце—дык ты, проста, яго зневажаеш сабою. Не вельмі зручна ганарыцца толькі мінулым,—заслугі трэба апраўдваць заўсёды.

Што я мог сказаць на гэта? Значыць слава, геройства—гэта толькі ўмоўнасць. Самі носбіты іх гэтага не адчуваюць. Значыць ёсць нешта вышэйшае, што вызначаецца неўміручасцю чалавечых ідэалаў. Няма чалавечае гордасці за самога сябе, а ёсць гордасць за іншых, каб, гледзячы на іх, ніколі не таміцца жыць.

## V

Хваляванні заўсёды бываюць большымі не тады, калі яны выклікаюцца з'яваю непасрэдна, а калі васкрасаюць у памяці і іх перажываеш зноў, як нешта далёкае, але сваё і дарагое. Тады ў іх удзельнічаеш увесь з цэлым комплексам іншых, табою ўжо асэнсаваных за гэты доўгі час адчуванняў. Іх нават успрыймаеш пановаму—з-пад напласту гадоў тваё бытнасці яны раптам прарываюцца далёкім тваім і звіняць, як значэўку кранутая струна.

Нядаўна я зноў бачыў сваё дзяцінства. Быў сцюдзёны, бясснежны вечар зімы. На вуліцах у людзей дыханне ператваралася ў пару. На голых дрэвах парку туман ледзянеў у сусолкі і, стукаючыся, сусолкі зрываліся і падалі на зямлю. Людзі ішлі таропкімі крокамі, настаўляючы над плячыма высокія каўняры.

У залі таксама было сцюдзёна. Па навошчанай падлозе скрыпелі падэшвы і здавалася, што гэта людзі яшчэ ішлі пазмярзанымі ботамі па снезе. Рыпелі і ляпалі адкіднымі сядзеннямі крэслы. Каля мяне садзіўся ваенны і жанчына з высокімі, як скляпенне начнога неба, брывамі.

Экран патух разам з выключаным святлом у залі. Ён паволі пачаў ажываць імглою і шэраю муццю. І з імглы, з шэрае муці—з экрана—у залу ўварваліся гукі шамкоў. Яны пачуліся недзе з далячыні. Яны імкліва выраслі і набліжаліся. Яны мацнелі і рваліся ў публіку, запаўняючы залу. Людзі не ведалі адкуль і да чаго гэтыя гукі. І от, калі здавалася, што гукам ужо няма куды дзецца—з імглы паявілася тройка. Запрэжаная ў тачанку, яна шалёна імчалася па дарозе, крута паварочваючыся на паваротах, падымаючы пыл, хаваючыся ў пылу і ў чалавечых крыках. З тачанкі відаць была паднятая рука; яна паказвала ў далячынь: туды неслася дарога, туды рваліся крыкі і туды страчыў кулямёт з тачанкі. Гэтак пачыналася карціна „Чапаеў".

І пасля—нельга было сядзець спакойна. Ты не быў глядачом, ты быў разам з чапаеўцамі, але ты бачыў, як хітра падкрадаецца вораг і табе

хацелася крычаць, каб гэта пачуў Чапаеў. Нельга было сядзець спакойна. Я чуў каля сябе тонкае плячо Ліны. Тут нельга было быць чалавеку аддзельным; можна было быць—як адзін чалавек. Мы сядзелі, дыхаючы адным дыханнем. Мы да болю сціскалі адзін аднаму рукі, не чуючы гэтага. Я быў недзе далёка ад самога сябе. Я бачыў гады, якія крануліся майго дзяцінства. Я жыў уваскросшым далёкім жыццём, забытымі хваляваннямі, напаўняючы іх адчуваннем дарослык год. Пасля я нёс усё гэтае бачанае жыццё з сабою. Перада мною нестухана стаяў чалавек, які, здавалася, прайшоў праз усю маю бытнасць. Недзе ў памяці звінела яго імя. Я шаптаў яго, паўтараючы толькі гэтае слова. І калі трэба было выйсці з трамваю, я звярнуўся да чырвонаармейца, і замест слова т а в а р ы ш назваў т а в а р ы ш Ч а п а е ў. Словы нараджваюцца паняццямі. Словы т а в а р ы ш нельга было сказаць без Ч а п а е ў. Па дарозе дахаты я нёс чужое жыццё, каторае стала даражэй, як сваё.

І тады я зноў думаў пра патомства. З якою прагавітасцю яны будуць слухаць пра гады, каторыя нас узгадавалі. Нават мы, у каторых рэвалюцыя прайшла дзяцінствам, глядзім на герояў яе з адчуваннем невыказнай любові і гордасці. І я думаў пра свайго прыяцеля. Ордэн Чырвонага сцягу ён перадасць свайму пакаленню, як слаўны пачатак новага чалавечага роду. Ён не адчуваў свайго геройства і славы—ён толькі збіраўся яшчэ іх дасягаць. Але за яго гэтае адчуванне насілі іншыя, каб знаць цану чалавека і ніколі не таміцца жыць.

Патомкі непаўторных нашых дзён не застануць. Пра сваіх герояў яны будуць чуць толькі ў легендах. У празрыстай перспектыве гадоў я бачу іх і вітаю, гэтае шчаслівае пакаленне. Я сілюся ўявіць свет іхнай маралі і адчуванняў. Якія ў іх будуць паняцці дружбы, любові, нянавісці, рэўнасці, страху, адвагі. Мне цяжка разгадаць гэта. Але цвёрда я ведаю адно—у іх будзе г о р д а с ц ь. Гордасць за знатных людзей рэвалюцыі. Гэта будзе пачаткам іх біяграфіі. Яны будуць берагчы памяць пра нашы дні, як сваю славу.

Так.

Менск
Снежань-студзень 1934-35.

**Александр Міронаў**
(чэлюскінец)

# КРАІНА БАЦЬКОЎ

## I

Усміхаючыся, нібы ў неўтаймоўнай радасці бачачы сваю цяжкую веліч, вісіць на сярэбраных нітках поўны месяц, прыплюшчыўшы надбітае злосным норд-остам вока, ён пільна сочыць за цішынёю, за празрыстым, белаватым святлом, за застыглымі тонамі мёртвых марскіх ільдоў.

Ціха...

Ноч...

Толькі калі наляціць вецер з завываннем, смехам, свістам заскіголіць, заўлюлюкае ў рапаках і таросах [1])—ажываюць лёдавыя стэпы, круцяцца паміж рапакоў лёгкія струмені мяцеліцы, скачуць у хаотычных скоках ценяў.

Дзень, два, тыдзень,—а потым ізноў: ціха—ціха...

Вялікая белая цішыня...

І яшчэ: устрывожаны цішынёй, ветрам, трэскам у сціснутых ільдах выйдзе ў паход—у нішто!—белы, масіўны, і маўклівы, як лёд, вялікі і спрытны гаспадар гэтай пустыні—мядзведзь—умка [2]). Ен брыдзе, ныраючы між рапакоў, круцячы задам, а над ім, у празрыстым небе скачуць, істэрычна б'юцца ў маўклівай сімфоніі поўначы аскепкі цудоўнага з'яння.

Брыдзе мядзведзь, чорным трыкутнікам носа ловіць таямнічыя пахі ледзяной стыхіі і грамады з'яння моцна трашчаць у яго скуры, серабрыстай,—як месяц.

* * *

Шэры світанак на некалькі гадзін змутне над белай цішынёю. Хмары заплачуць пухавым накіпам завірухі. Чырвоны, як кроў цюленя, успыхне па далёкаму гарызонту востры прамень неўзыходзячага сонца і ізноў—цемень, воўчыя вочы зор, месяц.

Дзень, два, тыдзень—зіма...

Вострыя, як клыкі маржоў, выгіны рапачых граняў, тупыя і масіўныя, як моржавыя галовы, глыбы рапакоў. Ідуць яны, сінеючы, бяскрайна расцілаючыся далёка-далёка... А больш да поўдня,—уткнуліся ільды ў аснежаны бераг і не зразумееш у бялявай муці, дзе ледзяное мора, а дзе зямля.

Недалёка ад берага, умерзнуўшы ў ледзяную броню, тушай велізарнага маржа застыгла цямнее корпус парахода, і як спіны маржа аблом-

---

[1]) Рапакі—паасобныя высокія глыбы ільда. Таросы—награмаджэнні рапакоў.
[2]) Умка—чукоцкая назва мядзведля.

камі чукоцкіх гарпуноў, тырчаць забітыя і непатрэбныя тут мачты. Лёгкі дымок, нібы пара, ускручваецца з судна і толькі гэты дымок ды групы захутаных у мяхі людзей гаворыць аб непажаданай зімоўцы, аб цяжкіх гадзінах палярнай ночы.

Доўгія 24 гадзіны ходзяць па палубе судна, змяняючы адзін аднаго, вахценныя. Кожны з іх калматы і вушасты, кожны з іх падобен да мядзведзя, які ўстаў на дыбы і толькі чорны колер іх кажухоў ды лёгкае насвістванне чужой тут песні развейвае гэтую ілюзію.

Ходзіць чалавек—вахценны, матрос...

Дзень, тыдзень, месяц—зіму...

## II

Расхінаючы ў бакі цемень прышоў шэры, і махнаты завірухаю, світанак. Завіруха шалёна кідалася на рапакі, на судно. Прыпаўшы да барта парахода, свістаў у завіруху вахценны і вецер, уважліва слухаючы свіст, хапаў яго з вуснаў чалавека і нёс глушыць у прасторы белай маўклівасці.

Вахценны глядзеў на заснежаны лёд.

— Фью, фью, фью, фью, фью-ю-у-у...,

Глядзеў і бачыў:

... Далёкі, далёкі порт, гарачае сонца і сінія, як дзяўчыніны вочы мора...

— Фью, фью-фью-у-у...

Круціла пазёмка, снег пляскаўся па снезе, па ільдзе, па судне.

— Э, ізноў мішка быў!—чалавек перарваў свіст, убачыўшы на падлозе замеценыя снегам сляды.—Ізноў умка ў госці прыходзіў...

Ён грузна прайшоў па палубе, грукнуў цяжкімі дзвярмі і знік у глыбіне судна. Вецер, спалоханы грукатам, сабраў з пляншыра камок снега, і ліха свіснуўшы, кінуў у ўмкіны сляды...

... Уначы вахценны больш уважліва слухаў цішыню, моцна сціскаючы ў руках паваронены холад вінтоўкі.

— Прыходзь, сябра, рад будзеш!...

Суткі за суткамі: месяц завіруха, норд-ост. Суткі падобны на суткі, як лёд на лёд.

Зіма.

* * *

Чалавек бяжыць па снезе. Мякка паскрыпвае снег, моцна кідаючы ногі чалавека, і лыжы—снегаступы—наперад, наперад, наперад...

Думае чалавек:

„Прыду на карабель. Э-ох, добра! Гарбата будзе, хлеб будзе, весела будзе. Дам скуру,—вазьму цукерак, нінкай, [1]) порах сабе, чай нэцан [2]) І—і—эх! Добра!"

Чалавек бяжыць па снезе...

Лёгкі марозік стрымлівае дыханне, блакітным робіцца снег, рапакі і таросы—у сінім святле месяца. Паскрыпваюць лыжы—снегаступы.

... Вж-ж, вж-ж, хв-р...

Як шолах, сыплецца свежы вецер, сярод сініх, спакойных штуршкоў рапакоў, глыбока дыхае чалавек, шавелячы целам. Бяжыць па лёдзе гадзіну, дзве, тры.

---

[1]) Нінкай—хлопчык, дзеці.
[2]) Нэцан—жонка.

Шырокая і прасторная, як кухлянка [1]) кляўль [2]) ноч, і новая камлейка [3]) Тайюрэйкіна белая, як лёдавы стэп.

Чукча бяжыць зліваючыся камлейкай і блакітам снягоў і толькі цень яго б'ецца па рапаках.

Калі чалавек бег ужо амаль больш за чатыры гадзіны, ён убачыў сілуэт парахода. Перастаў бегчы. Пайшоў крокам. Прышоў. Глядзіць: спіць параход, роўна дыша дымавым струменем і спяць людзі на параходзе.

Ноч. Спяць людзі. Нялоўка будзіць—хай спяць! Тайюрэйкін можа і пачакаць. Скінуўшы на снег снегаступы, ён падыйшоў да барта. Ля барта пасыпаны кучы: попел, бляшанкі ад консерваў блішчаць аскепкамі зор, смецце, паперкі...

Тайюрэйкін здымае са спіны мяшок, трэскай шавеліць кучу смецця і бярэ патрэбнае для сябе.

Ціха-ціха рыпнулі дзверы: мякка закрочыў на палубу, вахценны матрос Мішка. Яго сагрэўся ў кубрыку [4]). Баючыся холаду, ён захутвае грудзі мяккім мехам кажуха.

Перашкаджае вінтоўка і Мішка асцярожна ставіць яе да барта. Глянуў за борт, на снег, і...

— Прышоў!—мільганула радасная думка. Цяплынёю кубрыка л'занула вінтоўка голую руку. Спалохана ахнуў, падаючы на палубу, цяжкі кажух.

Мішка глядзіць за борт. Ад сіняй цемры баляць напружаныя вочы і ў іх б'ецца жаданне: убачыць...

І ўбачыў: ля барта, на кучы смецця, белы, ляжаў ён.

— Прышоў!. вахценны глыбока ўздыхнуў і разам з паднятай вінтоўкай, прытаіўся: чакае. Вось заварушыўся ўнізе, вось зарыпеў снег пад лапай. бляшанка аб бляшанку дзынкнула. Настаражыўся вахценны, ловячы на маленечкую мушку пляму на снезе. Ветру перадалося напружанае жаданне чалавека. Ён сціснуўся, прыціх і...

— Раух!—і пра секунду ізноў:

— Р-раух!—стрэлы.

Далёкае рэха глухім раскатам паўтарыла грукаты і рэхам хваравітым і змучаным, як рэха смерці, адзначыла знізу.

—О-а-а-ау-у!

І ўсё сцішала...

* * *

Ён ляжаў, згорблены і напружаны, у сударгах раскінуўшыя схаладзелыя ад смерці рукі. Левая—была ў снезе, правая—моцна сціснула бляшанку ад кансерваў. Пад белай камлейкай на грудзях дыбілася кухлянка, а ніжэй ласкава прытулілася да снегу схіленая галава: карычневыя, пакрытыя туманам вочы дакорліва глядзелі ў шэрае неба і, закрываючы вочы, у бяссільнай гаркоце напіналіся сінія, як ноч павекі. Вусны чарнелі, грымасай болю і недаўмення крывілі смяротную маску твару.

Людзі маўчалі. Аб чым гаварыць? Аб смерці?

Забіты.

Чукча.

Знаёмы чукча Тайюрэйкін забіты вахценным. Вахценны памылкова палічыў Тайюрэйкіна ўначы за мядзведзя.

---

1) Кухлянка—мехавая, цёплая адзежа.
2) Кляўль—муж.
3) Камлейка—адзежа з матэрыі, якую адзяюць паверх кухлянкі.
4) Кубрык—памяшканне каманды на параходзе.

Потым мерцвяка асцярожна перанеслі на судно. Там, выцягнуўшыся, ён ляжаў у чырвоным кутку і глядзеў мёртвымі вачмі на жывыя твары маўклівых і хмурых людзей.

## III

Дзень прашоў, два і тры. На чацверты світанак прынёс к судну нарты, з іх сышлі тры закутаныя мехам фігуры і павольна накіраваліся да трапа. На борт паднялася чукчанка і за ёй, моцна ўчапіўшыся ў кухлянку, два мехавыя шарыкі.

— Я Тайюцінтэнэ, нэцан Тайюрэйкін—сказала жанчына.

— Хто забіў майго кляўль?

— Мішка, на палубу!—гукнулі ў кубрык.

Чалавек выйшаў, падыйшоў.

Жанчына глядзела спакойна, толькі карычневыя вочы свяціліся страшэнным сумам.

— Я Тайюцінтэнэ—паўтарыла яна.—Ты забіў майго кляўль?

— Так, я,—з болем скрывіліся гарачыя губы мужчыны. Ён стаяў сумным, час ад-часу языком аблізваючы сухія губы.

— Ты забіў?—жанчына пакорліва ўздыхнула,—ну вось, я прышла: я нэцэн Тайюрэйкін, а гэта,—яна высунула наперад калматых дзяцей—нінкай Паркок і нэкакай[1]) Камэт. Мы прышлі, ты цяпер наш кляўль.

Жанчына ізноў глыбока ўздыхнула: цяжка гаварыць многа, і невядома як гаварыць з новым кляўль-мужам.

Мішка збянтэжыўся. Маўчаў. Што сказаць гэтай жанчыне, сівымі вякамі дзедаўскіх законаў прыгнанай да новага, чужога мужа, які забіў бацьку яе дзяцей. Ён маўчаў, а навокал стаялі таварышы.

— Спрытны стралок,—сумна пажартаваў адзін.—Адразу жонку і двух дзяцей—прыдбаў.

Ніхто не ўсміхнуўся на гэты жарт—чакалі гледзячы на маску жаночага твару—маску бясстрасную з закаханымі вачмі. Маўчанне рабілася цяжкім. У вентылятары жаласліва завыў вецер, нібы імкнучыся парушыць гэтае маўчанне. Калючыя, як вострыя канцы гарпуноў, падалі на твары людзей першыя сняжынкі завірухі.

— Пойдзем—сказаў Мішка, працягнуўшы жанчыне руку.

***

Дні раслі, набухалі святлом.

Край гарызонта больш і больш рыхліўся праменнямі сонца і аднойчы ненадоўга паказаўся, зморaны зімой дыск: чырвоны—чырвоны...

Меншымі рабіліся ночы.

Ішла вясна.

Людзі на параходзе больш весела праводзілі кароткія яшчэ дні, рыхтуючыся ў далёкі шлях на поўдзень. І чым бліжэй падыходзіла вясна, тым карацейшымі рабіліся сінія ночы і хутчэй ляцелі дні.

Дзень, два, тыдзень—вясна.

Падыходзіла халоднае і яснае палярнае лета.

Увесь канец зімы і вясной жыла Тайюцінтэнэ з дзяцьмі ў новай, вялікай, яранге рускіх. Ёй далі каюту—вялікую, чыстую, светлую, далі мяккі ложак. Мяса, чай, хлеб,—усё было ў чукчанкі. Рускія абыходзіліся з новымі таварышамі добра, ласкава, любілі дзяцей і ўсё-ж Тайюцінтэнэ

[1] Нэкакай—дзяўчына.

не была здаволена новай ярангай: у ёй не было кляўль, бацькі дзяцей, гаспадара.

Мішка быў кляўль і не быў ім: ён жыў у кубрыку з другімі мужчынамі, і хоць лашчыў дзяцей, добра абыходзіўся з Тайюцінтэнэ—заставаўся чужым. Ніколі яго цела не сагравала мяккага ложка чукчанкі.

І жанчына думала:

„Мішка чужы, не кляўль. Ім ён ніколі не будзе, ён мае там далёка, далёка, дзе Дзежнеў[1]) робіць паварот да краіны гарачага сонца, сваю нэцан, высокую і сінявокую, як ён. У яго свае законы, ён чужы..."

Жанчына ішла на карму судна, і там, лашчачы кудлатыя галоўкі чорнавокіх дзяцей, глядзела на белы, з сіняватымі адценнямі лёд, пышнае, як лебядзіны пух, неба, яркае, як святочная кухлянка, сонца і далёкі, востры ў сваёй чарнаце, абрыс берагавога мыса.

Жанчына думала, плакала і чакала...

А калі ночы зрабіліся зусім кароткімі, лёд трэснуў і ціха рушыўся на поўноч. Навокал судна бл шчэла валавяная вада, а за кармой, ускаблённая вінтом, яна ярасна пенілася.

На світанні прышлі ў Уэллен[2]). Тайюцінтэнэ глядзела на бераг і сэрца пругка калацілася пад душнай кухлянкай: краіна бацькоў, дзядоў, прадзедаў, праводзіла яе маўкліва, купаючыся ў праменнях вясновага сонца.

## IV

Гудок парахода быў густы і сакавіты: так раве ў вясновую белую ноч пасівелы ў бойках морж, заклікаючы самку. На беразе, каля шлюпкі, хваляваліся людзі, спяшаючыся да судна.

— Бывай Тайюцінтэнэ!—гаварыў Мішка, пацiскаючы маленькую, смуглявую руку.—Бывайце дзеткі—гаварыў ён, цалуючы дзяцей.

Жанчына памаўчала, потым старанна праказала чужое слова:

Протча, Мішкі...

Шлюпка адплыла. Жанчына доўга, забыўшыся аб дзецях, праводзіла поглядам шлюпку і судно, і калі дымок парахода знік у далёкай празрыстасці гарызонта—павольна павярнулася і пайшла да пасёлка.

Дзеці ішлі за ею.

Твар чукчанкі быў абыякавы, як белая маўклівасць, толькі вочы, маладыя і карычневыя, рыдалі без слёз згубленым назаўсёды невыказаным каханнем: каханнем да чужога чалавека.

Яна прайшла між шатроў пасёлка, з абыякавасцю ўвайшла ў адну новую і вялікую ярамгу (падарунак каманды судна), што напамяць засталася аб двух мужох: яе і чужым кляўль.

Краіна бацькоў перамагла...

*Пераклаў з рускае мовы С. ЛЕВІН.*

---

1) Дзежнеў—мыс Дзежнева Паўночна-усходні канец Азіяцкага матэрыка.
2) Уэллен—чукоцкае прыставішча на мысе Дзежнёва.

М. Кручкін

# АНДРЭИ ВОСТРЫКАЎ

Першая партыя будучых сапёраў з клумкамі і куфэркамі размясцілася ў карантыне. Разнагалосым гулам напоўнілася сталоўка.

Андрэй Вострыкаў прыехаў з Гомеля. У казарме ён хутка прызвычаіўся да парадкаў кавалерыйскага жыцця. Асабліва яго абрадвала наяўнасць „скураной вытворчасці"—амунічнік. Дома ён працаваў на шчацінным заводзе. Першую сваю „экскурсію", прыбыўшы ў эскадрон, Вострыкаў, разам з шорнікам Філатавым зрабіў у амунічнік.

Вострыкаў быў прызначан сапёрам першага ўзвода другога аддзялення.

Дні вучобы, якая першыя часы здавалася вельмі цяжкай і складанай, прамільгнулі амаль непрыметна. Было вельмі цікава хадзіць на падрыўныя работы, бачыць як лёд узлятаў уверх срабрыстымі фантанамі і з шумам, як гіганцкі вадаспад падаў на раку, якая ўжо абудзілася ад зімовага сна. Было прыемна бачыць сваю работу—яшчэ жоўтыя, смольна-пахучыя масты, пабудаваныя праз рэкі і балоты.

Цеслярную справу Андрэй ведаў яшчэ з маленства, калі ён з бацькам хадзіў па навакольных вёсках—у Лукоўе, Рамановічы ставіць зрубы для сялянскіх хат. Ён сякерай уладаў не горш, чым інструмантам на заводзе.

Пасля майскіх свят Вострыкова прынялі ў комсамол. Ён цяпер быў ужо лепшым ударнікам у эскадроне. Палітычны кіраўнік прызначыў яго памочнікам групавода.

У лагеры эскадрон вышаў рана. Зямля яшчэ не зусім адтала. Часта ў часе працы, калі знімалі верхні пласт суглінка, пад ім аказвалася мёрзлая, як лёд, зямля, якая разляталася вострымі пырскамі пры ўдарах лома або кіркі.

Эскадрон атрымаў тэрміновае заданне: у балоцістай мясцовасці яшчэ да поўнай адлігі паставіць масты і наслаць гаці, абсталяваць стрэльбішчы і палігоны.

Працавалі з вялікім пад'ёмам. Лагернае жыццё зачароўвала сваёй рознастайнасцю. Першае адчуванне жыцця ў палатках доўга не забываецца. Пад дзень асабліва добра спіцца, асабліва густым і яркім здаецца паветра пасля моцнага, здаровага сна. З пад'ёма ўвесь эскадрон бег да ракі і там, задорна рагочучы, чырвонаармейцы пырскаліся дыяментам празрыстых пырскаў, хвалюючы срабрыстую роўнядзь ракі.

Сёння заняткаў не было. Сёння эскадрон рыхтуецца да выхаду на вучэнні. Праверылі ўсё да дробязей. Агледжаны, падрыхтаваны паплаўкі, пантоны, інструмант, коні, аружжа. А пасля полудня—дывізіённы мітынг, прысвечаны вучэнням.

Вестка аб тым, што ча вучэбннях будзе нарком т. Варашылаў, хлынула па лагеры радаснай хваляй.

Андрэй Вострыкаў разам з усімі нецярпліва чакаў таго дня, калі ён зможа не толькі пабачыць т. Варашылава, але і паказаць яму, як узвод і ўвесь эскадрон добра выконваюць указанні наркома, як байцы

ведаюць сваю справу. Вострыкаву прышла ў галаву думка, выклікаць на спаборніцтва свайго сябра па рабоце на скураным заводзе, цяпер байца трэцяга ўзвода, Ложкіна. Умову падпісалі ў незвычайных абставінах—уначы, калі Вострыкаў быў вартаўніком па стайні, а Ложкін—днявальным. Яны тут-жа дагаварыліся аб пунктах сваёй умовы.

На мітынг збіраліся туды, дзе знаходзіцца лагерная сцэна. Сцэна была на ўскраіне густога сасновага леса, які крута ўздымаўся па ўзгоркавай мясцовасці. Камандзіры і байцы ўжо сядзелі на лаўках вакол сцэны, калі цадышоў начпадзіва. Ён гаварыў коратка:

— Вучэнні будуць сур'ёзныя. Рашаючы экзамен мы здаём па баявой падрыхтоўцы. Поспех гэтага экзамена будзе залежаць ад кожнага байца, ад кожнага камандзіра. Удвая абавязвае ўсіх нас добра працаваць,—горача гаварыў начпадзіва,—тое, што на нашых вучэннях будзе адзін з лепшых больш эвікоў, кіраўнік Чырвонай арміі Клімент Ефрэмавіч Варашылаў. Мы прыкладзем усе сілы, усе намаганні, каб паказаць, як мы пад яго кіраўніцтвам, пад кіраўніцтвам нашай камуністычнай партыі, пры неаслабнай увазе да нашых патрэб з боку правадыра сусветнага пролетарыята т. Сталіна ўзмацнелі і выраслі.

Доўга апладзіравалі байцы і камандзіры начпадзіву. Потым прынялі абавязкі, абяцалі па-ўдарнаму правесці вучэнні. Мітынг закончыўся вечарам чырвонаармейскай самадзейнасцю.

Пасля адбоя Вострыкаў доўга не мог заснуць. Ён варочаўся з боку на бок. Перад ім паўставалі карціны будучых вучэнняў і паходаў.

* * *

— Нам неабходна закончыць наводку маста да наступлення ночы. Падсобных матэрыялаў не хопіць, калі мы будзем рабіць дзве пераправы, але, робячы адну, мы павінны скараціць тэрмін устанаўлення маста ў два разы. Я думаю, што чырвонасцяжныя сапёры з гэтай задачай справяцца. Загад ёсць і мы яго выканаем. Таварышы камандзіры ўзводаў, прыступайце да работы,—закончыў сваю кароткую прамову камандзір эскадрона.

З першых-жа дзён вучэння эскадрон атрымаў дзве вялікія задачы. З аднэй ён справіўся хутка яшчэ зранку. Гаць, пракладзеная цераз дрыгву вельмі хутка, была, па ацэнцы спецыялістаў—пасрэднікаў, прызнана выдатнай. Цяпер прыступалі да выканання другой задачы. Часці „чырвоных" праз дзве гадзіны павінны былі фарсіраваць раку. Для ашуканства „ворага" адзін полк размясціўся каля брода, які знаходзіўся ў шасці кілометрах на поўдзень ад месца знаходжання эскадрона.

Надвор'е садзейнічала вучэнням. Сонца добра грэла зямлю. Месца, намечанае для пабудовы маста, было схавана за густым бярозавым гаем ад авіяразведкі „ворага".

Размоў і жартаў не было. Усе зразумелі сур'ёзнасць палажэння. Наперадзе—маленькая купка аховы. Галоўныя сілы яшчэ далёка. Намацае „вораг" месца пераправы і талы план камандзіра будзе сарваны.

Чуліся глухія ўдары малаткоў, ды часамі паскрыпвалі рэйкі і балкі маста. Каб перакурыць—часу не было. Адпачынку ніхто не прасіў. Сапёры адчувалі, што сёння, у першы-ж дзень вучэнняў, яны галавой адказваюць за пераправу.

Мост ужо амаль гатоў. Можна адпачыць. У гэты час з-за лесу пачуўся гул самалёта. Не паспелі сапёры зразумець у чым справа, як хітры пілот, падляцеўшы з выключаным маторам да маста, скінуў дзве „бомбы" і схаваўся за зялёнымі верхавінамі гаю.

Камандзір эскадрона загадаў зрабіць з рэшткаў матэрыялаў плотпаром, працягнуць з берага на бераг тоўсты трос і падрыхтаваць па абодвых баках ракі сходцы да парома для тачанак і гармат. І зноў закіпела ўпартая работа. Калі часці падышлі да пераправы, сапёры дружнымі намаганнямі пераганялі паром ад берага да берагу, перакідваючы дывізію на варожую старану. Толькі, калі апошняя тачанка была на тым беразе, сапёры разнімаючы напухлыя ад вадзяністых мазоляў рукі, усміхаючыся паглядзелі на свайго камандзіра. А ён ужо бег да пад'ехаўшага на аўтамабілі камандзіра дывізіі.

— Тав. камандзір дывізіі, пераправа закончана з поспехам. Сапёрны эскадрон задачу выканаў.

— І выдатна,—перабіў камдыў,—выдатна выканана.

Абвясціце эскадрону падзяку. Вы зрабілі вялікую справу. Зараз— наступная задача. Патрэбна ўзарваць у тылу „ворага" мост.

І камдыў пачаў па карце тлумачыць, дзе знаходзіцца мост.

— Зразумелі?

— Зразумелі, тав. камандзір дывізіі.

— Прыступайце. Ад выканання гэтай задачы залежыць многае. І ён, паціснуюшы руку комоску ад'ехаў.

Камандзір эскадрона склікаў байцоў, перадаў ім падзяку камдыва і яго новае заданне. Выконваць самае адказнае даручэнне было загадана самым моцным байцам, у лік якіх трапілі Андрэй Вострыкаў, Ложкін і яшчэ тры маладых чырвонаармейцы. Хутка асядлалі яны коней і паехалі следам за камандзірам узвода Капылавым выконваць заданне камдыва.

Перадвячэрнія змрокі гусцелі. Неба было заліта лілёвым водсветам заходзячага сонца. Аранжавыя блікі разразалі беласерабрыстыя пухкія хмары. Шырока, да самага гарызонта раскінуліся палі, лугі і балоты. Лес застаўся ззаду. Коні, добра адпачыўшы, ішлі, весела памахваючы хвастамі. Коннікі перакідваліся заўвагамі. Зараз яшчэ можна спакойна ехаць. Тэрыторыя—свая, і нападу чакаць няма адкуль.

Так ехалі з паўгадзіны. А потым, камандзір узвода загадаў спыніць размовы, выслаў наперад парны дазор, каб аглядаць сустрэчныя ўзгоркі, кусты і хмызнякі. Байцы настаражыліся. Мяркуючы па карце, на якой была намечана сіня-чырвоная граніца, група была ўжо на зямлі „ворага". Атрад ішоў, маскуючыся ў лагчынах і хмызняках, наперадзе відаць былі дазорныя. Відаць было, як яны то знікалі ў лагчынах і палях, то ізноў падымаліся на крутыя ўзгоркі.

Раптам дазорны, які быў з правага боку, падняўся ў сядле і комузвода ўбачыў, што на вінтоўцы дазорнага—шапка, якою ён круціць над сабою.

„Вораг".

Атрад галопам паляцеў у лясок, які раскінуўся ў нізіне, і праз некалькі хвілін схаваўся ў ім. Дазорныя кар'ерам спускаліся з узгоркаў. Хутка паказалася выляцеўшая за імі пагоня. Сем кавалерыстаў, размахваючы шаблямі, імкнуліся акружыць двух разведчыкаў. Тыя, нібы зразумелі іх і, раптам крута павярнуўшыся, адзін—управа, другі—ўлева, паімчаліся ў розныя бакі, накіроўваючыся ў лясок. Тыя, што гналіся за імі, збянтэжыліся ад нечаканасці. Прайшоў некаторы час, пакуль яны зразумелі, што патрэбна падзяліцца і гнацца за абодвымі. Прамедленне выратавала дазорных. Яны паспелі схавацца ў лесе, раней чым іх дагнаў „вораг".

Комзвода бачыў гэта, ён зразумеў, што „вораг" абавязкова будзе ў гаі. Значыцца, трэба ўзяць яго ў палон. Інакш задуманае можа праваліцца. І калі сем кавалерыстаў, забыўшыся аб асцярожнасці, уляцелі ў гай, іх акружыў атрад і пагоня была ўзята ў палон.

Рушылі далей. Да маста засталося каля двух кілометраў. Блíснула рака. Схаваўшыся ад дарогі за нізкарослымі кустамі, яна ціха цякла між пясчаных берагоў. Атрад заехаў за кусты і па калена ў вадзе, маскуючыся і захоўваючы поўную цішыню, ішоў да маста. Коні спачатку насторожана храплі і фыркалі, уздрыгваючы ад калючых, халодных, пырскаў, але потым, звыкнуўшыся з вадой, прагна цянуліся да яе.

Вось і мост. Злезлі з коняй. Шэсць чалавек з комузводам, забраўшы ўзрыўныя пакеты ішлі да маста. Ахову—двух байцоў, якія не чакалі нападу і ў цемры палічылі сапёраў за сваіх,—„знялі“ без ўсякага гуку. Пад мастом падпальвалі ўжо шнур і чакалі, пакуль петарды ўзарвуцца. Секунды цяклі вельмі марудна. Думалася, што ўзрываў не будзе, што адсырэлі шнуры. Але вось, падымаючы слупы вады, загрукацелі петарды—адна, дзве, тры, чатыры. Усе. Мост „узарван“. Заданне выканана.

Пабеглі ў кусты. Хутка і спрытна ўзлятаі на седлы і, ужо не хаваючыся, бо дапамагла начная цемра, рыссю варочаліся назад. Але ўзрывы разбудзілі гучнае рэха. Грукат шугануў, ва ўсе бакі поля, па рэчцы да лесу—да „ворага“. Зэаду, наперадзе, з бакоў замільгалі сілуэты пагоні. Пакуль сапёраў не аклікалі і не пыталіся хто яны, прыймалі атрад за свой, які таксама імчаўся ў пагоню за байцамі.

Але вось іх спынілі. Пад'ехаўшы камандзір, з адным ромбам і з белай павязкай на рукаве, пагаварыўшы з камандзірам узвода, сказаў ім, што яны „ў палоне“, што зараз іх абкружыў эскадрон „ворага“. Атрад прывялі ў вёску.

Вострыкаў падыйшоў прыкурыць да кастра каля тэлефонай станцыі. Размокшая папера рвалася і махорка рассыпалася. Баец, што сядзеў над картай і запісваў словы, якія паўтараліся тэлефаністам, моўчкі падаў Андрэю кавалак паперы. Падзякаваўшы, Вострыкаў прысеў на карачкі і, скручваючы цыгарку, мімаволі прыслухоўваўся да слоў тэлефаніста і прыглядаўся да карты. Яму цікава было глядзець на карту, разрысаваную каляровымі кружкамі і крывымі лініямі. Чырвоны аловак байца, які даў яму паперу, рысаваў вузенькую лінію ад вёскі Заліп'е, той вёскі, дзе зараз знаходзіўся атрад, праз лес да маленькага чырвонага сцяжка, які намалёваны каля вышыні 137, 8, а вушы Вострыкава ў гэты час лавілі перадачу тэлефаніста: да палка будзе прыдадзен дывізіён артылерыі і танкеткі. Удар нанесці па сігналу—дзве сінія ракеты, выступіць у час ноль-ноль. Прыбыць да месца назначэння, а чацвертай ноль ноль. Ісці лясным масівам.

Далей паслухаць яму не ўдалося. Падышоў камандзір з двумя квадратамі і, убачыўшы каля кастра „палоннага“, загадаў яму зараз-жа ісці на месца, а тэлефаністам зрабіў заўвагу за тое, што яны ў прысутнасці палонага гавораць аб планах і намерах часці.

Андрэй павольна ішоў да таварышоў. У галаве яго мільгалі словы, якія ён чуў ад тэлефаніста. Перад вачыма паўзла тлустая лінія абходу. Паступова карціна рабілася зразумелай. Вораг рыхтаваў рэйд у тыл. На вышыні знаходзіўся штаб дывізіі. І адразу мільганула думка: трэба папярэдзіць! Але як? Каня няма, а да вышыні, нават калі пападацца па прамому кірунку,—кілометраў чатыры-пяць, а калі з абходамі,—рака, балота трапіцца, і ўсе шэсць будзе.

Расказаў аб усім, што ведаў, камузводу. Рашылі паспрабаваць бегчы кожнаму паасобку—можа хто-небудзь і дойдзе. Комузвода ціха паклікаў да сябе камандзіра аддзялення Тоўстапальцава, шэптам расказаў яму аб задуманым плане, загадаў прывесці атрад на старое месца, калі ўдасца ўцячы з „палона“. Комузвода параіў Андрэю ісці без шынелі і вінтоўкі, узяўшы з сабою толькі працівагаз.

Ноч уступіла ў свае правы. Цёмна. З вёскі паўзлі гародамі, павольна

пералазячы цераз платы. Каля млына разыйшліся: камузвода—управа, а Вострыкаў—прама па вільготнай ад дажджу дарозе. Спачатку ён ішоў, потым, вылічыўшы, што ў яго распараджэнні ўсяго дзве гадзіны, пачаў бегчы.

Лёгка дыхаць халодным начным паветрам, лёгка бегчы па добрай дарозе. Стомленасць не адчуваецца. Андрэй ужо радасна ўяўляў сабе, як ён прыбяжыць у штаб і раскажа аб намерах „ворага". Але хвілін праз колькі сэрца пачала хутчэй біцца, грудзі няроўна ўздымаліся.

„Няўжо не дабягу",—думаў Андрэй.—Павінен дабегчы.

Зачапіўшыся аб бугарок, Андрэй упаў і моцна ўдарыўся аб зямлю. У начной цемры ён збіўся з дарогі. Недалёка цямнеў лес. Мільганула думка аб тым, што ён згубіў дарогу. Куды бегчы? Успомніў, што ён павінен ісці ўвесь час на поўнач. Паглядзеў на неба, хацеў па зорках арыентавацца, але знаёмых зорак не было відаць. Падыйшоў да лесу, успомніў як на лекцыях гаварыў камандзір, што паўночная старана дрэў пакрыта мохам: па невыразных абрысах бліжэйшага тоўстага пня даведаўся, што гэта тое самае месца ў гаі, дзе яны хаваліся, а потым захапілі „у палон" пагоню.

Прыкінуўшы ў думках, адкуль прышлі, парашыў, што трэба падавацца ўправа, там павінна быць дарога і мосцік. І сапраўды: хвілін праз дзесяць Андрэй падыйшоў да мосціка праз абрыў. Перайшоўшы праз мосцік, ізноў пабег.

Вось непадалёку вырысоўваліся абрысы асобных дрэў. Паміж імі ўздымаўся ўзгорак, урэзваючыся сваёй вяршынай у бяскрайную цемру начы.

Камандзір дывізіі зразумеў з першых-жа слоў намер, „ворага". Паглядзеў на гадзіннік. Да нападу засталося 27 хвілін. Андрэй зразумеў: „значыць, я бег гадзіну і трыццаць тры хвіліны". Улічваючы, што ўначы і па незнаёмай, няроўнай мясцовасці—гэта нядрэнна, пахваліў сам сябе. А камандзір дывізіі ўжо выклікаў па тэлефону нейкіх камандзіраў і даваў ім тэрміновыя загады. Скончыўшы рашэнне нечаканай задачы, ён успомніў аб тым, што баец, які расказаў аб гэтым, яшчэ стаіць у палатцы. Выклікаў каменданта і загадаў даць Андрэю моцнага, салодкага чаю, снеданне і ўказаць месца для адпачынку, папярэдзіўшы, каб не будзілі байца, пакуль не прачнецца.

Андрэй еў з вялікім здавальненнем. Дыхаў ён ужо павольна і толькі ледзве адчувалася ў целе нейкая ламата і стомленасць. Ён, з здавальненнем усміхаючыся, выцягнуўся на свежым, халодным ложку і накрыўшыся пушыстай коўдрай, заснуў у палявым лазарэце.

Над лесам узвіліся дзве сінія ракеты. Атрад „ворага", прабраўшыся ў тыл, пайшоў у атаку на „чырвоных", якія, здавалася, нічога аб нападзе ведаць не маглі.

Засада прапусціла атрад у глыб і „мяшок" зацягнуўся. Толькі артылерыйскі дывізіён, які не паспеў прайсці ў глыб абароны, здолеў вырвацца і адыйсці да сваіх. Астатнія пасрэднікі вывялі з строя.

***

На парадзе Андрэй ехаў у першым раду эскадрона. Коні ішлі галопам. Вецер, развяваючы сцяг, ахалоджваў гарачы твар. Вочы Андрэя, як і ўсіх байцоў сапернага экскадрона, былі ўтароплены да трыбуны. Там стаяў той, якому на працягу вучэння яны імкнуліся як мага лепш паказаць сваю баявую вывучку. Андрэй успомніў свой шасцікіламетравы бег з „палона". І здавалася гарэўшымі ад захапленнямі вачмі жадаў перадаць наркому, што ўсё гэта ён рабіў для яго, для сваёй радзімы.

Я. Ліманоўскі

# КАМДЫЎ БЕЛАРУСКАЙ

З глыбінь вялізнага агнявога вулкана, у які злачынна былі кінуты мільёны людзей, над прасторамі мук і смерці, узнялася яна. Агністай віхурай пракацілася яна над векавымі дзяржавамі і дынастыямі. Тры вялікія імперыі палі ў руінах. На шостай частцы зямное кулі, напорным шквалам грамадзянскай вайны, яна распарушвала, развейвала спарахнелыя атрутныя рэшткі „турмы народаў“, расчышчала глебу для сакавітых магутных парасткаў новага шчаслівага жыцця. Цёмныя сілы, магільшчыкі чалавечага прагрэса спрабавалі, у нікчэмнай патузе, скуць яе агнём і жалезам, замарыць голадам, задушыць у пятлі варожых франтоў.

Але, праз часовыя паражэнні, праз балючыя ахвяры і небывалыя цяжкасці ўзрастала, загартоўвалася адпорнасць тых, хто не хацеў звароту ў безрадаснае мінулае,—злучалася ў вялізны адзіны струмень, шырылася бурнай паводкай перамог...

І туды, дзе лясы шумяць на маляўнічых спадах гор,—дзе ў сінява—шызай імгле дымяць заводы, апозненых „сыноў“, пастарэўшага ў маладосці рускага капітала, дзе ўпэўнена і важка, заімшэлым каменем, „парастам дзікім“ старога ладу аселі кулацкія сядзібы; дзе ў пакаленнях людзей цяжкай працы „падзямелля“—гарнякоў і, у тых, хто спазнаў бядоты беззямелля і нэндзу,—даспявала, нібы збожжа пад гарачымі вятрамі, прагнасць жыць,—як варта чалавеку і туды, да спадаў гор высокіх, у Прыўралле,—абуджальным, зазыўным водгукам, нібы рэха зямляўздрыгу, дакаціўся гул магутны перамогшага Кастрычніка...

... Арцінскі рабочы, вымушаны ўдзельнік сусветнай вайны, „ніжні чын“ царскай арміі,—Трыфан Іванавіч Шэвалдзін становіцца арганізатарам савецкай улады ў сваім родным Арці (Краснауфімскага павета) Тут, як і ўсюды, маладая савецкая ўлада, усю сваю творчую энергію аддае мірнаму будаўніцтву новага жыцця. Але стоіўшыся ў закутках цёмныя сілы, з дзікай ненавісцю, рыхтуюць свае забойчыя планы супроць першых маладых парасткаў савецкага ладу. Служка цемры—поп Шаляеў,—дырэктар завода—гэты прыказчык фабрыканта—Падшывалаў, „вернаподданныя“ афіцэры-браты Чашчыхіны,—стракаты букет завяўшых кветак з-пад буржуазнага плоту,—здраднікі захопліваюць уладу ў Арці. Нядоўга яны палююць за Т. І. Шэвалдзіным ды іншымі савецкімі работнікамі (якія вымушаны былі ўцекаць): чырвоны атрад з павета аднаўляе савецкую ўладу ў Арці.

Выразнай глыбокай каляінай лягла тут класавая мяжа: рабочыя заводаў, вясковыя незаможнікі, чэсныя прыхільнікі новага, маладога,—на адным баку; старадаўныя „моцныя мужычкі“—падпорка прагніўшай будыніны царскага ладу, уцалеўшыя аскепкі „былых людзей“, з іх рознастайнымі прыслужнікамі, ды іншыя падскробкі зацвілай буржуазнай дзяжы,—на другім. Сусед з суседам, бацька з сынам, разышліся ў про-

цілеглых кірунках, каб пры сустрэчы размаўляць зброяй. Дзве брыгады сфармаваліся ў Краснауфімскім павеце. Адной камандваў выдатны чырвоны камандзір - Іван Гразноў,—другою—палкоўнік Рычагоў.

Сабраўшы свае сілы кулацкая зграя, сучасны адбітак колішняй дзікай арды,—рушыла на Арці,—рабочае сэрца раёна.

... Было 14-га чэрвеня 1918 года. Пасля дажджа—ліпкае месіва гразі на дарозе.—Няроўныя, свавольныя павевы ветра разганяюць хмарнасць. Бадзёрым крокам, хлюпаючы па гразі, ішлі людзі з вінтоўкамі. Іх не шмат,—усяго трыццаць сем чалавек. Чутны жарты,—іншы з іх заспявае сваю любімую песню.

Гэта—першы арцінскі партызанскі атрад Т. І. Шэвалдзіна ішоў насустрач ворагу. Было вядома, што варожыя сілы куды большыя і Т. І. Шэвалдзін (які ўжо тады паказаў сябе добрым знаўцам ваеннай справы), выбраўшы лепшыя пазіцыі, рашыў чакаюць „старанных землякоў“. „Храбрыя“ кулацкія ваякі, „перамožцы“ сельскіх савецкіх работнікаў, пагромшчыкі безаружных бядняцкіх пасёлкаў, пачалі неўзабаве наступаць; пешых і конных іх было каля тысячы чалавек. З прывязанымі падушкамі, замест сёдлаў, калматая і неуклюдая кулацкая „гвардыя“ скакала на атрад.

Прыпалі да гразкай зямлі арцінскія партызаны, спазіраючы то на варожую „конніцу“,—смешную з выгляду, але грозную па сваёй колькасці, то на свайго камандзіра, чакаючы сігналу. Блізка вораг, а камандзір не спяшаецца падаваць сігнал... Засталося не больш шэсцісот крокаў... Сігнал... Трыццаць сем чалавек паслалі „першае“ прывітанне першым кулацкім „тысячнікам“. Закружыліся коннікі, нібы сухое лісце ў віхры, змяшаліся ў безладдзі і рассыпаліся па полі. Воблака пер'я, пуху, плыло ў паветры... Уцякалі пешыя. Наступалі ўздагон ім трыццаць сем чалавек, завяршаючы сваю першую перамогу.

Так пачалася баявая біяграфія Т. І. Шэвалдзіна, аднаго з выдатнейшых камандзіраў Чырвонай арміі; каля сотні баёў і баявых сутычак адбылося пры яго непасрэдным удзеле.

... Вызваліў атрад ад кулацкіх бандытаў суседнія воласці. Некалькі партызанскіх атрадаў злучылася ў адзін; ішлі ў атрады новыя дзесяткі і сотні. Павялічваліся, аднак, і сілы ворага. У сутычках з ім паступова выцягваўся, у суцэльную лінію, фронт.

Так першыя чырвоныя партызаны, чырвонагвардзейцы сваімі перамогамі, сваёй крывёю цэмэнтавалі падмурак будучай магутнай Чырвонай арміі.

... Пад націскам пераважаючых сіл адступаў арцінскі атрад: пагражала небяспека варожага нападу на Арці.

Баявым чатырахкутнікам адсупае атрад, гераічна абараняецца на кожнай, больш здатнай, пазіцыі. Спыніліся начач у вёсцы Емашы. Т. І. Шэвалдзін выязджае за вёску, каб выбраць лепшую пазіцыю для начной абароны; яго папярэджваюць, што варта выстаўлена за пяць кіламетраў у бок праціўніка. Густая цемра шчыльна ахутала ўзгоркі, лагі, сенажаці. У маўклівай цішы хрускае зямля пад конскімі капытамі, лязгае падкова па камяні. Трыфан Іванавіч праехаў крокаў семсот... І раптам, нечакана, шырокім кругам, акружыла, прытоеная ў цемры, варожая конніца. Зменшаецца круг,—хочуць захапіць чырвонага камандзіра жывым у палон... „Не здавацца“...—запала глыбока ў камандзіравых думках... Стрэлы, гоман, крыкі... Пачулі свае ў вёсцы здагадаліся: напэўна камандзір у небяспецы;... з гучным „ура“ кінулася на выручку. Разарваўся круг, рассыпаўся, знік у цемры...

Некалькі начных атак адбілі паспяхова, пад камандай свайго, выратаванага ад небяспекі, камандзіра.

Цяпер мы пакінем мужны арцінскі атрад каля вёсак Емашы і Нагушы, дзе ён трывала адбіваецца ад пераважаючай сілы белых,—і зірнем на падзеі, што адбываюцца ва ўсёй вялікай краіне і—у малым рабочым Арці.

Прыкрыя цяжкасці наведваюць маладую совецкую рэспубліку. Люты голад данімае рабочыя цэнтры. Кулак—саюзнік голада—сквапна прыхаваў хлеб, чакаючы „добрых старых часоў". Узброеныя атрады рабочых—чырвонагвардзейцаў пайшлі на хлебны фронт, каб здабыць захаваны хлеб.

Шпарка, каламутным ручаем пасля навальніцы, выцягваецца даўжыня франтоў совецкай рэспублікі. Новымі сотнямі тысяч штыкоў трэба прыпыніць паўзучую па совецкай зямлі пятлю, разарваць яе, знішчыць. У чэрвені месяцы 1918 года абвяшчаецца мабілізацыя, якая заклікае пад сцягі Чырвонай арміі працоўны запас прыфронтавых раёнаў.

І ў Краснауфімскім павеце белыя майстры чорных спраў рашылі скарыстаць абвешчаную мабілізацыю. У чатырнаццаці валасцях вакол Арці ўзнялося кулацкае паўстанне на чале з паручыкам Рычаговым (пазнейшым „слаўным" палкоўнікам калчакоўскай арміі).

У самым Арці, пакуль што, было спакойна. Чатырыста мабілізаваных абучаліся вайсковай справе. Іх абучалі ваенныя „спецы" афіцэры Валявін і Чашчыхін. Нельга сумнявацца, што спецы абучалі не толькі ваеннай справе чатырыста мабілізаваных сялян...

Семнаццатага ліпеня 1918 года, калі мабілізаваныя маршыравалі, як звычайна, міма завадскога сада, прагучэў правакацыйны стрэл. „Храбры" Валявін, выняўшы шашку звярнуўся да падрыхтаванай „падвучанай" калонны:

— Нас расстрэльваюць большэвікі! Далоў такую ўладу!

З гэтымі словамі ён павёў атрад на выканком... Совецкая ўлада ў Арці перастала існаваць.

Новая ўлада „ратавальнікаў Расіі" бездакладна пачала сваю „плённую дзейнасць"; яна арыштавала адразу дзвесці пяцьдзесят чалавек—прыхільнікаў совецкай улады. Дваццаць шэсць чалавек (трагічная лічба ў сваёй, хоць-бы выпадковай паўторнасці) прадстаўнік ад „пераможцаў" Петухоў вывозіць з Арці, нібыта на Міхайлаўскі завод, да чэхаславакаў... на „следства"...

На трынаццатым кілометры ад Арці, закутых у кайданы дваццаць шэсць чалавек пазверску забіваюць: мучаць, збіваюць, калечаць, выкалваюць вочы, рэжуць, абпальваюць гарашчай галавешкай.

На пляцы ў Арці, на белагвардзейскім мітынгу, чалавек-звер Петухоў, з самахвальствам прафесіянальнага забойцы, прызнаецца ў сваёй агіднай расправе. Яго прызнанне халодным даждж ом пырснула на лёгкадумныя галовы арцінскіх абывацэляў, на тых хто падаўся крывадушным абяцанням кулацкіх агітатараў.

„Новая" ўлада для ратавання старой Расіі адзначала сябе, будуючы „векапомны курган"... з чалавечых касцей...

... У вёсцы Новым Златаусце восем совецкіх людзей, былі закапаны жывымі. Не адзін совецкі работнік стаў мучанікам разьюшанай банды... Нікіфар Шэвалдзін—брат Трыфана Іванавіча,—быў знойдзены у вёсцы Сажына ў купе забітых, з расшчэпленым чэрапам, са слабымі адзнакамі жыцця. Бацька братоў Шэвалдзіных, стары ў шэсцьдзесят пяць год, мірны жыхар сваёй ваколіцы, якога асабіста нельга было залічыць да рэволюцыянераў,—таксама быў злачынна забіты.

Канстанціна Паўлава, чэснага і скромнага совецкага работніка, які папаўся ў іхныя крывавыя рукі, забівалі аж тры разы—аднавіўшы, у сваім здзічэнні, лютую жорсткасць сярэднявяковых інквізітараў. Першы раз

яго забілі прыкладамі (не было патронаў). Ачуняўшы Паўлаў прайшоў восемнаццаць кіламетраў. Яго злавілі і паўторна забілі...

... У святочны дзень, калі тлусты поп фальшыва і нудна гнусавіў аб „любові да бліжняга", калі ў пропаведзі сваім „чадам" маляваў „лютасць большэвікоў", калі на цвінтары каля сельскай царквы надменна прахаджваліся „лепшыя людзі", калі пакорлівай „беднай сваячкай" стаяла тут і „меншая брація",—Паўлаў прыпоўз да цвінтарнай агарожы. Зб.ты, акрываўлены, з выразам болю і цярпення на твары, жывым дакорам і праклёнам стаў каля агарожы ён—гэты сапраўдным мучанік. Свой тутэйшы чалавек, які нікому не зрабіў ніякай крыўды, шоў, ці правільней, поўз да людзей, шукаць ратунку ў сваім беспарадным трагічным стане...

„Цуд, уваскрос чалавек!—ускрыкнула першай, убачыўшая яго, бабулька і ад забабоннага спалоху стала ўцякаць. Спалохоўся яшчэ сёйтой, убачыўшы жудасную скатаваную постаць напоўжывога чалавека, пра якога ўся ваколіца ведала, што ён двойчы забіты. Ад спалоху і жудасці ўцякалі з цвінтара людзі.

Не ўсе...

Паўлава расстралялі,—на гэты раз знайшліся патроны. Расстралялі тыя, для якіх і бог, і цуды, і ўсё рэлігійнае пустазвонства ёсць толькі сродак для апраўдання крыўды, для павялічэння свайго, нарабаванага, з чужой працы, багацця,—для панавання над іншымі людзьмі.

Іван Гразноў—дваццаці год, быў забіты кулакамі і без адзнак жыцця закапаны ў смеццевай яме. Гразноў быў сынам старшыні краснауфімскага выканкома. Мясцовы фельчар, употайкі ад людскага вока, адкапаў яго... лячыў... Малады арганізм вытрываў у змаганні з неадчэпнай смерцю. Гразноў уцёк ад сваіх магільшчыкаў. Ён стаў камадзірам палка Чырвонай арміі, а пазней камандзірам першай Краснауфімскай брыгады. Са сваёй брыгадай ён стаў героем разгрома Калчака, героем памятнага боя на Чонгарскім перашыйку. Зараз Гразноў—адзін з выдатнейшых камандзіраў Чырвонай арміі.

Вось няпоўны спіс „заслуг" тых, каму совецкая ўлада велікадушна не адабрала жыццё тады, калі яны здрадніцкі захапілі ўладу ў Арці.

Але якім доўгім спіскам можна вычарпаць іхнія „заслугі" на ўсім прасторы неабсяжнага СССР!

Вось чыім саюзнікам выступілі ў той час чэхаславакі.

Адкуль з'явіліся гэтыя выканаўцы першай інтэрвенцыі?

У часе сусветнай вайны чэхаславацкія нацыяналісты агітавалі супроць спарахнелай аўстра-венгерскай імперыі Франца-Іосіфа, якая старэчымі касцістымі рукамі душыла нацыянальныя меншасці. Яны жадалі паражэння аўстра-нямецкай кааліцыі. Яны спадзяваліся, што за пераможным гулам антантаўскіх гармат, з руін разбуранай манархіі ўтворыцца чэхаславацкая дзяржава. Масамі перабягалі чэхаславакі з аўстрыйскай арміі ў расійскі царскі палон... Антанта спяшалася скарыстаць новую порцыю „гарматанага мяса".

Пасля лютаўскай рэволюцыі ў красавіку месяцы была створана першая чэхаславацкая дывізія,—пазней, ў чэрвені,—другая. Да Кастрычніцкай рэволюцыі існаваў чэхаславацкі корпус—сорак тысяч штыкоў.

Совецкая ўлада забяспечвала адпраўку чэхаславакаў у парты, каб яны маглі вярнуцца дамоў. Лояльна і мірна абыходзілася совецкая ўлада з палоннікамі царскай Расіі.

Але іншую ролю вызначыла чэхаславакам Антанта: яны павінны стаць галоўным атрадам інтэрвенцыі для задушэння пролетарскай рэволюцыі. Вялізную суму грошай асыгнавала Антанта для падкупа каманднага склада... „За гэтыя грошы была прададзена чэхаславацкая армія

французскім і англійскім імперыялістам". (Ленін)... За гэтыя грошы была куплена кроў рускіх рабочых і сялян.

Адпаведна з воляй заходня-еўрапейскіх залатых мяшкоў чэхаславацкі корпус падняў зброю супроць совецкай улады, захапіў сярэдняе Паволжжа і большую частку вялікага Сібірскага шляху, каб адрэзаць цэнтр Совецкая рэспублікі ад сібірскага хлеба, злучыць, іншыя атрады інтэрвентаў, арганізаваць контррэволюцыйнае войска ўнутры РСФСР.

З якім пачуццём можна гаварыць сёння аб гэтым акце?

Напластаванне, створанае пятнаццаці-гадовым адрэзкам гісторыі,—рэчаіснасцю адносін перамогшай совецкай краіны з народамі, што жывуць іншым грамадскім ладам,—хавае, змяншае некаторую вастрату мінулых дзён. Таму сягнем променнем пачуцця ў мінулае за поўтара дзесятка год, каб зблізку зірнуць на гэтыя падзеі і ацаніць іх.

Недаўнія змагальнікі за ўтварэнне сваёй бацькаўшчыны, на падставе ідэі самавызначэння народаў, сталі лютымі прыгнетальнікамі ў чужой краіне. Тыя, хто нібыта хацеў вырвацца з купцюроў чорнага аўстрыйскага драпежніка-арла, самі выпадковыя, непрошаныя госці ў чужой краіне, імкнуліся аднавіць панаванне горшага расійскага двухгаловага драпежніка.

Былі паходы ў гісторыі, аб якіх чалавецтва не ўспамінае з праклёнам. Заваявальніцкія напрыклад, паходы Наполеона ўсёткі знішчалі рэшткі з касцянелага феадалізма, гэтай перашкоды на шляху поступа і прагрэса. Здрадніцкі паход чэхаславакаў гісторыя вызваленага чалавецтва запамятае як адзін з найбольш ганебных. З усіх спосабаў зганьбіць сябе яны выбралі самы горшы.

Афіцэры, буржуазія,—рэч звычайная,—чэхаславацкая, польская, нямецкая, японская ды іншыя,—аднолькава здольна на подласць перад людзьмі працы. Але неспакойнае сумленне павінна быць у салдат, удзельнікаў пахода. Навокал бушавала рэволюцыя, знішчаліся агідныя рэшткі буржуазнага і афіцэрскага „дзяржымордства", а яны,—адурачаныя начальствам, буржуазнымі прыслужнікамі эсэрамі, як бязвольныя бараны, выканвалі загады і заданні чужой справы. Ёсць межы, па-за якімі несвядомасць не толькі нешчасце, але—злачынства.

... Новае пакаленне працоўных чэхаславакаў уступае ў жыццё з неаплачаным рахункам змыць пляму, якую пакінулі на старонках гісторыі былыя палоннікі царскай Расіі.

Чэхаславакі ў сутычках з чырвонаармейскімі атрадамі не вызначаліся асаблівай храбрасцю, яны былі больш „героямі тылоў". Карныя экспедыцыі, экзекуцыі, расстрэлы, рабаванне маёмасці, здзекі над насельніцтвам...—вось галоўная дзейнасць дапаможнікаў, сумнай памяці, „правіцелі Расіі"—Калчака.

І ў Прыуральлі, дзе распачалася зацятая бойка паміж двумя соцыяльнымі класамі не адбылося без удзелу чэхаславакаў. Невыпадкова кулацкі кат Петухоў вёз дваццаць шэсць мучанікаў да чэхаў на Міхайлаўскі завод.

Весткі аб падзеях у Арці, аб дзікай расправе над совецкімі работнікамі хутка дайшлі і да атрада Т. І. Шэвалдзіна. Памкнуліся байцы ісці ў сваё роднае Арці, каб, палічыцца з подлымі злачынцамі. Аднак спыняе іх імкненне новы баявы загад. Белыя акружылі павятовы цэнтр—Краснаўфімск; небяспека набліжаецца,—атраду загадана ісці туды; нельга марудзіць ні аднэй хвіліны. Атрад размясціўся на фурманках і доўгім рухлівым дзесяцікілометровым шнурам выцягнуўся па дарозе.

Але як абмінуць Арці... Камандванне атрада ўступіла настойлівым просьбам байцоў, каб па дарозе зайсці і ў Арці.

І вось на арцінскай плошчы, там, дзе славуты Петухоў хваліўся сваімі катаўскімі заслугамі, грозна бухнуў снарад—першы звястун набліжэння арцінскіх чырвоных герояў. Арцінскае белае войска, больш храбрае ў расправе з бяззбройнымі мірнымі людзьмі, кінулася ўцякаць пад утульнае крыло сваіх абаронцаў-чэхаславакаў. На плаціне стварылася небывалая чарга. У паніцы беглі людзі, падалі коні, ламаліся колы... Арцінскія „пераможцы“ уцякалі на Міхайлаўскі завод. Ім на гэты раз пашчасціла: абходная група пад камандай Крашэннікава, спазнілася, не паспела адрэзаць адступленне.

Без супынку праходзяць чырвоныя арцінцы праз ачышчаны ад ворага Арці. Іх не звабіць адпачынак у зацішнай рупатлівасці роднай сям'і...

На трынаццатым кілометры яны бачаць жудасны малюнак яшчэ нядаўняй расправы—наяўны след прайшоўшага двуногага звера.

Пад напорам чырвоных арцінцаў разарвалася, расшырылася варожае кола каля Красноуфімска. Але вораг не пакідае надзеі на баявое шчасце, дзякуючы сваёй колькаснай перавазе. На працягу тыдня адбіваюцца ягоныя атакі.

З партызанскіх атрадаў фармуецца чацвертая Уральская дывізія. Першая Красноуфімская брыгада ўступае ў дывізію са значным баявым стажам, з пачэсным спісам баявых перамог.

Так нараджаецца ў віры боек рэгулярная частка Чырвонай арміі.

Так, больш арганізавана і напорна, працоўныя Прыуралля сустракаюць ворага.

...Памятаюць нядаўнія арцінскія партызаны, зараз чырвонаармейцы дзвесці шэсцьдзесят другога палка, жорсткія баі каля гары Бабайка; памятаюць як камандзір трэцяга батальёна Мацвеяў раз'яжджаў на каламажцы (хварэў на рэўматызм ног) пад кулямі праціўніка, аддаваў загады,—як ён абышоў ворага з правага фланга, прымусіў яго здаць выгадныя пазіцыі. Мацвеяў былы унцер-афіцэр, сваімі ўдалымі манеўрамі і атакамі перамагаў афіцэрскіх белых „спецаў“.

Шмат баёў той цяжкай восені 1918 года яны з гордасцю могуць успомніць.

Прыкрай навіной быў загад пятнаццатага верасня: адступіць на сто кіламетраў. Балюча было чырвоным байцам адыходзіць з родных мясцін, якія яны баранілі з такой вялікай самаахвярнасцю. Да болю шкода і трывожна было пакідаць сваіх родных і блізкіх на расправу разьюшанай зграі. Шмат сем'яў такі не асталося, а пайшло ўслед за чырвонымі байцамі.

Адступаюць красноуфімцы, мужна абараняючы кожны кілометр.

Вось адзін з баявых рэдутаў,—Пясчаная гара. Іркуцкая дывізія белых энергічна наступае на Пясчаную гару, дзе замацаваўся дзвесці шэсцьдзесят другі полк пад камандваннем баявога кіраўніка арцінскіх партызан—Т. І. Шэвалдзіна. Усе атакі белых адбіты з вялікімі для іх стратамі. На досвітках, пасля трывожнай баявой ночы, з моцным артылерыйскім агнём ізноў наступае вораг; але ізноў, засцілаючы поле забітымі, ён прымушан адступіць. Полк пераходзіць у контрнаступленне, займае новыя вёскі і гатоў ізноў наступаць на пакінутае Арці.

Новы загад вяртае іх на Пясчаную гару. Золкая сцюжа дакучліва і ўпарта данімае чырвоных байцоў. На пустыннай гары выкапваюцца землянкі , акопы,—здабываюцца жалезныя печы; чырвоныя рыхтуюцца да доўгай упартай абароны. Ізноў падступае вораг. І новыя яго атакі ён праігрывае з вялікімі стратамі. Чырвоныя байцы спаборнічаюць у сваім геройстве. Вось, напрыклад, кулямётчык Іван Парамонаў. Ён са сваім кулямётам наперадзе. Трапным агнём ён знішчае адзін ланцуг

працiўнiка за другiм. Выстраляў Парамонаў усе патроны, а вораг усё напiрае. Тады Парамонаў схапiў вiнтоўку i з крыкам „ура“ кiнуўся наперад, падбядзёрваючы i ўцягваючы за сабой сваiх таварышоў...

Чырвоныя адчуваюць недахватку харчоў, няма паблiзку вёсак i населеных пунктаў. Гаспадарчая каманда, абходнымi дарогамi, дабiраецца да харчовых складаў працiўнiка i там „загатаўляе“ прыпасы. Насоўваецца голад—золкая сцюжа выпрабоўвае трываласць байцоў, не спыняюцца варожыя атакi. Але, знiтаваныя свядомай дысцыплiнай, умелым камандваннем свайго кампалка,—мужна трымаюцца чырвоныя на Пясчанай гары—перагараджваючы наступ працiўнiка.

Левы фланг чырвонага фронта iзноў пад пагрозай абходу. Iзноў адступаюць чырвоныя байцы, далей ад свайго роднага Прыуральля.

У лiстападзе месяцы, 19.8 года разагнаўшы эсэраўска-кулацкую „учрэдзiлку“, у Сiбiры захоплiвае ўладу царскi адмiрал Калчак. Пры дапамозе Антанты шпарка фармуюцца белыя дывiзii. На Уфiмскiм кiрунку дзейнiчае сiбiрская армiя пад камандай генерала Гайды: сорак сем тысяч штыкоў, пяць тысяч сабляў, сто дваццаць гармат. Супроць ёй змагаецца трэцяя Чырвоная армiя: дваццаць сем тысяч байцоў, пяцьдзесят дзевяць гармат.

У няроўных баях радзеюць рады першых чырвоных партызан, гiнуць лепшыя кадры. За адступаючымi чырвонымi байцамi крочыць наўздагон сцюжа; няма полшубкаў, целагрэек, вайлакоў,—праз старыя, падзёртыя шынелi востра шчыпле сцюдзены вецер.

Iзноў на дзесяткi кiлометраў, каб не быць абкружанымi, адступаюць краснауфiмцы.

Новы Год! Стаяць у цiхай задуме заснежаныя велiчавыя прыкамскiя лясы. Мягкiмi хлапкамi пушыстай ваты ляжыць снег на маладых хвойках, на непрацёртай дарозе, на гладкай пасцелi лясных палян. Пуста, на глухiх зiмнiх дарогах. Толькi заячы след ляжыць на снезе, нiбы ўзоры на абрусе, дзiўнымi звiлiнамi,—ды з верхавiнак высокiх дрэў пудлiва пазiрае непакойна рухлiвая жыхарнiца лясоў—белка. Дыямэнтавымi зоркамi з‘зяе снег на сонцы. Маўклiва ўрачыстая цiшыня i нестрывожаны супакой навокал! I можа таму так адчувальна шчэмiць сэрца жалем, крыўдай, боллю.

Новы Год! Што з iм прыдзе ў трывожныя нягоды баявога жыцця, з якiм вынiкам закончацца яны? Хутка-ж прыдзе той чаканы дзень, калi ўдасца скрышыць iм варожую навалу? Якi лёс спаткаў там родных, блiзкiх,—каго вымушаны былi яны пакiнуць? Цi далёка тая невядомая хвiлiна, калi з гордым адчуваннем перамогi, з непакойным запытаннем: „што сталася“ яны зноў убачаць родныя мясцiны? Над шчэмлiвай крыўдай часовай неўдачы i наведваннем прыкрыга сумнення цеплiцца трывалая надзея i вера ў перамогу той вялiкай справы, для якой яны перажылi немала цяжкасцяй i баявых нягод.

З такiмi думкамi, сумнымi, але бадзёрымi iдуць у Новы год чырвоныя байцы праз цiшыню лясоў, ды рэдкiя прыкамскiя сядзiбы.

Не ашукала надзея тых, хто не стаў бяздзейна на дарозе ў маўклiвым чаканнi, а хто трывала, напорна шоў праз бурную навальнiцу небяспек i цяжкасцяй, да сваёй мэты.

Пра такiх гаварыў вялiкi паэт:

„... ясен предо мной
Конечный вывод мудрости людской;
Лишь тот достоин жизни и свободы,
Кто каждый день за них идет на бой.
Всю жизнь в борьбе суровой, непрерывной
Дитя и муж, и старец пусть ведет,

Чтоб я увидел в блеске силы дивной
Свободный край, свободный мой народ.
Тогда сказал-бы я: мгновение
Прекрасно ты, продлись, постой!
И не смело-б веков течение
Следа оставленного мной.

(Гётэ, „Фауст").

... Новы год—тысяча дзевяцьсот дваццаты—сустрэлі камандзір і чырвоныя байцы дзвесце шэсцьдзесят другога палка ў далёкай Сібіры разбройваючы калісьці грозную трэцюю армію „правіцеля Расіі". За імі асталіся тысячы кілометраў, пройдзеных з пераможнымі баямі.

Ураджайны на перамогу Чырвонай арміі быў самы грозны тысяча дзевяцьсот дзевятнаццаты год, які не забудуць пакаленні.

...Грозная небяспека цёмнай навальніцай сунецца з усходу на Совецкую рэспубліку. Прагныя кіпцюры контррэволюцыйнай здані смяротнымі кручкамі выцягваюцца туды да Масквы. На здратаванай, спаласаванай,—нібы поле пасля буйнага граду—зямлі сцеліцца дым пажараў, чарнеюць смяротныя кручкі шыбяніц; прыглушаным рэхам стогне працоўная зямля. Дэмон контррэволюцыі—Калчак ліхаманкава спяшаецца прайсці, са сваёй ардой, Волгу яшчэ да разводдзя, каб адтуль ісці на Маскву,—каб адтуль выцягнуць лінію фронта на поўнач, праз Шанкурск, злучыцца з паўночным белым фронтам. Хутчэй за Волгу, каб разводдзе вялікай ракі не спыніла задуманы паход.

Вось недалёка і Волга: у некаторых мясцінах фронта асталося да яе не больш трыццаці кілометраў.

Вялікія сілы кінуў Калчак на Урал, каб зламаць супраціўленне уральскіх рабочых—захапіць гэты важны,—у стратэгічных і эканамічных адносінах,—раён, захапіць чыгуначныя шляхі, абыйсці левы фланг чырвонага фронта, злучыцца з інтэрвентамі на Поўначы. Сіл трэцяй Чырвонай арміі, якая абараняла Урал, не хапала, папаўненне было не наладжана. Праціўнік абыходзіў фланг. Стомленыя неспыннымі баямі, на расцягнутым фронце, пры адсутнасці, іншы раз, сувязі паміж сабою, пры кепскім забеспячэнні харчамі і боепрыпасамі,— чырвоныя часці, ў цяжкіх умовах боя, вымушаны былі адступаць.

Смяротная навала сунецца з усходу. З каманднай вышыні геніяльны Ленін бачыць, дзе найбольшая пагроза. Шмат франтоў, шмат ворагаў у Совецкай рэспублікі. Ленінскі план—біць ворагаў рэволюцыі па чарзе. Хоць Совецкая рэспубліка акружана варожымі, франтамі, хоць адусюль напірае вораг,—аднак самы небяспечны з іх—Калчак.

Сталін, Дзяржынскі абследваюць найбольш небяспечны і слабы вучастак усходняга фронта—трэцюю армію. Па іхнай прапанове шэраг мерапрыемстваў праводзіць партыя. Троцкі мяркуе адбіць Калчака за Урал, замацавацца там і перакінуць значную частку сіл на Паўднёвы фронт. Гэта ратавала-б Калчака. (Прадажніцкая роль Троцкага тут відавочна. Ленін,—партыя адхіляе план Троцкага, дае дырэктыву і прымае энергічныя захады для поўнага разгрома Калчака.

Усе на Калчака! З неабсяжных прастораў Совецкай рэспублікі, з далёкіх сёл, з рабочых цэнтраў на фронт ідуць новыя папаўненні. На падмогу зморыным ў няраўных бойках чырвоным байцам прыбываюць свежыя сілы. Небяспека яшчэ больш загартоўвае іх.

Не ўдалося адміралу пераступіць за Волгу. Непарушным мурам стаў чырвоны фронт. Чэрвень тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года— і чырвоны фронт пасунуўся на ўсход, адціскаючы адміральскія палкі.

Чэрвень—дзевятнаццатага года—першая гадавіна баявых цяжкасцей,

перамог і мужнай абароны,—гадавіна з таго часу, як трыццаць сем арцінскіх партызан шлі па гразкай дарозе, насустрач ворагу. Не адзін з адважных краснауфімцаў за гэты год паклаў сваю галаву на баявых палях. Але полк,—пад камандай свайго баявога камандзіра Т. І. Шэвалдзіна, які—акрамя асабістай адвагі,—паказаў ужо тады вялікія здольнасці ў складанай ваеннай справе,—як адзін з лепшых палкоў Чырвонай арміі,—рушыў у пераможны паход на вялікі Сібірскі шлях.

Праз год змянілася, стала не той, калчакоўская армія. Развеяўся чорны дым першых калчакоўскіх перамог. Прайшло цяжкае пахмелле неўдаўшагося крывавага „похода на Маскву".

Серадняк глянуў навакол вачыма цвярозай развагі. Ён убачыў, што ўслед за Калчаком вярнуўся памешчык, вярнуўся ненавісны стары паліцэйскі лад жыцця. Ён убачыў, што з генераламі ды памешчыкамі яму не па-дарозе. Жорсткасць белага рэжыма, звярыны тэрор, крывавыя экзекуцыі паскорылі фармаванне класавай свядомасці ў працоўнага насельніцтва. Серадняк зрабіў свой выбар: разам з вясковай беднатой, з пролетарамі гораду ён пашоў у партызанскія атрады, ён пахістаў стойкасць калчакоўскай арміі.

Антантаўскае золата выплачанае чэхаславацкім афіцэрам не стала агульным ізалятарам ад рэволюцыйнай „заразы". Чэхаславацкія салдаты пачалі бунтавацца. Для перадавых ліній фронта чэхаславацкае войска аказалася нездатным. Чэхаславакі становяцца „героямі тыла": з „надзейных" кадраў фармуюцца карныя экспедыцыі супроць партызан,—выконваецца паліцэйская служба ў тыле.

Захістаўся селянін у калчакоўскай арміі, стварыў у ёй непапраўныя шчыліны...

... Пад Камай адбываюцца жорсткія баі. Чырвоныя вымушаны былі адступіць. Забіты комбрыг Паўлішчаў. Хоць і зморaны цяжкімі баямі, чырвоныя дружна набеглі на акопы праціўніка. Дорага заплаціў той за комбрыга, за сваю часовую перамогу. Да белых прыбываюць рэзервы. Чырвоныя байцы адступілі недалёка. А знішчальны іх агонь сведчыць, што яны пойдуць ізноў у атаку, што зноў дорага заплаціць вораг. Блізка сышліся два фронты. Чутна, што дзеецца ў варожым стане. Чутна, што калчакоўцы просяць перамірра. Не самавіта адчуваюць яны пад такім дружным агнём. Сцішылася страляніна, ціха стала на полі паміж франтамі...

Тады стары баец Макараў вышаў з гармонікам, заспяваў... „За власть Советов" і пашоў на сярэдзіну поля паміж акопамі. За ім пашла яшчэ група байцоў. Сталася дзіўна: раней нельга было і зірнуць з акопа, каб не стаць мішэнню для трапнай кулі. А цяпер група байцоў пашла па полю і, ніводнага стрэлу. Калчакоўцы вышлі насустрач. Сышліся нядаўнія ворагі. Макараў абняў і пацалаваў барадатага калчакоўца. А калі Макараў заіграў „Плясавую" нядаўнія ворагі, пайшлі ў скокі, як на вясёлым сельскім ігрышчы. Весела, безрупатна гучэла знаёмая мелодыя, барадатыя і безвусыя жвава выкідвалі абсацамі і шлі „у прысядку". То сустрэлася рускае сялянства, праз трагічную несвядомасць адных, разлучанае на два лагеры.

Весела стала на полі паміж снегавымі акопамі. З калчакоўскіх акопаў прыбываюць яшчэ ахвотнікі. госці гэтай незвычайнай вечарынкі.

І раптам у прадвячэрняй цішыні пачулася адтуль:

... „Першы кулямёт, агонь!"

Змоўк гармонік, спыніліся скокі і, цень трывогі легла на тварах. Убачыў братанне афіцэрскі батальён... убачыў грозную для белых перасцярогу, спазнаў трывожную адзнаку ў незвыклай франтавой сустрэчы.

... „Другі кулямёт,—агонь!"

Нібы грузкая і гулкая машына, пасля кароткага супынку застукалі паспешна кулямёты.

Недаўна белыя салдаты разам з чырвонымі байцамі прыпаўшы шчыльна да зямлі паўзлі ў сцюдзёныя акопы... Нядаўна „белыя“ салдаты адказвалі дружным агнём сваім нядаўным камандзірам...

За Чырвонай арміяй услед шоў дапаможны абоз сялянскіх фурманак. Іншы раз у найбольш цяжкія хвіліны боя фурманшчыкі з трывогай пазіралі на блізкі фронт.

— А нашы, брат, быццам адыходзяць,—схадзіць у атаку ці што,— звяртаецца селянін да сваіх суседзяў.

— Дык пойдзем, хіба!.. Грыгор, Сямён, Даніла Карпыч,—сходзім у атаку,—нашыя адыходзяць. Значыць няўстойка,—адказвае сусед, заклікаючы іншых.

З трывогай, затоеннай дзелавітай зацікаўленасцю назіраюць яны за „неустойкай“ чырвоных. А затым пабраўшы вінтоўкі, паўтара дзесятка селян ідзе, як на звычайную талаку, уліваецца ў рады чырвонаармейцаў. Ім насустрач пападаюцца адзін другі: напалохаўся, адступае.

— Куды прэш! Што, гайка аслабла? Паварачвай! Мы падможам.

Так хадзілі ў атаку фурманшчыкі. Іншыя з іх, схадзіўшы пару разоў на падмогу, так і аставаліся чырвонаармейцамі на ўвесь час барацьбы з Калчаком: яны прышлі і на поўдзень, на Врангеля, каб „падмагаць“ рэспубліцы, у яе „неустойцы“.

Усё большыя шчыліны расшчаплялі прымусовае „адзінства“ калчакоўскай арміі. Ненадзейнымі ваякамі сталі белыя салдаты. Афіцэрскія палкі і батальёны ставіліся з тылу мабілізаваных палкоў. Такім апошнім спосабам Калчак імкнуўся падтрымаць пахістаную баяздольнасць мабілізаваных сялян.

З поўдня, праз пяскі казакскіх стэпаў шлі на Калчака напорнай хваляй, пятая армія пад камандваннем Фрунзе і другая пад камандваннем Тухачэўскага. Да Уральскіх гор цясніла адмірала, вярталася пераможніцай, трэцяя армія. Вызваленыя ад генеральскай улады, ад крывавага разгула і распраў,—Пермь, Кенгур, Краснауфімск,—віталі пераможныя чырвоныя палкі.

Адыходзіла з цяжкімі стратамі, усё далей і далей на ўсход, праз неабсяжныя сібірскія прасторы, пабітая арда сучаснага Мамая.

Апошнюю адчайлівую спробу робіць устрывожаны Калчак, каб затрымацца на Табольскім, выгадным для абароны, плацдарме, у восень дзевятнаццатага года. У разгоне адступлення ён не здолеў утрымацца на Таболе і чырвоныя палкі прайшлі за гэты надзвычайна выгадны рубеж. Калчак кінуў усе свае рэзервы, перагрупоўваючы свае сілы, пераходзіць у адчайлівае наступленне. Зmoраныя ў доўгім паходзе, у неспынных цяжкіх бойках, пад напорам свежых сіл крыху паадаліся чырвоныя байцы.

Утрымаць Табольскі плацдарм! Пакуль падойдуць падмацаванні, пакуль адбудзецца перагрупоўка. Утрымаць такі надзвычайны стратэгічны рубеж; інакш—вялікія ахвяры будуць патрэбны каб яго ізноў узяць. Такі загад чырвоным байцам.

Нешырокая паласа зямлі паміж вазёр і балот перарэзаная паўнаводнымі рэкамі,—гэта Табольскі плацдарм. Тут сабраў вораг лепшыя свае сілы.

У адным з баёў за Таболам дзвесці шэсцьдзесят другі полк прымушаны быў адыйсці.

Т. І. Шэвалдзін развражае, што праціўнік можа абыйсці полк з фланга. Каб папярэдзіць гэты абыход, Т. І. Шэвалдзін дае загад камандзіру батальёна Панычаву адыходзіць са сваім батальёнам па другой, бакавой дарозе.

Цёмная восеньская ноч,—праз некалькі крокаў нічога не відаць. Гразкая прасёлачная дарога;—дзе-ні-дзе сустракаюцца палі, лясныя паляны. Шуміць нудным шоламам тайга, злавесна шаночуць хмызнякі.

Панычаў ехаў за разведкай. За ім, на пэўнай адлегласці, конныя связісты. А там, у тыле,—роты... Разведчыкі прышпорылі коняй, зніклі ў цемры.

Панычаў ехаць павольна. Справа роўнядзь лясной паляны, ці пустога увосень поля. Злева шумяць хмызнякі.

... Раптам блізка, з хмызнякоў прагучэла „ура". І праз хвіліну камандзір апынуўся ў цесным коле калчакоўскай кавалерыі. Захапілі...

Связісты рассыпаліся ў цемры. „Дзе батальён? Што з ім? Ці праб'еццa?"—Непакойна думаў камандзір, пакуль яго, праз хмызнякі і куп'ё гналі кудысьці. За хмызнякамі на полі замільгалі вясковыя агеньчыкі. Стаў камандзір батальёна перад жорсткім поглядам палкоўніка... Допыт... Камандзір назваўся ардынарцам. Цвердзіў, што нічога не ведае. Палкоўнік павышае голас... Не памагае гэта... Палкоўнік быццам спяшаецца. Камандзіру батальёна завязалі рукі, прывязалі вяроўкай да сядла. Пад канвоем кавалерыста зноў пагналі кудысьці за вёску.

„Куды? Навошта? Што будзе далей? Ці праб'еццa батальён"—наведваюць камандзіра неадступныя трывожныя думкі.

Коннік у незвыклай цемры збіўся з дарогі, вярнуўся ў вёску...

... Батальён учуў, што наперадзе адбылася нешта трывожнае. Спыніліся роты. Связісты прывезлі весткі, што дарога адрэзана калчакоўцамі. Сышліся камандзіры, раяцца што рабіць у небяспечным становішчы, як дзейнічаць, у якім месцы лягчэй прабіцца. Веставы камандзіра батальёна прыехаў яшчэ з горшай весткай: калчакоўцы захапілі камандзіра батальёна... І гэтая нерадасная вестка быццам развеяла ўсялякія сумненні і стала нібы баявым загадам.

„Выручыць камандзіра батальёна!"—ціхім сігналам, нібы водгук неулоўнай думкі, хутка абягае роты. Выручыць камандзіра хоць была бы цэлая дывізія белых!

Але дзе стаіўся вораг? Як яго знайсці—пад пэўнаю аховай цішыні і цемры?

І, без доўгай развагі над палянамі і хмызнякамі прагучэла магутна грымотным ударам „ура". І рэхам далёкім азваўся вінтовачны і кулямётны гул.

Страсанулася ціша. Рынуліся ў атаку чырвоныя роты праз хмызнякі, шукаючы ворага. Хоць большыя сілы былі ў ворага, але раптоўны напад і паніка пахіснулі яго шэрагі і ён паспешна ўцякаў. У палахлівым уцёку забыў вораг пра палоннага камандзіра, загубіў у панічным бязладдзі.

Своечасова прывёў Панычаў свой батальён на вызначанае месца...

... Адступае працiўнік. Два яго ар'ергардных батальёны замацаваліся, прыкрываюць адыход. Дзвесці шэсцьдзесят другі полк яны сустрэлі моцным кулямётным агнём. Атака з фронта—лішнія ахвяры, а збіць батальёны—патрэбна хутка.

Т. І. Шэвалдзін прыняў план аперацыі.

Пайшла ў абыход конная сотня. Вылучылася чалавек пятнаццаць: камандзір палка Т. І. Шэвалдзін, начальнік коннай сотні Баталаў, камандзір батальёна—Мацвеяў,—пятнаццаць смельчакоў пайшлі яшчэ далей, у тыл. Пры бездарожжы і цемры на абход патрабавалася бадай уся ноч. На досвітках агледзілі становішча: шэрая раўніна наперадзе, налева балота з карчавымі хмызнякамі. Нечакае працiўнік нападу адтуль. Немагчыма сюды прабрацца—так меркуе ён.

... У шэрані досвіткаў пятнаццаць чалавек на чале з камандзірам

палка, атакуе два батальёны. Адначасова з фронта і фланга атакуюць чырвоныя. Але найбольшы спалох ахоплівае ворага ад нападу з тылу, хоць нападаючых толькі паўтара дзесятка. Дык у паніцы не злічыш колькі іх, а ў беспамяцці толькі ўспомніш што для ўцёку ёсць паслушных пара ног.

У паніцы пабеглі два батальёны. Па дарозе ў трасучай каламажцы, як мага хутчэй, уцякае афіцэр.

Моцныя ар'ергарды былі збіты ўдалым і адважным манеўрам Т. І. Шэвалдзіна, які ў сваёй баявой практыцы не раз паказаў адзнакі вялікай асабістай адвагі і высокай якасці баявога камандзіра.

... Шэрай каламутай блішчаць вазёры у цмяным святле восеньскага дня. Каля возера цёмнымі аднастойнымі купінамі рассыпалася вёска Шалепава. Дзвесці шэсцьдзесят другі полк мужна адбівае ўпартыя атакі праціўніка. І камандзір, і байцы памятаюць: „Табольскі плацдарм утрымаць!"

Праціўнік падцягнуў рэзервы і са свежымі сіламі пашоў у атаку. Правы фланг палка аголены. Трывожыцца за гэта месца камандзір палка, але няма рэзерваў і нельга фронт расцягваць далей. Абходам з фланга прарвалася варожая кавалерыя. Чацвертая рота акружана. Рота пастроілася ў карэ. Націскае несупынна вораг, імкнецца знішчыць баявую роту. Зарублены камандзір роты Балахонцаў. Пад шаблёвымі ўдарамі пала не мала байцоў. Тапнее, як апошні снег вясной, горстка абаронцаў. Баронячыся геращна ў няроўнай бойцы, рэштка роты была прыціснута да возера. У восеньскую сцюжу байцы залезаюць у возера, па шыю ў ваду,—адстрэльваюцца з чаротаў. У трагічным становішчы, на незвычайнай „пазіцыі" геройна бароніцца частка роты, дастойная свайго компалка.

Так біўся за Тоболь дзвесці шэсцьдзесят другі полк!

Чырвоная армія, якая можа так бараніцца, здольна перамагаць.

Табольскі плацдарм быў утрыманы. Не малых ахвяр каштавалі праціўніку, яго, поўныя злога адчаю, патугі прарвацца ў новы наступ, або хоць спыніць на Табольскім плацдарме наступленне Чырвонай арміі.

Барацьба за Тоболь, гэта лебедзіная песня Калчака. Гэта апошняя праява пэўнай баяздольнасці яго арміі. Пасля Таболу не мог Калчак спыніць напору чырвоных палкоў.

Адступае Калчак у глыбіню Сібіры, як затраўлены воўк паміж вогнішчаў,—паміж баявых атрадаў сібірскіх партызан. Партызаны знішчаюць не толькі тылы і абозы калчакоўскай арміі. Кепска ўзброеныя самадзельнымі стрэльбамі, самадзельнымі гарматамі, яны змагаюцца нават з баявымі часткамі калчакоўскай арміі.

Набліжаюцца чырвоныя да сталіцы крывавага „правіцеля Расіі",— Омска. Па Сібірскіх стэпах, па таежных дарогах, праз рэкі і пушчы—доўгімі пераходамі неспынным маршам гоніць Чырвоная армія крывавага адмірала ўсё далей і далей на ўсход. Сібірскі партызан сустракае калчакоўскія банды на шляхах іх адступлення. У глыбокіх снягах, пры саракаградусным сібірскім марозе не зменшаецца чуйнасць партызана.

Каля вогнішча ў глухой тайзе, на кароткім адпачынку перад новым „паляваннем" на падбітага, але разьюшанага двуногага звера, ён безрупатна спявае песню пра Калчака:

„Мундир английский,
Погон российский,
Табак японский,—
Правитель Омский".

У безнадзейнай роспачы спрабуе вораг абараніць сваю сталіцу.

Ноч марозная! Сярдзіта кружыць вецер снегавым буранам. Блізка, за ракой Ом—сталіца белага „правіцеля“ ахопленая трывогай.

Праз раку у наступ пайшлі чырвоныя байцы. На рацэ, туды бліжэй да варожага берага, падарваны лёд. Моцным артылерыйскім і кулямётным абстрэлам сустракае праціўнік. Наступаць праз зыбкія ледзяныя крыгі нельга. Але загад: не адступаць. Прыцягнуць увагу праціўніка ў гэтым месцы, пакуль удалым манеўрам не ўдараць на ворага чырвоныя часці... Усю ноч, марозную, буруную праляжалі байцы на голым лёдзе.

Часці, якія маюць такую баявую вытрымку, такую вынослівасць і баявую напорнасць,—такія часці перамагаюць!

Пала калчакоўская сталіца. Нібы тапелец, чапляецца вораг за кожны абаронны рубеж, каб адвесці, каб захаваць рэшткі сваёй арміі. Адзіны ратунак для яго найбольш шпаркі адыход.

Хутчэй туды, на ўсход, пад выратоўчую апеку японскіх драпежнікаў! Захаваць больш сваю жывую сілу! Пад аховай японцаў, за грошы сусветных імперыялістэў сфармаваць новыя палкі і паспрабаваць яшчэ раз шчасця на бязмежных прасторах Совецкай Расіі.

Так мяркуе, адступаючы на ўсход незадачлівы кандыдат у „выратоўнікі“ Расіі...

Вось ён пераступіў за Іртыш, раку, на якой загінуў колішні заваявальнік Сібіры—Ярмак Цімафеевіч.

Спаборнічаюць чырвоныя часці, дабіваючы, яшчэ так нядаўна грозную, калчакоўскую армію.

... Поўсотня чырвоных конных разведчыкаў ідзе праз Іртыш, абыходам на фланг і тыл праціўніка. Шалёным вірам кружыць начная мяцеліца. Ценкі лёд гнецца, трашчыць пагражаючы затапіць у сцюдзёных глыбінях поўсотню адважных коннікаў. Заснежанымі дарожкамі, у цемры, прабіраюцца яны ў далёкі тыл праціўніка. На досвітках трапляюць на вёску Давыдаўку. Вёска ад канца, да канца, занята калчакоўцамі. На вуліцы доўгая шарэнга вазоў, на вазах расстаўлены кулямёты. Неспынна расхожваюць патрулі. Відаць, што праціўнік адступае і, не чакаючы нападу, спыніўся на адпачынак...

Калчакоўцы маглі чакаць земляўздрыгу, сонечнага зацмення, агнявога дажджу... усяго,—толькі не такога нечаканага і шпаркага нападу. Хутка ўся вуліца была захоплена чырвонай поўсотняй і каля кожнага кулямёта стаў чырвоны разведчык. Пэўны час калчакоўцы адстрэльваліся з хат. Супроць іх павярнуліся іхнія-ж кулямёты. Пад камандай чырвонага разведчыка калчаковец прымушаны быў страляць са свайго кулямёта, па сваіх салдатах. Восемьсот палонных, дванаццаць кулямётаў, вялізны абоз з вайсковай маёмасцю, з харчамі і боепрыпасамі,—першая здабыча чырвонай поўсотні. І ўдзень вар'яцкім вірам кружыла мяцеліца. Па заснежанай дарозе шлі на Давыдаўку, адступалі калчакоўскія часці. Чырвоная поўсотня з калчакоўскімі кулямётамі загарадзіла ім шлях. Больш чатырох гадзін яна адбівала атакі калчакоўскіх палкоў, якія хацелі прарвацца. Павялічвалася колькасць палонных, расла паніка ў радах праціўніка...

Неспынным маршам шла Чырвоная армія на Краснаярск. У авангардзе арміі шлі дзве слаўныя дывізіі—Трыццатая Іркуцкая і Дваццаць сёмая. Адбывалася своеасаблівае беспрыкладнае спаборніцтва двух дывізій у разгроме калчакоўскай арміі.

Пераходамі з боем па семдзесят—дзевяноста кілометраў у дзень, на адабраных ад калчакоўцаў конях, на сялянскіх фурманках, па глыбокім снезе, у сібірскія марозы—шла трыццатая Іркуцкая. Спяшалася дывізія,

каб хутчэй разграміць адступаўшыя часці, каб адрэзаць ім шлях адступлення.

Вострым клінам уразалася яна ў сярэдзіну калчакоўскага фронта, даганяючы ягоныя вышэйшыя штабы.

Баявы комбрыг Грозноў, дзякуючы выключна шпаркому прарыву захоплівае калчакоўскі штаб фронта. На хвіліну ён стаў... галоўнакамандуючым калчакоўскай арміі. Па яго загаду начальнік штаба фронта, ад імя нібы галоўнакамандуючага мяняе маршрут адступлення для трэцяй калчакоўскай арміі; ён дае загад ёй адступаць на Ачынск. А на гэтым маршруце знаходзіцца дзвесці шэсцьдзесят другі полк з яго баявым камандзірам Т. І. Шэвалдзіным на чале. „Шэвалдзін справіцца з арміяй"— мяркуе Грозноў і накіроўвае на полк усю трэцюю калчакоўскую армію.

І сапраўды ў вёсцы Каменская адбываецца незвычайная з'ява. Нічога не ведаючы, спакойна падыходзяць часці трэцяй арміі. Іх акружае дзвесці шэсцьдзесят другі полк і раззбройвае. Зброі, маёмасці, палонных няма куды дзець. Адных палонных афіцэраў тысячы. Ёсць небяспека афіцэрскага бунта. Малейшая неасцярожнасць і ўзбунтаваныя палоннікі могуць задушыць полк сваёй вялізнай колкасцю. Але яны ў моцных руках Трыфана Іванавіча. Т. І. Шэвалдзін справіўся з калчакоўскай арміяй.

Гэты цікавейшы баявы эпізод яскрава і пераканаўча апісвае Т. І. Шэвалдзін у сваім нарысе.

Новы год тысяча дзевяцьсот дзевятнаццаты Трыфан Іванавіч сустрэў са сваімі байцамі, адступаючы праз заснежаныя прыкамскія лясы, пад націскам дзесяцікроць мацнейшага ворага.

У новы год—тысяча дзевяцьсот дваццаты ён са сваім палком дабіваў рэшткі калісьці грознага ворага—раззбройваў цэлую калчакоўскую армію. Як адчувальна спазнаў вораг баявую дзейнасць кіраўніка арцінскіх партызан! Якую суровую адплату атрымаў вораг за свае часовыя перамогі, за зверскія расправы і здзекі контррэволюцыі.

Вялікія прасторы Совецкай Расіі! Не дайшла калчакоўская армія да японскіх інтэрвентаў! Няма ёй паратунку ад чырвоных партызан, ад пераможнага марша Чырвонай арміі. Тых, каго не дасягла партызанская і чырвонаармейская куля, даконвалі сібірскія марозы і тыфус. Доўгай чарадой выцягнуліся эшалоны на вялікім Сібірскім шляху. Рушыліся яны на ўсход і нібы зачараваныя спыніліся сярод тайгі. Гэта былі эшалоны замарожаных трупаў. Віхравы снег засыпаў дагарэўшыя вогнішчы і скамянелыя постаці калчакоўскіх ваяк. Гінулі ў трагічнай беспараднасці рэшткі контррэволюцыйнай зграі. Заплацілі жыццём сотні тысяч тых, хто свядома ці ў сваім дурным асляпленні пашоў за авантурніцкімі, крывавымі генераламі. Вялікая катастрофа чакала іх на прасторах неабсяжнай Сібіры.

Гінулі безслаўна рэшткі грознай калісьці навалы. Так калісьці на захадзе былой Расіі, у глыбокіх снягах, на „кацярынскіх" трактах і сельскіх дарогах Беларусі вызначалі, замарожанымі трупамі, свой адыход напалеонаўскія арміі. Лойд Джордж, гэты хітры ліс буржуазнай палітыкі казаў: Расія—вялікая пясчаная пушча: хто-б не ішоў на яе,—аказаўся засыпаным у ейных гарачых сыпучых пясках.

Так, рэволюцыя высокай класавай свядомасцю цэмантуе стыхію гарачых пяскоў, творачы мур такога гарту, аб які разаб'юцца тыя, хто захоча спрабаваць ягоную моц. Ёсць аб чым падумаць перад тым, як пачаць такую рызыкоўную аперацыю!

... Адступаюць на ўсход, доўгай чарадой эшалонаў і чэха-славакі. Яны вядуць перагаворы з чырвоным камандваннем аб спыненні варожай дзейнасці, але тым часам крывадушна... паляць за сабою, узрываюць масты,—садзейнічаюць адыходу пабітага Калчака. Нецярплівасцю гараць

чырвоныя байцы. І ў той час, калі прадстаўнікі трыццатай Іркуцкай дывізіі ехалі ў чэха-славацкіх эшалонах, вядучы зацягваемыя перагаворы—палкі Трыццатай пайшлі ў абход, разграмілі чэхаславацкі „хвост“. Сталі чэхаславакі больш згаворлівымі...

Мала асталося калчакоўцаў—не адыйсці ім цэлымі праз тысячавёрстныя прасторы ўсходняй Сібіры. „Ад вялікага да смешнага—адзін крок“—сказаў Напалеон пасля няўдачнага пахода. А Калчак і не быў вялікім, а—смешным. Без арміі, без надзеі на будучыню, падаўся ён пад ахову чэхаславакаў. Але чарамхоўскія партызаны адрэзалі шлях адступлення і для саміх чэхаславакаў. Чарамхоўскія гарнякі абвясцілі забастоўку,—без вугля не маглі далей рушыць эшалоны, спыніліся, застылі ў сваім разбегу. Паўстаўшыя рабочыя ў Іркуцку захапілі ўладу. Чарамхоўскія партызаны і гарнякі, узначаляныя чарамхоўскімі комуністамі патрабавалі ад чэхаславакаў выдачы Калчака. Баронячы сваю шкуру, яны выдалі нядаўняга свайго саюзніка. Камандзір партызанскага атрада Бураў прывёз бела-крывавага „правіцеля“ у Іркуцк на рэволюцыйны суд, для атрымання расплаты за „заслугі“.

А сёмага сакавіка дваццатага года авангардныя дывізіі Чырвонай арміі, урачыста сустрэнутыя працоўным насельніцтвам, маршыравалі па вуліцам Іркуцка.

Тут быў канец вялікага паходу ад Камы да Забайкальля.

... Толькі малая частка эпізодаў з гэтага вялікага паходу каротка апісана тут. Толькі малая доля з баявой дзейнасці Т. І. Шэвалдзіна, кіраўніка слаўных арцінскіх партызан, выдатнага камандзіра дзвесці шэсцьдзесят другога палка—адзначана ў гэтым кароткім нарысе.

... Трыццатая Іркуцкая прайшла ў Забайкальле. Там героі сібірскага пераможнага паходу ўмацоўвалі пазыцыі, рыхтаваліся да абароны. Чакалі самых авантурніцкіх імперыялістаў,—японскіх.

Чакалі і гатовы былі сустрэць непрошаных гасцей, якія адважыліся-б „сваё свіное рыла сунуць у совецкі агарод“.

Беглі шпарка дні і месяцы памятнага 1920 года.

На іншых фронтах Совецкай краіны таксама з перамогай шла Чырвоная армія. Скарачаліся, скручваліся, нібы гарэўшая саломінка, ліквідаваліся франты.

Аднак героям Урала і Сібіры, якія стаялі на варце ў Забайкальлі, чакала яшчэ іншая, гераічная баявая праца.

---

... У блакітным Крыме, недарэчным наростам, захавалася яшчэ чорная постаць апошняга „ратавальніка адзінай недзялімай Расіі“. Якой бессэнсоўнасцю гучэла слова „недзялімая“. Яно ў рэчаіснасці, азначала—аднаўленне разбуранай „турмы народаў“, аднаўленне ўціску і здзекаў. У рэчаіснасці цёмны дэман „жандарма Еўропы“, паследыш „блазна на троне“—Нікалая другога і апошняга,—спрабаваў „падзяліць Расію“, запрадаць сусветным грабежнікам, за гарматы і танкі, за прылады знішчэння і смерці, якія з вялікімі лішкамі асталіся ў антантаўскіх „пераможцаў“.

А над поўнаводнай ціхай Віслай, „рыцар змрочнага вобраза“,—ахоплены неадчэпнай маніяй вялічча, запалонены марамі стаць вялікім заваявальнікам,—яшчэ з прагнай ненавісцю глядзеў на Ўсход, шукаючы сабе там „кавалачка“ тэрыторыі, „ад мора, да мора“.

Іх вар‘яцкая палахлівая ненавісць, іх ман‘яцкая прагнасць стаць сучаснымі Галіфэ-Т‘ерамі,—сустрэліся, скрыжаваліся на ўсходніх дарогах, аб‘ядналі іх у трагічны непадзельны саюз, супярэчлівы і бяссэнсоўны.

Хай сабе ідэя „адзінай недзялімай“ азначае пагібель для дзяржавы, якую ўзначальваў „рыцар змрочнага вобраза“, хай загіне тая рэволюцыя, якая скрышыла ў руіны тры імперыі, і дала магчымасць узняцца з пад іх гэтай самай дзяржаве.

Бяссэнсоўная і палахлівая ненавісць не заўсёды мяжуецца са звычайнай логікай, не заўсёды прыводзіць да паслядоўна разумных вынікаў. Так скваплівы скупец Плюшкін перад сваёй смерцю, у трагічнай вар'яцкай роспачы, паламаў начынне ды іншыя рэчы, якія набываў за ўсё жыццё з выключнай прагнасцю... Саюз адбыўся, толькі не саюз двух Напалеонаў сучаснасці, а двух яго, з падпраўленага для сучаснасці выдання.

І калі на Беларусі начную цемру асвятлялі палаючыя вёскі і гарады, калі дрыжэла зямля ад гарматнага гулу, калі Чырвоная армія „двунадзесяці моў“, брацкі аб'яднаная вялікай ідэяй волі, баранілася ў небачаных ніколі цяжкіх умовах і паказвала свету як можа высока ўзняцца чалавечая воля і гераізм, калі яна ішла на шматлікіх фронтах неспынным поступам перамог...

... Тады на роўны прастор украінскіх стэпаў і палёў, на дымлівыя ўзгоркі Данбаса, вызначаючы свой след віселіцамі і расстрэламі, пашлі: „белая армія, чорны барон“.

Пабіты драпежнік—белы арол, з абсечанымі кіпцюрамі, паламанымі крыллямі, прытуплянай дзюбай, паклычаны і ўтрапёны, яшчэ спазіраў акрываўленымі вачыма на ўсход,—скрозь восеньскую імглу бачыў на поўдні свайго двухгаловага, чорнага, не менш пакалечанага і пабітага саюзніка, спазіраў з надзеяй на гэтага „выхадца з таго свету“ і не пакідаў яшчэ думкі аб сваім новым драпежніцкім узлёце...

Калі крочыў з старонак гісторыі год 1920...

Тады...

... З далёкага Забайкальля героі Трыццатай Іркуцкай пашлі...

На Врангеля.

---

Была золкая туманная восень. Сыпаў дакучлівы імжысты дождж. Гойсаў сярдзіты восеньскі вецер па пустых палёх, на сухім чароце.

У той час, врангелеўская армія перажывала сваю „маладосць“, маладосць старой,—з вялікім крывавым стажам,—контррэволюцыі. У той час яна, напорна, пасоўвалася на пролетарскі Донбас,—дахадзіла да Александраўска, дзе зараз вялізным помнікам пераможнай рэволюцыі стаў Дняпрогрэс.

Для сібірскіх чырвоных партызан, для герояў Урала, якія змагаліся ў гарах, у тайгах суровай Сібіры, вялікай нечаканасцю аказаліся роўнядзі прасторнай Украіны. Сваё баявое жыццё тут яны пачалі пераважна начнымі баямі.

„Ісці на вёску Скелькі, разбіць праціўніка, заняць станцыю Васільеўка“,—такі быў першы баявы загад дзвесці шэсьдзесят другому палку на новым фронце.

Восеньская шэрая імгла засцілала блізка далягляды. Полк ішоў плаўнямі на левым беразе Дняпра, каб на досвітках наступнага дня ўдарыць на праціўніка, адрэзаць станцыю Васільеўка.

Яшчэ амаль не рассяваўся ранішні змрок, а густы туман застыў на сваім месцы, калі авангардны другі батальён, пад камандай Мацвеява, падыходзіў да вёскі Скелькі.

Кампалка Т. І. Шэвалдзін пад'ехаўшы да вёскі Скелькі, пачуў стрэлы на ўсход за вёскай; распачыналася першая бойка...

— Мая разведка сустрэлася з праціўнікам,—дакладваў камандзіру палка Мацвеяў,—сілы праціўніка былі невялікія, мы яго выбілі з вёскі.

— Дзе зараз праціўнік, якія ў яго сілы?—спытаўся паспешна і коратка дзелавіта камандзір палка.

— Дакладна невядома,—становішча яшчэ не выяснена,—адказаў неўпэўнена камбат.

Гэтыя весткі не здаволілі камандзіра палка. Было вядома, паводле слоў аднаго селяніна, што ў вёсцы нядаўна былі казакі, а ў раёне станцыі Васільеўка знаходзяцца часці маркаўскай дывізіі, чорнаморская кавдыв, першы кавалерыйскі полк ды іншыя часці.

Цяжкім будзе бой з лепшымі часцямі врангелеўскай арміі.

Камандзір палка хутка паскакаў за вёску, каб самаму больш дакладна азнаёміцца са становішчам. Густы туман быццам знарок схаваў усё ад напружанага зроку кампалка. Разварачваўся да бою авангардны батальён,—падцягваў свае сілы вораг. І камандзір палка непрыкметна апынуўся пад абстрэлам, паміж сваіх і белых. Ён паскакаў хутчэй уздоўж фронта, каб выйсці з агня. Часцей сыпаліся стрэлы.

... Паў забіты пад камандзірам конь,—блукаючая куля раніла ардзінарца, другая шарпанула па руцэ кампалка. Камандзір палка па тлустай, гразкай зямлі, пад свістам скрыжаваных куль дапоўз да пятай роты. Камандзір роты Нагавіцын паспеў ужо развярнуць роту для сустрэчнага боя.

Камандзір палка паскакаў цяпер на правы фланг. Шостая рота, што была на гэтым флангу, не паспела яшчэ выйсці з вёскі, а ў вёску ўваходзіў праціўнік. Стала ясна, што авангардны батальён сустрэўся з буйнымі сіламі белых. Трыфан Іванавіч хутка ацэньвае склаўшаяся становішча і прымае цвёрдае рашэнне: з тылу рэчка Конская, мост, нізкі бераг. Адступаць нельга, трэба біцца тут. Трэба трымацца да падыхода сваіх галоўных сіл. Біцца тут, хоць з няроўнымі сіламі, бо ўзяць гэтую пазіцыю будзе цяжка.

А галоўныя сілы яшчэ не паспелі падыйсці, і камандзір палка паскакаў насустрач іх. Хвілін трыццаць—сорак прайшло,—і вось батальёны палка кінуліся бягом у першы бой на новым фронце.

Тым часам становішча ў вёскі Скелькі пагоршылася: рота Нагавіцына зацёрта ў вёску, адыходзіць да мосціка, адзінай пераправы праз рэчку,—мосцік пад абстрэлам. Вёска ахоплена з трох бакоў. Першы батальён ідзе на падмогу Нагавіцыну, і сустрэчным боем прыпыняе наступ белых. Але новая нечаканасць для герояў Сібіры...

Восем-дзесяць броневікоў чорнай зданню вырваліся з імглы і сеючы градам куль пашлі на ўзмоцнены чырвоны фронт. Цяжкія ўмовы боя! Але не такімі былі пераможцы ўсходняга, каб падацца сілам белага барона.

На вуліцах вёскі завязалася гарачая бойка. Хаваючыся ад бранявікоў за платы, за будыніны, у канавах чырвоныя байцы не адступаюць, кідаюцца ў контратаку і штыкамі адганяюць ворага за вёску. Бранявікі праходзяць праз чырвоны фронт, з імі цяжка справіцца. Але за бранявікамі не можа следаваць варожая пяхота; на подступах да вёскі, на вузкіх вуліцах, яна сустракае небывалы адпор. Кулі, гранаты, штыкі шчодра частуюць маркаўцаў.

Па загаду кампалка чырвоная артылерыя падашла блізка да вёскі, аднак здрадніцкі туман хавае межы фронту, хавае варожыя сілы, не дазваляе артылерыстам дапамагчы стралкам.

Снуюць свінцовую аснову бранявікі, але не могуць разбіць чырвонага фронта. Левы фланг палка адстаяў пазіцыі і перашоў у наступ;—у той самы час правы фланг,—шостая рота,—быў атакаваны кавалерыйскімі часцямі.

Некалькі гадзін працягваецца бой то на вуліцах украінскай вёскі, то

на заімгленым роўным полі. Героі ўсходу некалькі гадзін стрымліваюць пераважаючыя варожыя сілы і не думаюць адступаць жывым перакаиаўчым прыкладам адвагі і геройства, у найбольш небяспечных мясцінах боя, дзе густым градам сыпяць кулі,—з'яўляецца своечасова кампалка Т. І. Шэвалдзін.

... Мінаюць гадзіны, лютуе бойка і трываласць чырвоных байцоў яшчэ больш загартоўваецца.

... Кулямётная рота палка ішла па другой, больш ўсходняй, дарозе. Яна ў сваім маршы вышла на левы фланг праціўніка. Камандзір роты здагадаўся, што трапіў у разгар боя. Камандзір і чырвоныя байцы спяшаліся памерыцца сілай з ворагам. Па сваёй ініцыятыве комроты рашыў атакаваць левы фланг і тыл праціўніка. Шэсцьдзесят восем кулямётаў, адабраных у Калчака, прывезеных з далёкага Забайкальля дружна сыпанулі па маркаўцах.

... Узрастаючая напорнасць чырвоных пры абароне перарасла ў нястрымны націск, рушылася наперад. Ад мужнай абароны ў вёсцы Скелькі, полк перашоў у актыўны наступ. Зараз, выпрастаўшыся лінія чырвонага фронта паступова загіналася паўколам захопліваючы ў свае жалезныя абдымкі задорнага ворага. Рассяваўся непрыкметна туман,—борзда крочыў восеньскі дзень. З кожнай гадзінай упартага боя нарастаў энтузіязм.

Вось паказаліся авангарды чырвонага дзвесці шэсцьдзесят чацвёртага уральскага палка...

Шла на падмогу новая калона герояў усходу.

Не вытрымалі врангелеўцы дружнага напора. З разгону свайго наступу быццам стукнуліся яны ў непарушную скалу і разбіўшыся аб яе, падаліся назад.

Лепшыя часці Врангелеўскай арміі і яе ўдарная афіцэрская маркаўская дывізія павярнулі назад, на поўдзень, у першай сустрэчы з загартаванымі ў пераможных баях героямі, якія прайшлі з парамогай ад Камы да Забайкалля.

... З тэй першай бойкі врангелеўскія часці адцясніліся на поўдзень. Хутка яны былі прымушаны схавацца за жалезнымі варотамі ў Крым: Перакоп, Чангар, Арбатская стрэлка.

... У блакітным Крыме хацелі схавацца рэшткі белай арміі чорнага барона.

Разам з другімі слаўнымі часцямі Чырвонай арміі трыццатая Іркуцкая разграміла Врангеля і на гэтых непрыступных жалезабетонных пазіцыях. Праз Чангарскі мост, у віры агня, прарвалася ў блакітны Крым: трыццатая Іркуцкая і яе слаўны дзвесці шэсцьдзесят другі полк.

... У блакітным Крыме не стала больш: „белай арміі чорнага барона"[1]).

Так, на новым фронце дзвесці шэсцьдзесят другі полк са сваім камандзірам Т. І. Шэвалдзіным праславіў сябе новымі перамогамі, новай заслугай перад Совецкай краінай.

---

Доўгі баявы шлях грамадзянскай вайны гераічна прайшоў сучасны камдзів Трыццаць трэцяй беларускай тэрытарыяльнай дывізіі—Трыфан Іванавіч Шэвалдзін. Нават непоўнакаляровымі штрыхавымі рыскамі немагчыма абмаляваць, у вузкіх рамках нарыса, усе тыя падзеі на гэтым слаўным шляху, дзейным удзельнікам якіх быў ён. Нават самае маляў-

[1]) Яскравы момант бойкі за Чангарскі мост апісвае ў сваім нарысе Т. І. Шэвалдзін.

нічае апісанне іх будзе менш яскравым і адчувальным, чымся іх жывая рэальнасць.

Шмат трэба было-б пісаць, каб больш поўна акрэсліць сучасную шматгранную дзейнасць камдзіва Беларускай. Пісаць аб камдзіве— значыць пісаць аб дывізіі. Немагчыма знайсці такую галіну ў жыцці дывізіі, у яе баявой і палітычнай падрыхтоўцы, дзе-б не адчувалася кіпучая энергія, рупатлівасць і выдатныя веды камдзіва.

... У расістай свежасці летняй ночы, у шэрані імжыстых досвіткаў у поўдзенную спякоту, у вільгаць шчодрага прадвячэрняга дажджу,— на паходах і маршах, на стрэльбішчы, на шырокай плошчы далёкага палігона, на занятках дробнага падраздзялення;—там, дзе ў штодзённай настойлівай працы, складаецца нібы падмурак з цаглінак, вайсковыя і грамадскія веды, класавая свядомасць, вынослівасць і трываласць чырвонага байца,—там, заўсёды можна ўбачыць камдзіва Беларускай.

Трыццаць трэцяя беларуская тэрыторыяльная дывізія—лепшая тэрыторыяльная дывізія ў Беларускай вайсковай акрузе. Вялікую долю поспехаў і дасягненняў дывізіі трэба запісаць у заслугу асобе камдзіва.

Дывізія з'яўляецца сапраўднай школай для пераменнікаў—маладых калгаснікаў, сялян і рабочых. Дывізія падрыхтоўвае тысячы актывістаў для соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы: трактарыстаў, брыгадзіраў, старшых конюхаў, работнікаў сельсовета. Прыкметным струменем маладой актыўнай грамадскай сілы ўліваюцца пераменнікі Беларускай у грамадскае жыццё сваіх раёнаў. Раёны камплектавання дывізіі,—дзе камандны і політычны склад дывізіі праводзіць пэўную працу,—з'яўляюцца перадавымі ў сваёй гаспадарчай і грамадска-політычнай дзейнасці.

Неразлучна з баявым стажам, у Т. І. Шэвалдзіна крочыў, узрастаў і стаж актыўнага комуніста. Член партыі з 1917 года, дэлегат XVII партыйнага з'езда, кандыдат у члены ЦК КП(б)Б,—Т. І. Шэвалдзін—з'яўляецца прыкладам і для работы комуністаў дывізіі, прыкладам таго, як трэба выконваць абавязкі камандзіра, авалодваць тэхнікай,—як на справе выхоўваць маладыя комуністычныя кадры.

Да знатнай пролетарскай фамілії належыць камдзіў Беларускай. Сам Трыфан Іванавіч,—чалавек з надзвычайна багатым цікавым баявым і партыйным стажам (а зараз слаўны юбіляр, на ўрачыстасці пятнаццаці-годдзя тых баявых падзей, у якіх ён актыўна ўдзельнічаў: ліквідацыі Калчака і Врангеля),—узнагароджаны ордэнамі Чырвонага сцяга. Брат Трыфана Іванавіча,—Мацвей Іванавіч Шэвалдзін,—начальнік будаўніцтва Чэлябінскага трактарнага завода,—атрымаў ужо два ордэны Працоўнага сцяга. Другі брат,—Нікіфар Іванавіч Шэвалдзін,—той самы, што калісьці быў знойдзены ў купе ахвяр белагвардзейскай расправы, з разбітым чэрапам, са слабымі адзнакамі жыцця,—зараз старшыня сельска-гаспадарчай комуны „Колас" у сваім родным раёне. Бацька братоў Шэвалдзіных, стары чалавек, забіты подлай помстлівай рукою тых, каго нельга назваць—людзьмі.

Т. І. Шэвалдзін дасканала ведае ваенную справу. Яшчэ кіраўніком невялікага партызанскага атрада, ён аддае пільную ўвагу тэхніцы боя, ваеннай стратэгіі, ваеннай спецыфіцы. У цікавай кніжцы,—якую Трыфан Іванавіч напісаў яшчэ ў 1922 годзе, да гісторыі свайго дзвесці шэсцьдзесят другога палка,—ён разглядае пройдзены баявы шлях, з пункту гледжання ваеннай тэхнікі, разбірае поспехі і памылкі падначаленых яму камандзіраў і камандзіраў суседніх частак. Гэтыя памылкі ім вывучаюцца, і далейшая баявая тактыка ўдасканальваецца.

Яскравым прыкладам таго, наколькі трапна і своечасова вывучае Т. І. Шэвалдзін баявую практыку, як удала скарыстоўваюцца яе кап-

рызы, нечаканасці і поспехі, для ўдасканалення баявой тактыкі,—з'яўляюцца наступныя факты:

Дзвесці шэсцьдзесят другі полк наступае на вёску, занятую калчакоўцамі. Пачаўся агнявы паедынак. Перадавыя часці палка падыходзяць блізка да вёскі. Яны некалькі разоў адважна кідаюцца ў атаку, але атака адбіваецца з вялікімі стратамі. Якая прычына, чаму не могуць прарвацца да ворага адважныя байцы?—Глыбокі снег. Што неабходна для паспяховай атакі? Наблізіцца як мага бліжэй да праціўніка, як мага хутчэй перабегчы апошнюю кароткую дыстанцыю, каб менш быць пад абстрэлам, каб зраб ць псіхалагічнае ўражанне на праціўніка, зменшыць яго волю да супраціўлення і нарэшце выбіць яго з пазіцый, даканаць праследваннем. А правальваючыся па пояс у глыбокі снег, нельга хутка бегчы, марудна перамагчы нават кароткую дыстанцыю, лёгка стаць мішэнню для варожых куль. Перадавыя часці палка вымушаны акапвацца ў снезе. Вёска ўсёткі была ўзята атакай з фланга.

У іншы раз полк займае шырокі вучастак. На расцягнены па фронту батальён палка праціўнік пайшоў у наступ вялікімі „надзейнымі" сіламі: ударны афіцэрскі батальён—тысяча афіцэраў. Праціўнік абраў для свайго ўдара пэўны ўчастак і наступаў з выключнай упартасцю. Камандзір чырвонага батальёна не мог хутка атрымаць падмацавання, вымушан быў бараніцца сваімі сіламі. Ён успомніў нядаўні вопыт палка, на які так звяртаў увагу сваіх камандзіраў кампалка. На найбольш атакуемай частцы свайго фронта, ён сканцэнтраваў амаль не ўсе свае кулямёты, стварыўшы своеасаблівыя кулямётныя батарэі. Зберагаючы патроны, улічваючы нядаўнюю практыку, камбат падпушчаў афіцэрскія ланцугі зусім блізка, не пачынаючы агня. І як толькі вораг падымаўся ісці ў атаку, па глыбокім снезе,—несупынным гулам адзываліся кулямёты... Тады радзеў афіцэрскі ланцуг, змаўкала халтурным тостам кароткае „ўра". Блізка перад снегавымі акопамі чырвоных да якіх пад трапным кулямётным агнём, па глыбокім снезе не мог дайсці ўпарты вораг,—гінулі па чарзе, яго наступаючыя шэрагі.

Правільнай чарадой, з лесу, праз шырокую паляну шлі новыя ланцугі, быццам нейкі вялізны канвеер нёс іх з невычарпальнага людскога рэзерва. І кожны з іх не даходзіў далей пэўнай забароненай мяжы перад чырвоным фронтам. Нарэшце вычарпаўся рэзерв. Не ідуць з лесу новыя ланцугі. Не хапіла сіл... Трупамі зачарнілася беласнежнае поле. Батальён пераступіў свой абаронны рубеж, праследваў рэшткі афіцэрскіх „ударнікаў". Ад палонных даведаліся, што з тысячы чалавек ратавалася жывымі толькі дзевяноста... Так своечасова быў вывучан вопыт, так трапна і адважна быў ён скарыстаны...

Камдзіў Беларускай выдатны стралок: з вінтоўкі, нагана, кулямёта. І лепшым стралкам-снайперам ён можа даць не толькі тэарэтычныя ўказанні, але і канкрэтныя парады, на падставе сваёй уласнай практыкі. Ён вымагальны (і на першы погляд нібы суровы), але абыходлівы, уважлівы. Ён дасканала ведае падначаленых яму камандзіраў, глыбока разумее байцоў. Ён не любіць аднабокасці; у яго не бывае недаацэнкі, або ігнаравання тых, ці іншых, хоць бы менш значных фактараў. Кожнаму з іх камдзіў аддае адпаведную увагу ў залежнасці ад іх канкрэтнай вартасці. Гэта культурна, у поўным сэнсе гэтага слова, камандзір са шматграннай падрыхтоўкай, усебаковымі ведамі, з багатай практыкай.

З усёй практычнай дзейнасці камдзіва, з яго паступкаў, адчуваецца вялікая палкая адданасць справе пралетарыята, справе комуністычнай партыі. Ён служыць гэтай справе з гартам старога большэвіка, з юнацкім захапленнем і энтузіязмам.

Не мала год у камдзіва засталося за плячыма. Аднак калі глядзіш

на яго моцную, спакойную, упэўненую постаць, дык здаецца, што ў віры гадоў, у баявых нягодах, у настомнай энергічнай працы толькі больш загартавалася яна. Пра яго камандзіры часта кажуць: „Мы маладзейшыя, здаем іншы раз, а ён трымаецца“.

Доўгі, жыццёвы шлях, багаты баявы вопыт, вялікая адданасць пролетарскай рэволюцыі, кіпучая дзейнасць, выдатныя здольнасці сканцэнтраваліся ў спакойнай, дзейнай, моцнай валявой натуры. Ён—жывы яскравы ўзор для маладых чырвонаармейцаў-пераменнікаў і для растучых камандзіраў. З непахіснай рупатлівай настойлівасцю, выдатнымі ведамі і вялікім поспехам ён рыхтуе зараз кадры для дастойнай абароны соцыялістычнай краіны; ён павядзе чырвоныя палкі да перамог, калі радзіма пролетарская будзе прымушана давесці ворагу, што ў ёй захаваліся гераічныя традыцыі грамадзянскай вайны, памножаныя на новую хвалю энтузіязма і моц вялізных соцыялістычных здабыткаў.

Міхась Зарэцкі

# НА ШЛЯХУ ДА МАСТАЦКА-ТВОРЧАЕ ДУЖАСЦІ

## (Пра раман „Дужасць" Барыса Мікуліча)

Калі не кіравацца выключна памерам адведзенага героям месца ў творы, а прыняць пад увагу сілу мастацкага паказу, цэльнасць і закончанасць вобраза,—дык цэнтральнай фігурай рамана Барыса Мікуліча „Дужасць" трэба прызнаць, бязумоўна, Станіслава Юткевіча.

Станіслаў Юткевіч—гэта наш стары добры знаёмы „мятущийся" інтэлігент, лішні чалавек, челавек, які страціў сваё месца ў жыцці, і ніяк не можа знайсці яго. Дзякуючы выпадкова складзенай сітуацыі Юткевіч прымыкае да большэвікоў горада Кушняярска і некаторы невялікі час прымае ўдзел у барацьбе супроць белых. Але досыць было першых баявых сутычак, першых сур'ёзных спроб характару, як дробнабуржуазная інтэлігенцкая натура Юткевіча адкідае яго ад часовых спадарожнікаў, пераносіць у процілеглы лагер. Але і ў гэтым, больш блізкім яму па класавай прыродзе стане, ён таксама не вечны жыхар. Змяняюцца абставіны і ён зноў у савецкай краіне, зноў, схаваўшыся пад другім прозвішчам, спрабуе знайсці сваё згубленае месца ў жыцці. І зноў—здрада, выезд за граніцу, работа супольна з ворагамі пролетарскай краіны.

Праходзіць некаторы час, і Юткевіч пад уплывам выдатковага відовішча рабочай дэманстрацыі, пад уплывам новага хвіліннага захаплення робіць дзікі недарэчны выбрык супроць сваіх новых гаспадароў і канчае сваё жыццё цалкам дэкласаваным, выкінутым з грамадства, нікому непатрэбным чалавекам.

„Клас, выкрэсліўшы яго са спісаў сваіх прыслужнікаў, не мог даравацць яму гэтай выразнай дэманстрацыі супроць яго як-ні як. Але і другі клас, дыяметральна супроцьлеглы першаму, не мог прыняць яго ў свае шэрагі, бо факты сведчылі пра тое, што ён не з ім, не ведае дарогі да яго і шукаць яе не хоча".

Станіслаў Юткевіч паказан у рамане, як соцыяльна малацэнная экзальтаваная істэрычная асоба, схільная да хвілінных захапленняў і не маючая нічога сталага, цвёрдага, прынцыповага. Вечны здраднік, ён кідаецца з аднаго соцыяльнага асяроддзя ў другое, нідзе не знаходзячы кроўных жывых сувязяй, усюды праходзячы, як часовы, непатрэбны, а часам і лішні спадарожнік. Нават пад час свайго астатняга рэйда, калі ён далучаецца да банды звычайных рабаўнікоў і прымае ўдзел у няўдалым нападзе на капіталістычны банк—і тут ён умудраецца здрадзіць, выдаўшы свайго новага шэфа—правадыра рабаўнікоў—Гардона.

У рамане многа месца аддаецца перажыванням Юткевіча, якія ў большасці маюць хваравіты, надломлены характар. Сумненні, роспач, нечаканыя, неапраўданыя захапленні—усё гэта змяняецца ў ім калейдаска-

пічнай быстрынёй і пад усім гэтым выяўленнем нібыта складанай тонкай псіхікі хаваецца звычайнае нутраное ўбойства мешчаніна. Варта трапіць гэтаму герою ў якія-небудзь цяжкія небяспечныя абставіны—і ўраз знікаюць яго высокія пачуцці, і са звярынай сілай прарываецца самае звычайнае подленькае чаплянне за жыццё. „Жыць, жыць, хочацца жыць“, гэтыя словы праз увесь раман вылятаюць з дрыжачых перакрыўленых істэрычным спалохам вуснаў Станіслава Юткевіча.

Лінія абрысоўкі вобраза Станіслава Юктевіча ў рамане не заўсёды вытрымана. Многа ёсць момантаў нематываваных пераходаў, многа пустых неапраўданых псіхалагічных жэстаў, многа наогул надуманага, ненатуральнага. Але ўсё-ж, не гледзячы на гэта, а можа некаторым чынам і дзякуючы гэтаму, вобраз Юткевіча—разгубленага збянтэжанага інтэлігента, лішняга чалавека—выступае ў рамане досыць яскрава і жыва.

Паўстае пытанне: ці варта наогул у нашай літаратуры займацца падобнымі, не характэрнымі для нашай сучаснасці, тыпамі? Ці варта аднаўляць на старонках нашае мастацкае прозы стары спарахнелы вобраз лішняга чалавека?

Магчыма, аўтар, беручы гэты вобраз, меў на ўвазе, калі можна так сказаць, прафілактычны бок справы. Ён хацеў перасцярэгчы чытача, паказаць, як часам за надворным захапленнем, за дэкларацыйным прыняццем рэвалюцыі хаваецца гнілая сутнасць дробнабуржуазнага інтэлігента, гатовага на кожным кроку здрадзіць, усадзіць нож у спіну рэвалюцыі.

Магчыма, што з гэтага пункту гледжання падобны вобраз яшчэ і мае некаторае права на існаванне. Але бязумоўнай памылкай аўтара з'яўляецца тое, што ён вобразу Станіслава Юткевіча надаў рысы высокатворчай індывідуальнасці, паказаўшы яго вялікім мастаком танца. Гэта, па-першае, цалкам супярэчыць агульнай дадзенай самім аўтарам характарыстыцы вобраза. Пусты, разгублены, убогі духам мешчанін, урослы сваімі карэннямі ў гнілую багну сышоўшых з арэны гісторыі класаў—ці можа такая асоба дасягнуць такіх вышынь мастацтва як гэта паказана ў рамане? А мы памятаем тыя моманты, калі ён сваім мастацтвам уздымае масы, захапляе іх, настройвае—і гэта не толькі там, за мяжою, але і ў нас, у савецкага гледача, у рабочага. Мне здаецца, што такая пастаноўка пытання можа палітычна дэзорыентаваць, паказваючы, што чалавек, які фактычна апынуўся на сметніку гісторыі, можа ўсёткі знайсці сябе нейкае выйсце ў мастацтве. Гэта становіць мастацтва вышэй за соцыяльныя ўзаемаадносіны. Адсюль адзін крок да „чыстага мастацтва“ і ў адным месцы Барыс Мікуліч фактычна зусім блізка падыходзіць да гэтага. Гэта той момант, калі Краўчанка сочыць за Юткевічам на сцэне, калі ён гатоў кінуцца, каб выкрыць яго, як класавага ворага, і разам з тым стрымліваецца, баіцца гэтага.

„А вось калі кінуцца паміж залай і акторам і крыкнуць на поўны голас—вораг! Белагвардзейская сволач! Не паверацьза інсцэніроўку палічаць, закідаюць шапкамі, свістам, рогатам. Актор быў тут царом, магутным валадарнікам пачуццяў тысяч людзей.

Можа быць яшчэ адзін довад на карысць патрэбы паказу героя тыпа Станіслава Юткевіча—гэта з мэтаю адцяніць праз яго другую лепшую частку інтэлігенцыі, якая рашуча і цвёрда пайшла за рэволюцыяй, якая глыбока ўрасла ў нашу савецкую рэчаіснасць. Прадстаўніком гэтай групы інтэлігенцыі ў рамане з'яўляецца Барыс Краўчанка. У рамане няма поўных паказанняў на тое, кім з'яўляецца Краўчанка па свайму соцыяльнаму паходжанню. Некаторыя мясціны, некаторыя рэплікі даюць магчымасць меркаваць, што аўтар бачыць у яго асобе маладога рабочага.

Аднак, бліжэйшае знаёмства з гэтым персанажам пераконвае, што тут мы маем прадстаўніка соцыяльнай праслойкі, блізкай да тае, што дала нам Станіслава Юткевіча. Характарыстыка гэтага вобраза часта бывае падобнай да характарыстыкі вобраза Юткевіча. Тая-ж самая экзальтаванасць, істэрычнасць, тыя самыя сумненні, ваганні, неўпэўненасць у сваіх учынках.

Можна было-б прывесці многа прыкладаў, якія даводзяць інтэлігентскую сутнасць Барыса Краўчанкі. Я абмяжуюся толькі некаторымі.

Успомнім нашу першую сустрэчу з героем у пралозе рамана.

„Ён хадзіў з вуліцы ў вуліцу, упіваючыся сваёй свабодай“.

Якой свабодай упіваўся Барыс Краўчанка? Ён толькі што вярнуўся з фронта, ён упіваўся свабодай ад фронта, ад барацьбы, ад тае дысцыпліны, якую яму даводзілася зазнаваць у радах Чырвонай арміі.

Хіба не відаць з гэтых радкоў тая самая постаць дробнабуржуазнага анархічна настроенага інтэлігента, якому свабода асоцыіруецца з бязметавым шаланнем па гораду, з адсутнасцю моцных, хоць часам можа і жорсткіх сувязяй грамадскага жыцця і барацьбы!

Другі прыклад—сустрэча Краўчанкі з Юткевічам у тэатры. Добра ведаючы, што Станіслаў Юткевіч у свой час здрадзіў партыі і савецкай уладзе, ведаючы, што гэта вораг, які схаваўся пад чужым прозвішчам, ён, разгублены, пачынае ні з таго ні з сяго апавядаць яму пра сваё жыццё. Ён вагаецца, баіцца выкрыць яго, баіцца ўзняць руку на яговае высокае мастацтва. А потым, праз некалькі гадзін у гутарцы са сваёй каханай істэрычна крычыць:

„— Ён здраднік! Ён генеральскі сын! Ён бязвольны, слабы агідны чалавек, ён дзесяткі разоў выслізгваў з маіх рук, але цяпер... Тасік! Яго не расстралялі і ў гэтым увесь боль мой, Тасік! Я сустрэўся з ім сёння, тут... ён артыст. Ты любіш яго?“

І нават да самага канца рамана, не гледзячы на тое, што ўсё ўжо ясна, што фігура Юткевіча, як класавага ворага, вырысавалася канчаткова, яшчэ застаюцца ў Краўчанкі нейкія незразумелыя сумненні.

„І тут надышоў выключны выпадак, які сцёр чыста апошнія краўчанкавы сумненні“,—гаворыць аўтар пасля таго, як быў выкрыты былы спадвіжнік Юткевіча, Берднікаў-Маслоўскі.

У рамане аўтар увесь час пераконвае нас, што Барыс Краўчанка „свой у дошку“, што ён злучыў канчаткова і беспаваротна свае жыццё з жыццём рабочага класа. Хочацца верыць, што гэта так і ёсць, але разам з тым прыходзіцца канстатаваць, што налёт дробна-буржуазнае інтэлігенскае псіхікі яшчэ густа ляжыць на гэтым у агульным станоўчым вобразе рамана. Яшчэ часта замест справы мы бачым у яго гучныя, але пустыя словы, замест дзейнага руху рамантычна напышаную позу. І нездарма аўтару прыходзіцца назольліва падкрэсліваць яго „плебейскія атрыбуты“, як дужыя цягліцы, як ладнае, мажнае цела і г. д. Нездарма прыходзіцца аўтару падкрэслівасць яго крайні і на наш погляд, лішні дэмакратызм, яго агіду да камфартабельнай абстаноўкі інжынеравага габінета і інш.

Рэшта герояў рамана маюць у асноўным службовае значэнне. Яны выведзены выключна для таго, каб адцяніць фігуры галоўных герояў і выконваюць ролі дэкарацыі, рэквізіту. На абмалёўку іх аўтар аддае значна меншую ўвагу. Таму—прамалінейнасць, рэзкае выпукленне тых якасцяй, якімі яны ўваходзяць у дачыненне з лініямі развіцця асноўных герояў.

Большэвік Тарас, кіраўнік кушняярскай арганізацыі, паказаны манументальным героем, незрушным большэвіком з жалезнай воляй і упартасцю.

Нават знадворны паказ яго цалкам адпавядае гэтай прамалінейнай аднабокай характарыстыцы:

„У трапяткім водбліску агнёў, у куродыме, у снежнай мітулзе, у палахлівым змроку— манументам, нібы выліты з барвовае бронзы, вырас на кані Тарас.“

Аднак трэба сказаць, што, не гледзячы на такі абстрактны паказ, асоба Тараса вырысоўваецца досыць рэльефна і абуджае сімпатыі чытача.

Зусім іншае атрымалася з другім станоўчым персанажам рамана— з дырэктарам Далматавым. Аўтар пастараўся надаць яму больш чалавечых прастацкіх рысаў і перагнуў у другі бок—ён вышаў падобным да чаго хочаш, толькі не да адказнага працаўніка—дырэктара завода. Вось урывак, які характарызуе асобу Далматава:

„Далматаў (зазірае ў вочы сакратару). Прыяжджаю, разумееш, і проста да начальніка. Ты хочаш, кажу, каб нашы французы ўзбунтаваліся? Разумееш, паставіў пытанне і маўчу, чакаю. А ён, мілы мой, спалохаўся. Шчырае слова, спалохаўся. І гэтак рэзалюцыю наўкос паперкі і чырк. (Ён заліваецца смехам і ад гэтага срабрысты ёжык ягонай галавы пачынае смешна варушыцца,—вось так і хочацца ўсімі пальцамі заехаць у яго. Потым, супакойваючыся, Далматаў робіць вочы загадкавымі). І ведаеш, што было далей?

Краўчанка. Ну?

Далматаў. Я падзякаваў яго за валюту, а потым сказаў, што нельга быць гэткім уступчывым. Трэба мець кулак. Ён аж загарэўся!

„Як малы ўсё адно“—думае з усмешкай Краўчанка:—Зрабіў такі справу і радуецца. Ну, і стары!“

„Як малы ўсё адно“—лепшай характарыстыкі такому дырэктару трудна і прыдумаць.

Досыць цёпла, мяккімі акварэльнымі фарбамі абрысаваны вобраз Тасі, але і ён бледнаваты і ён не мае ў рамане сваёй асобнай пэўнай сюжэтнай і псіхалагічнай лініі.

У характарыстыцы іншых, больш дробных персанажаў Барыс Мікуліч часта дапускае простую нядбайнасць. Скажам, доктара Неерзона—старога інтэлігента ён характарызуе такой сцэнкай:

„У гасцінай стрэлі яго шумна, крыкамі „гурра“. Ён нарыхтаваў сюрпрыз: узняў руку і прымусіў сціхнуць. Ён абвёў вачыма ўсіх прысутных, убачыў прыгожую бялявую сяброўку дачкі, падыйшоў да яе і:

— Дазвольце быць вашым ухажорам на сёняшні вечар. А гэта— ў адзнаку маёй вернасці!—і ён выцягнуў з-за пазух чырвоны цюльпан.“

Гэта словы якога-небудзь зухаватага „ухажора“ з Пярэспы, але ні ў якім разе—не старога інтэлігента—доктара.

Падобнымі ўтрыраванымі рысамі характарызаваны і бацька Тасі і некаторыя іншыя другарадныя эпізадычныя персанажы.

* * *

Раман „Дужасць“ мае досыць складаную сюжэтную канструкцыю. Барыс Мікуліч наогул любіць рэзкія сюжэтныя лініі, крутыя вуглы. Ён не баіцца нечаканых сустрэч, выпадкаў, здарэнняў, ён лёгка, з чыста кінематаграфічнай быстрынёй мяняе планы, пераносіць нас з аднаго адцінку часу ў другі, часам спрабуючы даць адначасова паказ дзеі ў розных планах, з рознага пункту гледжання.

Усё гэта надае твору лёгкасць, робіць яго цікавейшым да чытання.

Аднак ёсць тут і другі небяспечны бок, аб якім трэба сказаць некалькі слоў. Справа ў тым, што Мікуліч, захапляючыся знадворнай

сюжэтнай гульнёй, аддае мала ўвагі ўнутранаму лагічнаму развіццю падзей, што апісваюцца ў рамане. Адсюль—раскіданасць, брак лагічнае і псіхалагічнае матывацыі, адарванасць адных кавалкаў рамана ад другіх.

Мы ўжо спыняліся на адным з прыкладаў непраўдзівых, надуманых момантаў рамана—гэта сустрэча ў тэатры Барыса Краўчанкі са Станіславам Юткевічам.

Краўчанка, які праз некалькі старонак рамана не можа даравацъ сабе, што ўпусціў Юткевіча, упадае з прычыны гэтага ў цэлую істэрыку, тут чамусьці пачынае расказваць свайму ворагу пра сваё жыццё, выпускае яго на сцэну, любуецца яго мастацтвам, уваходзіць у наіўную недарэчную гутарку з яго прыяцелькай.

Бязумоўна не развязвае гэтага непаразумення і той дадаткова ўведзены матыў, які, мабыць, па думцы аўтара мусіў апраўдаць усе недарэчныя ўчынкі героя. Я разумею хваробу Краўчанкі. Гэта хвароба наогул выплывае на сцэну не як перыядычна, акурат тады, калі яна патрэбна для апраўдання ненатуральных, нацягнутых учынкаў героя. Тут мы бачым не больш, не менш, як няўдалы аголены прыём, які не можа пераканаць чытача.

Часта сустракаюцца ў рамане выпадкі спозненае матывацыі, якія паказваюць на слабасць сюжэтнай распрацоўкі твора.

Заключаецца гэтая сумная з'ява ў тым, што аўтар, маючы гатовую разгорнутую сітуацыю, якая патрабуе пэўнага развязвання, уводзіць тут-жа зусім новы матыў, патрэбны выключна для гэтага развязвання.

Калі аўтар прыводзіць Станіслава Юткевіча да крайняй неабходнасці ўцякаць, ратавацца,—ён толькі тады заводзіць гутарку аб тым, што Юткевічу яшчэ перад гэтым прапанавалі ехаць за мяжу і, такім чынам, высвятляецца гэта раптоўная, неабходная аўтару магчымасць Юткевіча ўцячы ад блізкае кары.

Калі трэба ў канцы рамана арганізаваць замах на Барыса Краўчанку і потым раскрыць гэта злачынства, уводзіцца адпаведная „кающаяся личность“ мазырчаніна.

Калі трэба ратаваць прыбітага, блізкага да смерці героя, бязцэрамонна ўводзіцца новы персанаж—урач Неерзон, якая дарэчы аказваецца зямлячкай нашага героя.

У мэтах сувязі паасобных момантаў рамана, у мэтах надання раману вонкавай звязнасці, Барыс Мікуліч ужывае і, трэба сказаць, досыць удала, формы надворнай кампазіцыйнай сувязі, прыкладам якой могуць служыць часта ўжываныя аўтарам паўторы. Некаторае значэнне ў гэтым сэнсе мае таксама і ўнутраны рытм, які праходзіць праз цэлыя часткі рамана, звязваючы іх адзіным настроем, адзінай танальнасцю. Аднак гэтыя прыёмы, самі па сабе досыць каштоўныя, не могуць замяніць праўдзівага, лагічна абаснаванага звязку ў развіцці падзей, не могуць прымусіць чытача верыць аўтару, бачыць у тым, што ён піша, сапраўднае, непадробленае жыццё.

Асабліва слабым месцам у сэнсе канструкцыйнай сувязі з'яўляецца трэцяя частка рамана. Калі ў першых двух частках рамана мае сякую-такую звязнасць і цэльнасць, дык у трэцяй частцы ён, проста кажучы, рассыпаецца. Трэцяя частка—гэта асобны нарыс, да таго-ж складзены з выпадковых, не звязаных адзінай лініяй, выпадкаў.

Ніякім чынам не выратоўваюць становішча марныя патугі аўтара сілком звязаць расхрыстаныя сюжэтныя канцы. Штучнасць, нацягнутасць, непраўдападобнасць справодзяць кожную такую спробу.

Гісторыя са шкодніцтвам Берднікава-Маслоўскага па дзіцячаму наіўна і негрунтоўна зроблена. Хаця аўтар і называе групу Берднікава „вялікай і тонка замаскаванай ворагавай арганізацыяй“, але паказвае яе ў такім

прымітыўным, немудрым выглядзе, што мімаволі прыходзіцца сумнявацца ў тым, каб сапраўды так дзейнічалі ў жыцці злосныя зацятыя класавыя ворагі, якім хоча зрабіць аўтар Берднікава-Маслоўскага.

Яшчэ больш наіўна і непрадумана паказана раскрыццё махінацый класавага ворага. Глыбокай ironіяй, міма волі аўтара, гучаць словы сакратара райкома, калі ён гаворыць па тэлефону: „Мы натрапілі на след“. Гэта „натрапілі на след“ з'яўляецца тады, калі пад дзверы памяшкання, дзе адбываецца п'яная бяседа адказных працаўнікоў, прыходзіць адзін з злачынцаў, каб добраахвотна пакаяцца і расказаць усё, што ён ведае аб злачыннай справе. Да гэтага часу ворагі, не гледзячы на сваю прымітыўную тактыку, дзейнічалі беспакаранна.

Я думаю, што не дапушчу асаблівай рэзкасці, калі скажу, што ў гэтым выпадку мы маем некаторае, мякка кажучы, скажэнне нашае рэчаіснасці.

* * *

Калі мы чытаем творы Барыса Мікуліча, то першае і галоўнае, што кідаецца ў вочы—гэта брак канкрэтнага жыццёвага матэрыялу, адсутнасць глыбокага вывучэння аўтарам жыцця. Барыс Мікуліч гэта сваё слабое месца запаўняе шырокім выкарыстаннем літаратурнае прадукцыі іншых пісьменнікаў. Адсюль частыя запазычанні, частае наследванне іншым аўтарам, як у сэнсе творчага метада, так і ў сэнсе мастацкага матэрыяла. У рамане „Дужасць“, напрыклад, надзвычай востра чуецца наследванне Канстанціну Федзіну. Гэта адбіваецца на сюжэтнай будове твору, што абсалютна не шкодзіць аўтару, але разам з тым сустракаюцца мясціны простага перанясення гатовых сцэн. Прыкладам можа служыць сцэна ў доктара Неерзона, калі падчас вясёлай бяседы ў кватэру ўрываюцца чужыя людзі з патрабаваннем ратаваць паміраючага чалавека. Амаль дакладна мы памятаем гэта з рамана Федзіна „Братья“.

Брак матэрыяла выклікае ў творчасці Мікуліча і іншыя, больш шкодныя для яго з'явы. Часта Мікуліч дапускае ў сваіх творах спрошчаныя, павярхоўныя, або ўтрыравана-лубачныя апісанні складаных працэсаў грамадскага і палітычнага жыцця. З рамана „Дужасць“ можна, напрыклад, прывесці такое месца, як паказ продразвёрсткі. У Мікуліча справа развязваецца вельмі проста: кулак хавае збожжа, бядняк прыносіць сам апошняе і ледзь не са слезамі на вачах просіць, каб прынялі яго. Зусім не паказана, не раскрыта тая вялікая работа, тая жорсткая барацьба, якую праводзіла партыя навокал гэтага мерапрыемства.

Другі прыклад: паказ класавага ворога, паказ белагвардзейскага стана. У Мікуліча белагвардзейцы, гэта—беспрабуднае п'янства, разгул, распуста, „обчий котел“. Такі паказ ворага не дае карысці, ён размагнічвае, разбройвае, абуджае толькі пагарду, а не класавую нянавісць, бо хіба можна ненавідзець ворага, які зусім бяссільны, які фактычна не можа з'явіцца аб'ектам жорсткае барацьбы, барацьбы не на жыццё, а на смерць.

Барыс Мікуліч любіць яскравыя бліскучыя фарбы, але гэтыя фарбы часта маюць танны, аперэтачны характар. Захапленне яркім, але пустым драматызмам часта параджае ў творчасці Мікуліча ненатуральнасць, напышанасць, неапраўданыя псіхалагічныя рухі.

Успомнім для прыкладу сцэну танца Станіслава Юткевіча перад п'янымі белагвардзейцамі, калі ён сваім надзвычайным мастацтвам ахмяляе белагвардзейцаў да таго, што яны адзін па адным засынаюць і, такім чынам, Юткевіч здабывае магчымасць уцячы з іхняга палону. Цалкам надуманая, мастацкі некаштоўная сцэна, якая пахне ўбогай правінцыяльнай тэатральшчынай!

Вось яшчэ прыклад, калі для большага драматызма, для большага эфекта Мікуліч ужывае зусім неабгрунтаваны, нематываваны смех, зноў такі таннага правінцыяльна-тэатральнага гатунку.

Гутарка двух інжынераў-шкоднікаў:

„— Я даўно казаў, што з вашай галавой трэба быць сенатарам.

— Сенатарам?—рысы твара Васільева зрабіліся надзвычайна вострымі, дакраніся—як лязо.—Сенатарам?

Яны зірнулі адзін на аднаго і зарагаталі. Рогат у Васільева быў тонкі, фальцэтны, з высокімі амаль сапранавымі пералівамі. Гэта быў не рогат, а музычная гама, не адна, а цэлы ланцуг. Сапрана пераходзіла ў каларатуру. І, як дысананс, на басах,—сыпаўся рогат Бердзікава. Ён увесь чыста калаціўся. Ён хапаўся рукамі за жывот. Яго твар быў падобны да твара псіхічна хворага. Рогат крывіў яго ўсяго, як прыступ Віттавай пляскі.

— Сенатар!..“

Часам з тэй-жа мэтаю большага драматызавання дзеі Мікуліч запазычае прыёмы старога дрэннага кінематографа.

„Эльга асцярожна вызвалілася з яго рук і спехам пайшла да дзвярэй. Ён схамянуўся і ірвануўся наўздагон. Эльга прыспешыла крок. Ён пабег. Праз доўгую чараду пакояў бег ён за ёю. Гулка хлопалі дзверы. Наўздагон іхняму бегу ляцелі парт'еры. Мноства люстраў адлюстроўвала гэтую пагоню. Бег мільгаў у шкле, у нікелі, у паліраваным дрэве. Усё бегла разам з ім у гэтым вялікім доме. За вокнамі бегла сонечнае ранне. Беглі сонечныя промні, адлюстроўкі іхнія, цені. Гэты бег паглынаў увесь свет, і трэба было дабегчы абавязкова“.

Такая кінематаграфічная бягня сустракаецца і ў іншых мясцох твора Мікуліча. Так-жа ашалела бяжыць, напрыклад, Юткевіч, уцякаючы ад паліцыянта, пасля няўдалага налёту на банк.

Наогул Барысу Мікулічу трэба асаблівую ўвагу звярнуць на большую матывацыю псіхалагічных рухаў, на ўніканне ад пустых псіхалагічных жэстаў, ад псіхалагічнага жанглёрства.

Словы „раптам“, „нeяк“ і да т. п. займаюць пакуль што ў творах Мікуліча недапушчальна вялікае месца.

„Раптам з нейкай выключнай сілай ён адчуў усім целам трывогу“.

„Раптам паўстаў ва ўсёй істоце жах і стогн вырваўся з грудзей“.

І так амаль на кожнай старонцы праз увесь раман.

Барыс Мікуліч павінен цвёрда прасачыць за тым, каб яго героі тады смяяліся, калі ім смешна, і плакалі тады, калі ім сапраўды варта заплакаць, а не тады, калі гэта можа выклікаць яркі, але пуставаты, танны эфект.

* * *

Некалькі слоў па пытанню так званага малага стыля—манеры пісьма Барыса Мікуліча.

Тут трэба перш за ўсё канстатаваць, як вельмі станоўчую з'яву, што Мікуліч у гэтым сваім апошнім творы ў значнай меры пазбыўся тых фармалістычных захапленняў, якімі характарызаваліся яго ранейшыя творы.

Вось некалькіх невялічкіх урыўкаў, якія, на наш погляд, паказваюць, што Мікуліч, захаваўшы ўласцівую яму яскравасць, дынамічную жвавасць і рытмічнасць сказу, значна наблізіўся да аволодання тым элементам мастацкае творчасці, якога яму больш за ўсё не хапала—да мастацкае прастаты:

„Адвячоркам прышлі з поўначы цяжкія хмары, авалодалі ўсім небам, з поля ўварваўся ў гарадок вецер, зашастаў акраўкамі палотнішчаў,

застукаў акяніцамі, застагнаў, забразгаў сухім голлем дрэў. Хмары прышлі і прыпыніліся над гарадком, сыпануўшы мяцеліцай. У мяцеліцы нарадзілася ноч. Вецер уварваўся з поля на шырокія вуліцы, нібы успененая тройка спуджаных коняй".

Або яшчэ:

„Чарнявы чырвонаармеец глядзеў уноч, і ноч стала перад ім глухая і чорная, нібы бабульчыны прымхі, і паселішча ляжала перад ім—уначы—маўклівае і грознае ў акамянелай знямеласці, толькі прывіды ліхалеццяў."

Вось яшчэ, на наш погляд, удалае апісанне завода:

„Цэпкія прыгаршні экскаватара ўрэзваюцца ў пароду, яны моцна, трывала заціскаюць яе і вось—з барабанным боем—раздробленая парода асыпаецца на пляцформу. Гэты барабанны бой, сігнальныя свісткі, аманалавыя выбухі, скупыя людскія крыкі і гуд, гуд, які пануе над зямлёй (і здаецца, што гэта гудзіць катаклізмамі сама зямля),—усё гэта афармляецца ў магутную строму гукаў, сіла якіх перакрывае ранішнюю пераклічку сірэн і гудкоў."

Аднак, трэба ўсёткі сказаць, што элементы нервова пахаплівае, блытанае, загружанае дадатнымі і пабочнымі сказамі, мовы Барыса Пільняка яшчэ час ад часу даюць сябе адчуваць і ў гэтым творы Мікуліча.

„І сон надыходзіць—ва ўздрыгах свядомасці, калі хочацца вырвацца на вецер, у ноч, грудзямі ўвабраць паветра, калі мільгае бязвусы, кругленькі (кадушачка, дый годзе) немец-афіцэр і малочны кісель грудзей на фронце барвянца, залітага пітвом, калі ў блытанае мярэжыва п'яных уяваў раптам урываецца бомканне гадзіннікавае—раз-два-тры... дзесяць адзінаццаць, дванаццаць, ракавыя дванаццаць гадзін..."

Зусім зразумела, што разумнае, абдуманае запазычанне тых ці іншых, мастацкіх прыёмаў ёсць не толькі не шкодная, але абсалютна неабходная частка творчай работы кожнага пісьменніка. Але Барыс Мікуліч павінен добра памятаць, што, па-першае,—трэба пазычаць лепшае, а не горшае і па-другое, што ўсе запазычанні трэба крытычна прапрацоўваць, праламляць у сваёй самастойнай творчай рабоце.

Другім важным недахватам у манеры пісьма Барыса Мікуліча з'яўляецца той гарэзна-ўзняты адмыслова „маладзёжны" тон, які праходзіць амаль праз усе яго творы. У адных выпадках ён выліваецца ў прыкрасаладжавыя сусальныя сцэны, як, напрыклад, сцэна дружбы Юткевіча з Краўчанкам, іхняя першая сустрэча, а ў другіх выпадках—гэты заўзяты, нібыта маладзёжны тон прарываецца зухаватымі вульгарызмамі, непатрэбным, зусім неапраўданым цынізмам. Напрыклад, такія выразы, як „кабыле пад хвост", частыя словы са шматкроп'ем, назолліваe падкрэсліванне цынічных бакоў афіцэрскага жыцця і г. д. Пра гомасексуалізм Маслоўскага аўтар упарта напамінае чытачу некалькі разоў і прытым амаль што аднолькавымі, тымі-ж самымі словамі.

У плане таго самага зухавата-маладзёжнага тона варта адзначыць таксама і непамерна частае ўжыванне аўтарам песень і смеха. Пяюць у Мікуліча пры ўсіх выпадках і абставінах жыцця, смяюцца таксама дзе трэба і дзе не трэба.

Калі чытаеш Мікуліча, дык мімаволі складаецца ўражанне, што аўтар ні на хвіліну не забываецца на тое, што ён маладзёжны пісьменнік, што ён павінен пець і смяяцца абавязкова больш, чым пяюць і смяюцца, скажам, Кузьма Чорны, Цішка Гартны, ці яшчэ—хто-небудзь са старэйшых пісьменнікаў.

Мне здаецца, што культываваць спецыфічна маладзёжны стыль у нашай літаратуры—справа наўрад, каб была патрэбная і карысная. Мы

павінны, наадварот, дамагацца таго, каб маладыя пісьменнікі пісалі пра сур ёзныя рэчы, а пра жыццё і быт моладзі пісалі такжа сур'ёзна і грунтоўна, як і пра жыццё і быт дарослых людзей.

Барыс Мікуліч з уласцівым яму захапленнем да яскравых эфектных форм вялікую ўвагу аддае ўжыванню розных паэтычных фігур. У яго часта сустрэнеш яскравыя эпітэты, смелыя метафары, параўнанні, новыя, дасюль неўжываныя злучэнні слоў.

Аднак гэтую станоўчую работу Мікуліч праводзіць з некаторай „маладзёжнай" лёгкасцю, з некаторым нядбайствам. Таму побач з удалымі зваротамі мовы мы сустракаем і шмат няўдалых; „густая колкая цемра", „пяшчотны кудзер валасоў", „пырсклівы рогат" і г. д.

Часам нядбайныя адносіны да пабудовы сказу выліваюцца ў вельмі прыкрую недакладнасць і нават кур'ёзы:

„Пахаванне навяло на яе журбу, і раптам дужа захацелася ёй пагаварыць з бацькамі, выслухаць матчынны скаргі і злыя парадоксы бацькавы...—як ні як: свае яны, родныя".

Хто тут „свае яны, родныя"?—бацькі, ці парадоксы—цяжка азначыць.

Або яшчэ:

„Спалоханая кабета мятнулася ў сенцы. Клубком пад краўчанкавы ногі кінуўся сабака, адпіхнуў яго кароткім „пайшоў увайшоў у хату".

Выходзячы з логікі гэтага сказу, трэба заключыць, што гэта не Краўчанка адпіхнуў сабаку, а сабака „адпіхнуў" яго кароткім „пайшоў" і ўвайшоў у хату".

Прывяду яшчэ некалькі прыкладаў няўдалых, неабдуманых сказаў:

„Чыталі шэптам, з вуснаў у вусны затоена і голасна".

„І ноч больш пуката падкрэсліла ў станіслававай свядомасці вялікі сэнс тарасавай постаці,"

„рамантычная лухта Блока і Бальманта",

„спрабавалі знайсці іншы выхад з катастрофы",

„ноч... прадыктаваная разгулам вятроў",

„і чуючы яе голас, станіслава цела пакрывалася чырванню" і г. д. і г. д.

Апошняе пытанне, на якім неабходна спыніцца, гэта пытанне мовы ў вузкім значэнні гэтага слова. Тут трэба проста сказаць, што ў Барыса Мікуліча не ўсё ў парадку. Нельга сказаць, каб Мікуліч не працаваў над мовай, але праца гэта таксама, як і праца над вобразам, дзякуючы яго некаторай нядбайнасці, не заўсёды прыводзіць да станоўчых вынікаў.

Барыс Мікуліч адносіцца да тэй катэгорыіі пісьменнікаў, якія больш працуюць над літаратурнай апрацоўкай мовы, чымся над збіраннем яе. Мікуліч вельмі старанна скарыстоўвае моўныя дасягненні іншых пісьменнікаў. Ён досыць смела пашырае свой лексікон, часта знаходзіць новае і трапнае ўжыванне старых вядомых слоў.

Аднак побач з гэтай станоўчай работай, Мікуліч дапускае многа надзвычай прыкрае неахайнасці, а часам зусім недапушчальных ляпсусаў. Побач з удалымі патрэбнымі словамі ён часта запазычае і словы рэдкія, мала вядомыя, якія наўрад каб прывіліся ў літаратурнай мове, як напрыклад, „ад-жа", „кашары", „мажны", „гліца", „цягліцы", „няўхлюды", „вусцішны".

Цікава, што Мікуліч часам падбірае нават тыя словы, ад якіх ужо адмовіліся іншыя пісьменнікі. Прыкладам: „кагадзе", „неутрапенны"—словы, ад якіх адмовіўся ў сваіх апошніх творах сам Кузьма Чорны.

Ёсць у Мікуліча некаторыя неўдалыя наватворы: „гамана" „напірсцілася" (барада) „напрасціўся" (ёжык галавы) „лядаштыя" (сані) „доўжыць" (прадаўжаць), „прыўласны", „прыўзнімае" і г. д.

Надзвычай часта сустракаюцца русізмы: „ворах“, „вухарства“, „ерапеніца“, „бойкі“ (жвавы), „заматаўся“ (змардаваўся), „так і быць“, „ні даць, ні ўзяць“, „як-ні-як“ і г. д.

Ёсць выпадкі неправільнага ўжывання звычайных беларускіх слоў. Прыклад: „пайшоў следам, важачыся праз выццё ветру разабраць іхнюю гаворку“. „Важачыся“ тут у сэнсе „стараючыся“.

Другі прыклад—„дзе-ні-дзе стаялі ўваткнутыя ў зямлю мётлы. Гэта валтузіліся дворнікі.“ Слова „валтузіліся“ тут ужыта, відочна, не на месцы.

„Лузаўся ў цемру, у дрэвы з вар'яцкім імпэтам“.

„Усімі самымі дробнымі каморкамі цела паспытаў да жыцця прагу“.

„За вялікім сталом водарны стаяў рогат і ў Юткевіча нарадзілася каламутная агідлівасць.“ (Усюды падкрэслена мною—М. З.)

Падобных выразаў, трэба сказаць, у Мікуліча надзвычай багата.

Не ўсё добра ў мове Барыса Мікуліча і ў сэнсе ўжывання чужаземных слоў. Трэба сказаць, што Мікуліч—вялікі прыхільнік чужаземных слоў. Ён іх лепіць направа і налева, абсалютна не зважаючы на тое, ці патрэбны яны тут, ці не. Але гэта было-б яшчэ поўбяды, каб словы гэтыя ўжываліся да ладу і дапамагалі ўсведамленню сэнсу. У Мікуліча часта бывае наадварот—гэтыя словы заблытваюць сэнс, або проста скажаюць яго, бо яны часта ўжываюцца не ў тым сэнсе, які маюць.

Вось некалькі прыкладаў: „з поўнага келіха піць жыццёвы бальзам“.

Як вядома, бальзам—гэта араматычнае масла, якое можна ўжываць для любых косметычных мэтаў, якім можна заліваць душэўныя і фізічныя раны, але ні ў якім выпадку не піць яго ды яшчэ поўным келіхам.

Другі прыклад: „Нешта надзвычай парадаксальнае, як пікантны анекдот“.

Чаму пікантны анекдот павінен быць канешне парадаксальным—незразумела.

Ці: „дачцы ішоў васемнаццаты год—пікантны ўзрост для маладой жанчыны“.

„Ірацыянальнасць трызні апаноўвае чалавека“.

З усіх чужаземных слоў Барыс Мікуліч асабліва любіць словы музычныя і ўжывае іх амаль праз кожныя пяць-дзесяць слоў. Я ўжо прыводзіў тут адну цытату, якая выключна пабудавана на музычнай тэрміналогіі. Паўтару яе яшчэ раз: „Яны зірнулі адзін на аднаго і зарагаталі. Рогат у Васільева быў тонкі, фальцэтны, з высокімі, амаль сапранаванымі пералівамі. Гэта быў не рогат, а музычная гама, не адна, а цэлы ланцуг. Сапрана пераходзіла ў каларатуру. І, як дысананс, на басах—сыпаўся рогат Берднікава“.

На гэтым я закончу разгляд мастацкай мовы Барыса Мікуліча.

Зробім вывады.

Мне прышлося больш спыняцца на недахопах, чымся на станоўчых баках творчасці Барыса Мікуліча. Я не хачу, каб з гэтага хто-небудзь мог заключыць, нібы я наогул стаўлюся адмоўна да мастацкіх здольнасцей гэтага пісьменніка. Я проста лічу, што паказ недахопаў больш спрыяе развіццю творцы, чымся яго выхваленне.

Барыса Мікуліча я ўважаю за аднаго з найбольш таленавітых нашых маладых пісьменнікаў і ўпэўнены, што некаторы націск на выпраўленне недахопаў, якія тут адзначаліся, толькі дапаможа яго далейшаму росту і развіццю.

У мяне асабіста ёсць глыбокае перакананне ў тым, што далейшы шлях Барыса Мікуліча пойдзе не ў бок лёгкага напоўпрыгодніцкага

жанра, да якога ён часамі спрабуе хіліцца, а ў бок паглыбленага ўнутранага паказу чалавека.

Больш вывучаць жыццё, больш жыць самому, больш набірацца жывога, канкрэтнага мастацкага матэрыяла,—вось асноўная задача далейшай работы Мікуліча. Працуючы-ж над творамі, Мікулічу трэба рашуча ўнікаць танных эфектаў, пустога дутага драматызму, фармалістычнага манернічання, а старацца, каб кожны сказ, кожны вобраз, кожнае слова былі напоўнены глыбокім сэнсам і аформлены з максімальнай мастацкай прастатой і мастацкай праўдай.

Я ўпэўнены, што Барыс Мікуліч пойдзе іменна па гэтым шляху і што ў далейшай працы сваёй ён дасягне сапраўднае мастацка-творчае дужасці.

Я. Браншгэйн

# ПЫТАННІ ТЭОРЫІ І ПРАКТЫКІ ЛІТАРАТУРНАГА ПАХОДУ

Літаратурны паход, паход за асваенне мастацкай літаратуры, які разгарнуўся ў калгасах совецкай Беларусі, прадстаўляе сабою з'яву выключнай палітычнай і культурнай важнасці.

Гісторыя сусветнай літаратуры не ведае выпадка падобнага масавага (мільённага) напора нізавога сялянскага чытача на мастацкую літаратуру. Гэта з'ява зусім не можа зраўнацца з убогім культуртрэгерствам буржуазных лібералаў і народнікаў ва ўмовах капіталістычнага грамадства. Гэта стала магчымым толькі на аснове перамогі калгаснага ладу, на аснове перамогі заможнага калгаснага жыцця.

Дасуг у шырокім сэнсе гэтага слова соцыялістычнае разняволенне працы ў галіне найбольш жорсткіх, бязсэнсных, капіталістычных форм працы, у галіне земляробчай працы—вось тая прадпасылка, без якой немыслімы літаратурны паход, падобны таму, які цяпер разгортваецца ў краіне пролетарскай дыктатуры.

У нас ёсць вельмі скромны вопыт у справе арганізацыі падобных паходаў, але і таго вопыта масавага літаратурнага руху, які ёсць у нас, зусім даволі для таго, каб арганізацыйна замацаваць, палітычна і ідэйна накіроўваць гэту цягу мільёнаў чытачоў да мастацкай літаратуры.

Улічыць памылкі, якія былі дапушчаны ў гэтай рабоце папярэднікамі,—вось што нам трэба ў першую чаргу.

Я маю на ўвазе вельмі цікавую і яркую работу, прароблену некалькі год таму разад у гэтай галіне сялянскім настаўнікам А. М. Тапаровым, у сельска-гаспадарчай комуне „Майское утро", у далёкай Сібіры ў 5000 кілометрах ад Масквы.

У выніку шматгадовай працы з сялянамі-чытачамі ў сельска-гаспадарчай комуне „Майское утро" А. М. Тапароў выпусціў кнігу „Крестьяне с писателями". Кніга прадстаўляе цікавасць па свайму матэрыялу не толькі для спецыялістаў, якія цікавяцца праблемай узаемаадносін паміж нізавым працоўным чытачом і мастацкай літаратурай, але і для любога культурнага чытача.

У гэтай кнізе сабраны велізарны матэрыял, які сведчыць аб тым, як нізавы сялянскі чытач актыўна рэагуе на мастацкія творы. У гэтай кнізе ледзь не са стэнаграфічнай дакладнасцю (хаця Тапароў быў пазбаўлен магчымасці карыстацца стэнаграмай) адноўлены выказванні сялянскіх чытачоў па цэламу раду літаратурных твораў. Гэтыя выказванні адрозніваюцца выключнай яркасцю, нярэдка здзіўляюць нас веданнем, своеасаблівым падсвядомым чуццём спецыфікі мастацкіх твораў. Яны нярэдка выкрываюць незаўрадны пісьменніцкі талент у саміх сялянах-чытачах.

Аднак аўтарскі ўступ да гэтай кнігі выкрывае рад істотных метадалагічных і ідэйна-палітычных недахопаў методыкі работы Тапарова з сялянскімі чытачамі.

Тапароў у сваёй рабоце сярод сялян-чытачоў выходзіць з няправільнага, я-б нават сказаў, шкоднага процiпастаўлення прафесіянальнай нашай літаратурнай крытыкі крытычным водзывам масавага сялянскага чытача.

Тапароў вельмі высокай думкі аб мастацкім чуцці і аб літаратурна-крытычных выказваннях свайго сялянскага чытача. „Рабоча-сялянская крытыка—гаворыць Тапароў,—непасрэдная, яна ідзе з нутра і выражаецца проста, сардэчна, вобразна і жыва. Гэта і робіць яе вышэйшай і карыснейшай, чым крытыка прафесіянальная“.

Крытыку прафесіянальную, нашу дзейсную марксіцка-ленінскую крытыку Тапароў трактуе, як крытыку малакаштоўную, бескарысную і нават шкодную. Ён бачыць у ёй капеечныя ідэйкі, прасычаныя, прытупленыя пачуцці, высокапарныя і незразумелыя словы.

У гэтым процiпастаўленні марксіцка-ленінскай прафесіянальнай крытыкі рабоча-сялянскай крытыцы, якая ідзе нібыта ад нутра, адчуваецца акрэслена-хвасцісцкая тэндэнцыя Тапарова.

Тапароў пракланяецца перад стыхіяй густаў сваіх сялянскіх чытачоў, ён бачыць у сваім сялянскім чытачу незалежна ад яго культурнага ўзроўня, ад яго палітычных светапоглядаў, напраракаемы аўтарытэт,— „глас народа,—глас божий“.

Адпаведна з гэтым Тапароў зусім натуральна спрабуе звесці на нішто кіруючую арганізатарскую ролю кіраўніка чыткі.

„Сачыце за сабою,—раіць ён, кіраўніку чыткі,—ні аднэй спробы, ні аднаго намёку, ні жэста, ні мімікі, ні інтанацыі, якая выражае вашы адносіны да прачытанага твору.“

Кіраўнік чыткі, такім чынам, трацiць сваю функцыю кіраўніка, ён зводзіцца да своеасаблівага мэханічнага перадатчыка слоўнага тэкста, ён зводзіцца да ступені своеасаблівага, я-б сказаў, аб'ектывісцкага бярвена, якому чужды ўсякія свядомыя адносіны да чытаемага тэкста.

Установка Тапарова на стыхійнасць у справе асваення сялянскім чытачом мастацкай літаратуры, установка Тапарова на аб'ектывісцкага кіраўніка чыткі па сутнасці адзначала толькі тое, што дзейснай марксіцка-ленінскай прафесіянальнай крытыцы, яе кіруючым метадалагічным і палітычным ідэям Тапароў процiпастаўляе сваю сістэму поглядаў, працягваемых ім пад маскай безтароннай „аб'ектыўнай“ чыткі.

Даволі азнаёміцца з радам дакументаў, сабраных у кнізе Тапарова „Крестьяне о писателях“, каб пераканацца ў тым, што Тапароў у радзе месц выразна скочваецца к буржуазнаму фармалізму.

Тапароў піша: „Жыццё і смерць кнігі ў цікавым яе выкладанні, у фармальным баку... Работа над мастацкай кнігай з сялянамі паказвае, што вёска перш за ўсё гоніцца за цікавасцю мовы ў кнізе, пасля ўжо за яе ідэйным зместам.“

Наўрад сялянскі чытач сельска-гаспадарчай комуны „Майское утро“ падпісаўся-б пад падобным эстэтычным кодэксам. Вельмі сумніцельна, каб нізавы сялянскі чытач сельска-гаспадарчай комуны прытрымліваўся-б гэтых адкрыта-буржуазных поглядаў на ўзаемаадносіны паміж формай і зместам мастацкага твору.

Аб'ектывіцкая ўстаноўка Тапарова ў справе арганізацыі асваення сялянскім чытачом мастацкай літаратуры нямінуча павінна была прывесці ў радзе месц к шкоднаму стыхійніцтву, перавазе выпадковага густ, а нярэдка і к палітычна-няправільным ацэнкам. Як дзіўна гучыць, напрыклад, падобная ацэнка кнігі Панферава „Брускі“: „Кніга ў вёсцы непатрэбна, лжыва, амаль усё ў ёй да справы не адносіцца. „Брускі“ нашкодзяць у калгасным будаўніцтве“.

Якія вывады мы павінны зрабіць з вопыта, праробленага Тапаровым?

Мы павінны ў першую чаргу замацаваць у свядомасці кіраўнікоў літаратурнага пахода, што пладатворныя вынікі гэтага пахода, цалкам залежаць ад свядомага ідэйна-палітычна правільнага кіраўніцтва літаратурнымі чыткамі. Кіраўнік чыткі не павінен выступаць у ролі безстаронняга аб'ектывіста, ён не павінен прakланяцца перад стыхіяй выпадковых густаў свайго масавага чытача, ён павінен быць гатовым праводзіць тую ці іншую метадалагічную ідэйна-палітычную ўстаноўку наперакор хвасцісцкім настроям. Ён павінен умець растлумачыць свой пункт гледжання, прывіць яго свайму сялянскаму чытачу, замацаваць яго ў яго свядомасці.

Ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы працякае літаратурны паход. Не выключана, што тую ці другую чытку мастацкіх твораў класавы вораг, кулацкія агенты, нацдэмы паспрабуюць выкарыстаць у сваіх класавых антысавецкіх, контррэвалюцыйных інтарэсах. Аб'ектывісцкая, безстаронняя „тапароўкая" устаноўка кіраўніка чыткі можа толькі ліць ваду на млын класавага ворага і даць яму магчымасць выкарыстаць трыбуну чыткі для антысавецкай, нацыяналістычнай і кулацкай прапаганды.

Вось чаму мы павінны ў першую чаргу высвятліць асноўныя мэтадалагічныя ўстаноўкі, якія павінны ляжаць у аснове арганізацыі гэтых чытак, у аснове правядзення літаратурнага пахода па калгасах БССР.

Кіраўнік чыткі павінен замацаваць у свядомасці свайго калгаснага чытача тую ўсім нам ужо вядомую ісціну, што літаратура з'яўляецца зброяй у класавай барацьбе. Калгасны чытач павінен зразумець велізарную соцыяльную функцыю дзейнасці мастацкага твору.

Вось ён чытае, прыкладна, „Дрыгву" Коласа. Ён з вялікай цікавасцю слухае гераічную аповесць аб тым, як сялянская бедната Палесся стыхійна паднялася супроць белапольскіх паноў і бандытаў. Ён задумваецца над тым, як стыхія сялянскіх паўстанняў у Палессі ў перыяд грамадзянскай вайны атрымала свае арганізацыйнае афармленне пад ідэйным, палітычным і штодзённым кіраўніцтвам партыі большэвікоў, пераможнай Чырвонай арміі.

Кіраўнік чыткі павінен давесці да свядомасці свайго калгаснага чытача, што падобныя творы граюць велізарную ролю ў справе мабілізацыі героікі мас для надыходзячых баёў. „Дрыгва"—гэта кніга, якая дапамагае нам згуртаваць масы вакол партыі і Чырвонай арміі. Калі грымне гадзіна рашучых баёў супроць усялякіх армій капіталістычных інтэрвентаў, многія з чытачоў „Дрыгвы" успомняць аб старым Талашы і паследуюць яго прыкладу.

Тое самае, прыкладна, можна растлумачыць калгаснаму чытачу на творах Шолахава, Андрэя Александровіча, Галавача і іншых.

Кіраўнік чыткі гэтым не абмяжоўваецца, ён павінен замацаваць, у свядомасці свайго калгаснага чытача ўсім нам вядомую ісціну аб тым, што буйны мастацкі твор заўсёды ў той ці іншай меры, адлюстроўвае, адпаведна ўзроўню рэволюцыйнай свядомасці класа праўду жыцця, рэчаіснасці. Пры прапрацоўцы літаратурных твораў кіраўнік чыткі павінен растлумачыць калгаснаму чытачу, у якой меры той ці іншы пісьменнік ускрыў рэчаіснасць, адлюстраваў яе ў сваім творы і ў чым выражаюцца скажэнні, дапушчаныя пісьменнікам пры мастацкім адлюстраванні гэтай рэчаіснасці.

Пры чытцы рамана „Паднятая цаліна" Шолахава ці „Мать" Горкага кіраўнік чыткі без усякага намагання зможа растлумачыць калгаснаму чытачу, які велізарны жыццёвы вопыт увасоблен у гэтых кнігах, у якой велізарнай меры гэтыя пісьменнікі і ў прыватнасці найвялікшы майстар пролетарскага мастацтва Горкі адлюстроўваюць рэчаіснасць, прывучаюць нас—чытачоў бачыць яе не ў яе выпадковых штодзенных праявах, а ў логіцы яе гістарычнага развіцця.

Мастацкая літаратура—гэта адзін са шматлікіх участкаў нашай барацьбы за культурную рэволюцыю, за соцыялістычнае будаўніцтва.

Кіраўнік чыткі павінен смела падводзіць чытача к раду практычных палітычных мерапрыемстваў, выцякаючых з таго новага вопыта, які набыў пры чытцы кнігі калгаснік-чытач.

Чытка мастацкай літаратуры павінна служыць стымулам для ўсебаковага ўцягнення калгасніка ў палітычнае і культурнае жыццё нашай краіны. Вось чытае, напрыклад, гурток калгаснікаў кнігу Горкага „Мать". Няма сумнення ў тым, што ў сувязі з прапрацоўкай гэтага твору ў асяроддзі калгаснікаў-чытачоў узрасце зацікаўленасць да самой рэволюцыі 1905 года, да барацьбы рабочага класа пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў. Няма сумнення, што людзі захочуць прачытаць творы Леніна аб рэволюцыі 1905 года, працы Сталіна, звязаныя з праблемамі рэволюцыі 1905 г.

Кіраўнік чыткі павінен умела і без спазнення арганізаваць гэтыя тэндэнцыі, даць ім ход, замацаваць гэтае спалучэнне мастацкай літаратуры з палітычнай, з гісторыяй партыі і г. д.

Чытаючы калгаснікі, прыкладна, раман Шолахава „Паднятая цаліна" раман Галавача „Спалох на загонах". Яны абмяркоўваюць метады наступлення кулака, яны захапляюцца мудрасцю партыі, кіруючай калгасным будаўніцтвам. Няма сумнення ў тым, што, то тут, то там, пацягнуцца рукі калгаснікаў-чытачоў да сталінскага артыкула „Головокружение от успехов" (аб чым гаворыцца ў гэтых кнігах), да сталінскіх артыкулаў аб калгасным будаўніцтве, да апошніх пастаноў партыі і совецкай улады аб соцыялістычным землеробстве. Кіраўнік чыткі павінен умела, у час арганізаваць гэтае зусім законамернае і натуральнае спалучэнне мастацкай літаратуры з рэволюцыйнай практыкай.

Няма сумнення, што ў парыве захаплення, напрыклад, героікай дзеда Талаша, моладзь, ды і не толькі моладзь, загаворыць аб умацаванні абароназдольнасці нашай краіны, загаворыць аб неабходнасці арганізацыі ячэйкі асовіяхіма, аб дапрызыўнай падрыхтоўцы і г. д. Справа кіраўніка чыткі ўмела і ў пару падсказаць гэту тэндэнцыю і арганізацыйна яе замацаваць, бо так павінен працаваць кіраўнік чыткі, які разумее, што ленінская культурная рэволюцыя—гэта не буржуазнае культуртрэгерства, гэта не фальшывая гульня ў аб'ектывісцкае прakланенне перад выпадковымі густавымі праявамі чытача.

Але мастацкая літаратура мае таксама сваю асобную гісторыю развіцця.

Калгаснік-чытач павінен уясніць сабе хоць-бы у элементарнай форме месца данага твору ў творчасці данага пісьменніка, месца гэтага твору ў данай літаратуры. Нельга чытаць, скажам, паэму Янкі Купалы „Над ракою Арэсай" ізалявана ад таго шляху, які прайшоў Янка Купала. Даць уяўленне калгаснаму чытачу аб тым, як народны паэт рэспублікі Янка Купала ідэйна творча перабудаваўся, вызваліўся ад нацыяналістычных забабонаў мінулага і моцна стаў на бок совецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва—гэта зусім неабходна. Для гэтага кіраўнік чыткі суправаджае сваю гутарку аб даным пісьменніку невялікім беглым аглядам асноўных этапаў яго літаратурнай дзейнасці.

Ці вычэрпваецца гэтым уся работа кіраўніка чыткі? Не. Кіраўнік чыткі сваёй работай ставіць сабе мэту не толькі растлумачыць калгаснаму чытачу, што такое літаратура, аб чым гаворыцца ў даным творы, якое значэнне пісьменніка ў барацьбе за соцыялізм. Перад літаратурным паходам стаіць і другая вельмі складаная і адказная задача: у працэсе літаратурнага паходу тысячы і мільёны калгаснікаў-чытачоў павінны палюбіць мастацкія творы, павінны эмацыянальна заражацца бліску-

чымі старонкамі ў творах пісьменнікаў, павінны адчуць магутнасць іх мастацкага майстэрства, яркасць паказу вобраза, сілу, вастрату іх мастацкай мовы. Вось гэты эмацыянальны бок чыткі патрабуе ўдвайне сур'ёзнага падыхода з боку кіраўніка чыткі.

Нельга абмяжоўвацца публіцыстычным пераказам твораў, зводзіць чытку літаратурных твораў і абмеркаванне іх да агульна-палітычных фраз. Нельга разбіваць таксама абмеркаванне твору на дзве паловы—на аналіз зместу і аналіз формы—а адразу сінтэтычна ахапіць увесь гэты твор, з першых-жа старонак змагчы звярнуць увагу чытача на яркія параўнанні, на прыгожыя абароты, мілагучную (сугучную) страфу, на пейзаж, на партрэт, тут-жа растлумачваючы лагічны і палітычны сэнс гэтых кампанентаў (сустаўных частак стылю). Пейзажы беларускага Палесся (у Коласа) і паўночнага Каўказа (у Шолахава), партрэт работніцы-маці (у Горкага) і галерэя партрэтаў нацдэмаўскіх актывістаў (у Андрэя Александровіча), сімволіка лірыка ва ўступе да твора Галавача („Спалох на загонах") і патэтычны ўступ Александровіча да „Ценяў на сонцы", фальклорная сугнасць вершаў Купалы і г. д.—аб усім гэтым кіраўнік чыткі гаворыць тут-жа, неадкладна, пераводзячы ўсе гэтыя кампаненты стыля, мовы мастацтва на мову логікі, публіцыстыкі, палітыкі.

Калгаснік-чытач павінен умець вычытваць усяго пісьменніка, не толькі яго фабульныя і публіцыстычныя бакі.

Зразумела, што гэта работа патрабуе вялікага напружання і вялікіх ведаў ад кіраўніка чыткі асабліва пры абмеркаванні паэтычных твораў.

Адпаведныя метады распрацоўкі, якія будуць знаходзіцца ў распараджэнні кіраўніка чыткі, у значнай меры палегчаць ім гэту работу. Аднак гэта не знімае з кіраўніка чыткі абавязку ўважліва, не спяшаючыся, прадумаць метадалогію і методыку арганізацыі эмоцыі чытача вакол твору.

У літаратурны мінімум, падлягаючы прапрацоўцы ў працэсе літаратурнага пахода, уваходзяць наступныя творы: Горкі—„Мать", Шолахаў—„Паднятая цаліна", Серафімовіч—„Железный поток", Якуб Колас—„Дрыгва", Янка Купала—„Над ракой Арэсай", Андрэй Александровіч—„Цені на сонцы", Галавач—„Спалох на загонах".

Даволі беглага азнаямлення з тэматыкай гэтых твораў, каб пераканацца ў некаторым тэматычным адзінстве гэтага літаратурнага мінімума. Твор Горкага „Мать" дае мастацкае адлюстраванне пролетарыята ў яго барацьбе да Кастрычніцкай рэволюцыі; твор Серафімовіча „Железный поток"—гэта гераічная аповесць аб барацьбе на франтах грамадзянскай вайны. Шолахаўская „Паднятая цаліна" мастацка аднаўляе рад момантаў барацьбы за калгасны лад. Прыблізна тое-ж адзінства характарызуюць тэматычна і кнігі беларускай літаратуры; „Дрыгва" Колас адлюстроўвае героіку грамадзянскай вайны ў Беларусі; „Цені на сонцы" Александровіча даюць палітычны памфлет, накіраваны супроць контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма; „Над ракою арэсай" Купалы і „Спалох на загонах" Галавача—гэта аповесці аб барацьбе за соцыялістычную працу ў сельскай гаспадарцы, аб барацьбе за калгасны лад.

Гэтае тэматычнае адзінства ўсяго літаратурнага мінімума дае даскапалую магчымасць кіраўніку чыткі растлумачыць калгасніку-чытачу ідэю інтэрнацыянальнага адзінства мастацкіх літаратур усяго нашага Саюза. На 150 мовах народаў СССР савецкія пісьменнікі пішуць аб адным з адной палітычнай установкай—аб барацьбе за соцыялізм, аб працы. соцыялістычны змест—вось што згуртоўвае ўсю шматнацыянальную і

шматмоўную літаратуру нашага Совецкага Саюза. Канкрэтная нацыянальная абстаноўка нацыянальныя асаблівасці развіцця вызначаюць нацыянальную форму гэтых твораў. Умовы барацьбы за калгасны лад на паўночным Каўказе (Шолахаў) і ў Беларусі (Янка Купала, Галавач), умовы барацьбы на франтах грамадзянскай вайны, у раёне дзеяння Таманскай арміі (Серафімовіч) і ў лясах беларускага Палесся (Колас)— гэта ўсё розныя ўмовы і гэта рознастайнасць вызначае своеасаблівую нацыянальную форму кожнага з гэтых твораў. Гэту ісціну кіраўнік чыткі павінен замацаваць у свядомасці калгаснага чытача.

У выніку падобных абмеркаванняў калгасны чытач павінен зразумець сутнасць нашай барацьбы за стварэнне адзінай соцыялістычнай літаратуры, за ўмацаванне прынцыпаў большэвіцкага інтэрнацыяналізма ў беларускай літаратуры.

Цяжка даваць цяпер дэталёвыя метадычныя ўказанні аб правядзенні літаратурных чытак. Кіраўніку чыткі прыдзецца на месцы, у канкрэтных абставінах высвятліць тую ці іншую чарговасць у падборы кніг, той ці іншы метад арганізацыі чыткі і г. д. Тут магчымы розныя падыходы: у некаторых выпадках можна пасля кожнага прачытанага раздзела правесці гутарку ў іншых выпадках дапускаецца правядзенне гутаркі пасля прачытання значнай часткі твора, у некаторых выпадках магчыма спалучыць калектыўную чытку ў гуртку з чыткай дома. У выпадку па трэбы і жадання гуртка можна арганізаваць больш частыя чыткі (больш чым раз у пяцідзёнку).

Аднак ужо можна даць рад указанняў, якія бясспрэчна карысны будуць для кіраўніка чыткі:

1. Кіраўнік чыткі павінен абавязкова сур'ёзна падрыхтавацца да чыткі ў голас, ведаючы, што ад яго ўмельства чытаць, ад малейшай яго мастацкай інтанацыі прачытанага тэкста залежыць поспех работы.

Кіраўнік чыткі павінен ведаць „на зубок“ тэкст, які ён збіраецца чытаць.

2. Ні ў якім выпадку не праводзіць чытку ў неахайна прыбраных і пракураных хатах. Калгаснікі-чытачы павінны на справе адчуць, што яны робяць вялікую і культурную справу і гэтую справу трэба рабіць нават з некаторым „святочным уздымам“.

Уступнае слова кіраўніка чыткі аб задачах мастацкага выхавання і аб барацьбе за ленінскую культурную рэволюцыю павінна адразу ўнесці ў гэту работу тон сур'ёзнай, баявой работы.

Кіраўнік чыткі павінен умела наглядаць за настроем сваёй аўдыторыі, за стомленасцю людзей і ні ў якім выпадку не чытаць больш двух гадзін, робячы толькі выключэнне ў тых выпадках, калі выключна яркі тэкст выклікае ў аўдыторыі жаданне чытаць далей.

Разгарнуць абмеркаванне кнігі трэба ўмела, без нацяжкі. Няма сумнення ў тым, што добра прачытаны яркі мастацкі ўрывак выкліча тут-жа на месцы эмацыянальныя рэплікі слухачоў, а пасля, па скончэнні чыткі на поўпрыглушаныя размовы „між сабою“. Кіраўнік чыткі павінен даць некаторую магчымасць развязаць языкі ў такой неафіцыйнай гутарцы, прыслухоўваючыся, выкарыстоўваючы гэтыя рэплікі і гэтыя неафіцыйныя гутаркі для разгортвання арганізаванага абмеркавання прачытанага.

Літаратурны паход не ставіць сабе мэтай проціпастаўленне калгаснай крытыкі існуючай дзейснай прафесіянальнай крытыцы. Аднак падбор выказванняў калгаснікаў аб мастацкай літаратуры паслужыў-бы вельмі каштоўным укладам у справу вывучэння нашага чытача, у справу кіраўніцтва нашым літаратурным фронтам. Трэба толькі ўмець удала падбіраць гэты матэрыял, высоўваючы самае яркае, цікавае.

Для гэтага кіраўніку чыткі неабходна ў ходзе работы запісваць найбольш цікавыя выступленні. Аднак, пры гэтым неабходна прыняць меры, каб той-сёй з найбольш адсталых калгаснікаў не быў напалоханы падобным „пратакалірваннем". Трэба растлумачыць калгасніку-чытачу, што і пісьменнік, і крытыка, і партыя цікавяцца яго думкай аб літаратуры і што іх выказванні таму з'яўляюцца каштоўнымі для нашага друку.

Літаратурны паход разгортваецца ва ўмовах выключна спрыяючых для яго плядатворных поспехаў. Трэба арганізацыйна замацаваць магутны ўздым самасвядомасці нашага калгаснага чытача. Справа літаратурнага похода—вялікая справа.

## ПАЭМА „ЦЕНІ НА СОНЦЫ" АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА

1. Мастацкая літаратура—вострая зброя ў палітычнай барацьбе. Многія буйнейшыя творы сусветнай літаратуры выконвалі непасрэдныя палітычныя задачы.

2. Рэакцыйная літаратура эксплаатуючых класаў высоўвала на розных этапах тэорыю апалітычнага (палітычна-нейтральнага) мастацтва для таго, каб пад фальшывым сцягам „чыстага" мастацтва прапаведваць сваю класавую палітыку (палітыку адцягнення чытача ад надзённых інтарэсаў палітычнай барацьбы). У артыкуле „Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура" (1905 г.) В. І. Ленін ускрыў рэакцыйную сутнасць гэтай тэорыі.

3. Фашызацыя літаратуры, яе ідэйнае загніванне ў радзе капіталістычных краін (Італія, Германія і інш.) характырызуецца рэзкім павышэннем антымастацкай аголена-палітычнай актыўнасці буржуазнай літаратуры. Скрозь і ўсюды гэта прыводзіць яе да паўярхоўна казённай дэмагагічнай тэндэнцыйнасці і таннай палітычнай фразы, фальшы і халтуры, якая сведчыць аб прадажнасці, ідэйным і мастацкім загніванні фашысцкай літаратуры.

4. Толькі ў СССР—краіне соцыялізма—рост палітычнай тэндэнцыйнасці мастацкай літаратуры азначае сапраўдны ўздым палітычнай свядомасці і ўсяго светапогляда мастака, уздым яго мастацкай культуры.

(„Так, наша савецкая літаратура тэндэнцыйна, і мы ганарымся яе тэндэнцыйнасцю таму, што наша тэндэнцыя заключаецца ў тым, каб вызваліць працоўных—усё чалавецтва ад ярма капіталістычнага рабства"—з прамовы сакратара ЦК ВКП(б) тав. Жданава на І-м Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў).

5. У сувязі з гэтым трэба адзначыць рост своеасаблівага „палітычнага жанра" ў савецкай літаратуры. Даволі ўказаць на ўзоры гэтага жанра ў паэзіі Маякоўскага, Д. Беднага, Лахуці, Гідаша і інш. У адрозненне ад іншых мастацкіх твораў савецкай літаратуры, творы гэтага жанра палітычна акцэнтаваны не толькі ўкосна, апасрэдавана, але непасрэдна—аголена ў тэматыцы, у вобразнай галерэі, у выказваннях аўтара, у мове і г. д.

6. Паэма Александровіча „Цені на сонцы" з'яўляецца адным з найбольш яркіх усесаюзных узораў падобнага „палітычнага жанру" ў савецкай паэзіі. Як першы памфлет (1927 г.), накіраваны супроць нацдэмаў, яна адыграла вялікую палітычную ролю ў барацьбе супроць контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызма, выклікала жорсткую барацьбу ў літаратуры і знаменуе сабою плядатворнае культываванне лепшых мастацкіх узораў палітычнага памфлета ў беларускай савецкай паэзіі.

7. Паэтычны памфлет „Цені на сонцы" накіраван на палітычную дыскрэдытацыю, асмейванне, зрыванне масак з твараў беларускага нацыянал-дэмакратызма, пачынаючы з яго верхавінкі („маршалкаў", „міністраў" і „прафесараў") і канчаючы яго „клапамі"—літаратурствуючымі дыяканамі і эстэтствуючымі фатографамі, павятовымі падхалімамі. Аўтар зрывае маскі з нацдэмаў, паказвае іх здрадніцкую службу ў інтэрвентаў і розныя „метады" іх палітычнай маскіроўкі: двурушніцтва, сваяцтва, фальшывы нацыянальны сцяг і г. д.

Выстаўляючы на паказ, побач з контррэволюцыйнай палітычнай фізіяноміяй, пошлую кар'ерысцкую, мяшчанскую бытавую морду нацдэмаўскіх кадраў і іх культуры, аўтар прытрымліваецца традыцыі памфлета, які б'е ворага па ўсяму фронту—палітычнаму, культурнаму, бытавому.

8. З мэтаю зніжэння варожага матэрыяла, паказу ўсяе яго нікчэмнае подласці, аўтар знарок трактуе галерэю нацдэмаўскага палітычнага актыва ў бытавым мяшчанска-сямейным плане. Адсюль іранічны „гімн сваяцтву"—іранічны гімн усім гэтым сваякам, кумам, шаферам, зяцям, цясцям, якія „з партфелем у адной руцэ і з тортам у другой", на імянінах у кума, „вырашаюць лёс народа".

9. Побач з падобным бытавым, камічным абыгрываннем матэрыяла аўтар, аднак, у радзе раздзелаў дае гнеўна патэтычныя характарыстыкі гэтым палітычным жулікам і здраднікам (прэм'ер-ветэрынар і „сука шызая княгіні Радзівіл"), выкарыстоўваючы народны прыгонніцкі фольклор для абрысоўкі вобраза эксплаататара.

10. Сатырычнае зніжэнне матэрыяла ляжыць у аснове значнай колькасці яркіх пародый, якія аўтар накіроўвае супроць нацдэмаўскага актыва. Ярчэй за ўсё аўтар парадыруе іх папоўска экзатычную паэзію. („І як не маліцца прасторам на беразе Чорнага мора") і мяшчанства-мадэрнісцкае „падражанне" правінцыяльным рускім упаднікам („сагнем-жа пад звон бакалаў хараство жыцця на калені"). Найбольш яркі і злы памфлет на гэтых, сумуючых у вершах, і мяшчанска-подлых на практыцы, паэтычных зброяносцаў нацдэмакратызма дае аўтар ў асобе паэта, які шукае забыцця ў „цудоўных пякнотах" і „шчупленькага крытыка", які хоча рассеяць свае „паэтычнае адзіноцтва" ў кампаніі вулічнай жанчыны і патрабуе скідкі („мне, бачыце, скідку, я-ж член прафсаюза").

11. Кампазіцыйна (у сэнсе пабудовы) памфлет „Цені на сонцы" становіць сабою паэму, пазбаўленую адзінага фабульнага (апавядальнага) касцяка і выростае шляхам нанізвання паасобных біяграфій, матываў і лірычных вершаў. Ідэя кантрастнасці „ценяў і сонца" і перамогі советаў цэмантуе ўсе гэтыя паасобныя звенні ў адзін ланцуг.

Аднак, тут характар кампазіцый такі, што ён мяркуе магчымасць вольнага скарачэння ці павелічэння паэмы.

Гэта прыводзіць аўтара ў некаторых мясцах да паўтарэнняў, якія не выкрываюць новых істотных бакоў рэчаіснасці.

12. Кантрастны кут гледжання ўспрыняцця матэрыяла (цені і сонца) кампазіцыйна выражан аўтарам у тым, што ўся паэма і кожны раздзел яе апавіты патэтычным уступам і (або) канцоўкай, якія даюць яркі фон сонца. Найбольш яркі і ўдалы ўзор гэтай патэтыкі становіць сабою „уступ" к паэме („Як не славіць песняй сакалінай"). Патэтычная веліч і ўрачысты гімн характарызуе лексіку, метафары і інтанацыю гэтага ўступу („Песня сакаліная", „б'юць паклон табе як сонцу нашы дні" „о, сонца, звязвай у моцны вузел хмары", „сусвет ахвачан сонечным пажарам" і г. д.)

Гэты ўступ і рад іншых патэтычных вершаў гэтага роду нічога супольнага не маюць з схематычнай рыторыкай, хоць пры адсутнасці меры

заключаюць у сабе падобную небяспеку. У творчасці Александровіча гэты патэтычны струмень складае адну з асаблівасцяй яго таланта—яго сілу, калі не лічыць схематычна-рытарычных тэндэнцый у некаторых творах Александровіча.

13. Гэты патэтычны гімн кантрастна падкрэслівае парадыйны „гімн" і той бытавы матэрыял, які запаўняе патэтычную рамку паэмы. Тут і лексіка знiжана варварызмамі і вульгарызмамі, тут інтанацыя верша— не дэкламацыйная, не напеўная, а бытавая гаворкавая (дыялог і маналогі), тут і рытмы іншыя (частушачныя і чачотачныя рытмы пры паказе айсора і тачыльшчыка).

14. У гэтых вершах аўтар выкрывае другую асноўную рысу свайго таланта—рэалістычную манеру зарысовак з гарадскога жыцця. Андрэй Александровіч адзін з першых яркіх мастакоў паказу совецкага горада і яго новага быта. Простыя, цёплыя (нагадваючыя ранніх рускіх камсамольскіх паэтаў—Казіна, Безыменскага) бытавыя зарысоўкі совецкага горада адыгралі ў ранніх вершах Александровіча ледзь не гістарычную ролю, калі значная частка пісьменнікаў была ў палоне есенінскіх вясковых пейзажаў.

15. Аўтар паэмы „Цені на сонцы" адзін з найбольш старанных працаўнікоў мелодыкі (мілагучча) верша. Гукавыя паўтарэнні, „гукападражанні" нямала садзейнічаюць сугучнасці яго вершаў. („Як не Славіць пеСняй Сакалінай БеларуСь, РэСпубліку Сваю"—паўтор гука „с", „Ты кРасуеш Ростам Рыштаванняў"—паўтор гука „р").

16. Андрэй Александровіч—адзін з лепшых паэтаў Беларусі, комуніст—паэт, які дапамагае партыі ў барацьбе супроць класавага ворага, паэт грамадзянін, які не адрывае свае пісьменніцкае працы ад партыйнай і совецкай работы, аўтар рада буйных твораў.

## „СПАЛОХ НА ЗАГОНАХ" ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

## (выд. III)

1. Рад буйнейшых твораў усесаюзнай сусветнай літаратуры створан на тэматыцы „года вялікага пералома" (1929—1930 г.г.) на тэматыцы „калгаснага руху, які прыняў характар магутнай нарастаючай антыкулацкай лавіны" (Сталін). Такавы творы „Паднятая цаліна" (Шолахава), „Брускі" (Панферава), „Станіца" і „Разбег" (Стаўскага).

Гэты факт сцвярджае лішні раз, што ўключэнне совецкай літаратуры ў штодзённую рэволюцыйную практыку рабочага класа не толькі не зніжае якасці мастацтва, а наадварот, узнімае мастака на велізарную вышыню, насычае яго твор незабыўнай соцыяльнай страсцю і, значыцца, стварае ўсе прадпасылкі для стварэння сапраўды вялікага мастацтва.

2. Аднак, для таго, каб штодзенная рэволюцыйная практыка змагла стаць матэрыялам для стварэння сапраўды буйнага соцыялістычнага мастацкага твора, неабходны такі ўзровень светапогляду мастака, пры якім ён (мастак) не коўзаецца па паверхні штодзённых фактаў, не блытаецца ў стыхіі дробязяй, а асэнсоўвае іх соцыяльную сутнасць, іх гістарычнае месца, бачыць логіку іх развіцця, усведамляе ўсё гэта палітычна.

У праціўным выпадку, пісьменнік можа, у лепшым выпадку (пры наяўнасці ў яго значнага таланта рэаліста) наткнуцца, толькі на тыя ці іншыя праўдзівыя сітуацыі (становішча), але не адлюстраваць рэчаіснасці ва ўсёй яе паўнаце і дынаміцы (руху).

3. Геніяльныя работы Сталіна, прысвечаныя праблемам калектывізацыі, непраўзойдзеныя па багаццю заключанага ў іх вопыта і тэарэ-

тычнай празорлівасці, павінны служыць кіруючым тэарэтычным пачаткам пры аналізе мастацкага адлюстравання калгаснага будаўніцтва.

(Артыкулы „Год вялікага пералома“, „Да пытанняў аграрнай палітыкі ў СССР“, „Галавакружэнне ад поспехаў“, „Аб рабоце на вёсцы“ і інш.)

4. Твор П. Галавача „Спалох на загонах“—першы яркі твор беларускай прозы, прысвечаны паказу калгаснага руху ў БССР. Напісаны ў самым разгары барацьбы за калгасны лад і ліквідацыю кулацтва, як класа, гэты твор не меў яшчэ творчага вопыта паказа тэматыкі „года вялікага пералома“ ні ў беларускай прозе, ні нават у рускай. Складанейшыя праблемы „мастацкага паказа калектывізацыі—праблемы паказа серадняка, які ідзе ў калгас масай, але які схільны к хістанням; кулака, наступаючага ціхай сапай, нярэдка забіраючыся ў калгас; комуніста і брыгадзіра, які кіруе, часам не без перагібаў, будаўніцтвам калгаса; праблемы ўзаемаадносін сельска-гаспадарчай арцелі і сельска-гаспадарчай комуны, праблема нацыянальнай формы пры мастацкім паказе калектывізацыі—усё гэта вызначыла выключную складанасць задач, стаўшых перад аўтарам „Спалоха на загонах“.

5. Твор „Спалох на загонах“ мае эпіграф з Горкага, які гаворыць аб жыцці, як аб „суровай казцы, добра расказанай добрым, але пакутна-праўдзівым геніем“. Аўтар хоча падкрэсліць гэтым эпіграфам сваю творчую ўстаноўку на суровы, пакутна-праўдзівы паказ рэчаіснасці. Супроць пісьменніцкай лакіроўкі рэчаіснасці, супроць схематычнага змазвання супярэчнасцяй барацьбы за калгасны лад—вось асноўная творчая платформа Галавача ў гэтай кнізе—устаноўка пісьменніка-рэаліста.

6. Гэта рэалістычная ўстаноўка на паказ суровай праўды жыцця ўвасаблена ў пераважнай колькасці падзелаў „Спалоха на загонах“. Аўтар з суровай праўдзівасцю паказвае жах дробна-ўласніцкай вясковай тупасці і коснасці, цяжкі, поўны хістанняў шлях асноўных серадняцкіх мас сялянства к калгаснаму ладу; хітрую і зверскую тактыку кулака.

7. На паказе велізарнай сілы дробна-ўласніцкай тупасці—і коснасці серадняка, сканцэнтравана пераважная частка творчай энергіі аўтара. Тут—лепшыя, гістарычныя абагуленыя „пакутна-праўдзівыя“ вобразы і сітуацыі.

Такава сцэнка сямейнага падзелу зямлі і забойства бацькі Панаса (стар. 23—26). Такавы падзел VII, у якім апісваецца рынак і выпадак з канём.

Такавы сцэны паказа стыхійнай прывязанасці селяніна да сваёй уласнасці і пакутны працэс развітання з ёю (Развітанне Клемсіхі з каровай, схаванне „на ўсякі выпадак“ новага хамута, насення, першы калектыўны ўдой і г. д.—ст. 119—122).

Яркі паказ падобнай супярэчлівасці нутра дробнабуржуазнага працаўніка, тонкі мастацкі паказ своеасаблівых „пережыткаў індывідуалістычнай ці нават кулацкай псіхалогіі“ (Сталін) у калгасах, упор на неабходнасць перавыхавання (а не лявацкага адміністравання) серадняцкіх мас—вось што каштоўна ў гэтай кнізе. У 1930 годзе, у самы разгар барацьбы за калектывізацыю, супроць апартуністаў справа і злева, гэты паказ суровай праўды класавай барацьбы ў вёсцы адыграў вялікую палітычную ролю.

8. Адначасова неабходна гаварыць аб станоўчай творчай каштоўнасці лепшых падзелаў гэтай кнігі, у барацьбе супроць бездапаможнага схематызма ў паказе беларускай вёскі. Паказам вобраза кулака Мышкіна, які пралез у калгас і там дзейнічае ціхай сапай, аўтар не толькі

б'е па беларускаму нацыянал-дэмакратызму, які ідэалізуе кулака, але і агаляе новую хітрую тактыку кулака, аб чым гаворыць тав. Сталін. („Шукаюць класавага ворага па-за калгасамі, шукаюць яго ў выглядзе людзей з звярынай фізіяноміяй, з велізарнымі зубамі, з тоўстай шыяй, з абрэзам у руках. Шукаюць кулака, якім мы яго ведаем з плакатаў. Але такіх кулакоў даўно ўжо няма на паверхні" гл. „Аб рабоце на вёсцы").

Такім чынам аўтар робіць першы крок па шляху паказа ў беларускай прозе класавага ворага не ў яго плакатнай схематычнай форме, а ў канкрэтнай гістарычнай устаноўцы.

9. Варта параўнаць аднолькавыя па тэматыцы і па ідэйна-палітычнай устаноўцы кнігі Галавача „Спалох на загонах" з кнігай Шолахава „Паднятая цаліна" ці Стаўскага „Разбег"—каб пераканацца ў тым, што Галавач тонка падкрэсліў рад умоў, вызначаючых нацыянальныя асаблівасці (нацыянальную форму) калгаснага руху ў БССР і рада вобразаў кнігі „Спалох на загонах".

Галавач падкрэслівае сугуба-адсталы характар таго сельскага раёна БССР („Цярэшкаў брод"), у якім разгортваецца барацьба за калгас. Аўтар разумее, што „нельга механічна перасаджваць узоры калгаснага будаўніцтва ў развітых раёнах у раёны неразвітыя" (Сталін). Аўтар разумее неабходнасць вучота нацыянальнай абстаноўкі „усё яшчэ адсталых нацыянальнасцяй, накшталт, скажам, Туркестана" (Сталін).

Адсюль рад спецыфічных, мясцовых умоў. У адрозненне, напрыклад, ад зерневых раёнаў СССР, дзе „сяляне мелі магчымасць пераканацца ў моцы і значэнні новай тэхнікі" (Сталін), сяляне серадзнякі і беднякі з вёскі Цярэшкаў Брод не мелі к 1930 г. гэтага багатага вопыта. Аўтар у сувязі з гэтымі мясцовымі асаблівасцямі дае яркую сцэну прыезда рабочай рамонтнай брыгады ў вёску (падзел XII). Характэрна тое недавер'е, якое праяўлялі ў адносінах да гэтай брыгады сяляне („А мне няма чаго і ладзіць. Ворчык зламаўся, дык я і сам зраблю"—стар. 132).

Гэта сугубая адсталасць мастацкі выражана таксама ў тым, што, наперакор агульна-прынятай схеме, Галавач не паказвае „ўрачыстай сустрэчы трактара", бо ў данай абстаноўцы трактар адсутнічаў. Але не гледзячы на гэта, адчуваюцца велізарныя выгады калгаснай працы, ад „простага складання сялянскіх прылад у нетрах калгасаў" (Сталін). Гэта геніяльнае ўказанне Сталіна аўтар удала ілюструе. Сугубая мясцовая адсталасць атрымлівае сваё мастацкае выражэнне таксама ў тым, што класавы вораг ужывае зброю рэлігіі ў барацьбе супроць калгаса. І тут аўтар мастацка выкарыстоўвае ўказанні Сталіна, накіраваныя супроць тых левакоў, якія „справу арганізацыі арцелі пачынаюць са зняцця званоў з царквы" і тым даюць козыр у рукі кулакоў.

(—„А царкву навошта адбіралі?—выкрыкнула жанчына.

— Самі-ж вы пастанаўлялі забраць яе.

— Са-а-мі?"—стар. 144).

10. Гэта правільная ўстаноўка на паказ мясцовых нацыянальных умоў, аднак, у радзе месц праводзіцца аўтарам няправільна, з перагібамі. Гэта адчуваецца ўжо ў лірыка-сімвалічным „уступе". Па традыцыі беларускай нацыянал-рамантычнай літаратуры аўтар напісаў гэты ўступ цвяцістай (не жывой) сімвалічнай прозай. Замест рэалістычнага канкрэтна-гістарычнага ўступу, які-б падвёў чытача да разгортваючыхся падзей, праясняючы іх класавую сутнасць—аўтар гаворыць аб нейкай здані „чалавека", за якім гоняцца „агідныя страшыдлы". Вобраз імперыялістычнай вайны зводзіцца аўтарам к абстрактна-пацыфісцкай жаласлівай сцэне аб „пакутах чалавека". Замест рэалістычнага паказу

сутнасці нацыянальнага прыгнёта ў царскай Беларусі, аўтар перапавялічана-нацыяналістычна гаворыць аб чалавеку, „які рэдка пратэставаў, яшчэ менш змагаўся за сябе“, аўтар заяўляе, што гэта „чалавек, які цярпеў столькі, як ніводзін яшчэ чалавек у Еўропе“.

11. Гэта „жаласлівая“ нотка адчуваецца таксама ў дыялагу паміж Панасам і сялянамі, калі агітатар Панас матывуе неабходнасць паступлення ў калгас тым, што „горшага-ж жыцця ад вашага і не прыдумаеш, хоць бы і хацеў“ (стар. 91). Аўтар няўдалую матывіроўку пра становішча нашага сялянства ўкладае тут у вусны комуніста-агітатара (гл. даклад тав. Коніка на І-м Усебеларускім з‘ездзе пісьменнікаў, стар. 65).

Выступаючы па пытаннях калектывізацыі на канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў, Сталін багатымі фактычнымі данымі давёў, што „беднякі-серадпякі атрымалі каласальны выйгрыш ад Кастрычніцкай рэволюцыі.“

12. Пры ўсёй неабходнасці паказа груза прыватна-ўласніцкіх інстынктаў у серадпякоў, нават пасля іх паступлення ў калгас „Парыжская комуна“ аўтар, аднак, не падкрэсліў мастацкімі сродкамі наступныя глыбокія словы Сталіна: „і іменна таму, што ў нас няма прыватнай уласнасці на зямлю, у нас няма і той рабскай прывязанасці селяніна да зямлі, якая існуе на Захадзе“.

13. Барацьба за соцыялістычны рэалізм азначае барацьбу за паказ праўды рэчаіснасці з вышкі соцыялістычнага светапогляду. Гэта патрабуе ўмення бачыць законамернасці рэчаіснасці, дынаміку яе ў яе найдрабнейшых дэталях (дробязях). Праўдзівасць адлюстравання дэталяў адыгрывае вялікую ролю ў працы пісьменніка.

14. Галавач у радзе месц ярка выкарыстоўвае дэталь для паказа цэлага. Вока мастака спыняецца на дэталі, выпукляе гэту дэталь, калі гэтага патрабуе мастацкая выразнасць.

(прыклады: паранены Сідар, лежачы на полі бойкі, бачыць, як рассцілаецца над ім неба, і як „белыя срэбныя ніткі павучыння павісаюць на галлі асінніку“—стар. 33; запашка калгаснікамі векавой мяжы, таксама дана ў такім „буйным плане“, у такой „замаруджанай здымцы“—стар. 154).

Аднак у радзе месц аўтар расцягвае непатрэбныя дэталёвыя апісанні з прычыны чаго некаторыя яго старонкі трацяць дынаміку, робяцца нуднымі.

(прыклады: Клім закурвае—стар. 43. Сідар распальвае ў самавары вугалле—стар. 77 і г. д.).

15. Адчуванне расцягнутасці аповесці атрымліваецца таксама з прычыны таго, што аўтар не навучыўся будаваць свой твор па вызначанаму плану.

Некаторыя вобразы выпадковы і паказваюцца на момант (Асцюк), многія недарысаваны. Апісальная тканіна вельмі часта перарываецца і аднаўляецца механічна. Для разгортвання вобраза аўтар часта ўжывае механічна метад успамінаў (стар. 21, 29, 53).

16. Кніга Галавача „Спалох на загонах“—відны твор беларускай совецкай літаратуры.

## АПАВЯДАННЕ М. ЛЫНЬКОВА „БАЯН“

### (Зборнік апавяданняў „На вялікай хвалі“)

1. Пабудова Беламорска-Балтыцкага канала — буйнейшая перамога соцыялістычнага будаўніцтва.

2. Праблема „перакоўкі людзей“ і барацьбы супроць рэштак капіталізма ў свядомасці — адна з найбольш складаных праблем, звязаных

з практыкай пабудовы Беламорскага канала. Для пісьменніка—„інжынера душы“—гэта ў першую чаргу—праблема паказа псіхалагічных працэсаў, паказа „нутра“ чалавека. Паказам „нутра“ чалавека, яго „душы“ займаліся і дваранскія і буржуазныя пісьменнікі. Лепшыя з іх (Бальзак, Шэкспір, Талстой і інш.) змаглі даць незабыўныя псіхалагічныя соцыяльныя зарысоўкі. Аднак, класавая абмежаванасць буржуазнага і дваранскага пісьменніка тармазіла гэтыя поспехі. Загніваючая літаратура эксплаататарскіх класаў звяла псіхалагічны аналіз вобраза да самакапання, да скажонага індувідуалістычнага „псіхакапацельства“, па-за паказам класавай соцыяльнай практыкі. Соцыялістычная літаратура адкрывае сабою эру найглыбейшага паказа псіхалагічных працэсаў пісьменнікамі — „інжынерамі“ чалавечых душ.

3. Усесаюзная экскурсія совецкіх пісьменнікаў на Беламорскі канал і высоўвае рад праблем уключэння літаратуры ў штодзённую рэволюцыйную практыку пролетарыята:

а) праблему барацьбы супроць контррэволюцыйнай трацкісцкай „тэорыі дыстанцыі“ (Троцкі гаварыў, што літаратура заўсёды „ў абозе“ рэчаіснасці, а таму, бач, нельга пісаць пра сучаснасць соцыялізма);

б) асноўныя масы совецкіх пісьменнікаў павярнуліся тварам да соцыялістычнага будаўніцтва і тэматыка соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляецца для іх арганічнай тэматыкай, а не знешнянавязаным „соцыяльным заказам“.

4. Беларускія совецкія пісьменнікі ва ўсесаюзнай экскурсіі на Беламорскі канал і барацьба за ліквідацыю нацыянальнай абмежаванасці тэматыкі беларускай літаратуры: контррэволюцыйныя беларускія нацдэмы спрабавалі адрываць беларускую совецкую літаратуру ад усесаюзнай. Культывавалася „самабытная“ беларуская тэматыка, якая скрозь і ўсюды азначала эсэраўска-нацыяналістычнае любаванне глухменню, кулацкай стыхіяй і „ідыотызмам вясковага жыцця“. У сучасны момант беларуская совецкая літаратура вядзе, пад кіраўніцтвам партыі, паспяховую барацьбу за ўкараненне ўсесаюзнай тэматыкі ў беларускую совецкую літаратуру і выхад на ўсесаюзную арэну (гл. выступленне сакратара ЦК КП(б)Б тав. Гікало па гэтаму пытанню на сустрэчы з пісьменнікамі. „Звязда“ №).

Барацьба за тэматыку—класавая барацьба на літаратурным фронце.

Так званая агульна-чалавечая тэматыка (тэмы кахання, смерці, дружбы і інш.) заўсёды з'явы класавага парадка, паскольк ў паняцце тэмы ўваходзіць класавы адбор і класавая ацэнка рэчаіснасці. Перамогшы клас заўсёды мяняў тэматычны стрыжань літаратуры ў сваю карысць (напрыклад, тэма „маладого чалавека“ ў буржуазнай літаратуры XIX ст.).

5. Апавяданне Лынькова „Баян“ ставіць у цэнтры праблему „перакоўкі людзей“.

а) Дэкласаваныя, люмпенскія элементы (зладзеі, беспрытульныя і інш.) у капіталістычных краінах, як немінучае параджэнне і спадарожнік капіталізма, што нельга ліквідаваць ва ўмовах капіталізма.

б) Дэкласаваныя і люмпенскія элементы ў совецкай краіне—рэшткі капіталізма, якія ліквідуюцца і перавыхоўваюцца.

в) Верш нацдэма Лужаніна „Рэцыдывіст“ („Заклік“ № 2, 1933 г.) і нацдэмаўская контррэволюцыйная трактоўка соцыяльнай сутнасці люмпенскіх элементаў у совецкай краіне.

г) Пераробка людзей у соцыялістычнай працы (ударніцтва).

д) Большэвікі-чэкісты ў якасці выхаваўцаў (вобраз тав. Пірына)

6. Асноўная лінія дыферэнцыяцыі лагернікаў—былыя буржуі і люмпены (Апацей Еўдаксеевіч і Андрэй Андрэевіч).

7. Рамантычны вобраз „атамана“ Андрэя Андрэевіча: яго стыхійная сіла і паэтычная натура (любоў к музыцы). Цяга атамана Андрэя Андрэевіча к баяну і метады яго соцыяльнага перавыхавання. Падобныя ж сапраўдныя факты прыводзяцца ў нарысе П. Галавача „Ад Мядзвежай гары да Белага мора“ (выпадак з мастаком у лагеры, ст. 29).

8. Рамантычны матыў надкласавай „паэтычнай душы“ не мала культываваўся ў беларускай нацыяналістычнай літаратуры. Гэты нацыяналістычны матыў узрываецца аповесцю „Баян“ і яе стрыжнёвай ідэяй: „не ў гармоні адной, чалавеча, справа“ (сапраўдная паэтычная рамантычная сіла,ператвараючая людзей, не ў надкласавых „салодкіх гуках“, а ў соцыялістычнай працы!).

9. Пейзаж Беламорканала, як абрамленне апавядання (суровы дзікі пейзаж, як вобраз, паралельны псіхічнаму стану атамана ў пачатку апавядання, і сонечны пейзаж у канцы апавядання як вобраз, паралельны пераробцы атамана). Пейзаж (апісанне прыроды) адзін з мацнейшых мастацкіх сродкаў, падкрэсліваючых адносіны аўтара к вобразу. У аповесці „Баян“ аўтар перакрыжоўвае лёс карэльскай звярынай глухмені, які перамагаецца соцыялістычнай працай (сцэна з мядведзем, стар. 72) і лёс „звярынай чалавечай душы“ ва ўмовах соцыялістычнай працы.

10. Псіхалагічны паказ „падзення“ атамана Андрэя Андрэевіча („тры каплі клею“) з'яўляецца яркім прыкладам умення выкрываць спружыны чалавечых падсвядомых дзеянняў.

Сіла мастацкай дэталі выражаецца ва ўменні прасачыць на дробязях (на дэталях) вечны рух жыцця.

Такіх мастацкіх удала адлюстраваных дэталяў у апавяданні „Баян“ немала („сіла вадзяністых струменчыкаў“, якія „камень крышаць“) і выкліканая гэтым у тав. Пірына думка пра „сярэбраныя галасы гармоніі“ (стар. 81), адсюль план закупкі баяна для Андрэя Андрэевіча; альбо вобраз Апацея Еўдаксеевіча, які „абгрызвае костачку“ (ст. 82) і г. д.

11. М. Лынькоў адзін з лепшых майстраў „малой формы“ (апавядання, навелы) у беларускай прозе. У гэтых апавяданнях („Манчжур“, „Андрэй Лятун“, „Чыгунныя песні“) ён паказвае галерэю яркіх рамантычных фігур, якія чахнуць ва ўмовах капіталізма і знаходзяць свой „вялікі прычэп да жыцця“ ў совецкай рэчаіснасці. М. Лынькоў песняр рамантычнай рэальнасці соцыялізма.

12. Мова Лынькова лірычна-прыўзнятая, з напеўнай інтанацыяй вясковага сказа. Нават там, дзе гэта напеўнасць сугучна рамантычнаму матэрыялу, яна пачынае пагражаць аўтару ненатуральнасцю і вычурным народніцтвам.

13. „Баян“—праўда аб нашым соцыялістычным будаўніцтве. Параўнай апавяданне „Баян“ з фактычнымі матэрыяламі, сабранымі ў зборніку „Белморстрой“ (ст. 164 „Адказ Ледэркіна“).

## АПОВЕСЦЬ ЗМ. БЯДУЛІ „САЛАВЕЙ“

**(Творы, т. III)**

1. Змітрок Бядуля належыць да дакастрычніцкага пакалення беларускіх пісьменнікаў. Ён увайшоў у беларускую літаратуру ў гады паслярэволюцыйнай царскай рэакцыі (1910 г.) і адразу вызначыўся, як тыповы пісьменнік „наша-ніўскай“ фармацыі, г. зн. як рэакцыйны, буржуазна-нацыяналістычны, упадніцкі пісьменнік. Гэта палітычная і ідэйная ўстаноўка атрымала свае стылявое выражэнне ў Бядулі ў нацыяналістычнай рамантыцы, у бязвыходна-журботнай лірыцы і ў

папоўска-сімвалістычных перапевах рускай упадніцкай літаратуры і рэакцыйных элементаў беларускага фольклора.

2. Ад гэтага рэакцыйнага палітычнага і ідэйнага грузу буржуазнага нацыяналізма Бядуля не змог вызваліцца таксама на працягу раду гадоў совецкага перыяду, калі ён быў у лагеры нацдэмаў.

Толькі ў апошнія гады, перад тварам разгрому партыяй контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызма, перад тварам магутнага ўздыму соцыялістычнага будаўніцтва, Бядуля приступіў да сваёй ідэйна-палітычнай перабудовы. Другі том яго рамана „Язэп Крушынскі“, накіраваны супроць беларускага інтэрвенцкага нацыянал-дэмакратызма, з'яўляецца яркім дакумантам гэтай перабудовы.

3. Аповесць Бядулі „Салавей“, апублікаваная ў нацыяналістычнай часопісі „Узвышша“ ў 1927 г., становіць сабой значную цікавасць як мастацкі дакумант раздваення аўтара і ўнутранай барацьбы ў ім буржуазнага нацыянал-рамантызма з рэалізмам.

4. Нацыянал-рамантызм Бядулі выражаўся ў радзе яго твораў, як нацыяналістычная ідэалізацыя далёкага рэакцыйнага мінулага Беларусі, як прakланенне перад роднымі „зачараванымі гонямі“, як смакаванне ўсяго падсвядомага і містычнага. Сама па сабе тэма аповесці „Салавей“ з яе асноўным матывам „паэтычнай душы народа“, мае моцныя традыцыі не толькі ў беларускай буржуазнай і нацыяналістычнай літаратуры (даволі ўспомніць з рускай літаратуры „Тупейного художника“ Лескова).

5. Асновай сюжэтных канфліктаў у аповесці „Салавей“ з'яўляецца сутычка паміж стыхійным, „свабодным мастаком“—мастаком з народа, і польскім панам. „Не хачу быць панскім салаўём“—вось найбольш вострае выражэнне гэтага канфлікту. Сялянскі бунт з'яўляецца ў гэтай аповесці, у значнай меры падпарадкаванай з'явай. Такое рамантычнае перавялічэнне ролі „стыхійнай артыстычнай душы“—даніна рэшткам беларускага нацыянал-рамантызма і славутым нацыялістычным вобразам „баянаў“ і „дудароў“.

Адсюль раздваенне душы „салаўя“. Яго (г. зн. салаўя — Я. Б.) нянавісць да ўсяго панскага была цяпер мацней, чымся раней, аднак, не гледзячы на гэта яго цягнула назад да панскіх палацаў, да іх раскошы“... (стар. 80).

6. У рэакцыйнай трактоўцы стыхіі мастацтва аўтар апіраецца на нацыяналістычны фольклор (казка пра Івана-прастачка, які пачаў „па свету хадзіць, у дудачку граць, людзям праўду казаць“... стар. 128). Гэта рэакцыйна-рамантычная трактоўка мастацтва праглядае таксама ў радзе месц пры паказе другога стыхійнага „свабоднага мастака“— Антона Мурашкі, які любіць „граць для сябе“ граць „да ахмялення, да адурэння, да сёмага поту“ (стар. 61).

7. Налёт нацыянал-рамантызма ляжыць таксама на вобразе дэкаратара, у якога, пры ўсім яго жаданні выканаць заказ „французскіх педагогаў“ (пісаць „грэцкія дэкарацыі“) атрымліваецца беларускі ўзор: узоры сялянскіх дыванаў, каласы з васількамі (стар. 61).

Гэты матыў своеасаблівага фаталістычнага, падсвядомага этнаграфізма перакlікаецца са славутым нацыяналістычным вершам Багдановіча пра слуцкую ткачыху:

„Ты тчэш, бязвольная рука
Замест пярсіцкага ўзора
Цвяток радзімы васілька“.

8. Больш моцная нацыянал-рамантычная закваска аўтара адчуваецца ў рамантычна-нацыяналістычнай сцэне выступлення яўрэя Меера з яў-

рэйскай рэлігійнай песняй „маёфіс“ на панскім бале. Матыў, стаўшы назоўным паняццем крывадушша і подласці яўрэйскіх багацеяў і клерыкалаў, прыслужваючых панам (песня маёфіс на панскім бале) ідэалізуецца Бядулем у тыпова-нацыяналістычных тонах.

(„У глыбіні-ж мелодыі панаваў тысячалетні сум вандроўцы-бяздомніка.

У маліцвенна-спакорлівым тоне чулася вялікая ўпартасць і пагроза“).

Па скапчэнні песні Меер, па словах аўтара, „выходзіць з горда узнятай галавой“ (стар. 94).

9. Груз нацыянал-рамантызма адчуваецца яшчэ таксама ў некаторых пейзажах, якія празмерна ўпрыгожаны, фантастычны і насычаны сімвалістыкай (гл. раздзел V сімвалічны пейзаж і „гром“, які суправаджае сцэну з варонай—стар. 19, ці пейзаж у пачатку раздзела „фантастычная ноч“: „цёмна-сінімі зданямі змрокі плылі“ і г. д.).

10. Усё гэта трэба разглядаць, як рэшткі нацдэмаўскага мінулага, але асноўным для гэтай кнігі з'яўляецца тое, што побач з рэшткамі нацыянал-рамантычнай стыхіі аповесць „Салавей“ пранізваецца магутным струменем рэалізма, які зрывае „ўсе і ўсякія маскі“ (Ленін),—рэалізма, крытычна-сатырычнага. У радзе месц Бядуля таленавіта адлюстроўвае то адзін, то другі бок рэчаіснасці. Ён паказвае ў радзе месц праўду стыхійнага сялянскага бунту, які спалучаецца з разгубленасцю і анархіяй. Ён бачыць загніванне прыгонніцкага ладу, развал яго гаспадарчай і культурнай сістэмы, разлажэнне яго „духоўных пастыраў“. Ён з іранічнай усмешкай гаворыць пра навязаную працоўным нацыянальную рознь.

11. У вобразе пана Вашамірскага Бядуля ўвасабляе вельмі ярка ўсю глыбіню загнівання прыгоннай сістэмы. Рэакцыйная безгаспадарчасць і нядбайнае самадурства падрывае эканамічныя падваліны прыгонніцтва. Узмоцнены прэс паншчыны даводзіць сялянства да сістэматычных бунтаў. Культура прыгонніка Вашамірскага „ліпавая“, наносная і падробленая. Яго рэлігія—зман мас, распуста і крывавая эксплаатацыя.

12. Гэта сістэма загніваючага прыгонніцтва агаляецца аўтарам метадам сатыры, якая даходзіць вельмі часта да яркага памфлета:

а) Пан Вашамірскі прыхільнік „чыстага мастацтва“ („чыстата як неба ў маі, узнёслага як веснавы вецер, нявіннага як дзіцё, вечна маладога як сама прырода“, стар. 31).

Але ўся гэта слюнява-панская сантыментальшчына змочана крывёю засечаных на стайні „артыстаў“.

б) Пан Вашамірскі прыхільнік ідэалістычнай эстэтыкі („мастацтва вышэй за жыццё і смерць“ (стар. 65), але гэта ідэалістычная эстэтыка і яе „творчы метад“, яе „енеральная парапіца“ (так называюць сяляне генеральную рэпетыцыю) зводзяцца да зверскай расправы над сялянствам.

в) Пан Вашамірскі таму так непрыметна пераходзіць ад захаплення „чыстым мастацвам“ да захаплення... коньмі (гл. раздзел „замест тэатру—стайня“).

Той-жа мэце памфлетнага агалення прыгоннай культуры служыць вобраз „прыдворнага лірыка“ пана Вольскага, які ў п'яным выглядзе піша свой бясконцы халтурны верш „Ой“, абмакваючы зубадлубак у сваю „ўласную кроў“ (стар. 102).

13. Рад яркіх памфлетных падзелаў аўтар прысвячае духавенству. Прыстасоўваючы старыя ўлюбёныя прыёмы антырэлігійнай сатыры (п'яны поп, сатыры на богамаці і г. д.), аўтар, аднак, уносіць сюды вельмі

многа арыгінальнай злой і тонкай насмешкі (гл. дыспут па пытанні аб тым, ці можа гаварыць „хрыстусаў асёл“—стар. 34, ці сцэну з „павесялеўшай богамаці“—стар. 127 і г. д.).

14. У радзе месц рэаліст-Бядуля прыходзіць у сутычку з нацыяналістычным рамантыкам—Бядулям. Ідэалізаваныя вобразы „свабодных мастакоў“—Антона Мурашкі і „Салаўя“ ў радзе месц раптам зніжаюцца. Сякера партызана бунтара—чорнабародага Язэпа перамагае нацыяналістычную скрыпку.

Салавей хныча, як і належыць выпеставанаму „артысту“, а Язэп яму гаворыць: „Чаго хнычаш?... Мяккае ў цябе сэрца, як бачу. Не салаўём трэба быць, а злосным каршуном. Нашаму брату плакаць не выпадае“ (ст. 147).

15. Пяру рэаліста Бядулі належыць рад ярка-рэалістычных бытавых зарысовак (напр., раздзел „Певень і курыца“, шмат яркіх, рэалістычных пейзажаў, без „цёмна-сініх зданяў“ (стар. 82), сакавітая жывая мова, з яркімі запамінаючыміся дэталямі (напр., вобраз збітага да смерці на гумне селяніна—стар. 121).

16. Адступае ад рэалізма аўтар тады, калі ён забывае, што гэту „гісторыю“, г. зн. сваю аповесць ён „чуў ад старога дзеда“, і замест перадачы моўнага каларыта дзеда (як гэта робіць напр. Лескоў у сваім „Тупейном художнике“)—ён—Бядуля гаворыць у аповесці ўласным голасам, культурна-іранічным, „вучоным“ (гл. спрэчкі паміж драматургам і рэжысёрам—стар. 56, і ў радзе іншых месц).

17. Кампазіцыйна аповесць „Салавей“ зроблена як звычайная гістарычная эпапея, з моцным сюжэтным касцяком, калі не лічыць лірыка-іранічнага ўступу (гл. „спевы салаўя“, „нядзельныя званы“), які звязвае гістарычнае мінулае з сучасным.

## ПЛАН ГУТАРКІ ПА РАМАНУ М. ЗАРЭЦКАГА „ВЯЗЬМО“

1. Гістарычная пастанова ЦК ВКП(б) ад 23/IV 1932 г. аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый адзначыла рост маладых рабочых і калгасных пісьменніцкіх кадраў і паварот асноўных пісьменніцкіх мас у бок савецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва. Лепшыя з пісьменнікаў, якія прыйшлі к пролетарыяту дзякуючы перамогам соцыялізма і мудрай, чулай, выхаваўчай рабоце партыі, перабудоўваюцца не толькі ідэйна-палітычна, адмаўляючыся ад сваіх палітычных памылак і варожых установак, але і ідэйна-творча, узыходзячы на шлях соцыялістычнага мастацтва.

2. Ідэйна-творчая перабудова гэтых пісьменнікаў заключаецца ў тым, што побач з новай палітычнай установкай яны ці мяняюць свой вобразны стрыжань (мяняюць свой тыпаж) ці яны па новаму асвятляюць стары тыпаж, старыя вобразы, старыя матывы. Такім чынам гэтыя пісьменнікі ўступаюць у своеасаблівую палеміку са сваім уласным мінулым, са сваімі ўлюбёнымі ў мінулым героямі (аўтакрытыка).

3. М. Зарэцкі—аўтар рамана „Вязьмо“ належыць да ліку тых беларускіх пісьменнікаў, якія ў апошнія гады, перад тварам разгрома беларускага нацыянал-дэмакратызма, павярнулі ў бок савецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва. Побач з палітычным адыходам ад сваіх старых нацдэмаўскіх пазіцый, на якіх ён стаяў на працягу рада гадоў, М. Зарэцкі пачынае рваць са сваімі літаратурнымі навыкамі, са сваімі старымі вобразамі (гл. яго артыкул „Размова надзвычайнай шчырасці“—газета „ЛіМ“ № 22, 1932 г.).

4. У мінулым Зарэцкі быў у палоне нацдэмаўскага нацыянал-рамантызма і буржуазнай упадніцкай літаратуры. Яго асноўным улюбёным

вобразам быў вобраз рамантычнага „шукальніка хараства"—хараства, процiпастаўленага совецкім будням. Гэта „хараство" аўтар шукаў у анархiствуючых інтэлігентах, у эратычных сітуацыях, у нацдэмаўскіх кулацкіх ідэалах хутарызацыі.

5. Раман Зарэцкага „Вязьмо" прадстаўляе сабою своеасаблівую аўтакрытыку пiсьменніка—спрэчку са сваім уласным мінулым, са сваімі старымі вобразамі.

Карызна—улюбёны вобраз Зарэцкага. Ён таксама „шукае хараство", ён анархiствуючы лявак, ён выступае супроць „будняў" совецкай рачаiснасцi („мы яшчэ спiм, закалыханыя роўнай плыняй будзёншчыны"—стар. 12). Аднак аўтар разгортвае цяпер „пошукi хараства" Карызны не ў абстрактных рамантычных фразах „новым, незнаёмым, асаблівым" і не ў будуарах анархiствуючых гімназістак,—а на класавай практыцы (барацьба за калектывізацыю). Тут агаляецца твар гэтых „шукальнікаў хараства" i герояў „левых фраз": Лявак Карызна загiбае ўлева, каб скрыць сваю сувязь з кулацтвам і садзейнiчанне яму (стар. 62).

6. Вобраз Пацяроба—хiтрага кулацкага агента, пад маскай лявака, створан аўтарам для таго, каб паказаць лявака Карызну ў яго больш грубай, распаясанай форме („Раз-два і ў дамкі"—стар. 63). Пацяроб таксама рад, што „вярнуўся дзевятнаццаты год" і што цяпер (у перыяд калектывізацыі) можна „разгарнуцца, каб аж затрашчэла ўсё навокал" (ст. 53). Пацяроб—гэта аголены Карызна, без яго „ўнутраных супярэчнасцяй" і „перажыванняў".

7. Вобразам апартуністаў процiпастаўлен вобраз комсамольца-брыгадзiра Зелянюка. Яго сувязь з масамі, метад яго работы сведчыць аб яго палітычным чуццi і цвярозасцi.

8. Прыметнае месца займаюць у рамане жаночыя вобразы. І тут жаночыя вобразы своеасаблівыя „шукальнікі хараства", павятовыя „рамантычныя душы" (Вера Засулiч, Марына Паўлаўна, Матрона—жонка Гвардыяна); але і ў іх адчуваецца ўстаноўка аўтара на выкрыццё пошлай рамантыкі гімназістак. Рамантычны запал Веры Засуліч уключаецца ў барацьбу за калектывізацыю. Рамантычна-мяшчанскі „бунт" Матроны супроць мужа (стар. 172) агаляе ўсю ідэйную пустату і бяссiлле гэтых „рамантычных натур".

Энергiчны грамадскі работнік Тацяна Шыбянкова—матэрыял для цікавага жаночага вобраза—вобраза вясковай актывісткі.

9. У процiвагу мяшчанскай рамантыцы створан аўтарам рамантычны вобраз партызана інваліда Якуба Лакоты—арганізатара калгаса.

10. Дзед Галілей—вобраз своеасаблівага вясковага „шукальніка ісцiны", „філосафа"—дзiвака, ён аўтарам не прадуман да канца, а таму ён і бадзяецца па раману амаль без справы, хоць ён мог-бы вырасцi ў цікавы вобраз совецкага „дзеда"—процiпастаўленага нацдэмаўскім апаэтызаваным „дзядам".

11. Творчы груз мiнулага цiсне на Зарэцкага і ў рамане „Вязьмо". Перавага штампаваных матываў кахання і „трыкутніка кахання" (двое любяць адну ці дзве любяць аднаго), насуперакі паказу соцыяльнай практыкі, адчуваецца таксама ў рамане „Вязьмо".

12. Раман „Вязьмо" разгортвае соцыяльна-псiхалагiчныя канфлікты людзей у іх класавай практыцы. Складанасць характараў выгадна вылучае раман „Вязьмо" ў беларускай совецкай прозе. Аднак, пад уплывам буржуазнага псiхалагiзма аўтар праз меру смакуе „тайну чалавечай душы", аддае перавагу падсвядомай і біялагічнай прыродзе чалавека. У рэзультаце гэтага Карызна ў радзе месц аблагараджваецца сваімі „душэўнымі перажываннямі"; Зелянюк гуманістычна

„філасофствуе“ па поваду сямейнай трагедыі Карызны (стар. 88) і пад канец па-таварыску суцяшае выключанага з партыі апартуніста Карызну („будзем разам здабываць назад сабе тое, што разам страцілі“— стар. 243). Класавая злосць бедняка Андрэя Шыбянкова зводзіцца к стыхійна-асабістай, тупой, крыважэрнай (сцэна раскулачвання Гвардыяна).

13. Раман „Вязьмо“ вызначаецца стройнай кампазіцыяй, напружанасцю (нават празмернай заблытанасцю) інтрыгі. Завязка рада канфліктаў (асабістых і соцыяльных) нечаканая, іх развязка робіць гэтую кнігу цікавай.

14. Фабульная напружанасць выкладання, шпаркасць разгортвання падзей прыводзіць аўтара часта да „абязлічкі“ ў мове (мова вельмі кніжная, недыферэнцыяваная), да амаль поўнай адсутнасці пейзажа, партрэта.

15. Раман „Вязьмо“ твор пераломны. Патрабуецца ад аўтара напружаная далейшая работа, каб канчаткова вызваліцца ад творчага груза мінулага.

## „БАЦЬКАЎШЧЫНА“ КУЗЬМА ЧОРНЫ

1. Рабочыя і працоўныя СССР і ўсяго света любяць с в а ю с о ц ы я л і с т ы ч н у ю р а д з і м у — краіну Советаў. Яны яе акраплялі крывёю сваіх лепшых сыноў на палях грамадзянскай вайны; яны вырвалі яе з кіпцюроў голада, галечы і бескультур'я; яны будуюць у ёй соцыялізм пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна,—і яны ні адной пядзі гэтай радзімы не аддадуць імперыялізму.

2. Да перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі ў рабочых і працоўных не было радзімы. Ілжывымі лозунгамі „барацьбы за бацькаўшчыну“ ворагі працоўных (буржуазія і яе агенты) гналі народныя масы на бойню ў інтарэсах купкі банкіраў, фабрыкантаў і памешчыкаў, у інтарэсах б у р ж у а з н а й „б а ц ь к а ў ш ч ы н ы“.

У сусветнай буржуазнай і памешчыцкай літаратуры немала твораў насычаных гэтымі ілжывымі, рэакцыйнымі лозунгамі „барацьбы за бацькаўшчыну“.

3. Беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратызм вядзе сваю контррэволюцыйную і інтэрвенцкую прапаганду пад ф а л ь ш ы в ы м н а ц ы я н а л ь н ы м с ц я г а м любові к буржуазна-кулацкай Беларусі. Усё, што было і ёсць рэакцыйнага, контррэволюцыйнага ў беларускай культуры, ідэалізуецца нацдэмамі, як „роднае“, як „бацькаўскае“, „самабытнае“ (с в а я палоска, с в а я бацькаўшчына, с в о й народ).

4. Асноўная ідэйная ўстаноўка Кузьмы Чорнага ў „Бацькаўшчыне“— паказаць, што ў працоўных, эксплаатуемых н я м а б а ц ь к а ў ш ч ы н ы; што ў кожнай нацыі ёсць дзве нацыі—нацыя прыгнечаных працоўных і нацыя прыгнятальнікаў, эксплаататараў; што працоўныя ўсяго света— адзіная інтэрнацыянальная сям'я; што ў соцыялістычным будаўніцтве Советаў працоўныя ўсяго света знайшлі сваю с а п р а ў д н у ю б а ц ь к а ў ш ч ы н у.

5. Гэта ідэйная ўстаноўка дыктавала аўтару неабходнасць п а р в а ц ь с а с в а і м у л а с н ы м м і н у л ы м і ў процівагу сваім старым ідэйным установкам—устаноўкам сялянскай і нацыянальнай абмежаванасці—высунуць новыя—інтэрнацыянальныя ўстаноўкі у процівагу яго старым улюбёным вобразам—вобразам адсталых сялян, вобраза ўсёперамагаючай „улады зямлі“—высунуць свядомых барацьбітоў за зямлю.

6. Цэнтральны вобраз „бацькаўшчыны“—Леапольд Гушка—батрак, які „хоча жыць па чалавеччу“ („па чалавеччу жыць хачу“—стар. 22). Ён мару ўсяго свайго жыцця бачыў ва „ўласнай“ зямельцы, якая нібыта дасць яму свабоднае жыццё. Ён разумны, моцны, валявы чалавек—у процівагу старым сялянскім вобразам К. Чорнага. Але класавая практыка агаляе перад ім панятце „буржуазнай бацькаўшчыны“ і ўзнімае яго да ўзроўню рэволюцыйнай класавай свядомасці.

7. Адась Гушка—сын Леапольда Гушкі—задуман аўтарам як вобраз рэволюцыйнага рабочага, Эдвард Лявер—як вобраз нямецкага рэволюцыйнага рабочага.

8. Кулакі Сурвіла і Мазавецкі—яскравыя вобразы кулакоў—хітрых эксплаататараў. Яны прыкрываюць сваю эксплаатацыю ілжывымі фразамі аб адзінстве беларускага народа (ст. 90, 92, 100).

9. Звязаўшы барацьбу Леапольда Гушкі за „ўласную палоску“ з неабходнасцю ўступіць у рускае падданства і прыстасаваўшы ўсё гэта к абвяшчэнню імперыялістычнай вайны, аўтар дабіўся выключна яркай, вобразнай ілюстрацыі к агаленню крывавай сутнасці царскага лозунга „за бацькаўшчыну“.

10. Задумаўшы вобраз Леапольда Гушкі, як патомка рэволюцыйных сілезскіх ткачоў—„чужака“ ў Беларусі, аўтар дасканала проціпаставіў гэты беларускі вобраз „самабытным, ісціна-беларускім“ вобразам нацдэмаў. Адначасова аўтар стварыў яркую інтэрнацыянальную сітуацыю дружбы Леапольда Гушкі з сілезкім рабочым-палонным Эдвардам Лятверам. Адсюль дасканалы сюжэтны матыў рэволюцыйнай песні сілезскіх ткачоў, якая гучыць аднолькава і ў Сілезіі і на палях Беларусі (ст. 64-65).

11. З той-жа ўстаноўкай на агаленне рэакцыйнай сутнасці нацыяналістычнага смакавання катаржнай тупой уласніцкай мужыцкай працы, аўтар у пачатку кнігі адлюстроўвае катаржную працу Леапольда Гушкі на фоне „хрысціянскага“ любавання папа „раем зямным і птушкамі“ (стар. 5).

12. У процівагу сваім старым творам, у якіх адчуваецца некаторая нерухомасць сюжэта, адсутнасць вострых сутычак і супярэчнасцяй, вузкае сюжэтнае кола, Кузьма Чорны пабудаваў раман „Бацькаўшчына“ ў плане своеасаблівай вялікай гістарычнай хронікі падзей, якія разгортваюцца вельмі шпарка (асабліва пачынаючы з 3-й часткі), на вялікім плацдарме (Беларусь, Заходняя Беларусь) і ахапляюць вялікі гістарычны перыяд (ад напярэдадні імперыялістычнай вайны, праз грамадзянскую вайну да перыяда калектывізацыі ўключна).

13. Гэта вызваляе аўтара ад ягонай мінулай пасіўнасці, але прыводзіць яго да некаторай раскіданасці, да некаторага празмерна-паскоранага „нагортвання“ падзей, без дастатковай абрысоўкі вобраза (адсюль так часта ўжываемая пераходная формула—„раптам“, „адным словам“ (стар. 10, 65, 75), адсюль небяспечнасць схематычнага хранікёрства, якое нават свядома падкрэсліваецца аўтарам у эпілогу (стар. 152—153).

13. У рэзультаце гэтай пагоні, у радзе месц, за вонкавай дынамікай змазан у значнай меры вобраз Адася Гушкі, які недзе бадзяецца па-за кулісамі. Вобраз старога Няміры і старой маці Адася Гушкі ў радзе месц скачваецца к ілжэ-народнай жаласлівасці (стар. 105, 131). Асабліва ілжывым і надуманым з'яўляецца тое месца, дзе стары Няміражабрак раптам аказваецца на чале рэволюцыйнай дэманстрацыі (стар. 155).

14. Не гледзячы на гэтыя недахопы і на палітычна нявернае ў адным месцы апісанне ўзаемаадносін кулака і пана (аўтар мяркуе, што кулак Сурвіла нейтральны ў барацьбе супроць пана: „лесу цяпер падхаплю-

і так—няхай сабе сякуць і мне будзе, а пан — халера яго бяры“—стар 87),—не гледзячы на ўсё гэта—„Бацькаўшчына“ яркі твор ідэйна-палітычнай перабудовы Чорнага.

## „НАД РАКОЙ АРЭСАЙ“ ЯНКІ КУПАЛЫ

1. Народны паэт рэспублікі Янка Купала—адзін з буйнейшых прадстаўнікоў дакастрычніцкага пакалення беларускіх пісьменнікаў у беларускай совецкай літаратуры і адзін з віднейшых паэтаў СССР.

Яго ідэйна-палітычны і творчы шлях—ад магутнай у асноўным рэволюцыйна-сялянскай, антыпрыгонніцкай і нацыянальна-вызваленчай паэзіі перыяда першай рэволюцыі (1905—06 г.), праз буржуазна-нацыяналістычны літаратурны і палітычны скат у перыяд паслярэволюцыйнай царскай рэакцыі і рада гадоў совецкага перыяда, да ідэйна-палітычнай і творчай перабудовы яго ў апошнія гады пад знакам совецкай соцыялістычнай паэзіі,—увесь гэты шлях дае яркае прадстаўленне пра цяжкі, поўны хістанняў, шлях дробна-буржуазнага сялянскага дэмакрата. Гэты шлях, ва ўмовах пролетарскай дыктатуры і соцыялістычнага будаўніцтва, няўхільна вядзе лепшых людзей гэтай соцыяльнай групы да соцыялістычнай, совецкай культуры.

2. Твор „Над ракой Арэсай“ сведчыць аб тым, што перад тварам разгрома партыяй беларускага інтэрвенцскага нацыянал-дэмакратызма, перад тварам магутнага ўздыма соцыялістычнага будаўніцтва, Янка Купала ў мінулым абуджаны нацыяналізмам ідэйна-палітычна пераўзброіўся і стаў моцна на рэйкі совецкай соцыялістычнай рэчаіснасці.

Асноўная ідэйна-палітычная ўстаноўка аўтара ў гэтым творы можа быць выражана ў чатырох радках:

„Балота, забалаць балот,
Як там ні называй,
Але ступіў тут большэвік,—
Ён зменіць гэты край“.

Аўтар ставіць сабе задачу адлюстраваць праўду нашага соцыялістычнага будаўніцтва, усхваліць вольную соцыялістычную працу, арганізаваную партыяй большэвікоў і зменьваючую твар нашай краіны ў самых яе глухіх кутках, у мінулым больш за ўсё соцыяльна і нацыянальна прыгнечаных (Палессе). Аўтар бачыць усепераможную сілу ленінскай нацыянальнай палітыкі і на практыцы пераконваецца ў рэакцыйнасці і здрадніцтве буржуазных нацыяналістаў, аўтар пераконваецца ў ілжывасці і рэакцыйнасці нацыяналістычнай ідэалізацыі „самабытнай“ адсталасці палешукоў і становіцца песняром „сталёвага чоўна“, г. зн. соцыялістычнай культуры. Аўтар пераконваецца ў рэакцыйнасці кулацкай ідэалізацыі дробна-ўласніцкай працы і ў вялікай радасці калектыўнай соцыялістычнай працы.

3. Гэта палітычная ўстаноўка патрабавала адпаведна-новых мастацкіх сродкаў выражэння, новых вобразаў і новых, соцыялістычных адносін да старых вобразаў. Гэта было тым больш неабходна, што ў гэтым творы Янка Купала павінен быў вызваліцца ад свайго мінулага, нацыяналістычнага погляду на „палескую самабытнасць“, на сялянскую працу, на беларускую прыроду і г. д.

4. У сувязі з гэтым Янка Купала ў радзе месц гэтага твору спрачаецца са сваім уласным літаратурным мінулым.

Паэма пачынаецца, звычайным для народнай творчасці „запевам“, з указаннем на тое, што дагэтуль няма песень „пра жыццё комуны“

у той час, як ёсць немала ўлюбёных нацыяналістамі легенд і песень пра старое, глухое Палессе. Супроць нацыяналістычнага любавання глухой „самабытнай“ прыродай Палесся аўтар высоўвае хараство новага пейзажа.

„А на рэчцы, на Арэсе,
Бегае „маторка“,
Стары човен як карыта,
Пазірае горка“ (стар. 53).

Супроць нацыяналістычнага любавання „маляўнічымі“ хацінкамі і старадаўнімі курганамі аўтар высоўвае хараство совецкага заможнага жыцця ў комуне:

„А на рэчцы, на Арэсе,
Будынкі, будынкі:
Пахнуць соснаю смалістай,
Пахнуць свежым тынкам“.

Супроць нацдэмаўскай ідэалізацыі „самабытнай“, „паэтычнай“ натуры „паляшука“—аўтар высоўвае новых людзей соцыялістычнага будаўніцтва („людзей смелых і жвавых“) і разам з тым агаляе адсталасць і непарушнасць улюбёнага нацдэмамі „самабытнага палешука“:

„Там красуе ўжо комуна
На тарфяніні бурым,
Паляшук-жа адзіночка
Усё шчэ бровы хмура“ (стар. 53).

(Нацдэмы не хацелі і не маглі чуць рэволюцыйнай палескай беднаты—яны ўвасаблялі і ідэалізавалі ў вобразе „палешука“ то кулацкую сілу, то вясковы ідыётызм. Гэтых-от „палешукоў“ мае на ўвазе Купала).

Супроць нацыянал-рамантызма, г. зн. супроць ідэалізацыі рэакцыйнага мінулага (беларускага сярэднявечча, кулацкай гаспадаркі) Янка Купала цяпер высоўвае сілу соцыялістычнага рэалізма, г. зн. адлюстравання праўды, соцыялістычнай сапраўднасці.

5. Адначасова Янка Купала прадоўжвае і абагачае лепшыя рэволюцыйныя творчыя традыцыі свайго рэволюцыйна-дэмакратычнага мінулага (перыяд першай рэволюцыі 1905 г.). Гэтыя традыцыі: даступнасць самым шырокім масам працоўных, насычанасць рэволюцыйна-дэмакратычным фольклорам і вялікую сілу соцыяльнай лірыкі—Янка Купала ўзнімае на новую вышыню—вышыню совецкага мастацтва.

6. Устаноўка аўтара на даступнасць яго паэмы шырокім працоўным масам вызначае прастату і народнасць (у лепшым сэнсе гэтага слова) яго паэтычнай мовы. Яго мова не перагружана замыславатымі метафарамі, ён апіраецца на мову народнай творчасці, адсюль яго суровая скупасць:

„А людзі? а людзі?
Іх мала—не мала.—
Упаўшыя грудзі
Бяда ўслед навалай“ (стар. 9)

Адсюль яго мужная (не сантыментальная) лірычная цяплыня:

„На нарах панеслі,
Клалі ў ложак з нар,
Тры дні і тры ночы
Уміраў комунар.
І памёр ваяка
За быт комунарскі
Ужо яму не трэба
Ні трудоў, ні ласкі“ (стар. 37)

Адсюль яго велічавасць:

„Сонца, месяц, зоры
Будуць аглядаць
Новыя прасторы
Ніву-сенажаць“ (стар. 68) [1]).

Адсюль жывое адчуванне мовы ў розных персанажаў (гл. выступленні лодыраў і актывістаў,—стар. 26-29).

7. Лёгкая песенная рытміка народнай песні гэтага твору адпаведна заданням аўтара відазменьваецца—адсюль багацце рытмаў гэтай паэмы.

(Прыклад:

„Ды як-жа так?
Працуй, працуй,
Адно багно
Ў дрыгве начуй!)

Тут скарагаворка бузацёраў-крыкуноў, а вось за ім, кантрастна, размерана строгі, вялічна-спакойны дакорлівы адказ лодырам:

„Як вам не сорам, як не стыд
Сябе так весці між братвы!
Чангарцы вы дасюль былі
І не чангарцы ўжо вы!“ (стар. 29).

8. Свайму твору аўтар імкнуўся надаць характар цудоўнай казкі соцыялістычнага будаўніцтва, у процівагу казкам старога Палесся, якія з'яўляюцца забабонамі і „паўзуць мохам вязкім“.

Пра гэта сам аўтар піша:

„Тут пачну я апісанне,
Як пішацца ў казках,
Бо інакай не выходзіць,
Слухайце, хто ласкаў“ (стар. 63).

Адсюль характэрныя для гэтага жанру некаторыя наўмысныя перавялічэнні, наіўны аптымізм і схематызм у паказе „комуны цуднай“

„Я не буду ўнутр залазіць,
Падзеяў соўгасных“ (стар. 63)

альбо:

„Ёсць напэўна недахопы,
Бо як-жа інакай
Ў гаспадарстве, ў будаўніцтве,
Але іх не бачыў (стар. 66).

9. Паэма „Над ракою Арэсай“ сведчыць пра вялікі палітычны і творчы рост Янкі Купалы, яна можа паслужыць узорам стылявой цэльнасці і фольклорнай прастаты.

## АПОВЕСЦЬ „ДРЫГВА“ ЯКУБА КОЛАСА

1. Аповесць народнага паэта рэспублікі Якуба Коласа—„Дрыгва“ за параўнаўча кароткі перыяд часу набыла выключную папулярнасць сярод шырокіх чытацкіх мас. Кнігу гэтую чытаюць з захапляючай цікавасцю і старыя калгаснікі і комсамольскі маладняк. Выступленні ў друку жывога героя гэтай аповесці—дзеда Талаша—надаюць асаблівую цікавасць гэтай кнізе ў вачах масавага чытача.

2. Разглядаць гэту кнігу з яе ідэйна-палітычнага і мастацкага боку, значыць—выкрыць „таямніцу“ велізарнага поспеху гэтай кнігі сярод

[1]) Падкрэсліваем фольклорныя элементы.

шырокіх, нават найбольш адсталых, чытацкіх мас, гэта значыць, высветліць сутнасць ідэйна-палітычнай і творчай перабудовы Якуба Коласа.

3. Якуб Колас—буйнейшы (побач з Янкам Купалам) прадстаўнік дакастрычніцкага пакалення беларускіх пісьменнікаў. Падобна Янку Купалу ён прарабіў складаны пісьменніцкі шлях: ад рэвалюцыйна-дэмакратычнай антыпрыгонніцкай і нацыянальна-вызваленчай паэзіі (пэрыяду 1905 году) праз нацыяналістычны і буржуазны спад у пэрыяд царскай рэакцыі і раду гадоў совецкага перыяду да ідейна-палітычнага і творчага ўздыму яго пісьменніцкай дзейнасці ў апошнія гады.

4. Безсумненны і канчатковы палітычны паварот Якуба Коласа ў бок совецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва атрымаў сваё яркае мастацкае ўвасабленне таксама ў **творчай** перабудове пісьменніка ў паказе новых вобразаў і ў новым падыходзе да старых вобразаў. Вобраз рэволюцыйнага партызанскага Палесся, вобраз большэвіка падпольшчыка—Нявіднага, вобраз Чырвонай арміі („Дрыгва")—усё гэта нават пры недахопах у іх паказе, з'яўляецца заваёвай для пісьменніка. Гэта тым ярчэй выступае, што ў старой нацыяналістычнай і народніцкай літаратуры „Палессе" ідэалізавалася і смакавалася як увасабленне „самабытнай беларускай літаратуры", як „хавальніца" „беларускай душы" і г. д.

5. У мінулым, Якуб Колас, знаходзячыся пад уплывам нацыянал-рамантызма, таксама ідэалізаваў „глуш Палесся"—яе адсталасць, і бачыў „самабытнасць" беларускага духу ў „ціхім жалю" Палесся.

(У аповесці „У Палескай глушы" Якуб Колас некалі пісаў, што „сама гэта прырода Палесся... бясконцыя балоты вучылі іх (палешукоў—Я. Б.) мудраму разважанню..."

Там-жа Якуб Колас смакаваў прыгажосць палескай глушы і адсталасці, знаходзіў у ёй „сваю павабнасць і хараство, свой твар, поўны пужлівага задумення").

6. У аповесці „Дрыгва" Якуб Колас разглядае Палессе як плацдарм жорсткай класавай барацьбы. Польскія паны і беларускія кулакі з аднаго боку, Чырвоная армія, большэвікі і беларускія сяляне-партызаны—з другога боку—вось новае **рэалістычнае абліччa** Палесся.

Аўтар ужо не смакуе хараства палескай глушы, а апісвае лясы і балоты Палесся, як **фон для грамадзянскай вайны.**

Знікаюць славутыя народніцкія і нацыяналістычныя „самабытныя" сантыментальна-саладкавыя і пасіўныя пейзажы,—„трывожна здрыганулася Палессе. Балота балоту, лес лесу перакідалі **грознае водгулле невыразнага гуду**"—так апісвае **цяпер** Колас пейзаж Палесся („Дрыгва", стар. 239).

7. Пад кутом гледжання гэтай творчай палемікі Коласа са старымі народніцкімі і нацыяналістычнымі традыцыямі пры паказе Палесся трэба разглядаць таксама цэнтральны вобраз аповесці „Дрыгва"—дзеда Талаша—атамана партызан. У беларускай нацыяналістычнай і ілжэ-народнай літаратуры смакаваўся вобраз „дзеда"—магутнага „самабытнага" прадстаўніка „добрага старога часу". Дзед—яго „жыццёвая мудрасць", яго адсталасць, яго нацыянальная абмежаванасць—**усё гэта нацдэмамі ўхвалялася і процістаўлялася рэволюцыі**, соцыялістычнай культуры, совецкай рэчаіснасці.

Колас б'е нацдэмаў іх-жа уласнай зброяй. Выкарыстоўваючы тое, што вобраз „дзеда" мае карэнні ў сялянскім быце, у народнай творчасці, Колас высоўвае новы, совецкі вобраз магутнага дзеда Талаша, які зрабіўся **атаманам партызан, барацьбітом за совецкую ўладу.**

8. Побач з гэтым цэнтральным вобразам аўтар намячае галерэю вобразаў, з якіх кожны па свайму ідзе да рэволюцыі.

Цімох Будзік—„спецыяліст" па падпалах панскіх сядзіб—стыхійны сялянскі бунтар (стар. 124).

Саўка Мільгун—„размашысты чалавек, шырокая натура і гультай"—канакрад, які, аднак, інстынктыўна ненавідзіць кулакоў. Гісторыя яго здрадніцтва і наступныя яго намаганні „стаць чалавекам" (раздзелы XXVII і XXXII) сама па сабе можа зрабіцца тэмай для яркай аповесці.

Аўгіня—з ёю звязаны найбольш лірычныя падзелы аповесці „Дрыгва". Яе каханне да Мартына Рыля—аднаго з кіраўнікоў партызан— спалучаецца з інстынктыўнай ненавісцю да паноў, што прыводзіць яе да сутычкі з мужам—войтам і да актыўнай дапамогі партызанам (разд. XXVI).

9. Бледна і хадульна дадзен аўтарам вобраз падпольшчыка-большэвіка тав. Нявіднага. Гэты вобраз не разгорнуты. Агульныя словы аб тым, што „Нявідны сейбіт буры і змагання", што „шмат было ў тав. Нявіднага напружаных момантаў"—не раскрываюць вобраза партыйнага кіраўніка партызанскім рухам у Беларусі. Яго работа, там дзе яна паказана, выяўляе яго наіўным змоўшчыкам (раздз. XII, XXII). Яго смерць паказана шэра, суха.

10. Аповесць „Дрыгва" напісана пісьменнікам рэалістам, які праўдзіва апісвае асноўную закономернасць падзей у іх руху—вось у чым сіла яго кнігі. Адначасова аўтар „аздабляе" ўсе гэтыя падзеі рэволюцыйнай героікай (рамантыкай). Яго героі вельмі блізкія да герояў народных казак. На гэта намякае сам аўтар, які піша:

„Людская гутарка аздабляла сапраўдныя падзеі... Ганусанскія падзеі набывалі значанне гераічнай быліны, дзе партызаны выступалі як волаты, а іх атаман рысаваўся, як народны герой, як рука караючай справядлівасці"... (стар. 183-184).

11. Гэта ўстаноўка на своеасаблівы мастацкі совецкі „лубок", у лепшым сэнсе гэтага слова выражаецца ў простай, часам наіўнай сюжэтыцы (сцэна з пераапрананнем пры налёце на палякаў), у наіўным алегарызме (сцэна з воўкам і вепрам), ва ўстаноўцы на паскоранае апісанае падзей („адным словам дзеду Талашу ніяк не можна варочацца дадому"), у наіўнай вобразнасці („дзед Талаш быў заняты і горды, як дзікі арол"— стар. 40). (Такава таксама па сваёй наіўнай рамантыцы сцэна „прысягі на лапці").

12. Адпаведна гэтаму жанру мова Коласа сакавітая, даступная масам, з даступнай масам вобразнасцю.

13. У беларускай совецкай літаратуры адчуваецца вялікі недахоп займальнай сюжэтна-захопліваючай літаратуры—аповесць „Дрыгва", якая чытаецца з захопленнем, у гэтым сэнсе таксама з'яўляецца дасягненнем нашай літаратуры.

14. Неабходна падкрэсліць вялікае значанне аповесці „Дрыгва" ў справе паказу героікі грамадзянскай вайны і ўмацавання абароназдольнасці СССР.

## ПАЭМА М. ЧАРОТА „БОСЫЯ НА ВОГНІШЧЫ"

**(М. Чарот. Творы, т. II).**

1. Гісторыя—„гэта палітыка, абярнутая ў мінулае" (Пакроўскі). Бурліць класавая барацьба навокал праблемы гісторыі беларускай літаратуры. Нацдэмы, трацкісты, вялікадзяржаўнікі спрабуюць выкарыстаць арэну гісторыі беларускай літаратуры для прапаганды контррэволюцыйных, кулацка-нацыялістычных тэорый і згуртавання буржуазна-інтэрвенцкіх сіл на літаратурным фронце. Ліст тав. Сталіна ў рэдакцыю журнала „Про-

летарская революция“ геніяльны адказ на ўсе гэтыя пытанні класавай барацьбы на фронце гісторыі.

2. Дарэмныя спробы нацдэмаў дыскрэдытаваць паэму Чарота „Босыя на вогнішчы“—першы яскравы пролетарскі твор паэта комуніста—Міхася Чарота. „Босыя на вогнішчы“—першая беларуская паэма пролетарскай рэвалюцыі, пад дэвізам: „Змагаюцца праца з багаццем“. Цэнтральным у ёй з‘яўляецца вобраз босых, вобраз сімвала пролетарыята.

3. Літаратурна-палітычная, пародыйная палеміка Чарота з кулацка-рэстаўратарскім нацдэмаўскім вобразам „князя“ (Чарот, т. II, стар. 17-18) пранізвае ўсю гэтую паэму. Сутнасць пародыі наогул і яе роля ў барацьбе літаратурных плыняў заключаецца ў тым, што ў плане творчай самакрытыкі ўнутры класа ці ў мэтах зрывання масак з класава-варожых літаратурных вобразаў, ужываецца парадыраванне гэтых вобразаў, г. зн. высмейванне іх, агаленне іх пошласці, варожасці (гл. кнігу „Руская літаратурная пародыя“ выд. 1930 г.). Чарот высмейвае інтэрвенцкія нацыянал-рамантычныя мары нацдэмаў аб беларускім княжастве („Беларусь болей слухаць не хоча. Аб Рагнедзе і Ізяславе“).

4. Таксама трэба разумець літаратурна-палітычную палеміку Чарота з нацдэмакратычным вобразам крыжа, сімвалам пакорнасці (ст. 8, 24).

„І пылае мур струхнелы,
Іскры скачуць па страсе.
Раптам вецер, вецер смелы
Крыж чырвоны нам нясе“ (М. Чарот).

5. Палітычная сутнасць чаротаўскай „арыентацыі на ўсход“—на совецкую Расію („На ўсходзе зардзелася неба“) у накіраванасці супроць нацдэмаўскай „арыентацыі на захад“—на капіталістычны свет. Чарот абвінавачвае нацдэмаў у здрадзе народу (стар. 30).

6. Рамантычна-гераічнае і камічнае ўспрыняцце рэволюцыйнай сапраўднасці ў паэме Чарота „Босыя на вогнішчы“ („Увысь імкнуцца вечна будзе, хто быў у гэткім падарожжы“) пераклікаецца з расійскай пролеткультаўскай паэзіяй. Рамантычна-гераічны і рытарычны вобразы „прарока“ („Мы—новых вольных дней пророк“) і „чырвана крылага вяшчуна“, вобразы ранняй пролетарскай рамантыкі.

7. Рамантычным упрыгожваннем сапраўднасці на рэалістычнай падставе Чарот дае рэалістычнае адлюстраванне рада бакоў рэчаіснасці. Рэволюцыйная рамантыка—форма праяўлення соцыялістычнага рэалізма.

8. У наяўнасці ўплывы паэмы Блока „Двенадцать“ на ранняга Чарота (не толькі вонкава рытмічны і стылістычны ўплыў, але і вобразны, напр. вобраз „ветра“, вобраз „скіфаў“ „басаножжа“ і інш.). Адсюль таксама элементы бунтарскага-стыхійнага ўспрымання Кастрычніцкай рэволюцыі і слабы паказ кіруючай ролі партыі ў разгорнутым выглядзе.

(Указаць на „блокаўскія“ строфы:

„Толькі песня чуваць блудніцы
— Палюбі ты хоць трошкі камрад“.

Альбо:

„А вецер свішча, гудзе...
Сціхнуць не хоча.
— Гэй, хто там ідзе?
Сцягам белым махае?“).

Аднак гэты ўплыў не можа служыць прычынай, каб праглядзець тое, што адрознівае паэму Чарота ад паэмы Блока „Двенадцать“.

Чарот комуніст-паэт, які актыўна змагаецца за су-

светную пролетарскую рэволюцыю ў той час, як Блок „прымае“ рэволюцыю з пазіцый радыкальнай буржуазнай інтэлігенцыі.

9. „Босыя на вогнішчы“—высокая, рамантычная (нават у некаторай меры сімвалістычная паэма) аднасачова „зніжана“, празаіравана размоўным, вольным вершам і бытавымі, рэалістычнымі малюнкамі. У гэтым таксама часткова адлюстроўваюцца ўплывы паэтыкі блокаўскай паэмы „Двенадцать“ на паэтыку ранняга Чарота. Вольны „дынамічны“ размоўны верш ранняга Чарота накірован супроць народніцка-стылізавана песеннага верша.

Вольны „размоўны“ верш адрозніваецца ад звычайнага песеннага верша тым, што ён нероўна складаны і нероўнастопны (колькасць складоў і „стоп“ у кожным радку розная) акцэнтаваны з устаноўкай на звычайную гутарку, напрыклад:

„Босыя ходзяць па вуліцы
Тыдзень не елі стравы.
— Жыць будзем--нічога!
Буржуй за вугал туліцца,
Шэпча: „Дрэнныя іх справы...
Дзякуй богу!“
Хмары, дзе захад
Падняліся
Што? Зноў непагода?
Вецер! - крычыць народ,—
— Вецер, уздыміся!..
Вецер адказвае: „Згода!“

барацьбе супроць песеннага ўкалыхваючага (пасіўнага) квяцістага верша-раманса нацдэмаў верш Чарота вылучаецца сваёй дыманікай, жыццёвасцю, суровасцю.

10. Трэба падкрэсліць адсутнасць фабулы (прычынна-часовай сувязі дзеяў) у паэме „Босыя на вогнішчы“, адсутнасць цэнтральнага персанажнага вобраза ў паэме, што выражаецца ў так званай комплекснай (не лінейная) кампазіцыі паэмы (паэма складаецца з паасобных вершаў, сітуацый), якія звязаны не цэнтральным вобразам і не з фабулай, а з лірычна-патэтычным настроем аўтара і асноўнай ідэяй: „змагаюцца праца з багаццем“.

11. Паэма Чарота „Босыя на вогнішчы“ пролетарская па змесцу нацыянальная па форме. Нацыянальнасць яе формы заключаецца ў тым, што Чарот выкрывае асобныя нацыянальныя ўмовы барацьбы за савецкую ўладу ў Беларусі і ўносіць у сваю творчасць каштоўнейшыя элементы беларускай культуры мас беларускай народнай творчасці.

## САТЫРЫЧНАЯ ПАЭЗІЯ К. КРАПІВЫ

### (К. Крапіва—Творы т. I)

I. На ўсіх баявых этапах сучаснай гісторыі чалавецтва сатырычная паэзія адыграла выдатную ролю, як вострая зброя ў класавай барацьбе.

Сатыра высмейвае і бічуе тое, што варожа класавай свядомасці аўтара-сатырыка; сатыра зрывае маскі з класавага ворага, агаляе яго рэакцыйныя рысы. Сатыра таксама з'яўляецца вернай зброяй у барацьбе за самакрытыку, накіраваную супроць прыватных недахопаў сацыяльнай сістэмы, якую абараняе аўтар.

2. Ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы ў СССР сатырычная паэзія даказала сваё права існавання бліскучымі творамі савецкіх сатырыкаў-поэтаў Маякоўскага і Д. Беднага.

Гэта паэзія ўвасобіла ў сабе лепшыя традыцыі баявой рускай і сусветнай сатыры (Гайне, Беранжэ, Салтыкоў-Шчэдрын, Некрасаў і інш.).

3. Адрозніваючая рыса гэтай паэзіі—яе выключная дзейнасць, аперацыйнасць, сувязь са штодзеннай практыкай класа і соцыяльны тэмперамент. У адрозненне ад буржуазных эстэтаў, прыхільнікаў адрыва літаратуры ад рэволюцыйнай барацьбы, совецкія сатырыкі-паэты заўсёды адкрыта падкрэслівалі сваю сувязь з рэволюцыйнай практыкай, свае служэнне інтэрэсам рэволюцыі (Маякоўскі, Д. Бедны).

4. Кандрат Крапіва карыстаецца сапраўды шырокай папулярнасцю сярод беларускіх працоўных, як сатырык-паэт. Яго сатырычныя байкі, частушкі, казкі і агіткі з выключнай шпаркасцю сталі здабыткам шырокіх мас працоўных, часам ледзь не зліваючыся з беларускім рэволюцыйным фольклорам совецкага перыяда.

5. Значная частка гэтых твораў абавязана сваім з'яўленнем у свет непасрэднай рабоце аўтара ў большэвіцкім друку, у выяздных брыгадах, на вытворчых нарадах і г. д.

Аўтар свядома падкрэслівае, у выглядзе эпіграфа, сувязь яго вершаў з канкрэтнымі злобадзеннымі з'явамі. К. Крапіва—паэт-газетчык у лепшым сэнсе гэтага слова (як яго разумеў Маякоўскі), паэт, моцна звязаны з практыкай соцыялістычнай рэчаіснасці.

6. Крапіва таму невыпадкова накіроўвае свой сатырычны агонь супроць буржуазных тэорый „чыстага мастацтва“, супроць языковага мудрагельства, супроць пагоні за бліскучай, але пустацветнай формай. Ён змагаецца за баявую паэзію, якая аперацыйна выконвае любое заданне рэволюцыі („Схапіўшы на бягу шматок пякучых строф, спяшаюся свінні на дапамогу“); ён змагаецца (падобна Маякоўскаму і Беднаму) за „пякучыя строфы“ за „радкоў калючы строй“ супроць эстэцка ўпрыгожаных і напамаджаных „нейтральных“ вершаў, якія па сутнасці аказваюцца голымі. Крапіва здзекуецца над беларускімі буржуазнымі фармалістамі (стар. 164) і імажыністамі, якія пішуць „словамі квяцістымі“ —(стар. 167) і змагаецца за „форму даступную мільёнам“, за песню не для аматараў, а для мас, за народную літаратуру.

(„Песні ўсё-ж не для мас,
Іх чытаць—трэба час
І чытаюць іх толькі аматары“, ст. 169).

7. Асноўная мэтавая ўстаноўка Крапівы, як усякага іншага рэволюцыйнага сатырыка—напасці на класавага ворага, мабілізаваць супроць яго абурэнне шырачэзных мас, а з другога боку, навучаць гэтыя масы, падняць іх класавую самасвядомасць, дапамагчы ім ліквідаваць тыя ці іншыя прыватныя недахопы, ліквідаваць рэшткі капіталізма ў свядомасці.

8. Гэта мэтавая ўстаноўка вызначае аб'ект сатыры Крапівы. Крапіва высмейвае, бічуе і выкрывае контррэволюцыянераў нацдэмаў-інтэрвентаў (ст. 149, 267 і інш.), імперыялізм (ст. 151), кулакоў і іх агентаў (27, 29, 55 і інш.), бюракратаў (ст. 17, 23 і інш.), стары быт (59, 68, 78 і інш.), рэлігійны дурман (96, 97, 108 і інш.) і г. д.

9. Гэтая-ж мэтавая ўстаноўка вызначае асобны совецкі характар нашай сатыры. Наша совецкая сатыра не мае мяшчанскіх куплетных сатырычных матываў—яна насычана палітычнай барацьбой, яна палітычна завострана нават у бытавой сатыры. Адсюль спляценне сатырычных і агітацыйных вершаў ва ўсёй нашай совецкай сатырычнай паэзіі, а таксама ў К. Крапівы (ст. 54 і інш.).

10. Устаноўка Крапівы на масавага чытача, на соцыялістычнае культурніцтва, у шырокім маштабе вызначыла цягу пісьменніка да жанраў (відам) дыдактычнай (выхаваўчай, павучальнай) паэзіі—да байкі, сатырычнай казкі—з аднаго боку, і з другога—да народнай песні (да частушкі, раешніка)—наогул да жанраў блізкіх народнай творчасці.

11. Байку Крапівы (таксама як і байку Д. Беднага) нельга змешваць з байкамі іншых эпох і класаў (напрыклад з байкай Крылова). Вонкавае падабенства (рытмічнае, кампазіцыйнае) не можа служыць прычынай к таму, каб не заўважыць новага класавага зместа, новага светапогляда ў совецкай байцы. Звычайная вузка жыццёвая мяшчанская мудрасць, якая прапаведваецца, напрыклад, у байках Крылова, нічога супольнага не мае з палітычна завостранай класавай мараллю ў байках Крапівы.

12. Байка Крапівы, таксама як байка наогул, ёсць „кароткая апісальная форма, сюжэтна-закончаная і падлягаючая алегарычнаму растлумачэнню, як ілюстрацыя к пэўнаму жыццёваму або маральнаму правілу" (лит. энциклопедия т. I, стар. 359). Аднак байку нельга звесці да алегорыі (інасказання), у якім канкрэтны вобраз, што падлягае растлумачэнню, з'яўляецца другарадным, малазначным у параўнанні з абстрактнай ідэяй алегорыі. У добрай байцы канкрэтны вобраз, які падлягае растлумачэнню, павінен сам па сабе быць яркім, паэтычным („Байка не ёсць алегорыя і не павінна быць ёю, калі яна добрая паэтычная байка; але яна павінна быць маленькай аповесцю, драмай, з асобамі і характарамі, паэтычна падкрэсленымі. Так, у Крылова ўсякая жывёла мае свой індывідуальны характар"—Бялінскі).

Гэтая паэтычная яркасць характарызуе лепшыя байкі Крапівы (стар. 184, 232, 248 і інш.). У гэтых байках ярка-паэтычнае апісанне каштоўна ў мастацкіх адносінах незалежна ад павучальнай канцоўкі.

13. Дасканалая народная гутарка, узбагачаная прыслоўем, прыказкай, народным (часам грубым, але красачным!) юмарам, характарызуе сатырычную паэзію Крапівы, як народную, і робіць яе даступнай і роднай мільёнам працоўных. У адносінах да паэзіі Крапівы можна сказаць тое, што Бялінскі гаворыць па адрасу баек Крылова. Гэта „паэзія народных пагаворак і прыслоўяў".

14. Вольны верш, які вызваляе сэнс і сінтаксіс верша ад акоў рытма, дае прастор вольнай, жывой, гутаркавай інтанацыі, набліжае верш да звычайнай гаворкі—таксама садзейнічае даступнасці паэзіі Крапівы. Гэтаму-ж спрыяюць яго частушачныя і іншыя фальклорныя рытмы.

15. Народны, у лепшым сэнсе гэтага слова, верш Крапівы аднак вольны ад нацдэмаўскай ілжэнароднай кваціістасці. Крапіва выступае супроць нацдэмаўскага рэакцыйнага фальклора (ст. 161).

16. Сярод сатырычных прыёмаў Крапівы займае віднае месца пародыя і зніжэнне вобраза, сатырычная паралель, сатырычны разрыў формы і зместа.

а) Парадыраванне і зніжэнне вобраза ў сатыры Крапівы заключаецца ў тым, што аўтар укладае новыя словы, новы ідэйны змест у класава-варожы паэтычны тэкст і вобраз, свядома прыніжае іх, даводзіць іх да недарэчнасці (прыклады: ідэалізаваныя нацдэмамі самабытныя „грышчы" свядома агалены і прыніжаны ў вершы „Грышча"; маліцвенны тэкст запаўняецца кплівымі „растлумачэннямі" ў вершах „Калядная размова", „Малітвы па-беларуску"; у вершы „У бога трывога" зніжаецца „нябесная рацъ":

„Адміралу нябеснаму Ною
Карабель свой ачысціць ад гною...
Патрыарху старому Абраму
Падпускаць болей ворагу газу..."

б) Сатырычная паралель выражаецца ў тым, што аўтар выкрывае і агаляе аб'ект сатыры ў паралельным плане (прыклад: у вельмі прыгожым вершы „Два каханні" аўтар разгортвае два паралельных каханні—апартуністычны кіраўнік соўгаса любіць дачку кулака і, у сувязі з гэ-

тым, „завадскі бычок“ соўгаса „кахае“ кулацкіх кароў. Аўтарам адначасова падкрэсліваецца процізаконнае абслугоўванне быком соўгаса кулацкіх кароў і тонка зніжаецца „жывёльнае“ каханне кіраўніка соўгаса.

в) Сатырычны разрыў формы і зместа заключаецца ў тым, што рэчам і людзям прыпісваюцца неадпаведныя ім функцыі, неадпаведныя формы праяўлення.

(Прыклад: у вершы „Майстры крывавага джаз-банда“ музыкальным струмантам джаза прыпісваюцца функцыі зброі рознага калібра.

„Можам даць мільён габояў,
Кожны з іх па пяць набояў...
Скачуць танец жывата
А завуць атакаю...
— Ой люлі! ой люлі!
Весяляцца каралі.
Мір сусветны—забабоны!
Ёсць зенітныя трамбоны“...)

Гэта супярэчлівасць формы і зместа сатырычна падкрэслівае пацыфісцкую палітыку мілітарыстычнай буржуазіі.

У вершы „Не губі сябе, дзяўчына“ бюракратычная форма процiпастаўлена любоўнаму зместу:

„Ён кахае скрозь кабету
Афіцыйна, па дэкрэту.
Ой, глядзі...
І цалуе небараку
Толькі ў планавым парадку
Акурат“.

17. К. Крапіва знаходзіўся некаторы час пад уплывам нацыяналістаў (член літгрупы „Узвышша“), аднак у сучасны момант Крапіва адзін з найбольш дзейных таленавітых работнікаў соцыялістычнай літаратуры.

Да слабых яго твораў належаць тыя, у якіх аўтар губляе свой баявы голас вобразаў і ўпадае ў жаласлівы тон (стар. 18), альбо ў нудна рэзанерскі тон, без пробліскаў сатырычнага досціпу, без завостранай сюжэтнасці (стар. 204, 225, 245 і інш.).

**В. Стамбулаў**

# ТУРЭЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

Калі ў першыя гады пасля ўвядзення лацінскага алфавіта ў Турцыі тыраж газет і кніг значна заняпаў, рэакцыйныя элементы не захоўвалі сваёй радасці і ехіднага зларадства. Іх злыя прароцтвы нібіта апраўдваліся: турэцкі чытач байкатаваў рэформу і тым самым пагражаў яе існаванню.

Аднак мінула некалькі год і малюнак рэзка змяніўся. Новы алфавіт арганічна прывіўся ў Турцыі. Вучнёўская моладзь—гэты асноўны кадр турэцкіх чытачоў—хутка адвыкла ад старой пісьменнасці і асвоіла новую. Патрэба ў друкаваным слове ўзрасла, і тыражы выданняў паказваюць у апошнія гады значнае павялічэнне. Значна ўзрасла і колькасць назваў кніг па самых рознастайным галінам ведаў і ў прыватнасці ў галіне мастацкай літаратуры. Такім чынам алфавітная рэвалюцыя не толькі не забіла турэцкую літаратуру, як гэта прарочылі рэакцыйныя элементы, але паслужыла магутным штуршком да яе далейшага развіцця.

Але ўсё-ж такі, знаёмячыся бліжэй з сучаснай турэцкай мастацкай літаратурай, мы вымушаны канстатаваць, што яна яшчэ не знайшла свайго сапраўднага шляху і што яе прагрэс далёка не такі значны, як гэтага можна было-б чакаць ад краіны, якая зрабіла буйнейшую рэвалюцыю, скінула векавы прыгнёт самадзяржаўна-клерыкальнага дэспатызма і заваявала сваю нацыянальную незалежнасць у гераічнай барацьбе супроць усяго еўрапейскага імперыялізма.

Турэцкая літаратура перажывае ў сучасны момант некаторы крызіс, які выражаецца ў тым, што па сваёй тэматыцы яна, за незначнымі выключэннямі, вельмі далёка ад сучаснасці, ад жыцця, ад запатрабаванняў і інтарэсаў турэцкіх народных мас; што яна слаба адлюстроўвае тыя соцыяльныя працэсы, тую класавую барацьбу, якія адбываюцца зараз у Турцыі.

Прычыны гэтай сумнай з'явы, бадай, не цяжка зразумець, калі ўлічыць гістарычныя асаблівасці развіцця турэцкай літаратуры.

Трэба прыняць яшчэ пад увагу, што тая праслойка інтэлігенцыі, з якой вербаваліся дагэтуль турэцкія пісьменнікі, была вельмі незначнай у Турцыі і што гэта праслойка амаль цалкам выходзіла з кіруючых і прывілеяваных класаў, аддзеленых ад народных мас і іх жыцця велізарным бяздоннем.

Большасць пісьменнікаў сучаснай Турцыі належыць да гэтай праслойкі і сфармаваліся да нараджэння новага рэжыма. Пражыўшы ўвесь свой век у Стамбуле, воддаль ад народных мас у разлагаючым акружэнні космапалітычнага левантыйскага горада, знаходзячыся цалкам пад іншаземным уплывам, такім моцным у гэтым горадзе кампрадораў, яны не ведаюць народнага жыцця, жыцця сапраўднай працоўнай Турцыі, яны не адчуваюць, як б'ецца пульс краіны. Большасць з іх не пры-

малі нават удзелу ў гераічнай вызваленчай барацьбе турэцкай нацыі. Вось чым тлумачыцца, што іх творы такія далёкія ад сучаснасці і з'яўляюцца ў большасці бясцветным перайманнем заходняй літаратуры.

Асноўная догма кемалізма, што ў Турцыі няма класавай барацьбы і што краіна павінна і будзе развівацца без гэтай барацьбы, як нельга больш адпавядае настроям гэтай катэгорыі пісьменнікаў і заахвочвае іх да замыкання ў сваіх творах у складаныя і ўтончаныя індывідуальныя перажыванні герояў, якія нічога супольна не маюць з сапраўдным турэцкім жыццём.

Аднак няма сумнення, што турэцкая літаратура не спыніцца на гэтым. Новы турэцкі пісьменнік, які імкнецца пісаць на сучасныя соцыяльныя тэмы, блізкі шырокім масам, ужо з'явіўся і прабівае сабе дарогу. Класавая дыферэнцыяцыя ў турэцкім літаратурным асяроддзі ўжо вызначаецца ўсё ясней і ясней, таксама яна дае сябе адчуваць усё мацней і мацней у самой краіне, як-бы не адмаўлялі гэта афіцыяльныя ідэолагі кіруючых класаў. Узмацненню гэтага працэса расслаенне спрыяюць і новыя кадры турэцкіх чытачоў з моладзі. Гэта моладзь усё больш і больш праяўлае сваю актыўнасць, бурна рэагуючы на розныя палітычныя падзеі, арганізуючыся вакол „Народных дамоў", дзейна працуючы ў шматлікіх і markdownрознастайных секцыях апошніх. Запатрабаванні і інтарэсы гэтай моладзі даўно пераступілі праз тую запазычаную з Захада заваль, якую даваў у апошнія гады турэцкі кніжны рынак. І зразумела, што запатрабаванні гэтай моладзі, запатрабаванні растучага ў краіне рабочага класа, запатрабаванні актывізуючагася перадавога сялянства выклічуць да жыцця новага пісьменніка, новую літаратуру.

---

Досыць хоць-бы каротка азнаёміцца з гісторыяй турэцкай літаратуры, каб зразумець наколькі страшэнны прыгнёт атаманскага самаўладства і дзікі абскурантызм мусульманскага клерыкалізма з'яўляліся непераможнай перашкодай для развіцця турэцкай літаратуры.

Маной і паклёпамі прасякнуты сцверджанні заходніх „прыяцеляў" Турцыі аб тым, што туркі, як „ніжэйшая раса", не здольны стварыць уласную высокую культуру, і што толькі гэтым тлумачыцца адсталасць Турцыі ў галіне мастацкай пісьменнасці, як і ў галіне іншых мастацтваў. Гісторыя турэцкай літаратуры з'яўляецца якраз яркім абвержаннем падобных сцверджанняў, бо яна паказвае ўсю моц творчага духа турэцкага народа, вытруціць які не ўдалося, не глядзячы на ўсе намаганні, векавому прыгнёту дэспатызма.

Уся гісторыя турэцкага народа цесна звязана са слоўнай творчасцю. Аднак труднасць і даступнасць толькі для нямногіх арабскай пісьменнасці прывялі да таго, што амаль усе помнікі старой народнай творчасці, якія пераходзілі ад пакалення к пакаленню ў вуснай перадачы, забыліся, страціліся на працягу стагоддзяў, і не дайшлі да нас. Больш шчаслівай у гэтых адносінах была літаратура верхавінкі пануючых класаў.

Ужо заснавальнік атаманскай дынастыі Асман акаввае магутную апеку найвялікшаму паэту гэтай эпохі—Джэлал Эддзі Румі, буйнейшыя творы якога: „Месневі" і „Дыван" дайшлі да нас.

Джэлал Эддзі Румі—выхадзец з Хорасана—які з'явіўся ў Анатолі якраз у момант пагібелі і развала Сельджукскай імперыі, быў адным з самых адукаваных людзей таго часу.

З пункту гледжання настаўнікаў прававерната мусульманства, усякае свецкае мастацтва было грахом. Джэлал Эддзі Румі давялося весці жорсткую барацьбу з афіцыяльнай рэлігіяй, засноўваць свой манашаскі

ордэн „Меўлеві“ (круцячыяся дэрвішы), каб зацвердзіць права сваіх паслядоўцаў на весялосць, скокі, музыку, паэзію, экстаз. Яго зборнік містычных паэм—„месневі“ з'яўляецца па сутнасці глыбока светскім творам, які апявае прыроду, каханне, радасць жыцця пад камуфлажам містычнай філасофіі.

У XIV і XV стагоддзях цэлая плеяда паэтаў пакінула пасля сябе рад прыгожых твораў, з якіх такія рэчы, як паэмы Юнус Эмрэ (у Турцыі нядаўна святкавалі 500-годдзе яго, і быў выпушчаны зборнік яго паэм новым алфавітам), Бурхан Эддзін Сіваскага і інш. з'яўляюцца сапраўды каштоўнейшымі літаратурнымі помнікамі.

Але прагрэсіўны характар Османскай манархіі нядоўга заставаўся такім. Хутка янаператварылася ў самы жахлівы феадальна-манархічны дэспатызм. Турэцкая літаратура паступова набывае дварцовы характар. Паэты, падрабляючыся пад густы ўладарных вельмож, пішуць лёгкія вершы анархэотычнага зместу, ці пішуць гістарыяграфіі, усхваляючыя і абажаствляючыя манархаў. Народная турэцкая мова, „як подлая“, паступова выганяецца з літаратуры і замяняецца персідскай і арабскай. Утончаны густ прыдворнай камарыллі патрабуе вычурнасці і цвяцістасці. Літаратура набывае характар напышанасці і штучнасці. Нават сярэднія класы, якія не ведаюць персідскай і арабскай моў, яе не разумеюць. Гэты поўны заняпад і застой турэцкай літаратуры цягнецца да сярэдзіны XIX стагоддзя.

Рэволюцыйныя падзеі ў Еўропе з аднаго боку і тыя непарыўныя ўдары, якія наносіў Оттоманскай імперыі заходні і рускі імперыялізм—з другога—не маглі не адбіцца на турэцкім грамадстве.

Буйнейшымі літаратурнымі фігурамі гэтай эпохі з'яўляюцца Шынасі, Намік Кемаль і Зія-Паша.

Шынасі не даў арыгінальных твораў, але яго справядліва можна назваць бацькам і натхніцелем адраджэння турэцкай літаратуры. Будучы вучоным рэдактарам часопісі „Тасвіры Эфк'яр“, кіраўнікомі настаўнікам вялікага турэцкага пісьменніка Намік Кемаля, перакладчыкам французскай класічнай літаратуры—Шынасі сапраўды аказаў велізарны ўплыў на турэцкую літаратуру гэтай эпохі.

Намік Кемаль (1840—1888) у гісторыі турэцкай літаратуры займае зусім асобнае месца. Пакінутая ім літаратурная спадчына вельмі значная. Ён пісаў п'есы, раманы, паэмы, крытычныя і палітычныя артыкулы, гістарычныя нарысы. Гэта быў сапраўды „паэт-грамадзянін“. З буйным літаратурным талантам ён спалучаў палкі нястомны тэмперамент палітычнага змагара. Значная частка яго жыцця праходзіць у ссылках, у эміграцыі, у турме. У 1868 г. у Лондане, разам з Зіяй-Пашай, ён выдае часопіс „Хурвет“ (свабода), якія, не гледзячы на ўсю пільнасць атаманскай паліцыі, пранікае ў Турцыю. Для турэцкага грамадства гэтай эпохі гэтая часопісь адыграла тую-ж ролю, што Герцанаўскі „Колокол“ у Расіі.

У творах Намік Кемаля заўсёды адчуваецца прымат грамадзянскага даўга, „патрыятызма“, як гаварылі тады ў турэцкім грамадстве.

Ён часта гаварыў, што прыгожасць формы літаратурнага твору неабходна толькі для таго, каб лягчэй пераканаць чытача ў ідэі, якую праводзіць аўтар.

З буйных твораў Намік Кемаля трэба адзначыць раманы: „Абуджэнне“ і „Джэзмі“ (гістарычны раман з эпохі Мурада III). З п'ес найбольш вядомы: „Бацькаўшчына, ці Сілістрыя“, „Няшчаснае дзіця“, „Джэлаль“ (апошняя п'еса была забаронена султанскай цэнзурай і распаўсюджвалася з рук на рукі ў рукапісах).

Менш значная чыста-літаратурная спадчына Зія-Пашы, які быў, галоўным чынам, палітычным дзеячом. Але за асобную заслугу трэба

паставіць яму тое, што ён першы пачаў прапаведваць неабходнасць звароту да народнай турэцкай мовы.

Чорная абдул-гамідаўская рэакцыя, скасаванне канстытуцыі, расправа з прыхільнікамі рэформы паклалі канец гэтаму перыяду турэцкай літаратуры, але ўсё-ж не маглі забіць канчаткова тое, што ўжо нарадзілася і пусціла глыбокія карэнні ў турэцкім грамадстве. У 1891 годзе з'яўляецца часопіс „Сервет Фунун“ (Скарбніца ведаў), заснаваны Ахмет Іхсанам (цяпер дэпутат Меджэліса). Літаратура Сервет Фунуна рэзка адрозніваецца ад літаратуры перыяда Танзімета. Французская літаратура па-ранейшаму працягвае аказваць самы моцны ўплыў на турэцкіх пісьменнікаў, але і ў самай Францыі характар літаратуры рэзка змяніўся.

Рамантызм, які пышна расцвіў паміж рэвалюцыямі 1830 і 1848 гадоў, змяніўся пад уплывам рэакцыі і ўпадніцкага настрою, што наступіў пасля крывавага разгрому Парыжскай Комуны, іншымі плынямі. У літаратуры панавалі парнасцы, сімвалісты, дэкадэнты. Турэцкая літаратура, ва ўмовах страшэннага абдул-гамідаўскага прыгнёту лёгка ўспрыняла гэтыя плыні. Лозунг „мастацтва для мастацтва“, такі чужы баявой палітычнай літаратуры Намік-Кемалеўскай эпохі, зрабіўся пануючым у літаратурных колах канца XIX і пачатка XX стагоддзя. З буйнейшых фігур гэтага перыяда трэба назваць паэта Тэфік Фікрэта, які стварыў цэлую школу эстэтствуючай паэзіі.

Гаворачы аб першых перыядах адраджэння турэцкай літаратуры нельга моўчкі абыйсці буйнейшага турэцкага пісьменніка і паэта, які жыве і цяпер,—Абдулхак Хаміда. Чалавек бліскучага таленту, аднолькава добра знаёмы з заходняй і ўсходняй літаратурай, еўрапейска адукаваны, ён даў турэцкай літаратуры цэлы рад празаічных і паэтычных твораў, якія дагэтуль лічацца класічнымі. Дасягнуўшы 85-ці гадовага ўзросту ён не пакідае яшчэ пісаць, але, зразумела, яго творы далёкія ад сучаснасці. Яго творы знаходзяцца пад уплывам французскіх класікаў і рамантыкаў аж да Лоці, але ў іх відаць і ўплыў Шэкспіра.

Зусім зразумела, што пісьменнікі эпохі „Сервет-Фунуна“, „парнасцаў“ і „сімвалістаў“ вельмі мала клапаціліся аб наданні турэцкай літаратуры нацыянальнага характара і аб яе даступнасці для шырокіх мас. Мова гэтай літаратуры мае тыя-ж недахопы, якімі вызначалася феадальна-дварцовая літаратура апагея магутнасці і перыяда заняпаду атаманскай імперыі; інакш кажучы персідскія і арабскія словы і звароты займаюць у ёй пануючае месца. Патрэбна была млада-турэцкая рэволюцыя і падзенне абдул-гамідаўскага дэспатызма, каб пытанне аб наданні турэцкай літаратуры сапраўды нацыянальнага характара было пастаўлена ў парадак дня.

Сярод літаратурных плыняў, якія былі напярэдадні младатурэцкай рэволюцыі, нельга не адзначыць плынь так званага „Новага Турана“, віднаю ролю ў якой адыграла пісьменніца Халідэ Эддзін.

У сваіх раманах гэтага перыяда пісьменніца выводзіць рад гераінь, якія ўсё сваё жыццё прысвечаюць барацьбе за нацыянальную справу. Трактоўка туранскіх тэм тлумачылася не толькі пантуранісцкімі ідэямі пісьменнікаў, якія належалі да гэтай плыні, але і тым, што па ўмовах цэнзуры, закранаць чыста турэцкія нацыянальныя і палітычныя пытанні было немагчыма. Пасля падзення султана Абдул Гаміда тыя-ж пісьменнікі далучыліся да млада-турэцкага руху і ў сваіх творах пачалі паказваць барацьбу турэцкіх лібералаў супроць султанскага абсалютызма.

Значна большую цікавасць з літаратурна-мастацкага боку ў перыяд, які наступіў за падзеннем абдул-гамідаўскага рэжыма, прадстаўляе з сябе група Зія Гёк Альпа. Падобна Шынасі, аб якім мы гаварылі вышэй,

Зія Гёк Альп таксама не пакінуў пасля сябе мастацкіх твораў, але ён з'явіўся сапраўдным рэфарматарам, які перабудаваў турэцкую літаратуру. Ён першы паставіў ва ўсю шырыню пытанне аб пераходзе літаратуры на народную турэцкую мову і аб самабытнай нацыянальнай тэматыцы. Ён стаў кіраўніком цэлай групы маладых пісьменнікаў, з якіх Омер Сейфедзін і Рэфік Халід па праву павінны заняць буйнейшае масца ў гісторыі турэцкай літаратуры.

І той і другі пакінулі выключныя па мастацкасці навелы з жыцця сялянства, чыноўніцтва і дробнай турэцкай буржуазіі. У гэтых навелах, апрача своесаблівай і разам з тым вельмі простай мовы, нас здзіўляе, галоўным чынам, выключнае знаёмства з бытам турэцкай вёскі і дробных гарадоў.

Некаторая свабода слова, дасягнутая пасля младатурэцкай рэвалюцыі, дала магчымасць сфармавацца раду іншых буйных пісьменнікаў і паэтаў, частка якіх з'яўляецца найбольш буйнымі дзеячамі сучаснай турэцкай літаратуры.

З празаікаў гэтай фармацыі трэба асобна адзначыць Эрджумента Экрэма, які даў цэлую серыю цудоўных апавяданняў і аповесцяй; Рушэн Эшрэфа, які даў між іншым рад перакладаў Горкага і Чэхава на турэцкую мову. Значна меншую цікавасць прадстаўляе Хамдулла Субхі, у большасці публіцыст (да таго-ж яшчэ вельмі вузкі і прасякнуты „затхлымі“ ідэямі пантуранізма), чым л.таратар.

---

З сучасных турэцк'х пісьменнікаў на першае месца мы павінны безумоўна паставіць Якуба Кадры. Яго творы не толькі таленавітыя і самабытныя, але і прысвечаны вострым і актуальным пытанням сучаснасці. Яго першы буйны раман „Нур-Баба“, які напісан яшчэ да кемалізма і прысвечаны выкрыццю бруднага жыцця манашаскага ордэна „Бекташэй“, выклікаў супроць аўтара ярасныя нападкі і страсную ненавісць усіх турэцкіх мракабесаў.

Значна слабей раман „Садом і Гамора“, прысвечаны эпосе іншаземнай акупацыі Стамбула. Затое два апошнія раманы Якуба Кадры „Ядан“ (Чужак) і „Анкара“ ставяць аўтара на адно з першых месц у турэцкай літаратуры.

„Ядан“ рысуе цёмную турэцкую вёску ў перыяд акупацыі. Турэцкія сяляне, якіх аўтар малюе майстэрскімі мазкамі, косныя, цёмныя, не разумеюць падзей, што адбываюцца перад імі. Яны вераць агентам старога рэжыма, кулакам-эксплаататарам, шарлатанам шэйхам, нарэшце замежным акупантам. Затое інвалід, што жыве сярод іх, і імкнецца далучыць іх да рэвалюцыйна-нацыянальнага руху, спрабуе згуртаваць іх супроць эксплаататараў і захватчыкаў, з'яўляецца для іх чужым, на якога яны глядзяць скоса і недаверліва. Вёска нарэшце гіне ад рук акупантаў, і толькі тады сялянская маса ўбачыла, дзе яе сапраўдныя ворагі.

Раман „Анкара“, які вышаў некалькі месяцаў таму назад, ставіць вострыя пытанні палітычнага і эканамічнага будаўніцва Турцыі.

Побач з Якуб Кадры трэба адзначыць другога буйнага пісьменніка сучаснай Турцыі Фаліх Рыфкі. Праўда, Фаліх Рыфкі, галоўным чынам, публіцыст, работнік часопіса, палітычны аглядальнік. Але трэба ўлічыць, што ён адзін з першых даў узор простага стылю, адмовіўшыся ад той вітыеватасці і вычурнасці, якой турэцкія журналісты прывыклі ўпрыгожваць свае артыкулы.

Яго напоўупубліцыстычны твор „Раман“, зборнік „Стары час“, успаміны з эпохі сусветнай вайны—„Зейтын Даг“ (Аліўкавая гара) і на-

рэшце кніга аб Совецкім Саюзе—„Ені Русія“ (Новая Расія) чытаюцца з вялікай цікавасцю.

Адным з найбольш таленавітых і пладавітых сучасных турэцкіх пісьменнікаў трэба прызнаць Рэшат Нуры. Яго кнігі „Чалы Кушу“ („Каралёк“), „Япрак Докюмю“ (Ападае лісце), „Кызылджык Далары“ (Вецце кізіла), „Дадуктан Кальбе“ (Ад губ да сэрца) даюць арыгінальныя і цікавыя малюнкі жыцця дробных чыноўнікаў, ранц'е, настаўнікаў. На жаль, пісьменнік замкнуўся ў рамкі псіхалагічнага і часткова сантыментальнага рамана. Гераічная нацыянальна-вызваленчая барацьба турэцкага народа, важнейшыя падзеі, якія адбываліся ў краіне пасля яе вызвалення, сучаснае палітычнае і эканамічнае будаўніцтва, не знайшлі адлюстравання ў творах Рэшат Нуры.

З маладых аўтароў у апошні час заслугоўвае ўвагі радам цікавых раманаў—Садры Этэм. Яго аповесць „Калі спыняецца прасніца“ рысуе барацьбу, якая вялася поўвека таму назад сялянствам раёна Кастамуні (якія спрадвеку жывуць саматужным ткацтвам) супроць фабрычнай мануфактуры.

З іншых маладых таленавітых пісьменнікаў трэба адзначыць Пеямі Сафа і пісьменніцу Суад і Дэрвіш, даўшых рад цікавых твораў.

Пладавітымі пісьменнікамі, выпускаючымі дзесяткі раманаў, з'яўляюцца Бурхан Джахіт, Махмуд Яссары і Ака Гюндзюз. Большасць раманаў першых двох (Махмуд Ясары: „Бахчэмдэ бір гюльачты“ (У маім садзе расцвіла ружа), „Сусінеклеры“ (Вадзяныя мухі), Олюнюн гэзлеры“ (Вочы мёртвай); Бурха Джахіт: „Комшунун романі“ (Раман суседа), „Дэюон геджэсі“ (Вясельная ноч) па стылю і па зместу з'яўляюцца наследваннем французскай літаратуры, але ўсё-ж наследваннем не зусім сляпым, бо ў героях гэтых твораў мы знаходзім шмат чыста турэцкіх нацыянальных рысаў. Раманы гэтыя аднак зусім не закранаюць сучаснага турэцкага жыцця.

Ака Гюндзюз наадварот прэтэндуе быць бардам кемалізма і пісьменнікам, які рысуе сучаснасць. Ім напісана некалькі дзесяткаў вялікіх раманаў, не лічучы апавяданняў і газетных фельетонаў. З яго раманаў найбольшым поспехам карыстаюцца: „Дыкмен Ільдызы“ (Зорка Дыкмена), „Чапкын Кыз“ (Свавольная дзяўчына), „Ювей Ана“ (Мачыха), „Юч Кыз Хікайесі“ (Гісторыя трох дзяўчат) і рад іншых.

Не гледзячы на такое пладавітае пяро, творы Ака Гюндзюза скрозь і ўсюды слабыя, бледныя і не сведчаць аб таленце аўтара.

Цэлы рад турэцкіх аўтароў выбралі сваёй спецыяльнасцю гістарычныя раманы. Гэтымі раманамі, накшталт „Апошнія дні Вызантыі“, „Каханне Абдул Гаміда“ і інш. запоўнены ўсе турэцкія газеты, якія друкуюць іх у выглядзе фельетонаў. Вельмі многія з гэтых раманаў рысуюць эпоху млада-турэцкай рэволюцыі і ўлады. Амаль усе яны напісаны без усякай адзнакі таленту. Крыху лепшымі з'яўляюцца гістарычныя раманы нядаўна памершага Недгрып Фазыла „Меджнунлар Сарайларда“ (з эпохі звар'яваўшага Ібрагіма) і „Кюльханi Эдыплер“ (з эпохі Танзімата).

У гэтым кароткім нарысе нельга спыніцца на радзе іншых сучасных пісьменнікаў. Мы скажам толькі некалькі слоў аб сучасных турэцкіх паэтах.

Зараз на турэцкім кніжным рынку з'явіўся цэлы рад зборнікаў вершаў маладых аўтароў. Некаторыя з іх, як Кіямі К'амі, як Бехчэд Кемаль досыць таленавітыя. Але вершы Бехчэд Кемаля, які прэтэндуе на ролю афіцыяльнага песняра кемалізма, часта запоўнены прэсным высокапарным патрыятызмам і сведчаць аб недахопе культуры ў аўтара.

Выключэннем у турэцкай паэзіі з'яўляецца Назым Хікмет, комуніст, які цяпер сядзіць у турме за адзін з апошніх сваіх твораў. Мы не будзем тут гаварыць падрабязна аб паэзіі Назым Хікмета тым больш, што многія з яго вершаў перакладзены на расійскую мову. Скажам толькі, што яго вершы па сваёй форме, якая рве з руцінай старога вершаскладання, па сваёй арыгінальнай тэктоніцы, і па трактуемай у іх тэматыцы прадстаўляюць сапраўдную рэволюцыю ў турэцкай паэзіі.

Нават класавыя ворагі Назым Хікмета прызнаюць, што яго паэзія з'яўляецца гордасцю турэцкай паэзіі.

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

# ЗМЕСТ



---





Тэхрэдактар *І. Жыгар*

Здана ў друкарню 5-II—35 г. Падпісана да друку 4-III-35 г. Аб'ём 10 друкаваных аркушаў. Папера 72×105 1/16
Знакаў у друкаваным аркушы 62016 Тыраж 3.685 экз. Зак. № 98. Уп. Галоўлітбела № Б 1636

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

